УДК 087.5:931

Мастак Д. СІНЮГІН
Для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту

Чарняўскі М. М.

Вогнепаклоннікі: Для мал. і сярэд. шк. узросту. — Мн.: Аракул, 1996. — 264 с., іл. — (Школьная бібліятэка) .

ISBN 5-87884-182-7.

У кнізе змешчаны аповесць і папулярныя нарысы вядомага беларускага археолага і папулярызатара гістарычных ведаў Міхася Чарняўскага, якія знаёмяць юнага чытача з далёкай мінуўшчынай.

ISBN 5-87884-182-7

*О, дзе ты, цяжкі мамантавы бег*
*Па сініх-сініх месячных раўнінах,*
*Дзе вогнішча ў закураных пячорах*
*І дзіда ў асілкавых руках?!*

Ул. КАРАТКЕВІЧ

## ГАРАДЗІШЧА

Над рэчкаю, што каралеўскім росчыркам кружляла па лугавіне, уздымалася старадаўняе Гарадзішча — высокі ўзгорак са стромкімі схіламі і роўнай вяршыняй. На ім быў калісьці горад за дубовым парканам з выноснымі вежамі. За парканам густа стаялі хаты, святлеў гонтаю княскі палац і мкнуў у вышыню спічак бажніцы.

Міналі стагоддзі. Загінуў тутэйшы князь у збройным паходзе, збуцвелі паркан і вежы, а людзі пайшлі за рэчку і збудавалі там вёску на прасторнай выгодзе. А Гарадзішча запусцела, удзірванела, і толькі на яго вяршыні засталася ляжаць каменная зерняцёрка. Дажджамі ў ёй збіралася вада, і тады здавалася, што Гарадзішча ўзіраецца ў неба блакітным вокам. Адным, як стары калека-ваяр. А ціхімі святочнымі вечарамі, калі прыкласці вуха да схілу гары, чулася, як звоняць званы. Гэта адгукалася бажніца, што апусцілася, забытая людзьмі, пад зямлю.

Неяк пасля вясновай паводкі вада падмыла ўтравелы край Гарадзішча і агаліла ягоны бок, чорны і тлусты ад вугалёў і тлену. І тады жыхары вёскі сталі браць чарназём на свае агароды, каб радзілі агуркі і капуста, каб не пераводзілася ў іх закусь.

Аднойчы праходзіў тут Археолаг і жахнуўся:

— Што робіце, людзі? Гэта ж вашым памяць і карані!

— Ат, — замахалі рукамі тутэйшыя, — гэту гару нанасілі шапкамі шведы.

І па-ранейшаму бралі зямлю з Гарадзішча, думаючы, што так яно будзе бясконца, як не канчаецца вада ў рэчцы і гарэлка ў мясцовай краме.

І выбралі ўсё — з попелам агнішчаў, з чарапкамі посуду, з жалезнымі стрэламі і пазелянелымі манетамі, на якіх імчаў у пагоні коннік. І паказаўся пад чорнай зямлёю пясок-сівец. А на бажніцу так і не трапілі, бо не верылі.

Падзьмулі вятры і пагналі пясок той — на рэчку, на лугавіну, на вёску. Высахла наваколле, і людзі пакінулі тую мясціну. І ніхто не ведаў, як яны зніклі — ці то памерлі, ці з'ехалі куды на край свету.

А між пясчаных барханаў вырас саксаул, у рэдкім цені якога чэзлі лапікі шорсткай травы. Пуста і ціха стала навокал, толькі высока ў бляклым небе лунаді арлы ды на зерняцёрцы грэліся жоўтыя яшчаркі.

Аднойчы з-за далягляду прыйшоў гурт авечак, а з ім смуглявы пастух у белым турбане. Пастух сеў на камень і заспяваў нешта сумнае і працяглае. Незразумелае.

А на краі неба то праясняўся, то знікаў дрыготкі міраж — Гарадзішча на беразе рэчкі. Ды як бы аднекуль чуўся прыглушаны звон.

## АД АЎТАРА

У дзяцінстве хадзіць у школу мне трэба было кіламетры два — з наша га хутара ў суседнюю вёску. Абсаджаны старасвецкімі бярозамі гасцінец спачатку вёў з узгорка на узгорак, а затым спускаўся ў балоцістую лагчыну.

З правага боку адкрываўся далягляд з дубамі ля балот, з ельнікамі і хутарамі ў ліпавых прысадах. Злева ад гасцінца слаўся шырачэзны разлог бура-зялёнага тарфяніку, на якім святлела шкельца невялікага возера.

У лагчыне вілася, пабліскваючы на сонцы, рачулка. Праз яе быў пакладзены драўляны мост з дзіўнай назвай — Курыны. Можна было бясконца, абапёршыся на парэнчы, любавацца гульнёю святла ў струменях, заслухоўвацца пералівістым булькатаннем вады, узірацца ў разнаколернасць каменьчыкаў на дне. На Курыным мосце я не затрымоўваўся толькі раніцою, баючыся спазніцца ў школу. Ідучы ж дахаты, прыпыняўся заўсёды.

Затрымаўся і ў той далёкі вераснёўскі дзень... Пачаў кідаць у ваду каменьчыкі, але хутка заўважыў, што з узгорка з'язджае нейкая фурманка. Стала няёмка, што мяне ўбачаць за такім пустым заняткам: маўляў, замест таго, каб вучыць урокі, забаўляецца. Я закінуў на плячо торбачку з кніжкамі і пайшоў краем гасцінца, узбіваючы босымі нагамі пыл.

Фурманка хутка мяне дагнала. Яна аказалася брычкай, запрэжанай каштанавым жарэбчыкам. На брычцы сядзелі мужчына і жанчына. Яны былі маладыя, прыгожыя і апранутыя не як усе мы — па-сялянску, а па-гарадскому. Пэўна былі настаўнікамі.

— Тпр-ру! — затрымаў жарэбчыка мужчына.— Сядай, хлопчык, падвязём.

Мяне лішні раз упрошваць не трэба было. Хуценька ўзабраўся на брычку і ўмасціўся ў перадку. Ногі ж свае, запыленыя і даўнавата мытыя, падкурчыў пад сябе, бо было няёмка перад гэтымі ахайнымі і чыстымі людзьмі.

— Куды далёка ідзеш? — пачалі распытваць незнаёмыя.

— У Гінеўку.

— У якім класе вучышся?

— У чацвёртым.

— А поспехі якія?

— Ды як калі,— ухіліўся я ад канкрэтнага адказу.

— Мусіць, з арыфметыкай цяжкавата,— засмяялася жанчына.

— Угу,— апусціў я галаву.

— А які ўрок табе найбольш падабаецца?

— Гісторыя! — пажвавеў я.— Слухаў бы настаўніцу цэлы дзень — так цікава!

Мужчына паклаў мне на плячо руку і сур'ёзна сказаў:

— Вырасцеш — станеш гісторыкам.

Я і не заўважыў, як пад ехалі да хутара. Падзякаваў добрым людзям, саскочыў з брычкі і пабег сцяжынкаю ў бок бярэзніку, каля якога стаяла наша хата.

З таго часу прайшло шмат гадоў. Скончыў я школу. Затым — інстытут. І тое прароцтва на гасцінцы спраўдзілася — я стаў гісторыкам. І не проста гісторыкам, а археолагам, гэта значыць тым, хто вывучае дапісьмовае мінулае нашага народа шляхам раскопак.

Я быў шмат у якіх археалагічных экспедыцыях. Раскопваў пад Бранскам жыллё першабытнага чалавека, збудаванае з вялізных мамантавых костак, расчышчаў старажытныя шахты каля Ваўкавыска, вывучаў тарфянікавыя стаянкі ў Падзвінні і рэшткі паселішчаў каменнага веку на Немане і Віліі.

Часта хацелася ўявіць жывымі нашых даўно зніклых з зямлі далёкіх продкаў: каля агнішчаў, на паляванні, на рыбнай лоўлі, у шахце па здабычы крэменю, за вырабам каменных прылад. Якія песні яны спявалі, аб чым марылі?..

Так з'явілася гэта кніжка, у якой прыдуманы розныя падзеі і здарэнні з жыцця людзей каменнага веку. Але прыдумаў я не «з галавы», а на падставе вывучэння адкапаных рэшткаў паселішчаў, прылад працы, рэчаў побыту, знойдзеных на іх, жылля і пахаванняў; на падставе ўяўленняў першабытнага чалавека, сляды якіх захаваліся ў некаторых нашых песнях і казках.

Рашыў напісаць кніжку для вас, юныя чытачы. Напісаць, памятаючы і пра таго хлопчыка, што ў далёкія пасляваенныя гады так любіў спыняцца і марыць на Курыным мосце...

## ШТО ТАКОЕ КАМЕННЫ ВЕК

Каменны век — самы старажытны перыяд у гісторыі чалавецтва. Да таго ж ён і самы працяглы, бо пачаўся больш як мільён гадоў таму назад, а скончыўся толькі ў канцы трэцяга тысячагоддзя да нашай эры.

Чаму век — «каменны»? А таму, што тагачасны чалавек ні медзі, ні жалеза яшчэ не ўмеў выплаўляць і амаль усе прылады працы вырабляў з крэменю або іншых парод каменю, з якіх пры разбіванні можна было атрымаць вострыя рэжучыя краі. Крамянёвымі былі

ручныя секачы, нажы, скрабкі, скоблі, разцы, шылы, наканечнікі дзідаў і стрэлаў, сякеры, цяслы. У канцы каменнага веку паявіліся крамянёвыя сярпы. Некаторыя рэчы выраблялiся з косці і рога.

Вучоныя, якія даследуюць каменны век, падзяляюць яго на старажытны каменны век — палеаліт, сярэдні — мезаліт і новы — неаліт.

Выдзеліўшыся з жывёльнага свету як істоты, што жылі і працавалі калектыўна, размаўлялі і абстрактна мыслілі, людзі ў палеаліце авалодалі агнём, пачалі будаваць жыллё, апранацца ў звярыныя шкуры, вырабляць каменныя прылады працы.

Асноўным заняткам тады было паляванне на маманта, шарсцістага насарога, паўночнага аленя, дзікага каня і іншых жывёлін, а таксама збіральніцтва ядомых раслін, птушыных яек, малюскаў. У канцы палеаліту распаўсюджваецца і рыбалоўства.

Першыя людзі на зямлі жылі гуртамі. Так было лягчэй здабываць сабе ежу і абараняцца ад драпежнікаў. Пазней людзі пачалі аб ядноўвацца ў родавыя абшчыны, якія складаліся з родзічаў. Жанчыны адыгрывалі вялікую ролю ў першабытным грамадстве, і вучоныя называюць такія калектывы мацярынскімі родавымі абшчынамі.

Члены родаў супольна палявалі і працавалі, а ўсё здабытае дзялілі пароўну. У каменным веку не было падзелу на бедных і багатых, не было прыгнёту аднаго чалавека другім.

У познім палеаліце зарадзілася і пачало развівацца першабытнае мастацтва, узнікла вера ў надпрыродныя сілы. Людзі не маглі правільна растлумачыць прыродныя з явы; яны лічылі, пгго змены пораў года, рух і нябесных свяціл, існаванне жывой і нежывой прыроды залежаць ад вол і розных духаў і багоў. Гэтыя духі і багі ва ўяўленні першабытнага чалавека былі добрыя і благія, маглі шкодзіць або дапамагаць. Іх трэба было залагоджваць падарункамі, малітвамі. Свяшчэннымі лічыліся і розныя жывёлы, дрэвы, камяні, горы, нябесныя свяцілы. Магічная сіла прыпісвалася розным прадметам — зубам звяроў, бурштынавым вырабам, скульптурам людзей і жывёл. Існавала вера ў замагільнае жыццё.

Палеаліт прыпаў на суровы для старажытнага чалавека час — ледавіковую эпоху, калі значную частку Паўночнага паўшар'я, у тым ліку і Беларусі, неаднаразова пакрывалі вялізныя ледавікі. У такіх цяжкіх умовах, змагаючыся з холадам і голадам, першабытныя людзі не толькі выжылі, але і развівалі сваю культуру.

Каля адзінаццаці тысяч гадоў назад з канцом ледавіковай эпохі пачаўся мезаліт. Пастунова цяплеў клімат. Раслінны і жывёльны свет станавіўся падобным да сучаснага. Тэрыторыі, якія вызваляліся з-пад лядовага палону, засяляліся чалавекам. Для новага часу найбольш ха-

рактэрным стала распаўсюджанне лука са стрэламі, дробных крамянёвых вырабаў — мікралітаў, з якіх майстраваліся нажы, гарпуны, стрэлы. У мезаліце родавыя абшчыны пачынаюць аб ядноўвацца ў плямёны.

Неаліт на Беларусі пачаўся ў пятым тысячагоддзі да нашай эры і вызначыўся перш за ўсё вынаходніцтвам глінянага посуду, зараджэннем жывёлагадоўлі і земляробства. Аднак і ранейшыя заняткі — паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва давалі чалавеку шмат харчавання.

Жывёлагадоўля і земляробства выклікалі паяўленне і адпаведных прылад — крамянёвых сярпоў для жніва і разакоў для нарыхтоўкі корму, зерняцёрак, матык. Высякаліся лясы і хмызнякі пад палі, а для гэтага трэба было шмат добрых сякер. Таму людзям стала недастаткова крэменю, які сустракаўся на паверхні. Яго пачалі здабываць шахтавым спосабам з крэйдавых радовішчаў.

Развіццё земляробства і жывёлагадоўлі павялічвала колькасць харчу. Адпаведна гэтаму вырасла і насельніцтва. Лкь дзі ішлі на яшчэ не занятыя землі, будавалі там новыя паселішчы.

Ну а зараз, калі вы даведаліся, што такое каменны век, калі ласка, на наступныя старонкі кніжкі — на сустрэчу з людзьмі той эпохі...

# СТАРАЖЫТНЫ КАМЕННЫ ВЕК

## ПРЫРУЧЭННЕ АГНЮ

*Каля трох мільёнаў гадоў назад. Усходняя Афрыка*

Пасля ціхай задушлівай спякоты накацілася цемная хмара і пачалася навальніца — з ветрам, дажджом, маланкай. Калі ж хмару праганяла і дождж капаў рэдка, з аглушальным грукатам, быццам расшчапілася зямля і неба, ляснуў пярун.

З пячоры выглянулі напалоханыя малпалюдзі і ўбачылі, як насупраць гарыць старое дрэва, ахопленае полымем ад сухой верхавіны ажно да таўшчэзнага камля.

Малпалюдзі ўжо былі знаёмыя з агнём у час лясных пажараў або калі вывяргаліся вулканы. І баяліся яго, бо не раз бачылі, як вогненная навала з ровам імчала па зямлі, знішчаючы ўсё на сваім шляху.

Дрэва гарэла моцна і роўна. Малпалюдзі асцярожна наблізіліся да палаючага дрэва і абкружылі яго. На валасатых тварах яны адчувалі гарачае дыханнё агню. Ен іх сляпіў, заварожваў.[1]/

Юнак, які калісь зблізку бачыў лясны пажар, падняў галіну і кінуў пад дрэва. Яна задымела і ўспыхнула. Нехта кінуў яшчэ галіну. І тая загарэлася. Тады пачаў збіраць голле і кідаць у агонь увесь гурт. Агню пабольшала. Малпалюдзі ўзбуджана ўскрыквалі, прытанцоўвалі — агонь «еў» голле, яго можна было «карміць» дрэвам, ад гэтага ён рос.

І так, падкладаючы дровы, падтрымлівалі агонь шмат дзён. А затым зноў прайшоў дождж, і агонь патух.

*Каля трыццаці тысяч гадоў назад. Непадалёку ад сучаснага Гомеля*

У будане, накрытым мамантавымі шкурамі, гарыць вогнішча. Сіняватае полымя танцуе на расшчэпленых костках. Косткі гараць добра. А сапраўдных «драўляных» дроў няма, бо навокал тундра.

Зараз зіма. Лютуе завіруха, ажно ўздрыгваюць падпоры ў будане. Але ў ім цёпла. А дым? Што ж, яго можна перацярпець. Каля вогнішча заўсёды сядзяць старыя жанчыны — адна або дзве. Іх абавязак — шчапаць і падкідаць у агонь косткі. Нельга, каб агонь пагас. Зімою — гэта смерць для ўсяго статна першабытных людзей.

Вогнішча гарыць ужо шмат дзесяцігоддзяў. Не згасаючы. Пад ім набраўся таўшчэзны пласт шэра-сіняватага касцянога вугалю. Калі агонь пагасне, яго трэба пазычаць або здабываць сілай у суседзяў, якія далёка-далёка адсюль. Агнём у той час людзі карысталіся пастаянна, хоць самі здабываць яго яшчэ не ўмелі. Але гэты агонь у будане не пагаснеБо старыя даглядчыцы адказваюць за яго ўласным жыццём...

*Каля трынаццаці тысяч гадоў назад. На Прыпяці*

Гарпун, выразаны з лапаткі паўночнага аленя, амаль гатовы. Бакі яго гладка абструганы, а зубцы завостраны. Засталося толькі зрабіць у насадзе дзірку, з дапамогай якой прылада прымацоўваецца да дрэўка.

Стары паляўнічы прыціснуў каленам гарпун да плашчака, прыставіў да насады палачку з крамянёвым свердлам і пачаў раскручваць яе далонямі то ў адзін, то ў другі бок, Пасыпалася касцяное шэрае пілавінне.

Але сёння нешта не працавалася старому. Хутка стамляліся рукі. Саслізгваў свердзел.

— Сынку! — гукнуў стары шыракаплечаму юнаку, які каля хаціны выстругваў для гарпуна дрэўка.— Дасвідруй, а я крыху адпачну.

Юнак, як і толькі што яго бацька, сагнуўся над гарпуном. Ен быў дужы і раскручваў свердзел так хутка, што толькі мільгацелі рукі. Захапіўшыся, ён нават перастараўся, і свердзел урэзаўся ў драўляны плашчак. Сутыкненне хуткарухомага крэменю з дрэвам выклікала моцнае награванне, і з плашчака пайшоў дым.

— Стой, што ты робіш? — спалохана закрычаў стары. Але сын і сам ужо спыніў працу і здзіўлена аглядаў абвугленую ямку ў дрэве. Потым памацаў яе пальцам і ўскрыкнуў — пячэ.

Што пры трэнні рэчы награваюцца, чалавек ведаў даўно. Напрыклад, награваўся скрабок, якім здзіралі мяздру, каб зрабіць шкуру забітай жывёлы мяккай. Але калі вельмі моцна пацерці крэменем аб дрэва, то пойдзе дым — з такім яшчэ не сустракаліся.

Юнак не раз потым паказваў сваім аднагодкам гэты цуд са свердлам і сухім драўляным плашчаком. І кожны раз ішоў дым.

Можа аднойчы гэты юнак ці яго таварыш паспрабаваў так крутануць адной палачкай без крэменю. Дыму адразу пабольшала, і дрэва загарэлася!

*Каля дванаццаці тысяч гадоў назад. Можа дзесьці пад Мінскам*

На ўскрайку паселішча на валуне сядзіць чалавек і аббівае кавалак крэменю — робіць нуклеус (археалагічны тэрмін для абазначэння крамянёвага ababітага жаўлака). З яго потым можна будзе сколваць розныя адшчэпы і пласцінкі для таго, каб майстраваць наканечнікі стрэлаў, праколкі, разцы, скрабкі, нажы і шмат чаго іншага.

Удар, яшчэ ўдар. Адскокваюць ад крэменю розныя непатрэбныя выступы. Прыжмурваецца майстар, каб востры асколак не трапіў у вока. Ды, ай, якая няўдача! — такі зручны, як буслінае яйка, адбойнік з пясчанікавай галькі трэснуў і разваліўся.

Мужчына пачаў шукаць, што б прыстасаваць пад новы адбойнік. І тут успомніў, што яшчэ ўчора, збіраючы крэмень у рачной даліне, знайшоў камень, буры і цяжкі. Хацеў спачатку шпурнуць знаходку ў ваду, але ж вельмі камень быў нязвыклы. Падумаў і пакінуў сабе.

Чалавек пайшоў у хаціну і вярнуўся з учарашняй знаходкай. Зноў прысеў на валун, прымеркаваўся, стукнуў новым адбойнікам па крэменю... і анямеў, уражаны. Нярэдка бывала пры апрацоўцы камянёў, што з-пад адбойніка выляталі іскры. Але зараз пры ўдары бурым каменем аб крэмень вылецеў цэлы сноп іскраў. Доўгіх, сляпучых. Мужчына ўжо не думаў пра свой асноўны занятак, а разпораз біў адбойнікам па крэменю. І тут заўважыў, што сухая трава каля валуна, куды якраз трапялі іскры, задымілася, а потым успыхнуў і агеньчык. Чалавек зачаравана глядзеў на гэту незвычайную з'яву.

Вось агеньчык ператварыўся ў сапраўднае полымя, якое пачало падбірацца да хаціны. Як быццам прачнуўшыся, мужчына ўсхапіўся і затаптаў агонь. Затым чалавек адышоў далей ад паселішча, наскуб сухой травы і ўдарамі таго ж бурага каменю аб крэмень зноў запаліў агонь.

Што гэта быў за камень — метэарыт, жалезны калчадан або кавалак якога іншага жалезістага рэчыва? У вогуле гэта і не так важна. Галоўнае тое, што чалавек адкрыў яшчэ адзін спосаб здабывання агню.

## ПЕРШЫ ЧАЛАВЕЧЫ СЛЕД

*Сто тысяч гадоў назад. Ці можа дзевяноста? Недзе прыблізна ў гэты час...*

Там, дзе зараз Сож, таксама цячэ нейкая рака, але шырэйшая. Шматлікія астравы. Поплаў з лазовымі кустамі. А дзе бераг вышэйшы — пачынаецца вялізны, дзікі, непраходны лес. Але гэта толькі так здаецца на першы погляд. Калі прыгледзецца лепш, то можна заўважыць там-сям шырокія і зусім вузенькія сцежкі і сцяжынкі. Па вузкіх сцяжынках палахліва прабіраюцца дробныя звяры, па сцежках ходзяць звяры большыя і зусім вялікія. Там, дзе быццам віхура праламала прагаліну, сцяжына мамантаў. Гэта ўжо нават не сцяжына, а сапраўдная да рога!

А дзе ж тая сцежка, па якой ходзіць чалавек? Яна яшчэ не пракладзена. Таму што чалавека ў наваколлі няма. І не было тут ніколі! Праўда, чалавек на зямлі ўжо ёсць. На поўдзень, там, дзе зараз Украіна, па берагах рэк можна сустрэць нешматлікія гурты першабытных людзей.

Паміж высокім берагам і вадой шырокая стужка белага пяску. Толькі спала навальнічная паводка, і пясок ляжыць роўна, як прыгладжаны. Але, хоць яшчэ раніца, тут ужо наслядзілі. Ланцужкамі звіваюцца сляды птушак, накапычана каля мелкаводдзя аленямі, а воддаль пралягла глыбокая разора ад в ял ізных капытоў — прыходзіў напіцца шарсцісты насарог. Якіх тут толькі слядоў няма! Калі прайсці крокаў дзвесце паўз бераг, можна было б знайсці такія «аўтографы» ўсяго ляснога жыхарства.

Нядаўняя навальніца вывернула каля берага старую хвою. Але дрэвы навокал раслі так густа, што хвоя не ўпала на зямлю, а павісла, нахіленая, зачапіўшыся голлем за суседак. І стала, як брама, над звярынай сцежкай да вадапою.

Маладая рысь, паляўнічы ўчастак якой быў якраз тут, нагледзела гэты вываранень — цудоўная мясціна для засады! Спачатку проста прайшлася да ракі пахлябтаць халоднай з ночы вады і, вяртаючыся, хутчэй па звычцы, узбегла на вываранень. Затаілася, сочачы за сцежкай і рачным берагам: можа і трапідца які ласунак.

Але на вадапой ужо ніхто не ішоў. Сонца прыўзнялося з-за лесу і свяціла якраз на вываранень. Прыгравала, і рысь расслабілася ад задавальнення, зажмурылася.

Ды вось у лесе пачаўся нейкі рух — рысь насцеражылася.

Па сцежцы ішло некалькі звяроў. Дзіўных. Рысь такіх бачыла ўпершыню і захваляvalася. Ішлі на задніх лапах. Так часам могуць мядзведзі. Але гэта былі не мядзведзі. І ростам меншыя. Хто б гэта мог быць?

...Група людзей — пяць мужчын, столькі ж жанчын і некалькі дзяцей выйшлі на бераг ракі. Скінулі з плячэй скураныя клункі і пачалі прагна піць ваду, набіраючы прыгаршчамі. Затым паселі на пясок. Былі відавочна стомленыя. Маўчалі нават дзеці. Дабіраліся сюды шмат дзён. Праз лес, якому, здавалася, не будзе канца. Прыйшлі з мясцін, дзе нарадзіліся, дзе застаўся іх гурт.

Пайсці трэба было, бо ў гурце стала зашмат народу, а дзічыны ў наваколлі паменшала. Тады старэйшыя сказалі: «Няхай частка маладых ідзе на поўнач. Там, дзе сонца хаваецца за край зямлі, дзе яно нараджаецца на раніду зноў, і там, дзе яно на небе падымаецца найвышэй,— у тых кірунках жывуць другія гурты, там іх паляўнічыя ўладанні, і туды закрыты шлях. Толькі на поўнач, як бы далека ні заходзілі паляўнічыя, не траплялася людзей. Там нічыйная зямля, а дзічыны шмат! Хай туды ідуць маладыя і засяляюць паўночную зямлю».

І маладыя пайшлі. Пяць сем'яў. І недзе ў пушчы ўпершыню перасеклі будучую праз шмат-шмат тысячагоддзяў мяжу Беларусь

Першыя людзі. Каржакаватыя, моцныя постаці. Яшчэ даволі валасатыя. Загрубелая скура. Пальцы, як карані дуба, з пазногцямі-кіпцюрамі. Шырокі твар. Нізкі, пакаты лоб. Магутныя, скошаныя назад сківіцы з моцнымі зубамі, якімі можна зжаваць корань, раструшчыць костку, перагрызці праціўніку або зверу горла. А самі гэтыя істоты хіба не падобныя да звяроў? Вельмі! Але пад выступаючымі цяжкімі надброўямі вочы ўжо не звярыныя — у іх свеціцца думка. Вочы маркотныя, калі ўспамінаецца родны гурт; вясёлыя, калі глядзяць на дураслівых малых; прыязныя пры сустрэчы з родзічамі; цікаўныя, калі сочаць за палётам птушкі над рачной плынню; цёмныя ад гневу, калі бачаць драпежніка або ворага.

У чалавека на плячах накінуты шкуры — тагачаснае адзенне; у руках цяжкія палкі — дубіны, крамянёвыя вострыя секачы, якімі можна забіць жывёліну, адсячы кавалак мяса, выкапаць ядомы корань. Чалавек ужо валодае агнём — з дупла калоды, якую па чарзе неслі мужчыны, ідзе дымок, там тлеюць вугалі, узятыя з агнішча ў родным гурце. І акрамя ўсяго, чалавек можа членападзельна размаўляць. Не, далека ўжо зверу да чалавека!

А вось і звер. З лесу выйшаў мядзведзь. Напярэдадні ён задраў лася, наеўся мяса, а зараз яго мучыла смага. Мядзведзь убачыў на беразе людзей. Як і рысь, упершыню. І здаліся яны яму дробнымі і

слабымі. Мядзведзь саступаў толькі маманту і насарогу. З бізонам часам мог схапіцца на роўных, а тут на шляху да вады нейкая драбяза... Звер узняўся на заднія лапы і пагрозліва зароў: «Прэч з дарогі, ідзе гаспадар!»

Людзі збіліся ў гурт, але не ўцякалі. Гэта разюшыла мядзведзя, і ён кінуўся на іх.

Мужчына, які стаяў бліжэй да звера, шырока размахнуўся дубінай і выцяў яго па шырокай лабаціне. Загуло ў звярынай галаве, ды ён усё ж кіпцюрыстай лапай збіў чалавека з ног. Але іншыя мужчыны і жанчыны ўсе разам накінуліся на мядзведзя і ўдарамі дубін забілі яго.

Рысь глядзела, як людзі секачамі распаролі мядзведзю жывот, злупілі з яго шкуру, як рассякалі здабычу на часткі і перацягвалі на вышэйшую мясціну на беразе. Там жанчыны ўжо ладзілі з галля і кары павець і раскладалі вогнішча.

Па ўсім было бачна, што людзі тут рашылі спыніцца надоўга. Рысь, незадаволена завуркатаўшы, саскочыла на зямлю і пайшла далей у гушчар. Трэба было шукаць іншы вываратэнь для засады.

## ЦАР ЗВЯРОЎ ЛЕДАВІКОВАЙ ЭПОХІ

*Каля дваццаці шасці тысяч гадоў назад. Ля сучаснай вёскі Юравічы Калінкавіцкага раёна на Прыпяці*

Мамант. Жывёліна вагою больш пяці тон і вышынёю каля трох з паловай метраў, з тоўстай скураю і густой бурай поўсцю, Падобны да слана. Але большы і на спіне мае горб, у які назапашвае тлушч на зімовую бяскорміцу. А вушы меншыя за слановыя, каб не мерзлі халадамі.

Мамант — цар звяроў. Дужэйшага за яго няма. Але чалавек хітрэйшы і таму перамагае маманта. Выкопвае лоўчыя ямы на мамантавых сцежках, падсцерагае каля правалаў у вечнай мерзлаце, забівае дзідамі і камянямі маманцят і старых саслабелых асобін.

Сапраўднае свята пачынаецца, калі ўпаляваны мамант. Гэта — на шмат месяцаў смачнай ежы, косткі для паліва і будаўніцтва жылля, шкуры для стрэх на хацінах, тлушч для асвятлення памяшканняў. А біўні! З гэтага белага, як снег, цвёрдага і адначасова падатлівага крамянёваму інструменту матэрыялу можна вырабляць столькі неабходнага першабытнаму чалавеку: наканечнікі дзідаў, баявыя

дубіны, кінжалы, іголкі, шылы, пацеркі, бранзалеты і, нарэшце, можна выразаць фігуркі звяроў і людзей.

На большасці палеалітычных стаянак археолагі знаходзяць косткі мамантаў, часам ад соцень асобін. Можа дзякуючы паляванню на іх наш продак і выжыў у незвычайна суровым клімаце ледавіковай эпохі? А можа ён гэтым паляваннем у рэшце рэшт мамантаў і вынішчыў?

...Наступіла восень. Густымі касякамі пацягнуліся ў цёплыя краі гусі і качкі. Усё часцей з ледавіка павяваў халодны вецер. Ранкам іншы раз скрыпела пад нагамі падмарожаная бураятрава або з хмары пачынаў церушыць дробны снег. Днём іней і снег раставаліЦяплела. Але старыя, паглядаючы на нізкае сонца, казалі, што хутка зіма.

Аднойчы паляўнічыя-разведчыкі заўважылі, што ў даліне ракі з'явіліся маманты. Яны ад'еліся за лета, таму былі ўкормленыя і павольныя.

Група мужчын, пабраўшы моцныя завостраныя калы і палкі-капалкі, пайшла на мамантаву сцежку каля рачнога берага. Адны пачалі падрываць каламі пясок і гліну пад краем абрыву, другія адграбалі накапанае.

Тры дні пайшло на тое, каб зрабіць ладную пячору. І калі калы глуха застукалі па вечнай мерзлаце, землякопы спынілі працу.

У старога маманта былі хворыя зубы. Адчуваючы пастаянны боль, які часам мацнеў і рабіўся невыносным, ён стаў злосны, пачаў задзірацца. Таму статак выгнаў свайго няўжыўчывага сародзіча. Днямі мамант-адзінец блукаў па схілах глiністых узгоркаў, еў лісце лазы і вярбы, ласаваўся грыбамі, а калі ж мучыла смага, спускаўся па звярынай сцежцы да ракі.

Сёння маманта нешта ўстрывожыла на сцежцы. Перад паваротам на поплаў ён спыніўся і пачаў хобатам абнюхваць зямлю. Хоць ледзь улоўна, але пахла чалавекам! Не, лепш гэту мясціну абысці. Але тады трэба вяртацца назад, бо справа ўздымаўся стромкі бок рачной тэрасы, а злева свяціла пусткаю вялікая прамывіна. Пакуль звер нерашуча тупаў на месцы, на сцежку выбеглі людзі. Яны крычалі што было моцы, размахвалі паходнямі і кідалі іх у маманта. Мамант лёгка б раздушыў кожную з гэтых двухногіх істот, але страх перад пякучым агнём быў мацнейшы, чым злосць. Звер цяжкім трушком пабег па сцежцы... да ракі. І тут пад яго нагамі пачала правальвацца зямля. Мамант ірвануўся ўбок, але было позна, і ён усёй сваёй шматтоннай аграмадзінай абсунуўся ў яму — пастку.

Далека па наваколлі прагучаў пераможны крык людзей. Жанчыны і дзеці, старыя і хворыя — хто толькі мог рухацца — пайшлі і

пабеглі з паселішча да мамантавай сцежкі, дзе паляўнічыя ўжо кідалі на звера цяжкія камяні, калолі яго дзідамі.

Мамант яшчэ ўздымаў хобат і раз'юшана трубіў, яшчэ тузаўся ў пастцы, абрушваючы са сценак ямы зямлю. Але ўжо быў асуджаны...

## МАЛАДЫ МАСТАК

*Каля дваццаці шасці тысяч гадоў назад. На бе разе ракі Судасць каля сучаснай вескі Елісеевічы, што на Браншчыне*

Цёплы сонечны час перад паўднём. Пад пясчаным абрывам на беразе невялікага ручая сядзіць старая жанчына. Побач корпаецца ў пяску напаўголы хлопчык гадоў шасці — яе ўнук.

Уніз па цячэнню ручая праз хмызняк паблісквае на сонцы шырокая вада. Там рака. Калі зірнуць уверх на край абрыву, бачна голле ялін і вяршыні невялікіх бярозак. Далей нічога не відаць, але там крыху воддаль ад абрыву месціцца паселішча першабытных людзей. Старая жанчына і яе ўнук адтуль.

Бабуля спачатку не хацела браць з сабою малога. Але ж той вельмі прасіўся: пакажы ды пакажы, як выразаеш чалавечкаў.

З маленькай пячоркі пад каменем старая дастала загорнутыя ў бяросту кавалкі мамантарага біўня, крамянёвыя разцы, нож. Скоса зірнула на ўнука і завагалася — ці пачынаць. Тое, чым яна зараз займецца, трэба рабідь без сведкаў. Так патрабуе звычай. Ну, але ж можа духі і не будуць злавацца, бо ў малога вока чыстае, без уроку. Уздыхнула па-старэчаму і дастала з меншага скрутачка няскончаную статуэтку, у якой ужо ўгадвалася постаць жанчыны, маладой і дужай. Бабуля пачала зразаць з кавалка біўня лішнія выступы, затым саскрэбвала іх скрабком, рабіла выемкі крамянёвым разцом. Шчыравала жанчына над статуэткаю і краем вока бачыла, як усхвалявана сочыць за яе працай унук, ловячы кожны рух, стараючыся ўсё запомніць.

А калі дробным пясочкам і шкуркай пачала паліраваць гатовую статуэтку, малы не вытрымаў:

— Як прыгожа!

Старая ледзь прыкметна ўсміхнулася — усё ж прыемна, калі хто пахваліць. Хоць бы і дзіця. А што б ён сказаў, убачыўшы, якія фігуркі яна выразала, калі была маладзейшая, калі не дрыжэлі пальцы і было вастрэйшае вока?!

— А зараз, унучак, шаман скажа над статуэткай чароўныя словы, абкурыць дымам з замоўленых траў і ўвойдзе ў яе дух Вялікай жанчыны, ахоўніцы агнішча, прадаўжальніцы чалавечага роду...

— Бабуля, а табе не трэба гэты кавалачак? — нясмела запытаў унук, паказваючы на невялікі абломак косткі.

— Вазьмі, унучак, пазабаўляйся,— пагладзіла яна малога па галаве.

Задумалася старая, грэючыся на сонцы. Нават крыху задрамала. Ці то мроіла, ці то ўспаміналa яна сябе дзяўчынкай у мяккім кажуху з пясцовых шкурак і ў такіх жа сшыванках на нагах. Але ўсё адно часам мерзла. Асабліва зімою, калі ішлі бясконцыя снягі, калі пранізлівыя вятры, здавалася, адарвуць ад зямлі і панясуць на край свету ўсё, што не трымалася за перамёрзлую зямлю ўчэпістымі каранямі. Дрыжэў пад напорам ветру іх будан, трымцелі звярыныя шкуры на страсе. А калі ў шчыліны ўрываўся вецер, закручвала дымам з агнішча, пякло ў вачах і рваў грудзі кашаль. А ўсё роўна дзяцінства ўспаміналася, як добры і далёкі сон. Хоць было часамі і холадна, і голадна, і колькі разоў хвароба ледзь не забрала яе ў Краіну продкаў...

Затым малюнкі дзяцінства пабляклі. Нешта зялёнае, быццам бярозавыя галінкі, загайдалася перад вачамі, і старая зусім заснула. Прахапілася ад таго, што ўнук тузаў за плячо і гукаў у вуха:

— Бабуля, бабуля, зірні, што я зрабіў!

Жанчына шурпатай далонню правяла па твары, праганяючы сон, азірнулася па баках. Сонца стаяла так жа высока, значыць, заснула на хвілінку, а здалося — надоўга.

Унук працягваў кавалак косткі:

— Паглядзі, бабуля.

Яна ўзяла кавалак у рукі і пачала ўглядацца, жмурачы яшчэ сонныя вочы. Большую частку косткі пакрывалі свежыя драпіны і нарэзкі, якія спляталіся ў складаны і, як здавалася, бязладны ўзор.

— Гэта ж наша паселішча, бабуля. А вось рака,— не выцерпеў малы.

І сапраўды, зараз жанчына разабрала, што здвоеныя дугі — іх буданы, хвалістая, рысачка ўверсе — далягляд, а ўнізе набягаюць рачныя хвалі.

— Ах жа, ты мой памочнік,— усцешылася жанчына.— Вазьмі большы кавалак біўня, выраж яшчэ што-небудзь. Бачу, што зможаш мяне, старую, некалі замяніць.

Радасна малому. Яму хочацца выразаць так, як яго бабуля. Ен ужо і спрабуе з кары або дрэва. Часам і атрымоўваецца — гарбаты тоўсты мамант, насарог з вострай галінкай за мест рога... Вось толькі

фігуркі людзей пакуль што не выходзяць! Але нічога, атрымаюцца. Ен будзе вельмі старацца. Ен кожны раз будзе прыходзіць сюды з бабуляй, вучыцца ў яе.

## У СТАРАЖЫТНЫМ БУДАНЕ

*Каля дваццаці пяці тысяч гадоў назад. На поўдзень ад сучаснай вёскі Бердыж Чачэрскага раёна*

На шырачэзным поплаве пятляе, раздвойваецца і растройваецца рака. Яна яшчэ не вымыла глыбокага рэчышча. Ей прасторна. На астравах, на берагах затокаў і старыц парос хмызняк. Месцамі ў нізінах бачны звілістыя стужкі свежанамытага пяску і жвіру — растаюць далёкія ледавікі, і тады рака разліваецца.

Ва ўсе бакі ад рачной даліны цягнецца бясконцая хвалістая раўніна, пакрытая раслліннасцю халодных стэпаў, якая на паўночных схілах узвышэнняў больш падобна да тундравай. На паўднёвых схілах і ў ярах туляцца ляскі з нізкарослых асін, бярозак, ялін.

На мысе паміж берагам ракі і неглыбокім ярам прымасціліся два буданы. Буданы авальныя. Асновы іх сцен выкладзены чарапамі і іншымі буйнымі косткамі мамантаў. Жэрдкі і звязаныя паміж сабой мамантавыя рэбры ўтвараюць каркас страхі, накрытай пісурамі вялікіх жывёлін. Шкуры ўнізе замацаваны каменнем, каб не знесла бурамі.

Брудна і няўтульна навокал. Шмат смецця, патрушчаных і абгрызеных костак.

З прырэчнага боку буданоў чарнеюць уваходы — як пралезці сагнутаму чалавеку. Давайце ж зазірнём туды... Якраз насупраць уваходу размешчана амаль патухлае агнішча, толькі тлее некалькі вугалёў. За агнішчам з даху звісаюць шкуры паўночных аленяў і бізонаў, якія дзеляць будан на два памяшканні. У прыцемку можна разгледзець лежакі на касцяных вымастках, пакрытыя мяккімі шкурамі. На адным лежаку стары. Ен разпораз кашляе: хворы. Каля ўваходу прыстаўлена некалькі дзідаў, збоку ляжаць скураныя торбы, пад жэрдкамі даху — пукі сушаных сцяблін, карані ядомых раслін.

Каля буданоў у вечнай мерзлаце выкапаны ямы — мясныя кладоўкі. Яны прыкрыты мамантавымі чарапамі, лапаткамі, цяжкімі камянямі, каб да харчовых запасаў не змаглі дабрацца лісіцы і ваўкі. Але зараз у кладоўках пуста, толькі патыхае з іх холадам.

Такой цёплай летняй парой, як цяпер, жыхары паселішча большасць свайго часу праводзяць на свежым паветры. На летнім агнішчы смажацца кавалкі алеworked аленіны. Тлушч капае на вугалі і ўспыхвае курадымным полымем. Смурод ад гнілаватага мяса разыходзіцца навокал. Але нават і такога мяса засталося мала.

Каля агнішча на кукішках — зямля ж халодная — сядзяць дзве жанчыны. У сваёй груба пашытай з калматых шкур вопратцы яны падобны на нейкіх дзіўных маўклівых птушак. Жанчыны сочаць, каб смажаніна не падгарэла.

Бліжэй да будана маладая жанчына расцягнула на зямлі свежую лісіную шкуру, прымацаваўшы яе па краях калочкамі, і крамянёвым скрабком здзірае мяздру, каб шкурка стала тонкай і гнуткай. Тут жа старэйшая жанчына сядзіць на мамантавым чэрапе і з дапамогай касцяной праколкі і сухажылляў сшывае са шкур цёплую зімовую вопратку.

Каля буданоў бегаюць дзеці: то смяюцца, то плачуць, пачаўшы бойку. Але вось дзеці згрудзіліся над ярам і закрычалі:

— Нашы вяртаюцца з палявання!

Мужчыны неслі ўпаляванага сайгака, падвязанага да доўгай жардзіны. Яго выгнутыя рогі цягнуліся па зямлі, прадзіраючы дзве цёмныя баразны. Узбуджана падняліся і жанчыны, пачалі падкідваць у агнішча ламачча, раздзьмухваць полымя. Сёння ўсе лягуць спаць пад'еўшы.

Як толькі зайшло сонца, людзі забраліся ў буданы. Нейкі час адтуль яшчэ далятаюць прыглушаныя галасы, але хутка ўсё навокал заціхае. Толькі шуміць рачная вада ў прыбярэжнай лазе ды недзе зрэдку спрасоння ўскрыквае птушка. Не спіць воін каля агнішча. Абапёрся на дзіду і, як зачараваны, глядзіць на агонь. Яму нельга спаць — чарга пільнаваць.

# СЯРЭДНІ КАМЕННЫ ВЕК

## СТРАЛА РАСАМАХІ

*Адзінаццаць тысяч гадоў назад.*
*На Беларускім Паазеры*

Расамаха быў яшчэ юнак, але на паляванні з ім мала хто мог параўнацца. Ен дзідаю трапляў пад самую лапатку бягучаму аленю, збіваў каменем вавёрку з высокага дрэва. Мог доўгі час ляжаць на краі балота ў траве і цярпліва чакаць, пакуль бліжэй падплывуць качкі, каб дакладнейшым быў кідок цяжкай палкі.

А яшчэ любіў Расамаха блукаць па навакольных лясах ды балотах. Бывае, адаб'ецца ад паляўнічых і паверне берагам невядомай рэчкі. І ўсё яму цікава — куды вада бяжыць, якія дрэвы растуць у іншых мясцінах, якія там звяры водзяцца.

Але хадзіць па нязведаных сцежках, ды яшчэ аднаму, трэба было асцярожна, каб не напаткаць людзей з іншага племені, якія не пацерпяць чужака ў сваіх паляўнічых уладаннях.

За гэты спрыт на паляванні і за ахвоту да вандраванняў, мусіць, і далі юнаку імя Расамаха.

Вось і зараз з высокага ўзгорка прыкмеціў Расамаха на затуманеным даляглядзе незнаёмае возера.

— Не хадзі,— пачалі адгаворваць старэйшыя паляўнічыя.— Там жывуць ваяўнічыя людзі. У іх дзіды маленькія, але куслівыя, як змейкі. І ляцяць яны вельмі далёка, бо кідаюць іх духі — памочнікі тых людзей.

Але гэтыя словы толькі падахвоцілі юнака — вельмі захацелася пабачыць самому, як лётаюць тыя маленькія дзіды-змейкі. Расамаха мацней завязаў раменьчыкі на скураным абутку, паправіў за пасам нож, перахапіў у правую руку дзіду і знік у нізкім ельніку на схіле ўзгорка. Ішоў, трымаючыся лагчын з кустамі і пералескамі. На прагаліны, дзе быў адкрыты чужому воку, стараўся не выходзіць.

Недзе на паўдарозе да возера трапілася асабліва вялікая прагаліна. Расамаха асцярожна вызірнуў з хмызняку, прыкідваючы — ці бяспечна будзе яе перайсці, а можа лепш абмінуць краем. І тут амаль перад сабою ўбачыў старога лася. Звер скуб траву паміж валунамі і раз-пораз пудка ўскідваў галаву, прыслухоўваўся і азіраў наваколле.

Вецер быў якраз з боку лася, і жывёліна не ўчула чалавека. Расамаха з захапленнем і шкадаваннем глядзеў на лася, да якога б

дакінуў дзідай. Але навошта яму зараз такая здабыча? Да таго возера дабірацца яшчэ паўдня, і невядома — калі назад. За гэты час ваўкі ды лісіцы ад лася пакінулі б адны косткі.

І толькі хацеў Расамаха зноў пусціцца ў дарогу, як вострым зрокам прыкмеціў, што за вялікім каменем непадалёку ад лася нешта варухнулася. Там затаіўся мядзведзь. Звер таксама цікаваў за ласём і падбіраў момант, каб кінуцца на здабычу. Але на краі прагаліны быў хтосьці і чацвёрты! За кустом, зусім блізка, Расамаха ўбачыў чалавека. Той так захапіўся ласём, што не заўважаў нічога навокал сябе. У руках незнаёмага была доўгая выгнутая палка і тонкі пруток, на канцы якога пабліскваў крамянёвы наканечнік. Расамаха адчуў, як ад страху ў яго на галаве заварушыліся вал асы, і скасіў вочы за спіну суседа: дзе ж той дух, як і пасылае гэтыя дзіды-змейкі? Што ў руках чалавека была тая зброя, пра якую расказвалі паляўнічыя, Расамаха здагадаўся адразу. Але ніякіх духаў не ўбачыў і з палёгкай перавёў дыханне.

І тут незнаёмец узняў выгнутую палку, нацягнуў сплеценую з сухажылляў вяровачку, якой былі звязаны канцы палкі, і пусціў пруток з наканечнікам.

Расамаха нават не паспеў прыкмеціць, куды паляцеў гэты пруток. Толькі ўбачыў, як уздыбіўся лось, ірвануўся наўцёкі, але пярэднія ногі яго падагнуліся і жывёліна звалілася на бок, зарываючыся рагамі ў зямлю.

Незнаёмец нешта ўскрыкнуў і пабег да лася. Калі ён быў побач, на чалавека кінуўся мядзведзь — звер лічыў лася сваёй здабычай. Расамаха аслупянеў, гледзячы, як падмяў мядзведзь паляўнічага пад сябе, разрываючы кіпцюрамі вопратку, і як той учапіўся драпежніку ў горла, ратуючыся ад іклаў. І тут быццам нейкая сіла штурханула юнака ў плечы. Праз некалькі імгненняў ён апынуўся на прагаліне і ўвагнаў у бок зверу сваю дзіду. Мядзведзь зароў, тузануўся, але ўдар быў трапны — у сэрца.

Юнак дрыжэў ад узбуджэння, азіраючы месца сутычкі. Лось, мядзведзь і чалавек ляжалі побач. Незнаёмец не рухаўся. Разарваная скураная вопратка ў яго на грудзях паволі набрыньвала крывёю — кіпцюры дасталі і да цела. Расамаха нагнуўся над параненым, крануў за плячо. Той застагнаў і расплюшчыў вочы. Потым, з цяжкасцю прыўзняўшы галаву, паглядзеў на лася, мядзведзя, перавёў позірк на Расамаху і нешта прагаварыў на незразумелай мове, паказваючы на мядзведзя.

Расамаха заківаў галавой і, размахваючы дзідаю, паказаў, як ён закалоў звера.

Зараз ужо і незнаёмец заківаў галавою, заўсміхаўся і ўсё нешта лапатаў па-свойму. Мусіць, дзякаваў.

А вопратка на грудзях у яго ўсё больш чырванела. Тады юнак выразаў з ласінага бока доўгі пасак скуры і моцна сцягнуў ім грудзі параненага. Кроў перастала сачыцца, і даволі хутка незнаёмцу палегчала. Ен нават змог, хоць і хістаючыся, узняцца на ногі. Затым паказаў у бок возера і жэстамі запрасіў ісці за сабой.

Расамаха выразаў моцны кій і падаў параненаму, каб той мог абапірацца на яго. Нават правёў да краю прагаліны. Але далей ісці адмовіўся. Ен не ведаў, як яго прымуць чужыя людзі. А раптам не захочуць адпусціць у родныя мясціны?

Незнаёмец са шкадаваннем развёў рукамі. Потым зняў з пляча тую выгнутую палку з нацягнутай вяровачкай, з паса — берасцяную трубачку, з якой тырчэла многа пруткоў з наканечнікамі, і працягнуў усё гэта Расамаху.

У юнака ад радасці ледзь не выскачыла сэрца.

— Лук,— паказаў незнаёмец на выгнутую палку.— Страла,— паказаў ён затым на пруток.

— С-стр-рала,— з цяжкасцю паўтарыў Расамаха новае слова і моцна прыціснуў падарункі да грудзей.

Вяртаўся Расамаха, нібы ляцеў на крылах. Але як ні спяшаўся, зноў завярнуў на тую мясціну, дзе выратаваў жыццё чалавеку. Лася не чапаў — гэта была чужая здабыча, а з мядзведзя злупіў шкуру. Потым пайшоў павольней, бо на плячах адчувалася вага набытку.

У пачатку наступнага дня Расамаха быў дома. Юнак зняў з плячэй мядзведжую шкуру і разгарнуў каля вогнішча. Затым паклаў на яе лук і стрэлы. Ен стаяў побач, і твар яго пунсавеў ад гонару. Родзічы абступілі навокал, зазіраючы цераз плячо адзін другому: што гэта за незразумелыя рэчы прынёс Расамаха?

Тады Расамаха ўзяў лук, паклаў на цеціву стралу і выстраліў уверх. Страла ўзвілася вышэй самых высокіх дрэў і, апісаўшы стромкую дугу, уваткнулася ў зямлю за буданамі.

Людзі ў жаху пабеглі ад вогнішча, а некаторыя пападалі ніц з крыкам: «Дзіда — змейка духаў!» Юнак засмяяўся: «Гэта страла! Яе пускаюць не духі, а людзі вось з такога лука».

Родзічы Расамахі хутка і самі навучыліся страляць з лука, а затым і майстраваць яго з моцнага дрэва. З лукам стала лягчэй палява́ць. Зараз з вялікай адлегласці можна было забіць любую жывёліну, нават падстрэліць птушку ў палёце. Паляўнічыя пачалі больш прыносіць здабычы, і ў людзей заўсёды было мяса.

Неўзабаве ў тых краях усе навучыліся паляваць з дапамогай лука. І доўга яшчэ там называлі гэту цудоўную зброю «стралой Расамахі».

## АСЕННЯЕ ПАЛЯВАННЕ

*Адзінаццаць тысяч гадоў назад.*
*Левы бераг Віліі пад сучаснай Смаргонню*

Наступіла восень. Паблякла тундра, што разаслалася на поўнач ад ракі. Пажаўцелі бярозавыя пералескі, якія пачыналіся ад паўднёвага берага Віліі і цягнуліся да Немана, каб за ім зліцца ў суцэльны лес, дзе бяроза змешваецца з ялінай, хвояй, вольхай.

І як толькі вецер прынёс першае дыханне халадоў, племя, якое жыло каля крутой рачной лукі, пачало рыхтавацца да вялікага палявання на паўночных аленяў.

Ладзілі чоўны, мацней прывязвалі крамянёвыя наканечнікі да доўгіх дрэўкаў, мянялі апярэнне стрэлаў, спрабавалі пругкасць лукаў. Групы мужчын пайшлі ў паўднёвыя лясы дзерці смалякі, ламаць яловыя лапкі. На паўночны бераг Віліі пераправіліся разведчыкі пільнаваць з'яўленне аленяў, якія пойдуць з халодных краёў праз Вілію да Немана, дзе на краі лясоў будуць хавацца ад зімовых вятроў.

І вось аднойчы на пясчаны мыс, які жаўцеў стромкімі абрывамі, прыйшоў шаман з бубнам і касцяной сякерай. Бубен быў плоскі з тугой скуранай мембранай на берасцяным вобадзе. Прывязаныя да вобада, шамацелі нізкі ракавін. На чорнай ад тлушчу і сажы паверхні сякеры выдзяляўся адмысловы наразны арнамент, запоўнены белай глінай.

Шаман быў голы, толькі шкура пакрывала яго плечы, ды над галавою пагойдваліся аленевыя рогі.

З белых вапняковых каменьчыкаў шаман выклаў на траве сілуэт аленя, побач распаліў вогнішча. Калі агонь разгарэўся і дым пацягнуўся ўгору, шаман ударыў у бубен. І адразу з буданоў паселішча з явіліся мужчыны з дзідамі і лукамі і пайшлі на рачны мыс, куды іх клікаў бубен.

Шаман кружыў вакол вогнішча і сілуэта аленя на траве, рытмічна біў у бубен і раз-пораз выкрыкваў закляцці. Мужчыны, якія паселі ў кола, пагойдваліся ў такт бубну і хорам паўтаралі за шаманам. Далека па рацэ разносілася гэта ні то песня, ні то лямант.

Увесь дзень заклінаў духаў шаман. І ноч. Прасіў іх дапамагчы ў паляванні, скіраваць аленяў да гэтай рачной лукі. Усё хутчэйшым рабіўся бубнавы рытм, усё мацней ускрыквалі паляўнічыя, і, здавалася, не будзе канца гэтаму кружэнню шамана вакол вогнішча — адкуль толькі моц у гэтым старым целе! Але шаману, пэўна, давалі тую моц добрыя духі племені.

Калі скончылася ноч і развіднела, прыбег задыханы разведчык, прарваўся да вогнішча праз кола мужчын і закрычаў, уздымаючы дзіду: «Ідуць алені!»

Тады шаман выхапіў у разведчыка дзіду і, як рэха, ускрыкнуўшы: «Ідуць алені!», увагнаў яе вастрыём у белы сілуэт жывёліны на траве і ўпаў без прытомнасці.

Мужчыны-паляўнічыя рушылі да берага і занялі ўжо раней падрыхтаваныя месцы: хто ў чоўне, замаскіраваным галлём, хто з лукам у прыбярэжных кустах.

З'явіўся яшчэ адзін разведчык і сказаў, што алені ідуць якраз на пераправу каля іх лукі. Усе з палёгкаю ўздыхнулі. Здаралася, што алені, нечым устрывожаныя, раптам паварочвалі ўбок і пераплывалі Вілію ў іншым месцы. Тады племя заставалася на зіму без мяса, і галодная смерць прыходзіла да людзей.

І вось у напружанай цішыні пачуўся нейкі шум, затым лес рагоў вырас над звілістай лініяй прыбярэжных узгоркаў — гэта паказаліся перадавыя статкі аленяў. Сівавата-бурая хваля жывёлін падкацілася да вады і замерла. Аленіхі-важатыя пачалі нюхаць паветра і пільна аглядаць супрацьлеглы бераг.

Затаілі дыханне паляўнічыя. Але вось аленіхі ўвайшлі ў ваду і паплылі. Калыхнуліся тысячы рагоў, і ўслед за важатымі рушылі іншыя алені.

Як толькі першыя жывёліны выйшлі на супрацьлеглы бераг, са схованак выплылі чоўны — паляванне пачалося. Паляўнічыя, плывучы сярод аленяў, калолі іх дзідамі. Аднаго за другім. Пакуль хапала моцы ў руках або пакуль не ламалася дрэўка. А з другога берага ўсё наплывалі новыя статкі.

Забітых жывёлін плынь зносіла ўніз. Там іх перахоплівалі і цягнулі да берага. Маладзейшыя або не такія спрытныя паляўнічыя білі аленяў на беразе з лукаў.

Але і ў людзей без ахвяр не абышлося. Перапалоханая аленіха перакуліла човен. Паляўнічы пайшоў на дно. Быў паранены і адзін юнак на беразе, які неасцярожна сунуўся з дзідаю да раз'юшанага самца.

Апошнія алені, успеньваючы ваду, выскачылі на бераг і памчалі па раскапычанай тундры. Навокал стала ціха.

Зараз наступіла спакайнейшая, але не менш важная работа. Трэба было зняць шкуру са здабычы, прыпарадкаваць мяса. І хутка задымілі ўздоўж берага вяндлярні, зробленыя з жэрдак і бяросты. Густа запахла паленым смалістым дрэвам. І так было кожную восень.

## ЗА ДАРАМІ ПРЫРОДЫ

*Гэта магло быць у любое тысячагоддзе каменнага веку, асабліва ў яго пазнейшы час, дзенебудзь на Беларускім Паазер'і*

Першабытны чалавек карміўся з палявання, рыбалоўства і збіральніцтва. Зразумела, апошняе не прыносіла столькі спажывы, як, напрыклад, удалае паляванне на зубра або мамантa. Але ўсё ж і збіральніцтва значна разнастаіла харчаванне нашых продкаў.

Вясною, калі ўсё навокал зелянела, выпраўляліся за першым шчаўем. Ішлі ў харч маладая крапіва, дзікая цыбуля, карані вадзяной ліліі, мноства іншых раслін. Вясною быў самы час і для збору птушыных яек. Затым прыходзіла лета і выспявалі ягады. Спачатку суніцы, потым чарніцы, маліны, брусніцы, восенню — журавіны. Ягады можна было не толькі есці свежымі, але і сушыць на зіму.

Пасля цёплых дажджоў пачыналіся грыбы. Раслі яны ажно да позняй восені, і ўвесь гэты час не заціхалі чалавечыя галасы ў лесе.

У канцы лета наступаў збор арэхаў. Людзі ішлі і ў дубнякі, разганяючы дзікоў,— паспелі жалуды. Вывараныя жалуды гублялі гаркоту. Іх можна было затым перацерці на муку, змяшаць з арэхамі ці яшчэ з чым і спячы праснакі.

...У дупле вялізнай старой ліпы пасяліўся пчаліны рой. Можа таму, што дупло было высока над зямлёю, а дрэва нахілена над рэчкаю, мядзведзям ніяк не ўдавалася выдраць гранкі-соты. А паласавацца мядком яны спрабавалі — камель быў добра паабдзіраны кіпцюрамі.

Людзі прыкмецілі рой яшчэ вясною, але не чапалі: чакалі, пакуль пчолы наносяць пабольш набытку. І вось неяк у самы разгар лета, калі з дупла ажно выступіў мёд, да ліпы прыйшло некалькі мужчын. Спыніліся пад дрэвам, глядзелі і слухалі, як гудуць пчолы ў ліпавай кроне. Затым адны з мужчын ссеклі ў прыбалаці гонкую яліну і ацерабілі на ёй галіны, пакінуўшы ля камля старчакі. Другія нацягалі сухога ламачча. Як толькі яліну прыставілі да ліпы — вяршыняй да дупла, падпалілі ламачча і пачалі кідаць на агонь сырое галлё. Цёмна-

шызы дым узняўся ўгору, ухутаўшы дрэва густым воблакам. І адразу загуло ў кроне, быццам у віхуру,— гэта вылятаў з дупла растрывожаны рой.

Крыху пачакаўшы, па яліне, чапляючыся за старчакі, палез маладзейшы і рызыкоўнейшы з мужчын. Ен быў захутаны ажно да вачэй закуродымленай вопраткай і трымаў пад пахай скураны мех. Задыхаючыся ад дыму, мужчына выцягнуў з дупла гранкі і склаў у мех. Затым хуценька пачаў спускацца, бо, калі дым радзеў, пчолы смялелі і раз'юшана накідваліся на чалавека. Даставалася і тым, хто стаяў пад дрэвам.

Радасна ўзбуджаныя — гэта была вясёлая забава — вярталіся мужчыны са здабычай у паселішча. Час ад часу пазіралі адзін на другога, бачылі апухлыя ад укусаў насы і вочы-шчылінкі і рагаталі.

...У плыткай азёрнай затоцы, зарослай рознымі вадзянымі раслінамі, ходзяць амаль па пояс у вадзе жанчыны і падлеткі. Раз-пораз нагінаюцца, нешта выцягваюць з глею і кладуць у торбы. Малюскі? Не, хоць іх таксама збіралі і елі першабытныя людзі. Жанчыны і падлеткі выкопваюць плады вадзяных арэхаў, рагатыя, як галоўкі чорцікаў. Плады потым абсмажаць на вогнішчы і дастануць з іх смачныя зярняты.

А як настане глыбокая восень і сцішыцца пачарнелая зямля ў чаканні першага снегу, гаспадыні са спакойным задавальненнем будуць аглядаць у схованках доўгія нізкі сушаных грыбоў, кошыкі і вялізныя гліняныя гаршкі з ягадамі, жалудамі, ляснымі і вадзянымі арэхамі. Будуць перакладаць у сушэйшыя мясціны пукі каранёў і сцяблін ядомых раслін і радавацца, што зімовымі завірухамі, калі не прабіцца праз лёд да свежай рыбы, не трапіць у заснежаны лес за дзічынай, сям'я хоць які час зможа пратрымацца на гэтых запасах, сабраных у лесе, на балоце, у возеры.

Збіральніцтвам займаліся і самыя першыя людзі, якія яшчэ мала чым розніліся ад сваіх продкаў — чалавекападобных малпаў, і людзі пазнейшага часу, кал і ўжо існавалі земляробства і жывёлагадоўля.

## У МАЙСТЭРНІ

*Сем тысяч гадоў назад. На рацэ Сож каля сучаснай вёскі Залессе ў Чачэрскім раёне*

На краі паселішча, пад самым лесам, размясцілася крэмнеапрацоўчая майстэрня. Гэта — лёгкая трысняговая павець на слупках, якая дае схованку і ад сонца, і ад непагадзі.

Пад павеццю яшчэ моцны, але ўжо сівы мужчына. Апрануты ён у доўгія штаны, пашытыя з крапіўнага палатна, і скураную безрукаўку. Босы.

Вось мужчына ідзе ў кут павеці і выкопвае са схованкі крамянёвы кавалак — камень памерам у два кулакі. Затым бярэ з торбы на слупку адбойнік — гранітную гальку з моцна падзёўбанымі краямі, прысаджваецца на драўляны кругляк і спрытным ударам збівае вяршыню кавалка. Атрымалася амаль роўная пляцоўка. Паклаўшы камень на чэсаную дошку, якая ляжыць на зямлі, і заціснуўшы яго ступнямі, майстар пачынае адколваць з пляцоўкі пласцінкі з правільнымі гранямі. Робіць ён гэта спецыяльным прыстасаваннем — зробленым з рога і дрэва доўгім стрыжнем-адціскальнікам.

Побач з сівым сядзіць мужчына маладзейшы. Ен падбірае з зямлі адколатыя пласцінкі і апрацоўвае іх па краях невялікім рэтушорам — абломкам крэменю. Пласцінкі-нарыхтоўкі набываюць форму доўгіх лістападобных наканечнікаў стрэлаў з рэтушаванымі краямі і адмысловым тонкім насадам.

Мужчыны стараюцца. Набліжаецца восень — час палявання на адлятаючых у вырай растлусцелых за лета качак і гусей. А для такога палявання трэба многа стрэлаў.

Пад павеццю і навокал яе валяецца мноства розных кавалкаў крэменю, пласцінак, адшчэпаў, а таксама крамянёвых камянёў, з якіх адкалолі колькі можна нарыхтовак і кінулі як непатрэбныя. Гэта так званыя нуклеусы. Яны выглядаюць як гранёныя пірамідкі.

Каля павеці былі разасланы кавалкі бяросты. На іх ляжалі змайстраваныя яшчэ раніцою крамянёвыя скрабкі — адшчэпы або абломкі ножападобных пласткоў, у якіх край закругляўся і апрацоўваўся стромкім рэтушам. Такая прылада з'яўлялася універсальнай, ёй можна было чысціць рыбу, здзіраць мяздру са скуры, рэзаць скуру жывёл і кару дрэў. Тут жа былі і некаторыя іншыя прылады: праколкі, якімі рабіліся невялікія адтуліны ў скуры або кары; разцы, якія пераважна прымяняліся для апрацоўкі костак; доўгія, завостраныя з краёў нажы.

Працавалі моўчкі. Толькі, калі перапыняліся, перакідваліся якім словам.

Ужо перад самым паўднём, калі збіраліся пайсці абедаць, маладзейшы мужчына адклаў убок рэтушор і пачаў узірацца паміж хацін:

— А да нас нехта ідзе.

Паглядзеў туды і старэйшы.

— Ды гэта мой су сед Барона з сынам.

Варона падышоў да павеці і павітаўся з майстрамі, пажадаўшы ім дапамогі добрых духаў. Затым дастаў з-за паса сякеру і працягнуў старэйшаму:

— Бачыш, Скол, як лязо вышчарбілася? І аб што — аб ліпу. Пачаў ссякаць каля затокі, каб потым выдзяўбці з яе човен. Але раптам трапіў сякерай на нешта цвёрдае — ажно зазвінела. Гляджу, а ў дрэве ўрослы крамянёвы наканечнік стралы. Тады ўспомніў, што як былі яшчэ хлапцамі, то на гэтай ліпе ў цэль з лукаў практыкаваліся.

— Ты глядзі, які выпадак,— здзіўлена паківаў галавой Скол.— Я і сам па ёй не адну стралу калісьці выпусціў. Але мы табе зараз зробім новую сякеру, бо гэту шчарбіну ўжо не зараўняеш.

Майстар выбраў прадаўгаваты крэмень і збіў з яго верхнюю і ніжнюю часткі. Атрымаліся дзве пляцоўкі. Затым ударамі адбойніка адкалоў з краёў пляцоўкі тоўстыя адшчэпы — нарыхтоўка пачала нагадваць сякеру. Асцярожнымі бакавымі ўдарамі Скол зрабіў лязо і плоскі абушок. Лязо падправіў рэтушорам, ім жа зняў і выступы на краях сякеры. Хутка і лоўка выходзіла ў майстра, стараўся асабліва, бо рабіў на вачах супляменніка.

Затым Скол выбіў з адтуліны ў касцяным тапарышчы папсаваную сякеру, абмазаў адтуліну густым клеем з драўнінінай смалы і замацаваў у ёй новую сякеру.

— На, сусед, трымай і няхай табе легка сячэцца. Толькі сёння не працуй — няхай смала засохне.

Пакуль дарослыя былі занятыя сякераю, сын Вароны, яшчэ падлетак, забаўляўся побач. Ен падымаў з зямлі непатрэбныя майстрам адшчэпы, стукаў адзін аб другі, высякаючы іскры, або для цікаўнасці, наследуючы дарослым, браўся рэтушаваць які крамянёвы асколак. Пазабаўляецца так і кіне крэмень у пясок.

А праз нейкіх сем тысячагоддзяў археолагі знойдуць на беразе Сожа гэтыя крамянёвыя недаробкі і будуць ламаць галаву, думаючы: «І што б гэта маглі быць за такія дзіўныя вырабы, для чаго яны служылі нашым продкам?» А гэта ўсяго толькі дзіцячыя забаўкі.

Крэмень апрацоўвалі на кожным паселішчы каменнага веку, але непадалёку ад багатых крэменем радовішчаў існавалі і спецыяльныя майстэрні па вырабу каменных прылад працы. Некаторыя ж раёны Беларусі бедныя крамянёвай сыравінай, таму мясцовыя жыхары замянялі яе іншымі матэрыяламі. Так, на старажытных паселішчах Падзвіння мы сустракаем касцяныя і рагавыя наканечнікі стрэлаў і

дзідаў, кінжалы і гарпуны. Нават некаторыя сякеры там былі касцяныя. Праўда, такою сякерай дрэва не ссячэш, але ёю можна было адсекчы, напрыклад, кавалак мяса ад упаляванай жывёліны.

У самым канцы новага каменнага веку сякеры з крэменю і іншых камянёў пачалі зашліфоўваць з дапамогай каменных пліт і мокрага пяску.

# НОВЫ КАМЕННЫ ВЕК

## ПЕРШЫЯ ГАРШКІ

*Каля шасці з паловай тысячагоддзяў назад. Недзе на Прыпяці*

Хаціна з жэрдак і галля загарэлася глыбокай ноччу, калі ўсе моцна спалі, натомленыя клопатамі мінулага дня. Успыхнула раптоўна, і свежы вецер з ракі хутка раздзьмухаў агонь — людзі ледзь паспелі выскачыць на дварышча, прыхапіўшы толькі вопратку. Усё згарэла дашчэнту, і на раніцу толькі дыміўся шэры прамавугольнік папялішча — усё, што засталося ад хаціны.

Прапалі запасы сушанай рыбы, крамянёвыя і касцяныя прылады, і, чаго найбольш было шкада, згарэлі рыбацкія сеткі, сплесці якія з лубяных валокнаў было не так проста.

Гаспадару ўжо не было чаго рабідь на пажарышчы, і ён, узяўшы сякеру, разам з суседзямі пайшоў у лес рыхтаваць жэрдкі на новую хаціну. Гаспадыня ж корпалася ў вугалях, выграбаючы кійком то перапалены наканечнік дзіды, то гліняныя грузілы ад сетак. Знойдзенае складвала побач у кучку.

Пад абвугленымі рэшткамі сцяны жанчына дакапалася да начыння — абгарэлых кошыкаў і лубянак, якія рассыпаліся ад першага дотыку, пакручаных і счарнелых берасцяных пасудзін.

Гаспадыня падняла яшчэ цёплую ад агню невялікую пасудзіну, па форме як лейка, сплеценую з тонкіх хваёвых каранёў. Найбольш шкадавала гэту рэч, бо яе рабіў яшчэ бацька. Таму берагла як памятку. Пасудзіна была старая, даводзілася замазваць на ёй дзіркі і шчыліны глінаю. І гліны той месцамі так набралася, што самога пляцення не было бачна. Зараз карані згарэлі, але гліна трымалася, захаваўшы былую форму вырабу.

Жанчына пакруціла начынне ў руках, пастукала па брыжы — гліна ажно звінела, затым уздыхнула і кінула яе на зямлю. Пасудзіна чмякнулася на вугалі, узняўшы воблачка попелу, але не разбілася. Гліна абпалілася ў агні і стала, як камень. Гэта ўсцешыла гаспадыню — пасудзіну, аказваецца, можна будзе ўжываць і надалей...

Пэўна, гэта адзін з многіх магчымых выпадкаў, калі старажытныя людзі заўважылі, што гліна, трапіўшы ў агонь, абпальваецца і робіцца надзвычай моцнай. Зразумеўшы гэта, а таксама здаўна

ведаючы пластычнасць сырой гліны, нашы продкі ў самым пачатку новага каменнага веку пачалі выраблясць гліняны посуд.

На кожнай неалітычнай стаянцы пры раскопках сустракаецца мноства гліняных чарапкоў — абломкаў посуду. Ганчарнае кола тады яшчэ не было вынайдзена, таму гаршкі ляпіліся ўручную. Выкапаную з зямлі гліну добра вымешвалі. Затым, каб будучы выраб не трэскаўся пры абпале, дабаўлялі ў яе траву, пясок, тоўчаныя ракавіны або кару дрэў. З такога падрыхтаванага глінянага цеста ляпілі стужкі, якія змацоўваліся краямі паміж сабой. Так фармавалася пасудзіна.

Бугаркі і ўпадзінкі, якія на сценках заставаліся ад пальцаў, загладжваліся касцяной або каменнай пласцінкай. Затым паверхні посуду аздабляліся штампамі — арнаменцірамі. Узоры атрымоўваліся розныя — пасачкі адбіткаў грэбня або насечак, ялінкі, лукаткі, ромбы. І амаль заўсёды пад самым брыжам наносіўся шэраг глыбокіх круглых ямачак. Некаторыя гаршкі арнаментаваліся так багата, што нагадваюць адмысловую вышыўку. Кожнае племя мела на гліняным посудзе свае характэрныя арнаменты, як, напрыклад, сучасныя народы на вопратцы або ручніках.

Пасля арнаментавання гаршкі абпальваліся на вогнішчах. Калі ж яны трэскаліся, то шнуркамі, прасунутымі праз свідраваныя адтуліны, звязваліся, браліся «на шво».

Пасудзіны ў неаліце ляпіліся разнастайныя — вялізныя, як цэбры, у іх захоўвалі прадукты, і меншыя для гатавання стравы. Рабілі міскі для яды і кубкі для пітва. Былі пасудзіны і з пукатымі бакамі, і з вузкімі шыйкамі, і як разрэзаны гарбуз. Але ўсе яны без выключэння мелі вострыя дны, зрэдку — закругленыя. Чаму? А таму, каб не куляліся на агнішчы, калі падгаралі дровы, каб лепш трымаліся ў зямлі, устаўленыя ў якое паглыбленне. Печак жа і дашчатых сталоў, для якіх патрэбен пласкадонны посуд, тады яшчэ не было.

## І ПАПЛЫВЕ ЁН ПА ХВАЛЯХ

*Больш як шэсць тысяч гадоў назад. На возеры Мястра, што на Мядзельшчыне*

Познім ранкам, калі сонца ўжо паднялося даволі высока і добра прыгравала, берагам возера ішлі дзед і яго ўнук. Загарэлы амаль да чарнаты малы то кідаўся бегчы, то прыпыняўся, прыглядаючыся між каранёў дрэў, то спускаўся з невысокага абрыву да вады, каб падабраць там прыгожы каменьчык.

Дзед сунуўся ззаду, перастаўляючы босыя ступні па зляжалай іглiцы. Ен меў доўгія паношаныя штаны, белую сарочку, паверх якой была камізэлька з ласінай скуры — цёплая і новая, пашытая старэйшай унучкай, бо старому часам было халаднавата і летам.

За спіною ў старога вісела скураная торба. У левай руцэ ён нёс падвязаны на лубяной вяровачцы дзірчасты гліняны гаршчок з тлеючымі вугалямі, у правай — кароткую дзіду.

Глядзеў дзед, як перад ім, нібыта спелы дзьмухавец, мільгае белая галава ўнука і час ад часу бурчэў:

— Не адбягай, кажу, далека, бо на мядзведзя ці рысь напорашся.

Напамінак пра небяспеку суцішаў хлопчыка, і ён тады ціснуўся бліжэй да дзеда. Але не надоўга. Маладая кроў бурліла і неадольна клікала да руху, да дзеяння.

Бераг паніжэў, сцежка збягала ў лагчыну. Векавечныя гіганты хвоі пачалі расступацца, даючы мясціну то ліпе, то таполі. А ў самай лагчыне засерабрыліся таўшчэзнымі камлямі асіны, дружна зацямнелі вольхі.

— Ну, унучак, выбірай асіну.

Малы пачаў кружыць паміж дрэвамі, задзіраючы галаву, каб ацаніць іх гонкасць, ахапляў рукамі ствалы, мераючы таўшчыню.

— Вось гэту, дзядуля,— нарэшце стукнуў ён кулачком па самым тоўстым дрэве.

— Охо, хо,— пачухаў патыліцу стары.— З гэтай асінай мы ці ўправімся? Ды і човен з яе выйдзе вялізны. На ім толькі па Нары плаваць, а на нашым возеры човен трэба лягчэйшы.

— Тады можа гэту...— менш упэўнена паказаў малы на суседняе дрэва.

— Ну што ж,— акінуў позіркам дзед асіну.— Гэта, пэўна, падыдзе — роўная і ў меру таўшчынёй.

Унук пачаў збіраць навокал сухое ламачча і сцягваць да дрэва. Дзед жа высыпаў пад камель з гаршка гарачыя вугалі, падкінуў сухой травы, галінак і пачаў раздзьмухваць агонь. Хутка ўжо гарэла вогнішча. Зараз дровы збіралі і падкладвалі на агонь абое: унук — тонкія, а дзед — таўсцейшыя. Абкладалі камель навокал: трэба было каб падгарэў з усіх бакоў. Кара на асіне пацямнела, пачала апальвацца, задымела. А праз нейкі час падсохла і загарэлася сама драўніна.

Дзед скруціў з кавалка бяросты лейкаваты кубак, змацаваўшы яго клінкамі з галінак, і ўнук час ад часу бегаў з ім да возера, прыносіў вады.Дзед браў кубак і, прымерваючыся праз дым, пацiху ліў ваду на камель вышэй агню, не даючы, каб дрэва падгарэла ўверх.

Сонца прыгрэла мацней. У смузе парнасці, што пачала ўздымацца ад вады, затанцаваў далягляд за возерам. У asляпляльнай нябеснай сіні нараджаліся ледзь улоўныя кволыя воблачкі і тут жа распускаліся, раставалі пад сонечнымі прамянямі.

— Можна мне пакупацца? — папрасіўся малы.

— Ідзі, ідзі, купайся. Дроў мы нанасілі столькі, што я пакуль і адзін упраўлюся...

Сцішана сядзеў дзед перад вогнішчам, падкідаючы дровы. Ветру не адчувалася. Не шумелі верхавіны дрэў, але цішыні не было. Лес гуў ад птушынай рознагалосіцы.

Стары сядзеў і думаў, што гэты вось човен будзе ў яго жыцці пяты. І мабыць, апошні. Бо ўжо гады... Найлепш памятаўся першы, яшчэ ў маладосці. Як абчэсваў яго, выдзёўбваў. Як выразаў на носе адмысловы ўзор. І які імпэтны атрымаўся човен! Ляцеў па хвалях, як чайка. А як добра тады веславалася. Якое лёгкае было вясло і моцныя рукі! На тым чоўне ён прывёз сабе з далёкага паселішча маладую жонку... Човен той разбіла аб камяні, калі ён неасцярожна выплыў пратокай на Нару. Такі быў тады шалёны вецер!

Другі човен сагналі з сабой загорцы, калі напалі на іхняе племя. Трэці служыць яшчэ і зараз, хоць пачарнеў, патрэскаўся і з кармы працякае. Чацвёрты рабіў сваймy сябру — рыбаку. А вось гэты, пяты, ён будзе рабіць для мужа старэйшай унучкі. Той, што пашыла такую цёплую камізэльку...

Паабедалі дзед з унукам праснакамі і сушанай рыбай са скуранoй торбы. Запілі вадой з бліжэйшай крынічкі. Калі ж сонца схілілася да самага лесу і возера, высвечанае косымі прамянямі, засерабрылася, нашы працаўнікі той жа сцежкай падаліся назад у сваё паселішча.

І так прыходзілі дзед з унукам у гэту прыбярэжную лагчыну шэсць дзён. Старанна абпальвалі камель асіны, пакуль дрэва не стала, як падгрызенае бабрамі. І нарэшце настаў дзень, калі застаўся толькі стрыжань дрэва. Дзьмуў даволі моцны ўсходні вецер, кожнае імгненне асіна магла абваліцца на зямлю.

Дзед загадаў унуку трымацца зводдаль і не падыходзіць да небяспечнай мясціны. Сам жа варажыў каля вогнішча, падкладаў, дзе трэба, дровы, падгортваў вугалі.

І нарэшце, перад паўднём, дзед гукнуў:

— Сцеражыся!

Малы бачыў з суседняга ўзгорка, як верхавіна асіны спачатку хіснулася, затым стала паволі хіліцца. Набіраючы разгон і ламаючы галлё суседніх дрэў, асіна грымнула на азёрны бераг, ажно ўздрыгнула

пад нагамі зямля і пасыпалася ігліца. На хвіліну ў лесе заціх птушыны спеў, толькі недзе далёка адгукалася зязюля.

Унук пабег у лагчыну — каб не прыціснула там дзеда. Стары заклапочана тупаў каля дрэва, аглядаючы, ці не дало дзе трэшчыну.

— А зараз, унучак,— задаволена прамовіў дзед,— адмерым даўжыню будучага чоўна і зноў перапалім ствол. Затым сякерамі абчэшам, зробім гладкім — атрымаецца цела чоўна. Але застанецца самае цяжкае: выбраць сярэдзіну.

Дзён праз сем, калі скончылі перапальваць асіну і з другога канца, прыйшлі на дапамогу іншыя мужчыны. Насеклі галля і шчыльна заклалі камель, схавалі ад сонца, каб дрэва ў цяні на азёрным ветрыку высахла не патрэскаўшыся.

У канцы лета прыйшлі зноў, усе з навостранымі каменнымі сякерамі. Кіраваў працаўнікамі ўсё той жа стары. Дружна застукалі сякеры. Праз некалькі дзён на азёрным беразе ляжала цела чоўна, гладкае і белае. Дзед навыразаў роўных аднолькавай даўжыні калочкаў, затым крамянёвым свердлам пачаў выкручваць на баках нарыхтоўкі чоўна дзіркі.

— Што ты робіш, дзядуля? — жахнуўся ўнук.— Праз гэтыя ж дзіркі пацячэ вада!

Дарослыя засмяяліся:

— Пацячэ, пацячэ! І пойдзе твой дзед на дно, да вадзяных духаў у госці.

— Не хачу, каб мой дзядуля тапіўся! — ашчаперыў дзеда малы.

— Яны жартуюць,— расчулена пагладзіў унука па галаве стары.— Калочкі шчыльна загонім у дзіркі і па іх будзем вызначаць таўшчыню бартоў чоўна. Пакажацца пад цяслой канец — хопіць вычэсваць.

Зараз засмяяўся і хлопчык са сваёй някемлівасці і стаў падаваць дзеду калочкі.

На роўна абчасанай верхняй плашчыні будучага чоўна дзед уздоўж краю правёў вугалем чорную рысу — вызначыў таўшчыню бартоў. Затым з бакоў пасталі маладзейшыя мужчыны, паплявалі на далоні, мацней абхапілі ручкі крамянёвых цяслаў і пачалі вычэсваць — выдзёўбваць сярэдзіну чоўна.

Наступіла восень. Зажаўцелі бярозы на азёрным беразе, зачырванелася лісце на асінах. Нізка над зямлёю пераляталі шпакі. Дзед маленькай вострай цяслой апошні раз прайшоўся па краях чоўна, выгладжваючы шурпатасці. Затым галавешкай намаляваў на носе даўбёнкі кола з крыжам усярэдзіне — знак сонца, і мужчыны дружна пасунулі човен да вады. Напінаўся побач з імі і хлопчык.

Нарэшце белы човен слізгануў па камянях і крануўся вады. Яшчэ намаганне — і ён загайдаўся на хвалях. Радасна закрычалі мужчыны.

І мусіць, больш за ўсіх радаваўся хлопчык — ён жа таксама дапамагаў рабіць човен!

Дзед пасадзіў у човен унука, сам сеў на карме і адштурхнуўся вяслом ад берага. Нос даўбёнкі лёгка рэзаў невысокія хвалі, кіраваўся на глыбіню. Хлопчык апусціў руку за борт і адчуў, як пералівaецца паміж пальцамі халаднаватая азёрная вада.

Насупраць вялікага каменя на касе, дзе возера мела найбольшую глыбіню, якую нельга было змераць нават самай доўгай жардзінай, дзед перастаў веславаць. Ен дастаў з торбы нізку сушанай рыбы, прывязаў да яе камень і апусціў за борт. Нізка пачала хутка знікаць у глыбіні. І хлопчыку здалося, як быццам да рыбы кінуўся нейкі вялізны цень і ўсё прапала, толькі забурліла вада.

— Дзякуй табе, Вадзяны дух,— прашаптаў дзед, які таксама пільна ўзіраўся ў ваду.— Доўга паслужыць гэты човен,— разгінаючыся, уголас дадаў ён і зноў узяўся за вясло.

## З ЧАГО ВЫРАСТАЕ ПШАНІЦА

*Каля шасці тысяч гадоў назад. Гэта магло быць у Закаўказзі — там, дзе сустракаюцца дзікарослыя расліны, прыдатныя для акультурвання*

Так здарылася, што ў гліняны гаршчок, дзе захоўвалася зерне дзікарослай пшаніцы, панадзіліся мышы. У гаршку збоку была выбіта дзірка, вось туды яны і пачалі лазіць. Праўда, пшаніцы там заставалася на дне, але ж была яшчэ вясна, новая пшаніца вырасце і паспее ў Каменным яры толькі ўлетку. А гэта зерне можна было пераверяць, выкінуць смецце, якое нацяглі мышы, і перацерці на муку. На тыдзень які хапіла б на праснакі або зацірку. Але гаспадыня вельмі гідзілася мышамі. Можа таму, што яшчэ маленькую яе ўкусіў пацук. З таго часу яна не магла бачыць гэтых дробных звяркоў, што шнарылі ў хаце і вакол яе.

Жанчына пабедавала і загадала дачцэ — дзяўчынцы гадоў дванаццаці, высыпаць папсаванае зерне. Дзяўчынка вынесла гаршчок, перавярнула ўверх дном ды яшчэ пастукала па баках. Пыл і шалупінне вецер панёс убок, а цэлыя зярняты высыпаліся на зямлю. І

трэба было такому стацца, што зерне ўпала якраз на тое месца, дзе бацька палкай перакапаў дзірван, шукаючы ядомых каранёў.

А назаўтра прайшоў цёплы вясновы дождж. Потым наступілі сонечныя дні. Зямля ўгрэлася, і буйна ўзнялася зеляніна.

Міналі тыдні, і аднойчы бацька запытаў:

— Ці бачылі, што за нашай хацінай нейкая дзіўная трава вырасла?

Зірнуць пайшлі маці, бабуля, дзяўчынка і іншыя дзеці.

— Гэта ж пшаніца расце! — здзівілася бабуля.

— Адкуль ёй тут брацца? — не паверыў бацька.

— А я ведаю, а я ведаю! — запляскала ў далоні дзяўчынка.— Я сюды зерне з гаршка высыпала, якое мышы папсавалі.

— Але ж усе расліны вырастаюць з пяску.

— Чаму ж тады пшаніца не расце абы-дзе, а толькі ў Каменным яры? Пясок жа на кожным крону,— уступіла ў спрэчку маці.

— А можа і праўда з зярнят? — засумняваўся бацька.

Якім бы чынам ні вырасла тая пшаніца, але яе абгарадзілі жэрдачкамі, каб дзеці, гуляючы, не вытапталі. Праз які час на сцяблінах з'явіліся каласкі, а затым выспелі і зярняты.

Наступіў час збору пшаніцы ў Каменным яры, дзе яна расла самасевам з даўніх часоў. Людзям толькі і заставалася, што прыходзіць туды ўлетку і крамянёвымі выгнутымі нажамі зразаць каласкі, з якіх, калі перацерці ў далонях, высыпалася зерне. Але іншы раз людзей апярэджвалі мядзведзі, якія таксама любілі паласавацца спелымі зярнятамі. Не праміналі гэту мясціну і дзікі, ды і іншыя лясныя жыхары былі ахвочыя да пшаніцы. Так што часам людзям заставаліся толькі абскубеныя сцябліны.

Дзяўчынка не пайшла ў Каменны яр. Сказала, што будзе жаць сваю пшаніцу за хацінаю. Зрэзала каласкі, перацерла ў далонях. Пасыпалася ў гліняную пасудзіну жаўтаватае зерне. Набралася яго з добрую жменю.

Вечарам дзяўчынка сказала бацькам:

— Няхай гэта будуць мае зярняты. Вясной я іх зноў высыплю ў зямлю. Можа яшчэ вырасце пшаніца.

Налета вырасла і паспела цэлая градка пшаніцы. Суседзі прыходзілі і дзівіліся на гэты цуд. І хутка ва ўсім наваколлі сталі казаць, што дзяўчынка пасябравала з добрымі духамі і тыя далі ёй уладу над раслінамі. Бо дзе ж гэта бачна, каб пшаніца прыжылася побач з хацінай, ды яшчэ вырастала з саміх зярнят!

У наступную вясну такія градкі з пшаніцаю зазелянелі ўжо каля многіх хацін. Затым з'явіліся невялікія палі.

Прыкмецілі, што збажына лепей вырастаў, калі глебу ўзрыхліць, а зерне крыху прыкрыць зямлёю. Калі ж зямлю ў дадатак пасыпаць попелам, зерне буйнела. А чаму б не паспрабаваць сеяць на лясных выгарах? Паспрабавалі — і сапраўды ўраджаі пабольшалі. Тады пачалі наўмысна выпальваць участкі лесу пад палі. Але на ўсе гэтыя адкрыцці пайшло не адно стагоддзе...

## ЗІМОВЫМ ДНЁМ КАЛЯ АГНІШЧА

*Больш як пяць тысячагоддзяў назад. На Гродзеншчыне*

Р азгулялася, закруціла завіруха, засыпала снегам пушчу, азёрны бераг ды і само даўно скаванае лёдам возера. Вялізныя гурбы намяло і каля хацін прыбярэжнай вёскі. Але сёння вецер пацішэў і не так натужна гудуць верхавіны хвой. Ды ўсё ж жыхары не спяшаюцца выбірацца са свайго жылля. Чакаюць, пакуль снег улежыцца і пацвярдзее.

Над хацінамі падымаецца дымок. Гэта людзі паляць у агнішчах, каб сагрэцца ці згатаваць сабе ежу.

У крайняй хаціне, што на самым беразе, хоць і дымна, але цёпла. На агнішчы, складзеным з невялікіх палявых камянёў, палаюць сухія дровы і грэецца ў гліняным гаршку вада. Закураны і гаршчок, і нават плеценыя з лазовых дубцоў сцены, уцепленыя на зіму трыснягом і мохам. Дым, што падымаецца ад агнішча, выходзіць праз круглую адтуліну ў страсе. Але трапляе туды не ўвесь. Частка яго закручваецца пад страхою і скочваецца ўздоўж сцен уніз да земляной падлогі, густа высланай сушаным аерам.

Каля агнішча, прыхінуўшыся спіною да слупа, на якім трымаецца страха, сядзіць яшчэ моцны дзед з цёмным і маршчыністым, як сушаны грыб, тварам. У руках дзеда невялікі бубен, зроблены з тонкай скуры і берасцянага абруча. Навокал старога ўнукі і ўнучкі — ад зусім малечы, што толькі навучыліся пераастаўляць ногі, да ладных падлеткаў. Блішчаць на мурзатых, не мытых ад восені тварах вочы. Дзеці з захапленнем слухаюць дзеда.

А дзед любіць апавядаць і гісторый розных ведае шмат: і пра звяроў, і пра птушак, і пра людзей, што жывуць за возерам, і пра тое, куды сонца нанач спаць кладзецца, і чаму пасля зімы прыходзіць вясна. А яшчэ дзед умее расказваць старадаўнія паданні пра стварэнне свету і паяўленне першых жывых істот, пра багоў і духаў, пра войны, што калісьці вяло іх племя з чужакамі.

Ён расказваў і падыгрываў сабе на бубне, злёгку дакранаючыся пальцамі да скуры — мембраны. І тады ад бубна ішоў таямнічы шоргат, быццам улетку набягалі на прыбярэжны пясок азёрныя хвалі.

Вось і зараз дзед прымасціўся зручней на цурбане і пачаў:

Было гэта ў даўнія-даўнія часы,
Яшчэ да таго, як узнікла тут нашае возера і вырасла пушча;
Было гэта нават яшчэ да Халоднага часу,
Калі зямлю пакрывалі ільды і блукалі між імі калматыя маманты.
Усюды, як вокам акінуць, была напачатку вада без канца і краю.
Калі б сесці ў човен і плыць у адным кірунку,
Жыцця б не хапіла дабрацца дзе-небудзь да берага.
Над вадой жа — адна толькі цемра, ноч непраглядная без зорак і месяца.

Цясней грудзяцца каля агню дзеці, так ім не па сабе робіцца ад гэтага бяскрайняга і, відаць, халоднага начнога возера. Нават маці малых, якая ўжо шмат разоў чула гэта паданне, спыняе свае хатнія клопаты і ўслухоўваецца ў голас дзеда.

І па вадзе той у цемры плавала качка.
Шмат год яна плавала. Нарэшце прыйшла ёй пара знесці яйка.
Тады стала скардзіцца качка Багіні воднай стыхіі,
Што няма дзе гняздо ёй сплесці, каб выседзець птушанятка.
І злітавалася Багіня — рукі з вады ўзняла,
І ў цёплыя рук далоні качка паклала яйка.
Аднойчы ўзляцела качка, каб рыбай якой пажывіцца,
І тут жа каршун драпежны з гнязда тое выхапіў яйка
І ў цемры растаў, як прывід.
У роспачы качка крычала, калі да гнязда вярнулася!..
Разгневалася Багіня, паклікала сына-ветра,
Лук уручыла яму, а з лукам стралу-маланку.
«Застрэль каршуна,— сказала.— Застрэль! Ен пакрыўдзіў качку».
Напяў цеціву сын-вецер, пусціў ён стралу-маланку,
І тая страла навылет прабіла драпежніку грудзі.
І выпусціў з лап кіпцюрыстых каршун той качынае яйка.
Упала яно з вышыні на пеністы грэбень хвалі,
Упала яно і разбілася на роўныя дзве палавіны.
І з верхняй яго палавіны стварылася неба, а ў небе:
І месяц, і зоркі, і хмары, і ў хмарах вясёлка.
З другой палавіны, з ніжняй стварылася цвердзь зямная,
А ў цвердзі: лясы на ўзгорках, у нізінах азёры і рэкі,
І розная жыўнасць лясная, балотная і вадзяная.
З жаўтка ж утварылася сонца, святло і цяпло людзям даўшы...

Скончыў дзед свой спеў-паданне, і ціха стала ў хаціне. Толькі чуваць было, як скрабецца ў сцяне мыш.

Закіпела ў гаршку вада. Маці ўсыпала ў кіпень некалькі жменяў пшанічнай мукі, укінула з дзесятак сушаных рыбін. Паабедалі, сёрбаючы варыва касцянымі лыжкамі. Пасля абеду дзед прылёг на ляжанку адпачыць, а дзеці заняліся сваімі няхітрымі гульнямі.

— Быццам завіруха скончылася,— сказаў бацька, прыслухоўваючыся. Ен падышоў да сцяны, выцягнуў анучыну з адтуліны-акна і зірнуў на вуліцу.

Хоць неба было па-ранейшаму нізкае і захмаранае, але снег ужо не падаў. Вецер сціх. Паміж хацінамі праляглі першыя ланцужкі чалавечых слядоў. На возеры каля берага некалькі постацей разграбалі снег, збіраючыся прабіваць цяжкім каменем у лёдзе дзірку, каб лавіць рыбу.

Бацька зняў з аленевых рагоў на сцяне, якія былі за вешалку, берасцяны калчан са стрэламі і лук, выцягнуў з кута авальныя кароткія дошчачкі з раменьчыкамі — лыжы.

— Прайдуся краем лесу,— сказаў ён жонцы, падаючыся да дзвярэй.— Пэўна ўжо і зайцы вылезлі з-пад ялінак кары пагрызці.

## НА ВОЗЕРЫ

*Каля пяці тысячагоддзяў назад. На мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў на Віцебшчыне*

Прасторнае возера з нізкімі, там-сям забалочанымі берагамі. Лясы навокал, у нізіне — альховыя, бярозавыя ды яловыя, а на паўднёвым высокім беразе сінее непраходны бор. На выспах пасярод возера, на сушэйшых грудках каля берага размясцілася некалькі вёсачак новакаменнага веку. Хаткі па дзве-чатыры ў кожнай.

У навакольных лясах ды на балотах шмат рознай дзічыны, і туды нярэдка кіруюцца паляўнічыя, але ўсё ж большасць свайго часу 'жыхары праводзяць на возеры. Не толькі мужчыны, але дзеці і нават жанчыны. І ўсё таму, што азёрныя затокі багатыя рыбай, шмат яе і ў рэчцы, што выцякае з возера.

З берага каля лазовых кустоў вудзяць рыбу малыя. Вуды ў іх тонкія, з арэхавых прутоў, і касцяныя кручкі несамавітыя, маленькія. Але ўсё ж кручкі як мае быць — з вушкам, за якое прывязваецца валасяная лёска, і з зазубнем, на якім звіваецца чарвяк.

Дарослыя вудзяць з чоўна на глыбіні, за трыснягом. Вуды ў іх моцныя і касцяныя кручкі — не кручкі, а сапраўдныя гакі з насаджанымі на іх жыўцамі. А на жыўца вудзіцца не якая там малеча, а пудовыя шчупакі і вусатыя, учарнелыя на бездані самы. Паміж зубамі такой здабычы свабодна кладзецца чалавечы палец. Калі шчупак, заглынуўшы жыўца, знянацку рване ўбок, то вузкі човен-даўбёнка можа і кульнуцца.

А вось рыбакі перагарадзілі затоку сплеценай з лубяных суканых нітак сеткай з берасцянымі трубачкамі-паплаўкамі і глінянымі грузіламі. Рыбакі пахапаліся за вяроўкі і дружна цягнуць сетку на мелкаводдзе. На беразе ўжо чакаюць з кошыкамі і торбамі жанчыны, дзеці, і па таму, як натужваюцца рыбакі, як вірue вада каля сеткі, ужо здагадваюцца, што ўлову хопіць на доўгі час.

Вясною, калі рыба ідзе на нераст у залітыя вадою прыбярэжныя балоты ці ў возера па рэчцы з недалёкае Дзвіны, яе б юць касцянымі гарпунамі, прымацаванымі да доўгіх дрэўкаў. У каго ўпэўненая рука і меткае вока, страляюць рыбу з лука, калі тая адпачывае блізка ля паверхні вады. Але раненая рыбіна можа ўцячы ў глыбіню разам са стралою. А гэта шкада, бо прападуць і страла, і крамянёвы наканечнік — майструй тады новыя.

Нашы продкі, канешне ж, лавілі ракаў і ў вялікай колькасці. Бо ў тым каменным веку ў крыштальна чыстай вадзе азёр і рэчак ракаў была безліч. Паспрабуйце ўявіць сабе, як іх выцягваюць з сеткі і засоўваюць у мех. А той ужо амаль поўны. І калі прыслухацца, чуваць шоргат у мяшку — гэта труцца хіцінавыя панцыры ракаў. Хлопчыкам падабаецца такі занятак. Яны скачуць па краі берага, выганяючы ракаў з нор, хапаюць вусачоў за спінкі і выкідваюць на траву. Потым збіраюць іх і нясуць да вогнішча. Спечаныя на вуголлі, пачырванелыя, духмяныя — якая гэта смаката!

## ПЕРАМОЖАЦ АКУНЯ

*Чатыры з лішнім тысячы гадоў назад. На адным з мядзельскіх азёр*

Лепшага рыбака, чым Другак, сярод хлопцаў прыазёрнага паселішча не было. Возера і рака тыя ж самыя і вуды ва ўсіх аднолькавыя, а вось у Другака і клюе часцей, і рыба за кручок хапаецца большая.

А яшчэ ён налаўчыўся лавіць рыбу і рукамі, ныраючы пад карчы, пад абрывісты бераг або абмацваючы густыя водарасці. І

часам цягаў такім спосабам плотак ці язёў больш, чым іншы няўдаліца вудай. Праўда, можна было па памылцы засунуць руку ў нару да вадзянога пацука...

Зайздросцяць Другаку суседскія хлопцы, а некаторыя навыдумлялі, што гэта дзядуля шапнуў яму чароўнае слова, якім можна прывабіць рыбу.

Толькі ніякага такога слова Другак не ведае. Проста ён вельмі любіць быць каля вады і вывучыў усе звычкі рыбы: і калі жыруе, і якую казюрку ці чарвяка больш падабае, і якія ёй прынаднейшыя мясціны. Таму вось і не вяртаецца з рыбалкі з пустымі рукамі.

Але сёння... Гэта ж трэба, каб так не пашанцавала! Насадзіў на касцяны кручок самага тлустага чарвяка, расправіў, каб не заблыталася, моцную лёску, ссуканую з валасоў хваста ляснога каня, і закінуў вуду ў рэчку пад чаромхавы куст, дзе крыху закручвала ваду і паміж водарасцямі была нейкая прагаліна.

Доўга і не чакаў. Рыбіна глынула спажыву амаль адразу ж і дала нырца ў глыбіню — паплавок толькі боўтнуў і знік пад вадою. Другак мацней ухапіўся за вудзільна, яно ажно выгнулася пад цяжарам здабычы, але... на бераг выцягнулася адна лёска, без рыбіны і нават без кручка. Стрыжань кручка, праўда, застаўся, зазубень жа быў адламаны.

Другак асцярожна зірнуў у ваду і прыкмеціў, як паміж водарасцей плавае вялізны акунь — чарвяк яму спадабаўся. Бачна, чакаў другога. Хлопчык прывязаў да лёскі запасны кручок, начапіў яшчэ тлусцейшага чарвяка. І ўсё паўтарылася спачатку — рыбіна зноў адламала зазубень і глынула разам з чарвяком...

У сапсаваным настроі Другак паглядзеў у бакі. На беразе рэчкі сцішана сядзелі з вудамі іншыя хлопчыкі. Бліжэйшыя краем вока цікавалі за ім. Некаторыя, здавалася, нават пасміхаліся.

Хлопчык скруціў вуду і падаўся да возера. Пачынала прыпякаць.

Рыба і так зараз не будзе брацца, да таго ж не было запасных кручкоў. Другак паплаваў каля трыснягу, а потым лёг на прыбярэжны цёплы пясок. Чакаў, пакуль сонца падымецца ў самую вышыню. Тады рыба пачне хавацца пад карчы, у траву.

Не цярпелася, бо прыкрае здарэнне з кручкамі не давала супакоіцца. Нарэшце рыбакі з вудамі на плячах і з нізкамі рыбы на лазовых дубцах перайшлі мелкаводдзе каля вытоку рэчкі з возера і падаліся ў паселішча.

Другак перачакаў, калі апошнія хлапчукі зніклі за прыбярэжнымі вербамі, і вярнуўся на рэчку да таго ж чаромхавага куста. У

прагаліне паміж водарасцямі было пуста. Акунь адпачываў недзе ў схованцы, пяратраўляючы спажыву і другаковы кручкі.

Хлопчык скінуў рубашку, зайшоў вышэй па цячэнню ад куста некалькі крокаў і даў нырца. Цячэнне паволі зносіла ўніз, і ён уважліва аглядаў пад вадою кожны корч і вымоіну ў беразе. Пад каранямі чаромхі прыкмеціў пячорку, а ў ёй тоўсты акунёвы нос, Рыбіна драмала.

Ніжэй куста Другак, як паплавок, выскачыў на паверхню — не хапала паветра. Вылез на бераг, аддыхаўся. Затым нырнуў яшчэ раз. Зараз плыў проста да вымоіны пад чаромхай. Асцярожна прасунуў у яе руку і ўхапіўся за слізкае цела акуня. Рыбіна магутным рыўком тузанулася са сваёй схованкі і кінулася ў глыбіню, цягнучы за сабою хлопчыка, які не адпускаў рук. Другак боўтаў нагамі, стараючыся зачапіцца за які корч. У лёгкіх не хапала паветра, і, як толькі рыбак адпусціў адну руку і пачаў выграбаць на паверхню, акунь крутануўся яшчэ мацней і вырваўся.

Змучаны, абколаты вострымі плаўнікамі акуня, Другак доўга сядзеў на беразе, адпачываючы. Рукамі хлопчык мог лавіць рыбу не горш чым вудаю, але зараз вельмі ж буйная трапілася. Адпачыўшы, хлопчык накіраваўся ў паселішча.

— А дзе ж рыба? — здзівіўся бацька.

— Сарвалася...— неахвотна адказаў хлопчык.— Дай, тата, кавалак старой сеткі. Хачу зрабіць сачок на акуня.

Вярнуўшыся на рэчку, хлопчык асцярожна, каб не плёскаць, апусціўся ў ваду. Учапіўшыся адной рукой за чаромхавы корань, другой падвёў сачок да пячоркі з акунём. Затым засунуў у акунёвую схованку палку, і адтуль, прама ў сачок, кінулася рыбіна. Хлопчык перахапіў сетку каля кольца, і здабыча апынулася ў пастцы. Яна ўжо не магла даць волі дужым плаўнікам і пацягнуць рыбака ўглыб. Другаку даволі легка ўдалося вынырнуць на паверхню і, чапляючыся за галіны куста, выбрацца на бераг. Да грудзей ён моцна прыціскаў сачок з рыбінай.

Хлопчык паважна ішоў праз паселішча, несучы за спіною сачок, у якім яшчэ зрэдку біў хвастом акунь.

Падыходзілі суседзі, мацалі рыбіну і прыгаворвалі:

— Вось малайчына, такога акуня злавіў!

А хлопчыкі беглі следам і прасілі:

— Дай пранесці!

Але Другак не звяртаў на іх увагі.

## ЗБІРАЛЬНІЦА ЗЁЛАК

*Чатыры тысячы гадоў назад. Каля Спораўскага возера, што на Брэстчыне*

Цёплая і светлая чэрвеньская ноч. Ружавее паўночны небасхіл, за якім у вогненным чоўне праплывае нябачнае зараз сонца, што дае жыццё ўсяму існаму на зямлі. Паступова гэта ружовасць перасунецца на ўсход, там яшчэ больш пасвятлее неба. І так будзе святлець, ажно пакуль сонца не выгляне з-за калматых ялін. І тады настане дзень — самы доўгі ва ўсім годзе, пасля самай кароткай ночы.

Ноч гэта асаблівая, напоўненая цудамі, калі Духі даюць людзям таемную ўладу над раслінамі, звярамі і птушкамі. Праўда, не ўсім, а толькі выбраным, «пасвечаным». Такою «пасвечанаю* і была старэнькая бабулька, якая гэтай ноччу хадзіла па лясных прагалінах непадалёку ад паселішча і збірала лекавыя расліны.

Прыглядаецца старая, разгортвае зараснікі травы, ірве расліны і засоўвае іх у палатняную торбу, павешаную праз плячо. Нізка нагінаецца да зямлі, бо падслепаватыя старэчыя вочы бачаць слаба, і ўсё нешта мармыча сабе пад нос. Калі б падысці бліжэй, то можна было б пачуць, што гэта бабулька кажа замовы. Але падыходзіць нельга, бо ад чужога вока зёлкі страцяць сваю чароўную моц.

Ноч перайшла ў раніцу, і вось-вось павінна выкаціцца сонца. Тады старая разгінаецца і ідзе ў паселішча — зёлкі можна збіраць толькі ноччу.

У паселішчы старая заходзіць у свой будан, што стаіць наводшыбе. Кладзе ў кут торбу, папраўляе посцілку, якой прыкрыта ўнучка. Затым і сама кладзецца на ляжанку, засланую шкурамі, і стомлена засынае.

Старэчы сон кароткі, таму не паспела сонца яшчэ ўгрэць зямлю, а жанчына прачнулася. На агнішчы перад хацінаю ў вастрадонным гліняным гаршку пыхкала развараная ячная каша. Каля агнішча сядзела ўнучка і драўляным апалонікам з доўгай ручкай памешвала варыва.

— Добра, што прачнулася,— прыўзнялася з каменя дзяўчынка.— Якраз і каша згатавалася.

— Адкуль жа ў нас ячмень? — здзівілася старая.

— Сусед прынёс. Скруціў яго боль у паясніцы, таму просіць якіх зёлак.

— Смачная каша,— радавалася бабуля.— Выберу яму найлепшых лекаў.

Калі драўлянымі лыжкамі даскрэблі на дне гаршка кашу, унучка прынесла з будана казінага малака.

Паеўшы і чыста аблізаўшы лыжкі, узяліся за працу. Старая беражліва выцягнула з торбы расліны і паклала іх на густы дзяцельнік перад хацінаю. Унучка ёй дапамагала. Яна складала траву пучкамі і звязвала іх: рамонкі з рамонкамі, валяр'ян з валяр янам.

Дзяўчынка ўжо не першы раз дапамагала бабулі. Ведала і моц некаторых траў. Вось, напрыклад, святаяннік. Ен і ад прастуды, і ад болю жывата, і калі хворыя ныркі, і шмат яшчэ ад якіх хвароб. А адварам рамонак трэба прамываць раны, каб не гнаіліся, ці паласкаць у роде, калі баляць зубы.

Але бабуля зёлак розных назбірала шмат, і дзяўчынка часам пытае:

— А што гэта такое з ярка-жоўтымі кветачкамі?

— Сокам гэтай травы, бач, выступіў аранжавы, лечацца скулы і розныя іншыя хваробы скуры. Таму яна і завецца чыстацелам. Але ёю можна і атруціцца.

Нарэшце ўсе травы ўпарадкаваны, пучкі іх падторкнуты пад жэрдкі, на якіх трымалася чаротавая страха.

Потым бабуля пакорпалася ў адной з вялізных гліняных пасудзін, што стаялі ў куце хаціны, і дастала адтуль малюсенькі гаршчок з нейкаю цёмнаю маззю.

— Гэта жывіца, змешаная са змяінай атрутай. Занясі суседу і скажы, каб кожны дзень нанач націраў хворую паясніцу... А потым можаш пайсці і пагуляць са сваімі сяброўкамі.

## ТУРЫХА

*Амаль чатыры тысячы гадоў назад. Дзесьці ў нізоўях Пцічы*

Дзень для паляўнічых выпаў надзвычай удалы. У хмызняках на старых выгарках трапнаю стралою паклалі вялікага лася. І сонца яшчэ не паспела прайсці палову свайго нябеснага шляху, як паляўнічыя, нагружаныя шкураю і мясам, ужо вярталіся ў паселішча. Непадалёку ад ракі маладзейшыя завярнулі да берага, дзе былі лоўчыя ямы — можа што трапілася, і хутка прыбеглі з крыкам, што там маладая турыха.

Турыха была знясілена спробамі вырвацца з земляной пасткі, куды яна ўвалілася, ідучы раніцою на вадапой. Убачыўшы людзей, яна затузалася зноў, абсыпаючы пясок, але хутка заціхла, скарыўшыся лесу.

Малады паляўнічы замахнуўся дзідаю, але яго перапыніў каржакаваты мужчына — старэйшы.

— Не спяшайся, Крак. Ласіны хопіць надоўга, а калі зараз заб'ём турыху, мяса можа сапсавацца. Вельмі ж цёплыя стаяць дні.

— Дык што, выпусціць яе? — загарачыўся малады.

— Навошта выпускаць,— спакойна працягваў старэйшы.— Трэба патрымаць жывою. Памятаеш, як летась мы так зайчанят падгадавалі?

Астатнія паляўнічыя падтрымалі старэйшага. Закруцілі турысе на рогі лыкавыя вяроўкі, паднатужыліся і выцягнулі яе з ямы. Жывёліна хацела вырвацца з учэпістых рук, але была вельмі саслабелая. Мужчыны з дружнымі воклічамі перакулілі яе на бок і аблыталі ногі вяроўкамі. Затым усклалі здабычу на жэрдкі і панеслі ў паселішча, да якога было ўжо падаць рукою.

У паселішчы турыху зацягнулі ў пусты будан і развязалі. Дзеці нарвалі свежай травы і сталі кідаць праз шчыліну ў сцяне. Але паланянка толькі цяжка дыхала, не звяртаючы ўвагі на ежу.

— А вы ёй спачатку піць дайце,— параілі старэйшыя.

Дзеці прынеслі ў драўляным карыце вады. Але турыха не зачапіла і яе.

А калі раніцою зазірнулі ў будан, убачылі, што і трава ўся з'едзена, і вада выпіта.

Так вось і сталі карміць і паіць дзеці турыху. Праз два месяцы жывёліна пачала браць траву з рук, а адной дзяўчынцы дазваляла нават пачухаць сябе па шыі. Прызвычаілася турыха да дзяцей, акрыяла, паправілася. Дзеці таксама прывыклі да паланянкі, асабліва дзяўчынкі.

Восенню турыха ацялілася — была, аказваецца, цельная. І прывяла яна лабасценькага бычка на тонкіх ножках, якія дрыжэлі і раз'язджаліся ў бакі. Бычок падгадаваўся і стаў зусім свойскім — бегаў, падбрыкваючы, па паселішчы, забаўляўся з малымі.

З часам у паселішчы ўжо быў цэлы ста та к свойскіх тураў. Суседзі ўбачылі, як гэта зручна — мець пад рукою такія вось жывыя запасы мяса, і самі перайшлі да гадоўлі жывёлы. Да таго ж ужо чулі, што за ракою, якая зараз называецца Прыпяццю, здаўна ведаюць гэты занятак.

Вось такім чынам, мабыць, нашы продкі і прыручылі, зрабілі свойскімі дзікіх дагэтуль жывёлін. Пачалі жыць і размнажацца ў загонах, а потым і хлявах каровы, авечкі, козы, свінні, коні.

Але самай першай свойскай жывёлінай стаў сабака. Яго прыручылі яшчэ ў сярэднім каменным веку — у мезаліце. Сабака быў вартаўніком, дапамагаў на паляванні.

Земляробства зарадзілася на поўдні, дзе меліся дзікарослыя продкі культурных раслін, і адтуль распаўсюдзілася на іншыя тэрыторыі. Жывёлагадоўля ж магла ўзнікнуць самастойна і на тэрыторыі Беларусі, бо ў лясах над Дняпром, Прыпяццю, Нёманам, Дзвіною вадзіліся некаторыя продкі свойскіх жывёлін — тур, дзікая свіння, лясны конь.

## ШАХЦЁРЫ КАМЕННАГА ВЕКУ

*Больш як чатыры тысячы гадоў назад. Каля сучаснага пасёлка Краснасельскі ў Ваўкавыскім раёне*

Стараецца рака Рось, падмывае на паваротах пясчаныя берагі, хоча хутчэй, напрасткі трапіць да недалёкага адсюль Нёмана. У левабярэжжы высокія ўзгоркі падступілі да самай ракі, а з правага боку яны ўзвышаюцца зводдаль, кіламетраў за пяць. Рачны поплаў зарос хмызняком і вербамі, а ўзгоркі шчаціняцца хвоямі, кучаравяцца ліпамі, грабамі і дубамі.

У рэдкалессі паміж дубоў цягнецца да святла гонкі арэшнік, на якім ужо пачалі цвярдзець арэхі. У зацені гушчару сцелецца па доле зяленым дываном заечая капуста. Даспяваюць на схілах узгоркаў маліны, добра ўжо прарэджаныя мядзведзямі і птушкамі. На прагалінах наліваецца трава-зуброўка таемнымі сокамі зямлі. І над усім гэтым у ясным небе шчырује жыццядайнае сонца.

Паміж узгоркаў таксама лес, нізка рослы і рэдкі, бо тут амаль на самай паверхні залягае крэйда, Нізіны ў многіх мясцінах перакапаны, завалены грудамі крэйды, навокал — мноства бітага крэменю. Такое ўражанне, што тут папрацавалі лычамі нейкія казачныя дзікі-веліканы. І лес моцна высечаны, а там-сям і выпалены.

У нізінах шмат шахтаўкапальняў па здабычы крэменю, які цэлымі пластамі залягае ў крэйдавай тоўшчы. Шахты капаюць даўно, можа ўжо з паўтысячы гадоў, але залежы крэменю ў тутэйшай зямлі не бяднеюць. Яго хапае ўсім.

Які-небудзь прышэлец з далёкага Падзвіння, дзе нават маленькі крэмень — рэдкая знаходка, вельмі здзівіўся б:

«Навошта капаць шахты, калі навокал пад нагамі (за жыццё не пазбіраеш!) валяюцца вялікія і малыя кавалкі белага ад крэйды крэменю».

Канешне, розныя дробныя прылады — скрабкі, нажы, праколкі можна было рабіць і з гэтага «падножнага» матэрыялу. Але для якой буйной рэчы — цясла або сякеры — такі крэмень не падыходзіў, ён быў высахлы і крохкі. Для такіх мэт першабытны чалавек шукаў крэмень, які залягаў у зямной тоўшчы і быў «мокры».

Калі свежаадкапаны крамянёвы камень разбіць і памаца ць расколіны, пальцы адчуваюць вільготную паверхню. А як цудоўна такі крэмень расколваецца! Нават ад слабага удару. Са звонам, як шкло. На вялікія пласціны або кавалкі з роўнымі плашчынямі і вострымі краямі.

На схіле бліжэйшага да вады ўзгорка ў зацені дрэў бачна некалькі буданоў. Гэта часовы пасёлак старажытных шахцёраў, якія прыйшлі сюды з блізкіх і далёкіх мясцін здабываць крэмень. Сцены буданоў аплецены галлём, стрэхі накрыты трыснягом, кавалкамі кары, старымі шкурамі.

Перад буданамі гарыць вялікае вогнішча, над якім смажацца нанізаныя на дрэўка дзіды кавалкі мяса. Пасля снедання некалькі маладзейшых мужчын з лукамі і дзідамі падаліся ў пушчу на паляванне. Ім трэба здабыць свежай дзічыны на заўтрашні дзень. Астатнія мужчыны, закінуўшы на плечы скруткі раменных вяровак, скураныя мяшкі з шахцёрскімі інструментамі, пайшлі да выпрацовак у суседняй даліне.

Яшчэ дні тры назад у крэйдзе выкапалі вертыкальны калодзеж — шахтны ствол у два чалавечыя росты. Калі дасягнулі крэмняноснага пласта, пачалі яго выбіраць, пашыраючыся ў бакі — выкопвалі падбоі, як норы. А паміж падбоямі пакінулі выступы — цалікі. Гэта, каб не абвальвалася скляпенне. У адным месцы такою доўгаю нарою дасягнулі суседняй глыбокай шахты. Атрымаўся праход — штрэк.

...Вось адзін шахцёр ударамі кайла з рога высакароднага аленя адбівае крэйду, яна з ціхім шоргатам сыплецца на дно шахты. Другі зграбае друз і сыпле яго ў скураны мяшок. Мяшок нарэшце напоўнены. Гукнулі памагатым наверх. Напялася вяроўка. Пачаў падымацца цяжкі груз, закрываючы блакітны кружок неба ў вусці шахтавага калодзежа. Наверсе друз высыплюць, а парожні мяшок зноў апусцяць у выпрацоўку — толькі паспявай напаўняць.

Чалавек з кайлом ужо прытаміўся, але мяняцца з суседам не хоча, бо са сценкі капальні паказаўся цёмна-шэры бок крэменю. Зараз шахцёр адклаў кайло, узяўся за завостраны адростак рога — капач — і пачаў ім адкалупваць крэйду вакол каменя. Потым, крэкнуўшы ад натугі, вылузнуў крэмень са сценкі.

— Ого,— падступіўся бліжэй другі шахцёр.— З такога «кавалачка» з дзесятак сякер выйдзе...

Даследаваць крэмнездабыўныя шахты археолагу адна асалода. Крэйдавы друз лёгка выграбаецца з засыпаных выпрацовак, і тады агаляюцца сценкі з мноствам глыбокіх баразёнак і драпін, якія засталіся ад удараў гарняцкім інструментам. Вузкія ўваходы ў падбоі і штрэкі зашмальцаваны вопраткаю, дно шахты шчыльна ўтаптана нагамі. А на скляпеннях бачны закураныя пісягі — ачышчалі ад вугалля лучыны, якімі асвятлялі цямнейшыя куткі выпрацовак.

Улезеш у такую расчышчаную шахту, глядзіш і дзівуешся на плён працы далёкага продка — усё быццам учора зроблена.

На Беларусі старажытныя шахты па здабычы крэменю знойдзены ў Ваўкавыскім раёне на Гродзеншчыне кадя населеных пунктаў Краснасельскі, Рось, Карпаўцы. Пэўна, існавалі яны і ў іншых багатых крэйдаю і крэменем мясцінах — у ваколіцах Гродна, каля Песак на рацэ Зальвянцы, у нізоўях Дзітвы. Тут сустракаецца мноства крэмнеапрацоўчых майстэрань, якія амаль заўсёды спадарожнічалі шахтам.

## СМЕРЦЬ СТРОНГА

*Чатыры тысячы гадоў назад.*
*На беразе Нарачы*

Паміраў Стронг. Ляжаў на нізкім лежаку, прыкрыты кажухом. Быў без памяці. Трызніў. Дыхаў хрыпла, быццам нехта нябачны яго душыў.

У хаціне сабралася ўся шматлікая сям'я Стронга. Прыйшлі і родзічы, якія жылі ў суседніх сем'ях. Усе з надзеяй глядзелі, як мясцовы шаптун і лекар, ён жа чараўнік-вядзьмар, мармыча над хворым закляцці ад благой сілы.

Душна ў хаціне. Дурманіць пах паленых зёлак, якія вядзьмар час ад часу кідае на вугалі агнішча.

Стронгу не лепшае. Наадварот, усё натужлівей ён дыхае, з перарывамі.

— Гэта Чорны дух увайшоў у кроў Стронга і душыць яго,— затрос сівымі пасмамі валасоў вядзьмар.— Трэба пусціць кроў, і Чорны дух пакіне хворага ў спакоі.

Вядзьмар дастаў са скураных ножнаў на пасе вузкі крамянёвы нож і надрэзаў вену на руцэ Стронга. Паказалася цёмная кроў і вяла пацякла па сіняватай скуры. Хворы перастаў кідацца на лежаку і як быццам супакоіўся. Надзея засвяцілася ў вачах прысутных.

Вядзьмар прыклаў руку да грудзей Стронга і не адчуў біцця ягонага сэрца. Мужчына быў мёртвы. Вядзьмар на імгненне разгубіўся: «Можа кроў і не варта было пускаць? Лепш было б напаіць адварам лекавых замоўленых траў... Але як было напаіць, калі хворы страціў прытомнасць?» Вядзьмар адагнаў сумненні: «Калі чалавек памёр, значыць, так трэба духам»,— і абвясціў прысутным, узняўшы худыя рукі над галавою:

— Духі захаду ўзялі Стронга з сабою!

Пасля гэтых слоў вядзьмар кінуў на вугалі нейкія высушаныя карэньчыкі, з якіх пайшоў жаўтаваты дым. Вядзьмар пачаў удыхаць гэты дым; хутка яго вочы сталі як лёд, нерухома ўтаропленыя ўдалечыню, і ён пачаў выкрыкваць, кружачыся вакол памёрлага:

— Бачу! Душа Стронга выходзіць... праз сцены... да берага... лёгкая... духі захаду... у чоўне... за сонцам... у Краіну продкаў... плывуць... туман!

А ў гэты час сын Стронга скурчыўся за спінамі дарослых у куце хаціны і горка плакаў, прыціскаючы кулачкі да мокрага ад слёз твару. Навошта духі забралі яго тату? Хто ж зараз павядзе яго на рыбу, хто зробіць яму вясной з лазовага сука свісцёлку, хто пакажа ў лесе вавёрчына гняздо? Горка плакаў хлопчык, бо са свайго, хоць яшчэ і невялікага, вопыту ведаў, што з Краіны продкаў назад ніхто не вяртаецца і што ніколі у яго больш не будзе таты...

Стронга хавалі назаўтра. Мужчыны знайшлі ў лесе таўшчэзную бярэзіну з роўным камлём і знялі з яе кару на рост чалавека, надрэзаўшы зверху і знізу і рассекшы ўздоўж. Атрымалася гладкая труба, у якую і ўклалі памёрлага. Адтуліны на канцах трубы закрылі таксама карой, прымацаваўшы драўлянымі клінкамі.

Вядзьмар расцёр на каменнай плітцы кавалак чырвонай охры, змяшаў яе з тлушчам і пачаў размалёўваць гэту труну з кары. Ен набіраў охру на палец і выводзіў на белай бяросце выгнутыя чоўны, а над чоўнамі прамяністыя сонечныя кругі.

Затым мужчыны на дрэўках дзідаў паднялі труну і панеслі Стронга ў апошні шлях, да высокага азёрнага берага, дзе былі могілкі. Там загадзя была выкапана доўгая і глыбокая яма, на памеры труны.

Дно ямы пасыпалі распаленымі вугалямі, каб агонь ачысціў мясціну спачынку Стронга. Апусцілі берасцяную труну, пасыпалі яе охрай — сімвалам крыві і ўваскрашэння, побач паставілі гаршкі з ежай, паклалі зброю і засыпалі магілу. А зверху яе на пясчаным грудку ўкапалі высокі слуп, на якім быў высечаны духахоўнік.

...Адзінока і пуста стала на зямлі для малога стронгавага сына. Увесь дзень пасля пахавання і наступныя дні ён блукаў па наваколлі, вяртаючыся дахаты толькі позна вечарам. Кружыў па лесе, каля балот, па азёрным беразе. Падыходзіў да аброслых мохам валуноў, да свяшчэннага дуба на ўзгорку, да віроў у рэчцы. Прасіў у іх дапамогі. Працягваў рукі да гарачага сонца, маліў яго.

Маўчала ўсё навокал: лес, вада, сонца і месяц, белыя воблакі на небе. А старэйшыя казалі, вядзьмар таксама, што ва ўсім: у камянях, дрэвах, азёрнай вадзе, рачных вірах — жывуць духі, якія кіруюць чалавечым лесам, дапамагаюць або шкодзяць яму. І над усім існым пануе сваёй моцаю нябеснае свяціла.

Дык чаму ж тады духі і сонца не дапамогуць сыну Стронга, ён жа іх так горача, так слёзна просіць вярнуць яму тату?

## ПРЫВЕЗЛІ БУРШТЫН

*Чатыры тысячы гадоў на зад.*
*На берагах Дзвіны непадалёку*
*ад сучаснага горада Дзісны*

Вялікая вайна, што доўгі час вялася з паўночнымі плямёнамі, неяк супынілася сама сабою. Бачна, абодва бакі нарэшце стаміліся рабаваць, паліць і нішчыць, падпільноўваць адзін другога на паляўнічых сцежках, сыходзіцца грудзьмі на лясных прагалінах і забіваць.

Скончылася, а можа лепш сказаць пачалося, тым, што аднойчы на глухім беразе Дзвіны сустрэліся дзве групы паляўнічых з ваюючых плямён. Сустрэліся і ўпершыню за многія гады не схапіліся за зброю, а моўчкі разышліся, кожны ў свой бок. Так і пайшло — калі даводзілася сустракацца, размінаціся. І ніхто не ўспамінаў пра святыя законы кроўнай пометы, бо ўжо даўно не маглі далічыцца, у каго болей забітых і хто каму застаўся вінен гэтай помсты...

І вось аднаго разу ў канцы вясны, калі спала паводка і Дзвіна паспакайнела, знізу ракі паказаўся човен з двума веслярамі. Ен паволі сунуўся супраць плыні паўз бераг, а затым скіраваўся да камяністага вострава пасярод ракі. Да яго і прыстаў.

Насцярожана цікавалі мясцовыя жыхары з прыбярэжных схованак за прышэльцамі з поўначы, якія ўпершыню былі без зброі і толькі ўдваіх... І што ім трэба на гэтым дзікім востраве?

— Ды гэта ж прывезлі бурштын,— нарэшце здагадаліся старэйшыя,— сонечны камень з берагоў салёнага возера, якому няма канца-краю!

У мірны час, такі далёкі зараз, што нават не верылася, ці быў ён, па рацэ на чоўнах і проста пяшком па беразе кіраваліся ў розныя напрамкі людзі з торбамі цераз плячо. Да суседзяў на мену. Везлі і неслі, што хто меў,— бурштын, крэмень, охру, зерне, сабаліныя шкуркі.

І яшчэ ўспомнілі старэйшыя, як ім апавядалі дзяды, што калісьці так і абменьваліся на гэтым востраве, завочна, пакідаючы тавар на выбар і беручы сабе ў абмен, што прыгледзелася.

Праз нейкі час човен з веслярамі пакінуў востраў і паплыў уніз па рацэ. Затым знік за паваротам. Прыбеглі разведчыкі і паведамілі, што паўночныя людзі спыніліся за вусцем Ручая ў трыснягу. На бераг не выходзяць, сядзяць у чоўне. Іншых жа чужакоў у наваколлі не бачна. Значыць, тыя ў чоўне будуць вяртацца, каб зірнуць, што паклалі ў абмен на бурштын.

Пераканаўшыся, што людзі з паўночнага племені ўсур'ёз хочуць пачаць мену і што гэта ніякія не ваенныя хітрыкі, паплылі на востраў. Там на вялікім плоскім камені ляжала разасланая шкурка, а на ёй выкладзены розныя бурштынавыя вырабы: масіўныя пацеркі-падвескі з прасвідраванымі адтулінамі, доўгія трубачкі, плоскія кольцы, круглыя і квадратныя гузікі. Цэлае багацце было пакінута на шкурцы!

Рашылі не скупіцца і мясцовыя жыхары. Разаслалі побач таксама шкуру забітага звера і выклалі на яе адмыслова падабраныя кавалкі крэменю, нарыхтоўкі крамянёвых сякер, гурбачкі доўгіх вастрарэберных пласцінак. Усё гэта было неабходна для вырабу прылад працы, а ўласнага крэменю ў зямлі паўночных плямён не было.

Прышэльцы крэмень забралі ўвесь і ў дадатак да пакладзенага раней тавару пакінулі цудоўныя бурштынавыя каралі — нанізаныя на сухажылле адпаліраваныя падвескі. Мусіць гэтыя каралі былі падарункам людзей поўначы ў знак таго, што яны хацелі б і надалей прыплываць сюды, абменьваць бурштын на крэмень, што яны хацелі б жыць мірна на берагах гэтай вялікай ракі Дзвіны.

Параіліся і рашылі — няхай каралі будуць дачцэ Першага старэйшыны прыгажуні Куніцы. Усе сыны старога са славаю загінулі ў баях, засталася ў яго адзіная ўцеха — дачка. Куніца была не толькі прыгожай, але і разумнай дзяўчынай.

— Можна,— папрасіла яна,— я ахвярую гэтыя каралі рацэ?

І бацька дазволіў, а ўсе старэйшыны родаў таксама згодна заківалі галовамі.

Дзяўчына паднесла да вады каралі, якія пераліваліся пад сонцам празрыстым мядовым колерам.

— Вазьмі, Дзвіна, наша маці-карміцелька, гэту аздобу з сонечных каменьчыкаў. А за гэта давай нам рыбу і трымай моцна на сваіх хвалях нашы чоўны. І яшчэ пашлі нам, Дзвіна, доўгі мір.

Расціснула кулачкі дзяўчына — саслізгнулі каралі ў хуткі рачны струмень. Прыняла ахвяру рака. І сталася так, як прасіла Куніца.

***

Дагарэлі першабытныя вогнішчы. Тыя, хто грэўся каля іх, адплылі ў нябыт па Рацэ часу. Але жылі яны не марна і зніклі не бясследна. Чаго б мы былі вартыя сёння, каб людзі яшчэ на світанку сваёй гісторыі не навучыліся здабываць агонь, вырабляць прылады працы, прыручаць жывёл, вырошчваць расліны? Наступныя эпохі — бронзавы, жалезны вякі — прынеслі новыя адкрыцці і здабыткі, але яны былі б немагчымыя без дасягненняў каменнага веку.

Нашы далёкія продкі: мужныя паляўнічыя і воіны, руплівыя збіральнікі і рыбакі, працавітыя земляробы і жывёлаводы — перадалі паходню жыцця сваім нашчадкам. На працягу доўгіх тысячагоддзяў пераходзіла яна ад пакалення да пакалення. Ажно пакуль не трапіла да нас з вамі. Каб мы трымалі яе высока і не давалі пагаснуць. Каб памяталі пра мінулае і клапаціліся пра будучае.

# ВОГНЕПАКЛОННІКІ

## ЯК ГЭТА ПАЧЫНАЛАСЯ

*З глухой і бяздоннай цемры выплылі гукі — галасы, бразганне металу, быццам побач мылі жалезны посуд. А калі яны рабіліся больш выразнымі, я пачаў разумець, што мая аглушаная наркозам свядомасць праясняецца.*

*— Ну, досыць спаць, прачынайцеся,— пачуўся нечы прыемны голас. І мяккая жаночая рука лёгенька паляпала мяне па шчоках. Можа ляпалі і мацней, але я адчуваў яшчэ слаба, бо чужым і нерухомым заставалася мае цела. А чуў жа я ўжо і разумеў усе.*

*— Не ўключаецца,— прамовіў той жа голас.— Хлопчыкі, на каталку яго і ў палату. Трэба вызваляць аперацыйны стол.*

*«Хлопчыкі» падхапілі мяне і пераклалі на штосьці няўстойлівае. «На каталку»,— здагадаўся я і паплыў некуды, пагойдваючыся, як на хвалях. Вяртаўся ў забыццё...*

*— Колькі ж вы будзеце спаць? — зноў пачуў я знаёмы голас, але ў ім ужо гучалі нецярплівыя ноткі.— Гадзіну буджу і ніякага толку. А мяне ж іншыя аперацыі чакаюць... Ну, раскратвайцеся! — ушчувала мяне нябачная жанчына.*

*Я напружваўся, колькі мог, каб падначаліць волі сваё бязладнае цела, якое ляжала недзе ніжэй маёй галавы, быццам адпілаванае. Адчайна намагаўся крануць пальцамі ног. Верылася, што калі варухну хоць адным, ажывуць ступні і ўсе ногі. Бо яны, натрэніраваныя за два дзесяткі гадоў у археалагічных экспедыцыях, былі моцныя, як машыны, і ніколі яшчэ не падводзілі; былі заўсёды гатовыя да руху.*

*— А божачкі, ён ужо пачаў халадзець! Каб жа толькі не памёр, а то будзе такі жах — не выйшаў з наркозу.*

*Мне і сапраўды рабілася ўсё халадней, быццам мароз скоўваў рукі і ногі. У дадатак пачаў апаноўваць страх — а калі сапраўды не прачнуся? Пачакаюць, памацаюць і скажуць — «адышоў» і павязуць у морг на халодны мармуровы стол...*

*Каля дзвярэй нехта зашлэпаў па падлозе — мусіць, палатачная нянечка.*

*— І як наш хворы?*

*— А, ніяк. Ужо заледзянеў увесь.*

*— А мы яго зараз пагрэем, калі заледзянеў,— лагодна прамовіла нянечка і выйшла ў калідор. Праз нядоўгі час я зноў пачуў яе крокі, а*

*потым адчуў невыказна прыемнае цяпло на падэшвах ног. Яна прынесла грэлку!*

*Цяпло павольнымі і яшчэ кволымі штуршкамі, разам з аслабелай пульсацыяй крыві, пачало паступова напаўняць мае ногі, як апусцелую было пасудзіну. Затым пайшло вышэй.*

*І тады я зноў паспрабаваў паварушыць пальцамі ног. Удалося! Напружыўся і крануў ступнямі і затым пачаў перабіраць імі, не спыняючыся, быццам пайшоў прынёманскай сцежкай... І нарэшце, адплюшчыў вочы...*

*Папраўляўся я хутка. Назаўтра ж змог сесці на ложку, а праз дзень, хоць і хістаючыся, выйшаў на калідор. Адзінае, што турбавала,— дрэнны сон. У вогуле я засынаў нармальна і спаў колькі трэба, але мучыла тое, што ў сне бачылася. І нават не столькі мучыла, як трывожыла сваёй нязвыкласцю. Сніў я сябе на кавыльных раўнінах, дзе з гіканнем праносіліся, уздымаючы дзіды, вершнікі на неасядланых конях. Кідаліся на мяне ў лясных гушчарах вастрарогія туры, і я то заколваў іх рагацінай, то ратаваўся ўцёкамі. Бачыліся плеценыя з галля і крытыя трыснягом хаціны на берагах азёрных заток і чоўны-даўбёнкі на гэтых затоках. Мроіліся дымныя вогнішчы і танцы ведзьмароў навокал іх. Ноччу чуў я трубны рэў аленяў, рыканне зубраў, брэх здзічэлых сабак. Прачынаўся, устрывожаны водбліскамі пажараў, баявымі крыкамі воінаў і галашэннем жанчын. Сны складаліся ў каляровую мазаіку, сярод якой узнікалі цэлыя сюжэтныя карціны, а часам гэта былі абрыўкі нейкіх відовішчаў, цьмяныя ўспаміны, быццам зменлівае далёкае рэха.*

*Успамінаючы прымроенае ноччу, аналізуючы ўбачанае — каменныя шліфаваныя сякеры і бронзавыя кінжалы ў руках светлавалосых людзей, жней з крамянёвымі сярпамі на засеяных ячменем выгарынах, пласкадонныя гаршкі з трохкутнікамі і крыжамі пад брыжам — я пачаў здагадвацца, што ў сне трапляю ў часы бронзавага веку. Няўжо таму, што сам археолаг і якраз даследую гэтую эпоху? Нагледзеўся ўсяго каля раскапаных старажытных жытлаў і магіл і вось зараз яно лезе ў галаву... Але ж бачылася ў снах і многае, пра што я не меў ніякага разумення. Да таго ж, быццам ва ўсіх высненых здарэннях прысутнічаў сам я!*

*Неўзабаве прыйшоў у адведкі мой даўні і харошы знаёмы Іван Пятровіч, які ў адным з навукова-даследчых інстытутаў займаўся малазразумелымі для мяне пытаннямі псіхалогіі. Я расказаў яму пра свой стан.*

*— Якая ўдача! — радасна ўзмахнуў рукамі Іван Пятровіч.— Надзвычай рэдкі выпадак!*

*— Чаго ты радуешся? — пакрыўдзіўся я.— Мяне гэтыя трызненні непакояць. Можа што ў галаве звіхнулася?*

*— Яшчэ як звіхнулася! — зручней уладкоўваючыся на крэсле каля майго ложка, яшчэ больш ажывіўся знаёмы.— Хоць гэта пытанне яшчэ мала распрацаванае — недастаткова эксперыментальнага матэрыялу, але сутнасць яго заключаецца ў тым, што пры надзвычай моцных уздзеяннях на невядомыя яшчэ нам цэнтры мозга — стрэсавая сітуацыя, вельмі глыбокі гіпнатычны стан, а ў тваім выпадку, бачна, хімічнае рэчыва, ужытае для наркозу,— у чалавека ажывае генетычная памяць. Усё, што мы чуем, перажываем, бачым, як на магнітафоннай стужцы запісваецца ў нашай памяці. А што такое запамінанне? Гэта фізіка-хімічныя працэсы на ўзроўні малекул і атамаў. І відаць, частка атрыманай інфармацыі трапляе ў малекулы спадчыннасці ці ў якія там іншыя элементы і фіксуецца. У нармальных умовах генетычная памяць знешне нічым сябе не праяўляе. Яе прызначэнне — не быць для нас кінатэатрам старых фільмаў, а захоўваць і развіваць спадчыннасць. Бо гэта толькі на першы погляд спадчыннасць нязменная, яна, хоць і вельмі павольна, мадэфікуецца, ускладняецца. Інакш мы з табою не сядзелі б зараз побач і не размаўлялі б аб высокіх матэрыях, а плавалі б у акіяне ў выглядзе прымітыўных аднаклетачных.*

*— А чаму сніцца толькі бронзавы век — прамежак часу паміж пачаткам другога і сярэдзінай першага тысячагоддзя да нашай эры?*

*— А таму, што актывізаваўся менавіта толькі гэты пласт генетычнай памяці. І павінен радавацца гэтаму! Хіба лепш было б каб ты ноччу бачыў сябе чалавекападобнай малпай ці якой яшчэ больш старажытнай жывёлінай?*

*— І як доўга будзе такі стан?*

*— Ажно пакуль закрыецца «пралом» у свядомасці, праз які і прабіваецца ўсё гэта. Можа закрыцца і сам пры агульным паляпшэнні псіха-фізіялагічнага стану арганізма, можна дапамагчы і адпаведнымі лекамі.*

*— Калі так, то з лекамі пачакаю,— супакоіўся я.— Хачу яшчэ паназіраць, што навытваралі там мае продкі.*

*— А ты запісвай,— прапанаваў Іван Пятровіч,— я з задавальненнем пачытаю, бо маю тайную схільнасць да старасветчыны. Можа і яшчэ каму спатрэбяцца такія запісы. Не кажу ўжо, як яны неабходны нашаму брату-псіхолагу.*

*Усунуўшы мне ў рукі пакет з апельсінамі і пажадаўшы хутчэй здаравець, Іван Пятровіч пайшоў, паабяцаўшы зазіраць часцей. Я ж,*

*не губляючы часу, дастаў з тумбачкі сшытак і ручку... і задумаўся, як шахматыст перад першым ходам у адказнай партыі.*

*З чаго і як пачаць? Пасля доўгіх разважанняў рашыў запісваць важнейшае, найбольш характэрнае, каб даць чытачу ўяўленне аб асноўных праявах жыцця першабытнага чалавека ў бронзавым веку. Дробныя ж выпадкі, інтымныя падрабязнасці, блытаныя ўрыўкі відовішчаў, фантастычныя трызненні няхай застануцца толькі ў памяці. Навошта імі тлуміць галовы іншым? Рашыў не давяраць паперы і найбольш жорсткія сцэны, у якіх было асабліва шмат агню, крыві, гвалту, смерці. Лагічней было і сам аповяд весці не ад свайго «я», бо «я» быў увесь час у гэтай палаце замораны хваробай, у халаце з кароткімі рукавамі і адным уцалелым гузікам. Тое, што снілася, у сапраўднасці здаралася з маімі далёкімі родзічамі ў нейкім больш як сотым пакаленні назад. Няхай жа яны ажывуць хоць на гэтых старонках...*

## ЧЫРВОНЫЯ КАМЯНІ

Бацька з сынам прыйшлі на гэты камяністы схіл гары, адолеўшы за паўдня цяжкі і далёкі шлях. Праз густы букавы лес абыходзілі вузкую, але доўгую азёрную затоку — гэта яшчэ каля самага іхняга паселішча. Прабіраліся глыбокім рэчышчам горнай рэчкі, што прапілавала ў каменных нетрах вузкую прорву-шчыліну. Затым лезлі ўверх звярынаю сцежкай, чапляючыся за выступы скал. І нарэшце, трапілі сюды, дзе скалы расступаліся, дзе было цёпла і светла ад блізкага шырокага неба над галавою і сонца.

— Які незвычайны лес! — здзівіўся хлопец, паказваючы на чэзлыя і пакручастыя дрэўцы, быццам прыгнечаныя нейкай немаччу.

— Але,— узрадаваўся бацька сынавай назіральнасці.— Глядзі і запамінай: дзе ў зямлі ляжаць чырвоныя камяні, там і лес такі недарослы. Бачыш, і трава тут асаблівая, не такая як у іншых мясцінах. Пад такой травою таксама можна шукаць гэты камень. А бывае — позняй восенню ўсё навокал заінела, а дзе-небудзь засталіся плямы на скалах без шэрані. Значыць, там таксама ён. Чырвоны камень мае такую чароўную моц, што мяняе і траву, і лес, і мароз яго не бярэ.

— Вырасцеш,—працягваў бацька,— сам будзеш хадзіць у горы, шукаць чырвоны камень і рабіць з яго бранзалеты, пярсцёнкі, шылы, нажы і яшчэ шмат якія патрэбныя чалавеку рэчы. І тады станеш самым паважаным у нашым родзе чалавекам. І на сходзе мудрэйшых табе заўсёды будзе пачэснае месца каля свяшчэннага агнішча, і кавалак мяса не звядзецца ў тваім гаршку.

Канешне, было спакуслiва некалi сесцi на шырокую лаву з расшчапанага букавага камля побач з самымi слаўнымi людзьмi, але калi тое будзе? Трэба, каб у яго спачатку вырасла вялiкая барада i каб яна пасiвела. А найбольш трэба было нечым заслужыцца перад суродзiчамi. Яму ж зараз не церпiлася заглыбiцца ў гэты дзiвосны лес, урыцца ў россып камянёў i знайсцi чырвоны камень, якi, калi яго пацерцi пяском, гарыць, як сонца, i слепiць вочы. I рэчы з такога каменя самыя прыгажэйшыя на свеце.

Бацька iшоў паперадзе i доўгай рукаяткай каменнай сякеры варушыў леташняе лiсце, раскiдаў у бакi мох, расчышчаючы горную пароду.

— Вось рудавата-зялёны камень. Знайшоўшы такi, будзь асаблiва ўважлiвы,— супынiўся бацька.

Ён лоўка ўхапiў камень у левую руку i стукнуў па iм абушком сякеры. Скарынка вокiслаў абсыпалася, i ў кавалку руды заззялi чырванаватыя iскрынкi медзi. Але яе было зусiм мала, i бацька адкiнуў знаходку ўбок.

У адным месцы сярод гранiту выступаў цэлы пласт такой пароды, i тут горназдабытчыкi прыпынiлiся даўжэй. Бацька сякерай, а сын звычайным каменем збiвалi вокiслы з меднай руды i, нарэшце, проста пад нагамi знайшлi ладны кавалак каштоўнай самароднай медзi.

Бацька замiлавана ўзважыў знаходку ў руцэ, абмацаў яе, агледзеў, а затым асцярожна, быццам магла разбiцца, паклаў у скураную торбу. Потым трапiўся яшчэ з дзесятак такiх большых i меншых камянёў, якiя ляжалi ў восыпу пад руданосным пластом.

Побач з бацькам завiхаўся i сын. Ен таксама шукаў i запiхваў у торбу самародкi i ўяўляў, як заўтра цi паслязаўтра бацька сядзе пад разложыстым каштанам каля iхняй хацiны, пакладзе на калоду гранiтную плiту-кавадла i каменным малатком пачне выкоўваць з медзi вострыя шылы, шыракалёзыя нажы, тонкiя пласцiнкi, з якiх потым зробiць бранзалеты або трубачкi для караляў. А ён будзе дапамагаць бацьку — шурпатым бруском загладжваць паверхнi каваных вырабаў, вастрыць, палiраваць пяском да зiхаткога бляску.

А вечарам прыбяжыць з поля яго старэйшая сястра, пакладзе серп на палiцу i пачне прымяраць бранзалеты i каралi.

— Ну як? — запытаецца яна ў брата.

— Прыго-ожа! — у захапленнi адкажа ён, любуючыся сонечнымi пералiвамi на аздобах.

— Што задумаўся? — весела гукнуў бацька.— На разе хопiць, а то i не занясём. Давай збiрацца вячэраць.

Бацька пайшоў да зарасніку барбарысу, разгарнуў калючае голле і за ім адкрылася ўтульная пляцоўка перад адвесным выступам скалы. Пад ім цямнела невялікая сухая пячора. Побач шарэла старым попелам агнішча. Бацька быў тут не першы раз, таму гэту мясціну ўжо добра ведаў.

Медзешукальнікі дасталі з торбы прыпасы — ладны пшанічны праснак, кавалак казінага сыру, некалькі сушаных рыбін. Хлопец высыпаў побач прыгаршчы назбіраных арэхаў.

— У канцы гэтага лесу крынічка,— сказаў бацька і працягнуў сыну гліняны кубак, які вынес з глыбіні пячоры. Хлопец, пераскокваючы з каменя на камень, пабег па ваду. І сапраўды, там, дзе за хвойнікам пачынаўся зараснік кустоўя, з расшчыліны цурчэла вада. Пакуль струменьчык напаўняў кубак, хлопец агледзеўся і прыкмеціў на лапіне вільготнага жвіру каля крынічкі свежыя адбіткі капытоў. Пакінуўшы кубак з вадою на плоскім камені, ён асцярожна праціснуўся праз зараснік.

За кустоўем на горным схіле паміж россыпу камянёў пасвіўся казліны статак — старыя казлы з цяжкімі закручастымі рагамі, казліхі з казлянятамі, маладняк.

— Там горныя козы,— узбуджана зашаптаў хлопец бацьку, калі, спяшаючыся, прынёс ваду.— За крыніцай.

— А што? — падхапіўся мужчына.— Калі пашанцуе, паспрабуем свежаніны,— і, адклаўшы ўбок галоўкі дзікай цыбулі, узяўся за лук.

Бацька з сынам падышлі да крынічкі. Прыпыніліся. Затым бацька наслініў палец і ўзняў яго ўгору, вызначаючы напрамак амаль неадчувальнага тут ветру.

— Добра,— ледзь чутна прашаптаў ён,— на нас цягне, не ўнюхаюць.

Козы былі на тым жа касагоры. Мужчына прыцэліўся і выпусціў стралу. Бліжэйшы козлік страпянуўся і пакаціўся па схіле, а ўвесь статак, збіваючы капытамі камяні, з тупатам сыпануў наўцёкі. Паляўнічыя пабеглі па здабычу, пераганяючы адзін другога. І калі ўжо схапілі козліка за рогі і бацька ўскінуў яго сабе на плечы, пачулі, што на вяршыні, куды зніклі козы, загрукатала.

— Сцеражыся! — крыкнуў бацька, схапіў сына за руку і кінуўся пад бліжэйшую скалу.

Грукат вокамгненна бліжэў, мацнеў, перарастаў у аглушальны гром. Са свістам праляцелі першыя камяні, а затым у скалу ўрэзалася лавіна каменяпаду. Скала ўздрыгнула, але ўстояла. Лавіна ж, расшчапаўшыся надвое, панеслася ўніз і там абрынулася ў прорву, у каменнае нутро, якое адазвалася стогалосым рэхам.

Затым усё сціхла. Толькі над схілам яшчэ курэла воблака пылу ды рэзка пахла бітымі камянямі, як пахне, калі выбіваеш іскры з крэменю.

Аглушаныя і перапалоханыя, з пашарэлымі тварамі, бацька з сынам асцярожна вызірнулі з-за скалы. Касагору было не пазнаць. Каменная пустка ляжала перад імі, на якой там-сям курчыліся лапікі збітай ушчэнт травы, галелі бязлістыя, патрушчаныя дубцы кустоў. Ад рэдкіх тут дрэў засталіся толькі пашчапаныя пні. Усё знёс, збіў, зруйнаваў каменяпад. Нават частку ўпаляванага козліка, якога не паспелі добра прыхаваць пад скалою, быццам нажом, зрэзала нейкім пралятаючым каменем.

— Духі гор угневаліся на нас, што мы кранулі іхнія багацці,— ледзь варушачы вуснамі, прамовіў бацька.

Затым людзі асцярожна пайшлі з гэтай небяспечнай мясціны, баючыся зачапіць які камень, разбудзіць зноў напружаную каменную цішыню. І толькі перад надзейным сховам пячоры яны крыху асмялелі, пажвавелі. Расклалі вогнішча, і бацька на першыя ж языкі полымя кінуў кавалак казліны — духам-ахоўнікам. Другі паклаў воддаль на камень. Гэты прызначаўся духам гор.

Добра гарэлі сухія дровы. Цёплы дым строма ўздымаўся ў пацямнелае вечаровае неба, на якім яшчэ няпэўна трымцела першая зорка. Глыбокія цясніны запоўнілі лілова-шэрыя цені, а яшчэ ніжэй, у тым баку, дзе было паселішча, затуманілася. Здавалася, што там выйшла з берагоў возера і затапіла падножжы веліканаў-гор. Велічны спакой запанаваў навокал. Толькі сцішана яшчэ падавала голас у лесе нейкая птушка, ды далёка ў скалах праклекатаў арол.

На абструганых палках, пакладзеных на рагулькі, смажылася мяса. Кроплі тлушчу падалі на вугалі, успыхвалі і стралялі дымнымі воблачкамі.

Хлопец, зачараваны таемнасцю вогнішча, глядзеў на кавалкі меднай руды, якімі былі ўмацаваныя рагулькі. Ад агню кавалкі распаліліся, і па іх хвалямі пераліваліся зеленаватыя, бурыя і чырвоныя колеры. Калі асабліва разгараліся дровы, камяні барвовелі, пачыналі зіхацець, астываючы,— цямнелі. Вокіслы даўно абгарэлі, і з руды іскрынкамі паблісквалі драбочкі медзі. І раптам хлопец прыкмеціў, як з аднаго найбольш распаленага кавалка, быццам сляза, выбегла і палілася на ніжэйшы камень вогненна-чырвоная кропля. Потым пацякла яшчэ і яшчэ — амаль малюсенькі ручаёк.

— Што гэта? — тузануў ён за рукаў бацьку.

Той таксама здзівіўся, убачыў шы, як сочыцца з каменя, быццам жывіца з надсечанай хвоі, нейкае рэчыва.

— Па колеру, як медзь,— паволі прамовіў бацька, не адводзячы вачэй ад відовішча. Потым палкай адгарнуў убок дровы і вугалі, каб агонь і дым не заміналіназіранню. Але кроплі перасталі выбягаць з руды. Лужынка ж пад ёй пачала паступова цямнець і набываць колер звыклай самароднай медзі. Бацька той жа палкай падчапіў і выкінуў з вогнішча металічны блінок. Калі той астыў, асцярожна ўзяў у рукі і пачаў з цікавасцю яго аглядаць. А потым нават пастукаў абушком сякеры. Так, гэта была сапраўдная медзь.

Рашыўшы праверыць сваю здагадку, бацька дастаў з дзённых знаходак кавалачак медзі і ўкінуў у самы жар.

Чакалі доўга. Падкладалі сушэйшыя дровы, падсоўвалі вугалі, аж-но пакуль распалены кавалачак не размяк і не пачаў аплываць, ператвараючыся ў звілістую лужынку. Калі разгарнулі вугалі, яна зацвярдзела плоскім стрыжаньком.

— Ды гэта ж, як воск,— уголас разважаў бацька.— Калі холадна — цвёрды, як разагрэеш — быццам вада, а потым зноў застывае, набываючы новую форму. Але ж заўсёды дагэтуль і я сам, і мой бацька, і дзед, ды і ўсе іншыя майстры ў блізкім і далёкім наваколлі медзь кавалі. А спачатку, кажуць, нават спрабавалі аббіваць, як крэмень. А яна ж, бач, як воск... А калі так яе расплавіць і выліць у які раўчук, то застыне стрыжаньком. Значыць, значыць...— моршчыў ён загарэлы лоб,— калі ў пясчаніку зрабіць роўную баразёнку — атры-маем шыла. Калі ж яе зрабіць шырэй і плашчэй — вось табе лязо нажа або серп. Гэта ж намнога прасцей і хутчэй, чым каваць!

Назаўтра, калі ранішняе сонца прыбіла туман у даліны і падсу-шыла расу на камяністай сцежцы, бацька з сынам вярталіся дадому. Торба, напоўненая меддзю, важка цягнула плечы ўніз і самай дарагой ношай у ёй былі кавалачкі, што выплавіліся на іхнім вячаровым вогнішчы. Гэта была першая выплаўленая ў гэтых мясцінах медзь, першы метал, здабыты чалавекам з руды!

*

*— Ведаеш, мне тут не ўсё зразумела,— сказаў Іван Пятровіч, прачытаўшы праз пару дзён мае першыя запісы.— Адкуль і пры чым горы?*

*— Я і сам над гэтым думаў,— няўпэўнена пачаў адказваць я.— Нейкая ў мяне перакананасць, што гэта маглі быць Альпы, і хутчэй за усе іх паўночны край, бо сонца апоўдні было над самымі высокімі вяршынямі. Цябе можа дзівіць — як мае продкі туды, ці лепш сказаць — адтуль трапілі? Давай паразважаем. Яны былі мне родзічы па жаночай або мужчынскай генеалагічнай лініі. Але не гэта важна.*

*Важна тое, што яны там былі ў самым пачатку бронзавага веку— на мяжы трэцяга і другога тысячагоддзяў да нашай эры. І гэта зразумела, бо, каб яны адтуль выйшлі раней, напрыклад яшчэ ў папярэднім новакаменным веку — неаліце, гэтай гісторыі з імі б не здарылася і яна, адпаведна, не адклалася б у генетычнай, як ты кажаш, памяці. А вось ужо нашчадкі гэтага хлопчыка-медзешукальніка маглі апынуцца на Беларусі самымі рознымі шляхамі і ў розны час. Бо хоць па нашых пушчах ды балотах і не гойсала скіфская ці гунская конніца, але перамяшчэнні людзей, часам нават і масавыя, назіраліся. Менавіта ў пачатку бронзавага веку ад Рэйна ледзь не да сярэдняй Волгі распаўсюдзіліся плямёны, якія свае гаршкі чамусьці аздаблялі ўзорамі з адбіткаў шнура — плямёны культур шнуравой керамікі, як іх «ахрысцілі» археолагі. Зусім не выключана, што нехта з маіх продкаў мог паходзіць са «шнуравікоў» і жыць нейкі час каля альпійскіх медзяносных радовішчаў. Канешне, той прашчур не трапіў да нас за год ці два. Хутчэй гэта быў яго нашчадак у якім дзесятым ці нават значна пазнейшым калене, і шлях вандровак яго папярэднікаў мог быць надзвычай пакручастым. Не выключаны нават зусім, здавалася б, неймаверны кірунак— праз Скандынавію.*

*— Гэта ты ўжо занадта,— не даў веры Іван Пятровіч.*

*— Чаму занадта? «Шнуравікі» ў час сваёй найвялікшай экспансіі праз марскія пралівы трапілі ажно на гэты паўвостраў. А адтуль праз два з лішкам тысячагоддзі выселілася племя готаў, якое праз басейн Віслы і наша Пабужжа перавандравала ў паўночнае Прычарнамор'е. І ў час гэтага перамяшчэння яно затрымалася на Пабужжы не на адзін год. На ўскраіне Брэста археолагі раскапалі нават цэлы гоцкі могільнік. Мог продак трапіць і нядаўна — каля тысячагоддзя назад на шляху «з варагаў у грэкі».*

*— Табе варта на гэтай версіі і спыніцца,— пакпіў з мяне сябра,— і сцвярджаць, што ты з роду вікінгаў.*

*— Не выключана, не выключана,— аджартаваўся я.— Наёмныя дружыны скандынаўскіх воінаў былі на службе ў полацкіх князёў і часам складалі гарнізоны парубежных замкаў. А менавіта такім замкам на тагачаснай беларуска-літоўскай мяжы было некалі маё роднае Мядзіла.*

*— На лішак сціпласці ты не хварэеш,— засмяяўся Іван Пятровіч.— Але я рады за цябе, што ўжо можаш жартаваць. З'яўленне гумару — адзнака, што хворы папраўляецца.*

*— А таксама верагодна,— працягваў я, робячы выгляд, што не зважаю на кепікі псіхолага,— што гэта магло адбыцца ў часы*

*распаду Рымскай імперыі, у эпоху вялікага перасялення народаў, калі ў Еўропе забурліла, як у перагрэтым чыгуне. І куды толькі каго не занесла ў тую людскую завіруху: германцаў ажно ў Афрыку, славян — у Малую Азію і на поўнач Беларусь — таксама...*

## КОПАЧКІ ПАД БРЫЖАМ ГАРШКА

Зязюля трапіла ў гэту вёску яшчэ як была дзеўкай. Паміж яе родным племенем і тутэйшым пачаліся былі тады звады. Недзе сагналі статак быдла, там спалілі паселішча, некага ранілі. А Зязюлю захапілі ў палон. Не паслухалася маці і далекавата адышлася ў пушчу — сама пайшлі баравікі; хацела насушыць на зіму пабольш. Быў іх там гурт дзяўчат, але ўсе ўцяклі, калі прыкмецілі чужакоў, а яна звіхнула нагу. І дасталася Зязюля маўкліваму воіну, у якога нядаўна памерла жонка, пакінуўшы хлопчыка-сіротку.

Спачатку бедавала дзяўчына-паланянка, намервалася не раз уцякаць. Але дзе ўцячэш, калі твае родныя за некалькі дзён шляху праз пушчу. А ў лясным гушчары на кожным кроку мядзведзі і рысі. Аднаму нават і дужаму мужчыну вялікая рызыка, а слабой дзяўчыне...

Пагаравала Зязюля, ды і абціхла. Чалавек, у чыю хату яна трапіла, аказаўся добрым і клапатлівым мужам. Да хлопчыка таксама прывыкла. Навучылася размаўляць па-тутэйшаму, пазнаёмілася з мясцовымі звычкамі. А як знайшліся і свае дзеці, і сябе пачала лічыць тутэйшай.

Учора Зязюля скончыла шыць абувакі са скуры зубрынай лабаціны. Цяпер яны віселі пад дрэвам, напханыя сухой травою. Высахнудь, стануцдь моцныя і цвёрдыя, як з дубу. Паслужаць мужу не адзін год. А сёння, як выпаў вальнейшы час, узялася за сваю любімую справу — пачала ляпіць гаршчок. У гэтым ёй падахвоцілася быць памагатай сярэдняя дачка, светлавалосая і блакітнавокая дзяўчынка гадоў васьмі, з рабацінкамі на твары, як і ў маці.

За хатай, пад кустом арэшніку, дзе было зацененa і заўсёды вільготна, Зязюля разгарнула насланую кару. Адкрылася яма з запасам яшчэ летась накапанай гліны, перамарожанай за зіму, гатовай да ўжытку. Яна ўзяла некалькі камоў, паклала ў плыткае карыта, уліла туды вады. Потым з дачкой пачалі драўлянымі таўкачамі таўчы камы, каб атрымалася добра вымешаная вязкая маса.

Час ад часу Зязюля падсыпала ў карыта жарству, якой загадзя нацерла з перапаленага каменю. Гліна без такой дамешкі пры апале трэскаецца, і гаршкі развальваюцца.

Нарэшце глінянае цеста прыгатавана. Для спробы Зязюля раскатала тонкую кілбаску і сплясквала яе. Атрымалася стужка. Памацаўшы яе, пацiскаўшы ў пальцах, жанчына задаволена кіўнула галавою.

— Падыдзе,— сказала яна дачцэ.— Памыем зараз у рэчцы рукі і пачнём.

Затым Зязюля паклала каля сябе кавалак дошкі, выгладжанай і выскабленай нажом і скрабком. Дошку пасыпала дробным пяском, каб выраб не прыставаў да дрэва, і паклала на яе першы камяк гліны. Пачала яго пляскаць далонямі ў роўны круглы блінок. Краі блінка загнула ўверх, выраўняла. Атрымаўся быццам сподак — дно будучай пасудзіны.

Дачка сядзела побач і на вялікім лісце маці-мачыхі ляпіла свой гаршчочак, памерам мала большы за ўласны кулачок.

Пасля дна пачыналася самае складанае. Трэба было сфармаваць выпуклае брушка, шыйку, шырокі брыж. Потым падправіць паверхню вырабу, каб яна стала роўнай і гладкай. А затым ужо аздобіць гаршчок.

Перш чым распачаць работу далей, Зязюля задумалася, успомніўшы каторы раз, як гаршкі ляпілі ў яе роднай вёсцы. Там пласкадоннага посуду і не ведалі. Рабілі з дном вострым. А ў некаторых мясцінах — з закругленым. А таму, што ежу гатавалі на вогнішчах, уторкваючы пасудзіны паміж вугалямі і галавешкамі. Як ні падгаралі дровы, а такія гаршкі не куляліся. А тут агнішчы лепяць з гліны. І чэрані таксама гліняныя, роўныя і моцна апаленыя. На такі можна паставіць толькі гаршчок з плоскім дном. Дома яшчэ ляпілі аб'ёмістыя пасудзіны — для жалудоў, арэхаў, ягад, сушаных грыбоў. Тут такіх не робяць. Запасы трымаюць у плеценых з саломы кубельчыках.

Разуспаміналася Зязюля, разжалілася і нават слязой абвільгатнелі яе вочы — што зараз з мамаю, якая вучыла яе таямніцам глінянага рамяства? Але хутка схамянулася: край сонца ўжо кранаецца арэшнікавай вершаліны і хутка рыхтаваць абед для мужчын, якія павінны вяртацца з возера. Жанчына пачала скочваць гліняную кілбаску і пляскаць яе ў стужку, тонкую і шырокую. Зараз маці дапамагала, і дачка падтрымоўвала стужку, а Зязюля накладвала яе на дно, змацоўваючы краі кожнага наступнага вітка.

На вачах вышэлі сценкі гаршка, выпуклялася ягонае рудое брушка. Але Зязюля асабліва не спяшалася, бо трэба было, каб ніжнія віткі паспявалі падсохнуць і памацнець. Інакш пасудзіна распаўзецца, абсядзе пад цяжарам сырой гліны.

Пасля абеду, калі гаршчок быў амаль гатовы, у апошнюю гліняную кілбаску Зязюля закатала тоўстую нітку з авечай воўны.

— Каб мацней было,— растлумачыла.

Кілбаску прыляпіла да верху і пальцамі размяла так, каб атрымаўся ахайны, са скошаным краем, брыж.

Зараз жанчына ўзяла ў рукі авальную, зазубраную з аднаго канца, касцяную пласцінку. Абмочваючы яе ў пасудзіне з вадой, пачала раўняць, заскрабаць стыкі паміж віткамі стужкі. На паверхні сценак утваралася мноства драпін-баразёнак. Але затое самі сценкі раўнелі, набывалі дасканалейшую форму.

— Ну вось, амаль і гатовы наш гаршчок,— паведаміла яна сваёй памочніцы і сама ўзрадавалася, што праца, здаецца, удалася. Засталося толькі рэдка разведзенай глінкай замазаць драпіны. І няхай ноч падсыхае, а назаўтра можна будзе аздобіць яго ўзорам.

На наступны дзень усе Зязюліны дзеці селі наўкола яе, бо вельмі любілі глядзець, як маці ўпрыгожвае гаршкі. Да таго ж спадзяваліся, што можа і ім будзе дазволена правесці хоць маленькую рысачку.

Трымаючы падсохлы гаршчок у левай руцэ, Зязюля той жа касцяной пласцінкай пачала адціскаць на яго шыйцы глыбокія гарызантальныя баразёнкі. Закончыўшы гэту справу, узяла касцяное шыла і яго вастрыём ніжэй баразёнак прадрапала трохкутнікі, а ў трохкутніках — частыя паралельныя рысы. Такі ўзор азначаў узаранае і засеянае поле. Ён павінен быў паспрыяць, каб у сям'і заўсёды знайшлося што згатаваць у такім гаршку, каб яго ўласнікаў не спаткаў голад.

Задаволена агледзеўшы сваю работу, жанчына падумала і, крыху павагаўшыся, канцом палачкі пад самым брыжам гаршка зрабіла глыбокія круглыя копачкі. Так зауседы упрыгожвалі гліняны посуд у яе родным племені.

Зязюля, нарэшце, разагнула занямелую спіну. Адпачыла. Потым паклала выраб у цень пад паветку — каб падсох пару дзён, і пад страхам лупцоўкі загадала дзецям да яго не дакранацца.

А пасля вясковыя жанчыны знясуць у адно месца толькі што зліпленыя свае гаршкі. Мужчыны раскладуць вялікае вогнішча і пачнуць гэту ляпніну абпальваць, стараючыся, каб пракальвалася яна раўнамерна. У канцы дроў будуць падкладаць усё менш, каб жар слабеў пастунова, бо калі астудзіць раптоўна — гліна патрэскаецца. А калі зусім патухне вогнішча і астынуць круглабокія звонкія гаршкі, мужчыны асцярожна дастануць іх з вугалёў і раздадуць гаспадыням. А тыя будуць пазнаваць свае вырабы па асаблівасцях узору і цікаўным вокам пазіраць на посуд суседак — у каго лепш і прыгажэй.

*

*— Як ты ўжо, напэўна, ведаеш,— сказаў я, перадаючы Івану Пятровічу чарговыя спісаныя аркушы паперы,— першы гліняны посуд на нашых землях з'явіўся ў самым пачатку новага каменнага веку, каля шасці тысячагоддзяў назад. Праз увесь неаліт амаль адзіным тыпам начыння ў нашых продкаў быў вастрадонны, часам акругладонны, гаршчок — як у цяперашніх турыстаў. У бронзавым жа веку посуд стаў больш разнастайны і рознапамерны — пласкадонныя гаршкі, міскі, кубкі, жбаны-гладышы, вушастыя кубкі, слоікі, шматвухія амфары, былі нават друшлякі-цадзілкі. І ўсё гэта ўпрыгожвалася арнаментамі. Але калі ў папярэдні час узор, як правіла, пакрываў усе сценкі вырабу, то зараз ён наносіўся пераважна ўверсе. У канцы эпохі арнаменты на посудзе паступова выходзяць «з моды»: яны бяднеюць, а то і зусім знікаюць. Гэта не значыць, што людзі перасталі любіць прыгожыя аздобленыя рэчы. Проста пачалі арнаментаваць нешта новае, напрыклад вопратку.*

*— Не зусім ты мяне пераканаў наконт заняпаду арнаментаў на гаршках, але, можа, яно было і так. А зараз скажы, як археолагі тлумачаць, што ў бронзавым веку посуд такі розны? Можа, гэта звязана з шырокім распаўсюджаннем земляробства і жывёлагадоўлі? Да лясной і рачной здабычы дабавілася тое, што чалавек гадаваў і вырошчваў у хлеве, загоне ці на полі. Значыць, ежа стала больш разнастайнай, трэба было яе па-рознаму гатаваць, ды і спажываць — таксама. Тое ж малако лепш піць з вушастага кубачка, чым сёрбаць з вялікай пасудзіны. Да таго ж, з кубачка — больш гігіенічна.*

*— Слушнае разважанне! — адзначыў я.— Даўно кажу, што табе пара кінуць здзекавацца з паддоследных сабак і заняцца самай цікавай навукай — археалогіяй.*

*— Ну не кажы — цікавая кожная навука, калі яна падабаецца, калі па душы.*

## ПАД ЗНАКАМ КАМЕННАЙ СЯКЕРЫ

Двое мужчын у чоўне-даўбёнцы пераплывалі раку. Веславаў з кармы загарэлы мацак гадоў каля дваццаці пяці. Каля берага ён заграбаў стоячы, а на плыні апусціўся на калені, бо тут іх хісткая душагубка магла і перакуліцца. Гроб размашыста і моцна. Вузкае вясло легка ўваходзіла ў ваду, пакідаючы вірлівы след.

— Лягчэй грабі,— супыняў маладзейшага стары ў заношанай кашулі, які прымасціўся ў носе чоўна.— Зломіш вясло і панясе даўбёнку.

Каля другога берага мужчыны павярнулі човен насупраць плыні. Тут было плытка, таму можна было вяслом адштурхоўвацца ад пяс-

чанага дна. Хоць і паволі, кароткімі рыўкамі, але сунуліся наперад, мінаючы рэдкаваты лазняк на поплаве.

Праз нейкі час скіраваліся ў каламутную прытоку і сталі прабівацца ёю да глiністага абрыву, што галеў уперадзе.

Маладзейшы раптам перастаў веславаць і знерухомеў.

— Зірніце на вывараць,— прашаптаў ён старому.

Уперадзе іх ледзь не поперак рэчкі ляжала ў вадзе сукаватая хвоя, якая, мусіць, упала недзе з берага і была прынесена сюды веснавою паводкай. На дрэве прыладкаваўся згорблены мядзведзь і час ад часу заўзята біў лапаю па вадзе — лавіў рыбу.

Мядзведзь так захапіўся справай, што не заўважаў людзей. А тыя меркавалі, што рабіць далей. Трэба было неяк спудзіць звера з прытокі, але ж у іх была толькі адна дзіда і крамянёвыя нажы за поясам. Пакуль радзіліся, чацвераногі рыбак прыкмеціў няпрошаных гасцей, прыўзняўся на камлі і пагрозліва зароў.

— Гаспадар,— пакланіўся стары мядзведзю,— сыдзі ўбок і прапусці нас. Мы тваёй рыбы не зачэпім — у нас свая патрэба, якая цябе не датычыць.

Звер, пачуўшы голас, прыціх, быццам прыслухоўваючыся, але потым зароў яшчэ мацней.

Тады і людзі ў чоўне закрычалі, замахалі рукамі, пачалі кідаць камяні, якія хоць і не даляталі да касалапага, але пырскаў рабілі шмат. Нарэшце мядзведзь не вытрымаў гэтага ляманту, скокнуў на бераг і валюхавата падаўся ў пушчу.

Каля абрыву мужчыны выцягнулі даўбёнку на бераг і пачалі аглядаць камяні, якіх тут было, як насыпана. Некаторыя падымалі і неслі ў човен. Бралі адмысловыя — зеленаватага або шэра-крапчастага колеру. Такіх траплялася не шмат, але праз нейкі час набралася амаль два дзесяткі.

— Мусіць, і ўсё тут,— махнуў рукою старэйшы.— Пасля наступнай паводкі можа зноў намые.

Мужчыны спачатку вылілі з даўбёнкі ваду, якой набралася праз старую шчыліну, затым сапхнулі човен з берага і зноў выплылі на раку. Зараз веславаць было не трэба. Плынь спорна несла іх уніз, трэба было толькі пільнаваць, каб не напароцца на якую тапеліцу-вывараць.

Насупраць сваёй вёскі падарожнікі прысталі да невялікай пясчанай выспы, аддзеленай ад берага вузкай плыцізнаю. Тут быў толькі хмызняк, дзве дуплістыя і пакручаныя ветрам і часам вербы ды стары будан пад імі.

Маладзейшы мужчына выцягнуў з будана каменную пліту, тонкую і спрацаваную. Затым на пліту насыпаў мокрага пяску, які быў пад рукою — толькі грабяні глыбей,— і пачаў церці аб яе адзін са знойдзеных зеленаватых камянёў. Стары вынес з таго ж будана драўляны плашчак, елянцовую палку з насаджанай касцяной трубкаю і доўгі скураны пасак.

— Можа ўжо добра будзе?— перарваў працу ўпацелы малады мужчына.

Стары прыдзірліва агледзеў камень, які па форме ўжо нагадваў сякеру.

— Лязо тут крыху падвастры і хопіць. Потым будзем рабіць адтуліну.

Адтуліну свідравалі ўдваіх. Стары каменем націскаў на палку з трубкаю, у якой быў мокры пясок. Праваю рукой ён трымаў за канец скуранога паска, абкручанага вітком вакол палкі. За другі канец паска трымаўся маладзейшы, і яны абодва папераменна цягнулі пасак кожны ў свой бок. Палка круцілася, і касцяная трубка вымолвала мокрымі пясчынкамі ў нарыхтоўцы паглыбленне.

Так працавалі яны некалькі часу, пакуль у трубцы не скончыўся пясок. Тады стары насыпаў у яе новага.

— Ведаеш,— загаварыў стары ў час наступнага перапынку.— Неяк я шукаў патрэбныя камяні ніжэй па цячэнню нашай ракі. Там таксама ёсць абрывы, але пясчаныя. Адпаведных камянёў так і не трапілася, затое пад пяском была крэйда, а ў ёй шмат крэменю. Хоць яго набраў — для нажоў. Дык вось пад верх абрыва там выступае пласт з вуглямі, костачкамі і крамянёвымі аскабалкамі. Пэўна там таксама жылі людзі. Але, мусіць, вельмі даўно, бо ў каго са старых не пытаўся — ніхто не памятае. І ў пласце мне трапіўся вялікі абабіты крэмень, востраканечны, з закругленым абушком. Падобны на сякеру, але яго да рукаяткі, пэўна, прымацаваць цяжка, а вось ашчаперыць пясцю зручна. Мой нябожчык бацька, а ён быў вельмі разумны і пражыў шмат, казаў, што такімі секачамі карысталіся першыя людзі.

— А тубыльцы на прытоках нашай ракі яшчэ і зараз так робяць: абаб'юць кавалак крэменю, каб востры быў, і прывязваюць да рукаяткі. Гэта ў іх за сякеру. Даўней, кажуць, нават лязо не зашліфоўвалі.

— Так, так,— заківаў барадою стары.— А саму сякеру ўстаўляюць у выдзеўбаны кавалак рога з прасвідраванай для рукаяткі адтулінай. Ад нас навучыліся, бо мы так мацуем рабочыя сякеры — кліны... І не толькі гэтаму навучыліся, але пераянялі ад нас земляробства і жывёлагадоўлю. А раней толькі і жылі тым, што давалі ім лес і рака. А замест удзячнасці нам крычаць: «Захапілі нашу раку!» І захапілі, бо ўмелі

ваяваць і мелі баявыя каменныя сякеры. Такія, як вось гэта, якую мы з табою зараз зробім. Таму можа і цэнім гэту зброю, пакланяемся ёй. Нават у магілы нябожчыкам кладзём.

Нарэшце адтуліна была прасвідравана, і стары вытрас з касцяной трубкі цёплы каменны стрыжанёк — высвердліну.

— Засталося толькі выразаць хвацкую рукаятку і насадзіць,— зазіраючы ў круглую адтуліну, задаволена прамовіў ён.

*

*— Нешта агрэсіўна ў цябе атрымалася,— хмыкнуў Іван Пятровіч, дачытваючы мае запісы,— «захапілі», «умелі ваяваць»...*

*— А што зробіш? — развёў я рукамі.— Такія былі часы. Пацыфізм, мусіць, ужо прадукт цывілізацыі. Праўда, сярод першабытных паляўнічых і збіральнікаў узброеныя сутычкі былі рэдкімі. А вось ужо ў земляробча-жывёлагадоўчым грамадстве, што тут грэх утойваць,— паміж плямёнамі часам вяліся сапраўдныя войны; бывала, што і да поўнага вынішчэння. Браліся за лукі і дзіды, каб адпомсціць за якую крыўду, захапіць жанчын і дзяцей, чужую маёмасць, выцесніць непажаданых суседзяў з урадлівых зямель. Часам трэба было адстойваць і свае абшары, калі з'яўляліся чужакі.*

*— Ну, а ў археалагічных знаходках гэта неяк прасочваецца?*

*А як жа. Часам пры раскопках пахаванняў у костках памерлых знаходзім наканечнікі стрэлаў. Ды і адмыслова аздобленыя бронзавыя кінжалы, мусіць, былі не толькі прыладамі працы або палявання, як і каменныя свідраваныя сякеры. Дарэчы, у бронзавым веку чалавек нават вынайшаў асаблівую форму наканечнікаў стрэл — з вострымі шыпамі, баявую.*

## ПАСТУШКІ, ВОЎК І САБАКА КУДЛАЧ

Гарачы поўдзень. Сонца прыпякае неміласэрна. На даляглядзе квола завязваюцца воблачкі, і тады прыходзіць снадзяванне, што яны вырастуць у хмару і на зямлю праліецца асвяжальны дождж. Але воблачкі знікаюць, і на выцвілым блакіце неба зноў застаецца ў адзіноце калматае, сляпучае сонца.

Каровы і козы зашыліся ў кусты ля рачной старыцы і ратуюцца ад гарачыні і аваднёў. Авечкам авадні не страшныя, але ім у ваўняных футрах асабліва горача. Яны згрудзіліся шэрым комам у цень і не рухаюцца. Але пастушкі — тры загарэлыя да чарнаты падлеткі — толькі радуюцца, што такая спёка і што статак як прыліп да старыцы.

Козы не лезуць у лес, каровы не разбрыдаюцца, і таму ёсць час на забавы.

Спачатку пастушкі рамантавалі стары будан, які, мяркуючы па накапычаных слядах, разбурылі, дурэючы, маладыя зубрыныя бычкі. Хлопцы зноў нахільна прыставілі да дуба доўгую жэрдку, паклалі на яе папярочкі. А на іх пачалі чапляць адламаныя яловыя лапкі. Атрымалася шчыльная і моцная стрэшка. Засталося толькі чакаць дажджу.

Хлопцы пасядзелі ў духмяным ад свежай ігліцы будане. Але дождж так і не пачынаўся. Пастушкам стала, нарэшце, сумна і яны ўзяліся вучыць свайго памагатага — сабаку Кудлача плаваць. Бралі яго і скідвалі з берага ў ваду.

Спачатку сабаку гэта спадабалася — было прыемна ахаладзіцца, бо яго таксама даймала гарачыня. Але пасля трэцяга купания Кудлач пакрыўдзіўся і ў рукі больш не даваўся. Трымаўся воддаль.

А дзень так бясконца доўжыцца, і сонца, як завісла над галавою, так і не скранецца, быццам не хоча злазіць са сваёй вышыні... Чым бы гэта заняцца яшчэ?

Але доўга хлопцы не раздумвалі. . Набралі камянёў і пачалі паляваць на шчупакоў. Калі асцярожна пракрадацца каля вады, можна прыкмеціць між водарасцей вузкія целы рыбін, якія ці то драмалі, ці то пільнавалі спажыву. Трэба было прыцэліцца і з сілаю кінуць у рыбіну камень. Узлятаў сноп пырскаў, а часам усплываў і аглушаны шчупак. Тады заставалася хутка падхапіць яго і выкінуць на траву. Злоўленую здабычу тут жа з'ядалі.

Ды сырая рыба — гэта не тое, і ад яе толькі засмактала пад лыжачкай. І тады хлопцы адчулі, што ім даўно пара абедаць.

— Ты, Лісіца, папільнуй з Кудлачом статак, а мы хуценька збегаем і паямо. А потым — ты,— прапанавалі хлопцы свайму трэцяму таварышу.

Калі сябры схаваліся за паваротам ракі, Лісіца спачатку абышоў старыцу, каб пераканацца, ці не разбрыліся каровы, а потым крамянёвым нажом пачаў застругваць, вастрыць адламаную арэхавую палку. Зараз ён застаўся адзін і яму стала ніякавата. Хоць вёсачка іхняя была і недалёка, вунь у тым дубнячку, але ж побач пушча. А ў пушчы і мядзведзі, і ваўкі, і рысі. Праўда, блізка мядзведзяў пакуль не чуваць, і ваўкі летам на людзей не нападаюць, і побач верны таварыш Кудлач, але ж з вострай, хоць і драўлянай, дзідай ён, Лісіца, будзе адчуваць сябе надзейней.

Калі хлопец ужо выразаў на дрэўку адмысловы ўзор, завурчаў Кудлач і поўсць на ягоным загрыўку ўздыбілася. Падхапіўся і пастух, і

ў час — з прылеснага хмызняку вымкнуўся шэры звер, ухапіў крайнюю авечку і пацягнуў яе да лесу.

— Уга! Ваўка! Кусі! — залямантаваў Лісіца і кінуўся за ваўком. Але першым драпежніка дагнаў Кудлач. Сабака не кінуўся адразу ў бойку з дужэйшым праціўнікам, а насядаў ззаду. Воўк, не выпускаючы здабычу, паварочваўся да Кудлача, і той адскокваў убок, ратуючыся ад жоўтых іклаў. Воўк быў стары, з запалымі бакамі, а авечка трапілася цяжкая, да таго ж перашкаджаў Кудлач, таму шэры разбойнік рухаўся рыўкамі. Перад самым лесам дасяг яго і пастух.

Убачыўшы побач чалавека, Кудлач асмялеў і кінуўся на ваўка, учапіўся яму ў карак. Звер кінуў здабычу і закруціўся ўюном, стараючыся скінуць сабаку, рвучы яму сцёгны. Ляцела ў бакі поўсць, гыркаталі воўк і сабака, крычаў Лісіца.

Пэўна б Кудлачу давялося блага, але хлопец, колькі было моцы ў руках, сунуў ваўку ў бок драўлянай дзідаю. Той матлянуўся да Лісіцы, збіў яго з ног. Але тут Кудлач злаўчыўся і ашчаперыў пашчу на самай ваўчынай шыі. Звер захрыпеў, затузаўся. Лісіца падхапіўся на ногі і некалькі разоў увагнаў яму ў бок сваю вастраколіну.

І тут на гэты шум і крык падбеглі з паселішча мужчыны з дзідамі, сякерамі, лукамі. Былі ўзброеныя, як на вайну, бо не ведалі — ці звер напаў на статак, ці які чужынец.

Утрапянелага Лісіцу калаціла ліхаманка. Ён нешта сіпеў сарваным голасам і ўсё паказваў на ваўчыны труп, які тузаў за бакі раз'ятраны Кудлач, сам крывавячы разарваным сцягном.

Падышоў бацька, абняў сына за плечы і асцярожна павёў у вёску. Ззаду неслі мёртвую авечку і ваўка. Побач падскокваў на трох лапах сабака, і то залізваў рану, то зноў меціўся ўчапіцца ў былога ворага.

Ноччу Лісіца кідаўся ў сне, трызніў. Яму ўсё здавалася, што на статак напалі ваўкі, цягнуць авечак у лес, а ён хоча закрычаць, паклікаць на дапамогу — ды не мае голасу, хоча пабегчы — але ногі як анямелі.

На раніцу паклікалі ведзьмара. Той доўга шаптаў над хворым, праганяў пярэпалахі. Потым даў выпіць настою зёлак.

Крыху пазней у хаціну зайшоў Бар, самы лепшы паляўнічы іхняга роду. Прайшоў да лежака, дзе пад скамечанай льняною дзяружкай ляжаў Лісіца. Асцярожна памацаў прыстаўленую да сцяны хлапцоўскую дзіду, агледзеў яе вастрыё. Затым прысеў да хлопца і паклаў на яго плячо дужую руку:

— Доўга не залежвайся. Пойдзеш з намі на паляванне. Калі ты такой прычындалай паклаў ваўка, то што ж ты зможаш сапраўднай дзідаю з крамянёвым наканечнікам!?

І гэтыя словы славутага паляўнічага былі лепш за вядзьмарскія загаворы. К вечару хлопец падняўся на ногі.

Бар стрымаў сваё слова. Калі Лісіца адужаў, ён з загонам мужчын і сапраўды пайшоў на паляванне. На разе толькі на качак. Але ўсё наперадзе. Лісіца падрасце і будуць у ягонай здабычы і мядзведзі, і туры, не кажучы ўжо пра ваўкоў, якіх ён, ну, адной рукой...

*

*— Чаму ў паляўнічага такое дзіўнае імя — «Бар»? Сам прыдумаў?*

*— Не; так і было. А значыла яно — Мядзведзь. Сапраўднае найменне мядзведзя ў старажытных індаеўрапейцаў, калі яны яшчэ складалі адноснае цэлае, было «бар», ці нешта падобнае. Але гэты бар у некаторых народаў лічыўся свяшчэннай жывёлінай і таму не дазвалялася ўголас вымаўляць ягонае імя. Па гэтай прычыне пра яго казалі іншасказальна: мядзведзь або вядзмедзь — той, хто ведае мёд, Таптыгін, касалапы і гэтак далей.*

*— А чаму мядзведзь — «бар»?*

*— Пра гэта не я, а лінгвісты даўмеліся. Мядзведзь па-нямецку — бёр, па-англійску — бэе. А куды мядзведзь на зіму залягае? У наш «беларускі» бярлог, што значыць — лаг во бара!*

*— Ну добра, а чаму хлопца лячыў вядзьмар? Гэта ж такі несімпатычны персанаж...*

*— Благую славу гэтым людзям прыпісала хрысціянская царква. А гэта ж былі вясковыя лекары, прадстаўнікі, так сказаць, народнай медыцыны, якая прымяняла і лекавыя зёлкі і замовы. Заадно былі і святарамі ў язычніцкіх культах, чараўнікамі. Сэнс самога слова паказвае, што іх у старажытнасці паважалі, бо яны тыя, хто «веды мае».*

## СТАРЫ КРЭМ

Зямля на беразе Росі была так перакапана, уся ў ямінах і равах, што выглядала быццам твар перахварэлага на воспу чалавека. Асабліва перавернутымі былі нізавіны паміж узгоркамі. У нізавінах амаль да самай паверхні падыходзілі паклады крэйды. Пракапаўшы з паўметра, можна было натрапіць на суцэльную белую пароду, а з яе дастаць жаўлакі крэменю.

З даўніх-прадаўніх часоў здабываюць тут крамянёвую сыравіну. Спачатку збіралі яе на паверхні. Калі ж хацелі мець матэрыял больш якасны, не высахлы, урываліся ў зямлю, капалі розныя неглыбокія канавы і ямкі. Але адзін час сюды пачалі находзіць ад Свіслачы і з-

пад Буга трупы людзей, якія ўмелі здабываць крэмень адмыслова, глыбокімі шахтамі зарываючыся ў крэйду, распрацоўваючы крэменяносныя пласты ў бакі падбоямі-штрэкамі. Прышэльцы то з'яўляліся, то знікалі, калі тубыльцы збіраліся з сіламі і праганялі няпрошаных гасцей, але іхнюю звычку здабываць крэмень шахтавым спосабам пераналі ўсе навакольныя жыхары.

Маючы доступ да высакаякаснай сыравіны, людзі сталі нават пераборлівымі. Выявіўшы пласт, спрабавалі на месцы, як крэмень расколваецца, ці лёгка з яго будзе рабіць сярпы і сякеры. Калі не падабалася, капалі глыбей, або распачыналі новую выпрацоўку. Так было доўгія стагоддзі і, нарэшце, дайшло, што знайсці новую мясціну пад шахты стала цяжкавата.

Вось і зараз жыхары адной з суседніх вёсак — з дзесятак мужчын — доўга выбіралі сярод перакопаў нечапаны лапік зямлі. Нарэшце знайшоўшы яго, пачалі дзяўбці крэйду вострымі каламі, выграбаць друз ласінымі лапаткамі, марудна паглыбляючыся ў пароду. Дні праз чатыры дабраліся, нарэшце, да крэменю, але амаль адразу ж натрапілі і на штрэк старой шахты. Давялося паглыбляцца да новага пласта, якога тут магло і не быць. Ды на шчасце ці няшчасце наступны пласт таксама знайшоўся, і крамянёвыя жаўлакі ў ім пайшлі вялікія і гладкія. Але зноў, як толькі матыкамікайламі пачалі ўсякацца ў сценкі, пасыпаўся друз, пасыпалася крэйда з суседняй выпрацоўкі. І тут здарылася бяда. Сценка трэснула і абрушылася, заваліўшы друзам шахцёраў.

У вялікім паспеху кінуліся расчышчаць завал суродзічы. Ды пакуль дабраліся да пацярпелых, адзін з іх ужо не дыхаў, ды і другі ледзь вярнуўся да свядомасці.

Пасля гэтага здарэння стары Крэм — калматабароды дзед у скуранай, выбеленай крэйдай безрукаўцы — узяў двух дужэйшых маладых мужчын і пайшоў з імі шукаць у наваколлі новае крэменяноснае радовішча. Крэм выглядаў у лесе раўнейшыя ўчасткі зямлі, з бураломам. Па шматгадовым вопыце ведаў — там, дзе крэйда блізка падыходзіць да паверхні, над ёю тонкае земляное покрыва, у якім цяжка каранямі ўмацавацца дрэвам. Таму яны і падалі пад напорам навальнічных вятроў.

Зазірнуўшы пад адну вывараць, стары заўважыў белую пароду, а ў ёй крамянёвы аскабалак.

— Разгарніце пясок у бакі і зачысціце крэйду,— паказаў ён памочнікам мясціну, дзе яны павінны былі распачаць працу.

Сам жа агледзеў суседнія вывараці, пакорпаўся ў недалёкай свежай прамыіне, што засталася пасля нядаўняга дажджу, і ўсё не-

шта мармытаў сабе пад нос, быццам гаварыў замовы. А потым пайшоў да старога абамшэлага дуба з абсмаленай перунамі вяршалінай. Пад дубам на плоскім валуне ляжаў вялікі, як скрануць, фігурысты жаўлак крэменю. Калі прыгледзецца, то здавалася, што ён падобны на прысадзістага чалавека з круглай галавою і носам, як кулак. Канешне, выгляд выявы быў несамавіты — і вока адно, і скасабочаны, але, пэўна, так і павінен быў выглядаць Краменны дух — гаспадар усіх мясцовых падземных багаццяў.

Ніхто не памятае, калі і хто ўсцягнуў на гэты валун жаўлак. Дзяды сцвярджаюць, што ляжыць ён тут ад стварэння свету, як і расце гэты дуб таксама ад пачатку ўсяго жывога.

Побач стаялі і ляжалі меншыя крамянёвыя фігуркі — быццам мядзведзі, алені, птушкі. Былі тут крамяні з акамянелымі ракавінамі дзівосных малюскаў. Усё, што траплялася ў шахтах нязвыклай формы, людзі прыносілі пад стары дуб, бо былі перакананыя, што ў іх маўкліва хаваюцца чароўныя сілы зямных нетраў. Краменны ж дух меў найбольшую моц. Ен мог затлуміць галаву чалавеку, паслаць у пустую мясціну, дзе горназдабытчык, выліўшы сем патоў, выдзеўбе ў шчыльнай і ліпучай крэйдзе пошукавы калодзеж у два свае росты і нічога не знойдзе. А мог даць столькі крэменю, што не забярэш і ўдзесяцёх.

Крэм ужо не адзін дзесятак гадоў здабывае крэмень, колькі мазалёў нацёр на далонях, капаючы пароду, робячы вузкія падбоі рагавым вастраком. Колькі перабрана камянёў гэтымі жылістымі, агрубелымі, шрамаватымі рукамі! Крэм ведае тут усе хады-выхады. Знаецца ён і з духамі і стараецца іх улагоджваць. Асабліва гэтага— Краменнага. Той, мусіць, таксама добра запомніў старога шахцёра, бо спрыяе яму. Таму рэдка бывала, што Крэм распачынаў шахту і яна аказвалася пустой. Калі ж надаралася няўдача, стары ішоў пад дуб, дакараў жаўлак і црасіў больш так не жартаваць.

Вось і зараз Крэм паклаў на валун сушаную плотку — духі ж таксама хочуць есці — і сказаў: «Не падвядзі мяне. Пашлі па старой памяці крэмень каля той вываранці, дзе капаюць мае памочнікі. Мне ўжо не шмат засталося жыць на гэтым свеце, таму на зыходзе дзён не хацеў бы мець перад сурадзічамі ганьбу. Ну як, дапаможаш?» І Крэму падалося, быццам па-сяброўску падміргнула яму каменная выява сваім адзіным вокам.

Абнадзеены шахцёр вярнуўся да вываранці, дзе мужчыны ўжо скончылі працу і адпачывалі.

Крэм укленчыў на расчышчаным месцы і пачаў аглядаць крэмені. Калупнуў адзін, другі, вызначыў нахіл. У тым жа кірунку павшей быў

існі і сам крэменяносны пласт. Затым адступіў пару крокаў у напрамку паніжэння пласта і загадаў пачынаць шахту.

Капалі па чарзе, бо ў шахтавым калодзежы для дваіх не было месца. Адзін прадаваў, другі адпачываў. Потым мяняліся. Калі выпрацоўка паглыбела, друз пачалі выцягваць плеценым кошыкам.

Да вечара ўдалося заглыбіцца амаль да пояса.

Назаўтра мужчыны закапаліся па плечы. Капаць у глыбіні было цесна, нязручна, не так як каля паверхні, дзе можна было размахнуцца, дзе крэйда была рыхлейшая, патрэсканая. Тут жа ішла суцэльная шчыльная парода, у якую з цяжкасцю заганялася вастрыё кайла. Да таго ж і самі капальнікі былі хоць і дужыя, але маладыя і нявопытныя, учарашнія хлопцы, якія яшчэ не набылі вынослівасці. А крэменю ўсё не было.

— Мы так да яго і не дабяромся. А можа тут і зусім пуста? — пачалі бурчэць памочнікі, мусіць намякаючы, што Крэм па старасці памыліўся.

— Будзе, хутка будзе,— супакойваў стары, а сам таксама пачаў хвалявацца.

Адзін з капальнікаў раздражнёна размахнуўся і зноў увагнаў кайло ў крэйду, а потым адразу ж разагнуўся і радасна закрычаў:

— Во, зламалася! — і паказаў вышчарбленае лязо прылады.

Узрадаваліся і ягоны напарнік, і Крэм. І не таму, што сапсаваўся гарняцкі інструмент,— лязо зламалася аб нешта надзвычай цвёрдае, а гэта мог быць толькі крэмень!

Хутка жаўлак ляжаў на траве каля вусця шахты. Ен быў плоскі, як праснак. Нічога вартага з яго не зробіш, хіба які скрабок. Але гэта быў знак, што пачаўся пласт. І праўда, праз пядзю пароды трапіўся большы жаўлак. Да вечара выбралі частку крэменю, што залягаў на дне шахты. Заўтра дастануць рэшту і пачнуць капаць падбоі. Крэмень тут добры, і яго шмат.

Калі скончылі працу, Крэм абтрос з каленяў наліплую крэйду, павярнуўся ў той бок, дзе рос стары дуб, і нізка пакланіўся.

Вярталіся ў шахцёрскі лагер, ледзь цягнучы здабычу. Трэба было паказаць яе суродзічам. Заўтра сюды прыйдуць гуртам і пачнуць распрацоўваць новае радовішча.

Крэм ішоў у лагер ззаду сваіх памочнікаў. Не спяшаўся. Быў задаволены. Ведаў, што аднавяскоўцы зноў будуць дзівіцца, які ён знаўца зямных таямніц, як ён паранейшаму знаходзіць добрыя мясціны для шахтаў. Не, ніхто яшчэ не скажа, што Крэм знасіўся, што яму ўжо толькі сядзець у хаціне і няньчыць унукаў.

*

*— Рось, гэта што каля Ваўкавыска цячэ?*

*— Так.*

*— А чаму ты ўпэўнены, што Рось?*

*— На берагах гэтай ракі у ваколіцах пасёлка Краснасельскі знойдзены адзіныя, вядомыя на Беларусі, крэменездабыўныя шахты. Так мелася некалькі тысяч выпрацовак у крэйдавай тоўшчы, а побач — мноства майстэрань па вырабу крамянёвых сякер. Па вугалях, знойдзеных у шахтах, вызначылі, што іх пачалі капаць яшчэ ў неаліце — у трэцім тысячагоддзі да нашай эры, але большасць іх адносіцца да наступнага тысячагоддзЯу гэта значыць — да бронзавага веку.*

*Я там даследаваў не адну шахту, наваколле аблазіў спрэс і ведаю яго дасканала. Таму адразу і здагадаўся, што ў сне мне бачыліся менавіта гэтыя мясціны.*

*— У цябе ўсюды — крэмень, крэмень. А дзе ж бронза? Век жа — «бронзавы»?*

*— Бачыш, у бронзавым веку на Беларусі, як і на суседніх тэрыторыях, большасць прылад працы, як і ў папярэднім новакаменным веку, выраблялася з крэменю. Медзь і яе сплавы з іншымі металамі (бронза) траплялі да нас з далёкіх Каўказа, Скандынавіі, Прыкарпацця. Іх было мала, каштавалі дорага. Але кожную новую эпоху мы называем па важнейшых яе адкрыццях. Навучыўшыся здабываць бронзу, людзі зрабілі крок да выплаўкі жалеза з руды! Ну а жалезу абавязана ўся наша цывілізацыя.*

## ВЫПРАБАВАННЕ

На пералёт стралы ад Выспы Выпрабаванняў мужчыны перасталі веславаць, і човен, яшчэ крыху праплыўшы з разгону, спыніўся, лёгка пагойдваючыся на бакавой хвалі.

— Пара, Ждан,— сказаў шыракатвары з пасівелай барадой мужчына.

З дна чоўна ўстаў юнак гадоў пятнаццаці і пачаў распранацца. Па тым, як,блытаючыся ў раменьчыках-завязках, спехам вызваляўся ад вопраткі, як моцна былі сціснуты пабялелыя вусны, можна было здагадацца, што ён хвалюецца. І. каб не прыкмецілі гэтага прысутныя і не падумалі, што баіцца, мусіць, так спяшаўся хлопец.

Нарэшце ён застаўся зусім голы — хударлявы, але ўжо мускулісты светлавалосы юнак з яшчэ па-дзіцячаму адтапыранымі вушамі. На цёмнай, загарэлай пад сонцам, закуранай каля вогнішчаў, скуры за-

раз асабліва выдзяляліся белаватыя шрамы ад хлапечых боек, лажання па дрэвах і хмызняках, нырцавання сярод карчоў за рыбай.

— Пара, Ждан,— зноў сказаў шыракатвары.

Ждан выпрастаўся, зірнуў на маўклівых мужчын у чоўне і сустрэўся з бадзёрачым паглядамбацькі, які прымасціўся на карме. І ад гэтага пагляду ў юнака прыбавілася рашучасці, і ён легка, каб не разгайдаць няўстойлівую даўбёнку, адштурхнуўся ад яе дна і даў нырца ў ваду. Праз колькі сажняў вынырнуў і паплыў, не азіраючыся, да выспы. І толькі, калі выбраўся на бераг, абярнуўся і памахаў рукою.

Мужчыны развярнулі човен і павеславалі прэч ад выспы.

Праз сем дзён — квадру, калі месячная поўня прыкметна сышла на ветах, той жа човен зноў адплыў ад прыбярэжнага паселішча і пакіраваўся да выспы. У ім нетаропка веславалі тыя ж мужчыны, а на карме зноў сядзеў бацька Ждана. І мусіць, толькі яму не цярпелася, бо ён усё неўпрыкмет выгінаўся, каб з-за спін весляроў зірнуць на выспу. Яго турбавала, як жа на гэтым бязлюдным кавалку зямлі пасярод возера, без ежы, вопраткі і агню, бяззбройны, даў сабе рады мінулыя дні ягоны сын, дні, якія здоўжыліся на месяцы. Хвалявала і як ацэняць старэйшыны роду вынікі выпрабавання. Ці прымуць Ждана ў свой гурт паляўнічых і воінаў?

Вузкай пратокай праз трыснёг човен праслізгнуў пад бераг, чыркануў дном па пяску і спыніўся.

Мужчыны выбраліся з даўбёнкі і выцягнулі яе на сухое, каб не знесла выпадковай хваляй, хоць сёння было ўвогуле пагодліва і ціха.

Усе мінулыя дні прайшлі без дажджу, таму мужчынам было лёгка па слядах прасачыць, што рабіў, як паводзіў сябе на выспе Ждан. І наадварот, юнаку было складана вытрымаць апошняе з выпрабаванняў — затаіцца так, каб ягоныя суродзічы як найдаўжэй маглі яго адшукаць.

Паўзіраўшыся навокал, мужчыны знайшлі месца, дзе юнак выбраўся з вады і ўпершыню ступіў на бераг Выспы Выпрабаванняў. Сляды былі ўжо добра затаптаныя птушкамі і дробным лясным жыхарствам. Буйнейшага ж — тураў, мядзведзяў, ваўкоў і рысяў, якія б маглі пагражаць чалавечаму жыццю, тут не было.

Па слядах вынікала, што Ждан спачатку адразу быў сунуўся ў лес, але потым, бачна паразважаўшы, вярнуўся да вады і пайшоў аглядаць свае часовыя ўладанні берагам. Такім жа шляхам рушылі і мужчыны.

На вузкім мысе сляды юнака былі асцярожлівыя і нават няўпэўненыя. Пальцы ног глыбока ўціскаліся ў пясок. Бачна было, што ён

тут быў напружаны, кожнае імгненне гатовы кінуцца назад. А хваляваццца тут было з чаго. За нейкія тры пералёты стралы з вады выступала ў чаратовым аблямаванні цёмная ад старых хвой выспачка з закінутымі магілкамі невядомага народу. Ніхто не ведае і не памятае, як і дзе знік той народ з берагоў возера. Спарахнелі буданчыкі нябожчыкаў на выспачцы. Утравелі і ўраслі ў зямлю абмытыя дажджамі косткі, але душы памерлых па-ранейшаму павінны ж недзе кажанамі кружыцца між камлямі хвой — загадкавыя, маўклівыя і пэўна помслівыя, бо ім жа даўно ніхто не прыносіць ахвяры, каб улагодзіць.

— А гэта што такое? — спыніўся раптам шыракатвары і вастрыём дзіды паказаў на пясок.— Ці не зацямніўся хлопцу розум?

Спыніліся і астатнія і ў страху ўбачылі, што на пяску цямнелі і пазнейшыя жданавы сляды. Яны выходзілі з лесу і былі перад самым краем вады глыбокія, растаптаныя — юнак доўга ўзіраўся ў Выспу Мерцвякоў, а потым сляды вялі ў ваду і там губляліся.

Паспакайнелі мужчыны толькі тады, калі крокаў праз дваццаць прыкмецілі, што з возера зноў выходзіў ланцужок знаёмых слядоў.

— Няўжо ён там быў? — разводзілі рукамі мужчыны.

— Усё можа быць! — узбадзёрыўся Жданаў бацька, радуючыся, што сын жывым і, мусіць, цэлым вярнуўся назад.— А памятаеце, як ён прынёс цэлы ваўчыны вывадак. З самага лагва выбраў. Ен у мяне не з баязліўцаў!

Прытулак Ждана знайшлі каля ціхай, зараслай белымі гарлачыкамі затокі на паўднёвым беразе.

— А памятаеце, што і мы, калі пасвячаліся на мужчын, выбіралі гэтую затоку,— заўважыў адзін з шукачоў.— Ды і нашы сыны амаль заўсёды ўладкоўваліся тут.

Усе згодна заківалі галовамі. А як жа, дзе тут знойдзеш утульнейшую мясціну?

Каля затокі спрэс былі сляды Ждана, знакі ягонай дзейнасці. На каржакаватым дубку ў развілцы сукоў было намошчана галлё са звялым лісцем. Бачна, што юнак першым часам начаваў на дрэве. Але потым, абвыкшыся і пасмялеўшы, зладзіў сабе будан на зямлі, пад дубком; свой прытулак з галля і трыснягу выслаў сухой травою.

Побач з буданом яшчэ дымілася вогнішча. Тут знайшлі і змайстраваныя прылады для здабывання агню: лук з суканай лубяной цецівою, сухую арэхавую палачку з абсмаленым канцом і шырокую, адшчапаную ад сухастоіны трэску. У трэсцы было некалькі абвугленых ямачак, куды ўстаўлялася палачка, калі «выкручваўся» агонь.

Пад сцяной будана ляжаў запас лубяных валокнаў, з якіх рабілася цеціва для лука і з якіх, магчыма, самотнік спрабаваў зладзіць сабе нейкую апратку. Тут жа, побач з плоскім каменем, было насыпана розных крамянёвых аскабалкаў.

— Шмат напсаваў крэменю,— разглядаючы друз, прамовіў адзін з аглядчыкаў.— Для нейкага нажа хапіла б і меней.

— А нічога. Такой бяды! — заступіўся за юнака шыракатвары.— У ягоныя гады і мы з табою былі невялікія майстры.

Затым уважліва агледзелі вугалі вогнішча і траву навокал і вывел!, што Ждан харчаваўся малюскавымі бяззубкамі і смаўжамі, налоўленай нейкім чынам рыбай, пёк карані белай лілеі. У лейкаватай пасудзіне з бяросты яшчэ крыху заставалася натоўчанай з сушаных трысняговых каранёў мукі. Але больш за ўсё здзівіліся мужчыны, калі знайшлі абгрызеныя косткі зайца.

— Няўжо каменем? Ці ў якое сіло загнаў?

Па ўсяму было бачна, што Ждан вытрымаў выпрабаванне выдатна. Заставалася толькі паглядзець, як ён умее затойвацца ў гушчары і што выбраў на схованку.

Шукачы расцягнуліся паскам у лясным зарасніку і пачалі паволі прачэсваць выспу, зазіраючы пад кожную вываранць, аглядаючы кусты арэшніку і ядлоўцу. Выспа была нешырокая і асабліва патаемных куткоў тут было няшмат, да таго ж мужчыны іх усе добра ведалі. Але дзе яны ні шукалі, усюды было пуста — ніякіх адзнак, што там схаваўся юнак. Трапляліся, праўда, ягоныя сляды, але даўнія, не сённяшнія.

— І куды ён зашыўся, не пад зямлю ж? — бурчалі мужчыны, зноў беручыся перашукваць выспу.

І тут яны заўважылі дзядка, якога пакінулі сторажам каля даўбёнкі. Дзядок спяшаўся да іх з надзвычай разгубленым выглядам. За колькі крокаў ад загону ён задыхана выгукнуў:

— Чоўна няма!

— Як, няма? — страпянуліся мужчыны.

— Няма! Як пад ваду пайшоў!

— І як гэта здарылася? — пачалі яны распытваць у дзядка, калі прыбеглі на апусцелы бераг.

— Сяджу каля чоўна, чакаю. А вас усё няма і няма, ажно нудзіцца пачаў. А тут адно чую, у арэшніку нешта зашастала. Ждан, думаю, затаіўся. Вось тут яго і злаўлю. Я — туды. Палазіў па кустах — нікога. І тут мяне быццам кальнула што — каб якой бяды не здарылася. Выбег з арэшніку, зірнуў на бераг і абамлеў — даўбёнкі як і не было...

Угледзеліся мужчыны ў пясок — каля шырокай умяціны ад чоўна вільгатнелі ўжо знаёмыя да драбніц адбіткі босых Жданавых ступакоў. Гэта ён, паршывец, мабыць, каменьчыкі кідаў у кусты, каб звабіць туды старога, а сам сапхнуў даўбёнку ў ваду і знік з ёю ў трыснягу.

Вось будзе сораму на ўсё наваколле, калі хлопец надумаецца паплысці ў паселішча, пакінуўшы іх на выспе. Смеху і кпін не абярэшся.

— Ждан, не дурніся! Аддай човен! — гукалі мужчыны ў трыснёг.

Той толькі шапацеў сваім вузкім лісцем.

— Так і быць,— пачалі здавацца «экзаменатары»,— ты перамог — мы цябе не здолелі знайсці!

— І праўда, сынку, выплывай. Хопіць жартаў! — гукнуў і бацька.

І тады мацней зашапацеў трыснёг, і з яго высунуўся човен, у якім сядзеў Ждан. На ягоных сцёгнах была плеценая лубяная апаяска, за ёю тырчэў крамянёвы нож. З пляча юнака звісала заечая шкурка. І хоць гэта і не было мядзведжае футра, але Ждан усё адно зараз выглядаў сапраўдным паляўнічым.

— Хітры ты, Ждан,— дабрадушна бурчаў шыракатвары, заграбаючы вяслом, калі вярталіся з Выспы Выпрабаванняў.— Але і лупцоўкі табе не шкодзіла б. За непавагу да старэйшых.

А бацька не выцерпеў і запытаўся:

— А на той Выспе Мерцвякоў... як там?

— А я да яе не даплыў. Пад самым берагам страх узяў...

— І правільна зрабіў,— пагадзіліся мужчыны.— Хай з чужымі духамі разбіраюцца светары, а наша з табою справа — на тура ды мядзведзя хадзіць, зямлю ад чужынца бараніць, ячмень сеяць. Ды і ці мала ў нас мужчынскіх заняткаў.

*

*— Калі не памыляюся, усе гэта этнографы на лацінскай мове называюць ініцыяцыяй — пасвячэннем.*

*— Не, не памыляешся, Іван Пятровіч. І зараз у жыцці юнака ці дзяўчыны ёсць такія рубяжы, калі яны «юрыдычна» становяцца паўнапраўнымі дарослымі — атрымоўваюць пашпарт, могуць жаніцца або выйсці замуж, адказваюць за свае ўчынкі перад законам, пачынаюць працаваць і гэтак далей. Нешта падобнае адбывалася і ў старажытнасці. І гэты пераход у дарослацсь быў важным этапам і суправаджаўся адпаведнымі дзеяннямі і абрадамі пасвячэння. Пры гэтым пасвячаемага падвяргалі розным выпрабаванням.*

## ДЗІВАК ВЯЧОРКА

— Усё забаўляешся драўляшкамі, а твае аднагодкі ўжо даўно на паляванне ходзяць, мяса дадому прыносяць,— упікнула аднойчы маці свайго сына.

Суседзі таксама пакеплівалі, а некаторыя і бурчалі:

— Займее сям'ю і трэба будзе стаць яе кармільцам ды і бацькам, калі састарэюць, дапамога спатрэбіцца, а ён, як кабета, баіцца парсюка закалоць ці авечку зарэзаць. І ў лесе з лукам яго не ўбачыш.

Крыўдна робіцца Вячорку за такія словы, бо ён не быў баязліўцам. Калі леташняй зімою мядзведзьбадзяга ўламаўся праз загароду ў быдла, хіба не ён, Вячорка, першым з дзідай кінуўся на яго? Але ён не мог падысці з касцяным кінжалам да кабанчыка, якога сам выгадаваў з пацешнай малечы, або з нажом да барана, якога калісьці зімою адаграваў у хаце каля агнішча і цішком ад маці ласаваў кавалачкамі праснака.

Ды папрокі маці падзейнічалі, і Вячорка, уздыхнуўшы, сабраўся на тое паляванне. Пайшоў не з мужчынамі ў загон на лясных коней-тарпанаў, а адзін — на бераг ракі, дзе ведаў зацішны звярыны вадапой.

Выйшаў пад раніцу, калі начныя цені пасвятлелі і сталі лілова-шэрымі, а ў буйных кроплях расы ўжо адбівалася злёгку паружавелае неба. Пакручастымі сцежкамі, дзе чалавечымі, а дзе і звярынымі, трапіў на рачны бераг і затаіўся пад касагорам у хмызняку.

Лёгкі ток паветра нёс ад ракі саладкаваты пах цвітучай чаромхі, зараснікі якой, быццам успененыя, бялеліся побач. У кусце ля самай вады пералівіста зацёхкаў салавей. Услухаўшыся ў ягоную песню, хлопец налічыў ажно сем каленаў і ўзрадаваўся — такога майстра чуў упершыню. У бок возера шумна праляцела качыная пара. Высока ў асінніку зацінькалі сініцы. Разам са світанкам прачыналіся лес і ўсё наваколле.

На супрацьлеглым недалёкім беразе пачаўся нейкі рух. З хмызняку выткнулася пушыстая мордачка і натапыраныя доўгія вушы. Мордачка паразглядалася ў бакі, павадзіла вушамі, ловячы падазроныя гукі, а затым да вады кароткімі скачкамі прашалэпаў і сам заяц. Звярок напіўся, і толькі паляўнічы пачаў нацягваць цеціву, як шарак, які намачыў свае вусы, стаў слупком і пачаў заўзята выціраць іх лапамі; дакладна, як Вячоркаў дзядзька. Хлопец не ўтрымаўся і ціхенька хіхікнуў, затуляючы рот рукою, але заяц пачуў і вялізным скачком шаснуў у кусты, толькі з-пад лап сыпануў у ваду пясок. Уцякла

здабыча, але Вячорка і ўзрадаваўся гэтаму — няхай бегае, няхай жыве касавокі!

Праз нядоўгі час на бераг выйшла натапыраная кабаніха, а за ёю высыпалі паласатыя, як жукі, парасяты, якія віскаталі, тоўхаліся лычыкамі, муцілі ваду і ўзрывалі пясок. І зноў у Вячоркі не паднялася рука выпусціць стралу.

А потым затрашчала галлё і непадалёку ад паляўнічага ў ваду, узбіваючы пырскі, усунуўся лось і пачаў гучна піць. Ен стаяў якраз бокам да чалавека. Заставалася толькі кінуць дзіду, і яна ўвап'ецца якраз пад лапатку звера, дзе сэрца. Але Вячорка забыўся на дзіду. Як зачараваны, ён глядзеў на гарбаносую галаву жывёліны, упрыгожаную шырачэзнымі рагамі, быццам растапыранымі пясцямі нейкага велікана, любаваўся дужай постаццю. І міжволі прыйшлі ў рух Вячоркавы пальцы. Яны апісвалі ў паветры выразны профіль лася, абмалёўвалі яго рогі, спіну, доўгія ногі. У тэту ж хвіліну праз лясную прагаліну засвяціла сонца і адлюстравалася ў рацэ. Сляпуча-чырвонае, як начышчаная медная бляха, пляма пераломвалася і рассыпалася на хвалях.

Скончыўся вадапой, апусцеў бераг, а Вячорка ўсё яшчэ не меў здабычы. І калчан ягоны па-ранейшаму быў туга наладаваны стрэламі.

Дадому Вячорка прыйшоў туляючыся за дрэвамі, каб не трапіцца на вочы родзічам і суседзям. «Зноў з пустымі рукамі»,— пачалі б кпідь з хлопца. Добра, што не было дома і маці — мабыць, збірала шчаўе. Сестры таксама некуды сышлі. Толькі ў куце хаціны ціха пакехкваў глухі і нямоглы дзед.

Вячорка пакапаўся ў лазовым кошыку, выцягнуў з яго кавалак аленевага рога, некалькі крамянёвых разцоў і нажоў. Усё гэта запіхнуў у скураную торбу. Потым зноў выйшаў з вёскі і малапрыкметнай сцежкаю, мінаючы калючы ялліннік з вываратамі, падаўся ў пушчу. Там быў даўно ім нагледжаны ўтульны куточак у западзіне паміж двума ўзгоркамі, дзе з-пад каранёў высахлай ад старасці хвоі выбівалася звілістая крынічка. Над крынічнай каля сухастоіны цямнела стрэшкай з яловых лапак павець. Перад ёю чакала агню вогнішча.

Вячорка сунуў пад павець торбу, сабраў сухога ламачча, выграб з глыбіні вогнішча некалькі гарачых вугалёў і раздзьмухаў агонь. І як толькі ўгарэлася ламачча, каля суседняга арэшніку зашамацела лісце, і адтуль, дробна валюхаючыся, выбег вожык. Спыніўся воддаль і задраў востры лычык. Вячорка выцягнуў з-за пазухі прыхоплены з сабою леташні жолуд і асцярожна падкінуў яго пад вожыкаву пыску. Звярок абнюхаў жолуд, потым зашчаміў яго ў зубы і зноў патрусіў пад

куст. Хлопец засмяяўся ўзрадаваны, што вожык памятае яго і зноў прыбег па ласунак, да якога прывык з самай гэтай вясны.

Вячорка паслухаў лясную align разнагалосіцу птушыных спеваў. Паўзіраўся ў адмысловы малюнак трэшчын на голым камлі сухастоіны. Потым сеў каля вогнішча на зялёны ад моху камень і пачаў разаграваць над жарам рог. Калі той размякчэў, Вячорка, мяняючы то нож, то разец, пачаў штосьці выразаць з яго, яшчэ незразумелае чужому воку. Калі рог астываў, тады рабіўся цвёрды, як дуб, і хлопец зноў падсоўваў яго бліжэй да агню.

Пад канец дня Вячорка адчуў голад. Схадзіў на недалёкае балота, назбіраў на качыных гнёздах яек і напёк іх у прыску. Вячэру запіў халоднаю вадой з крынічкі. Потым, калі пачало цямнець, забраўся на хвою, дзе ў расохах з галля быў зладжаны насціл, як уладкавацца аднаму чалавеку. Прывязаўся да дрэва раменным паскам, каб не зваліцца ноччу, і ўмасціўся спаць.

Назаўтра з самай раніцы Вячорка зноў узяўся за працу. Грэў рог, рэзаў яго разцом, скабліў нажом, падсякаў, дзе трэба, сякеркай. І паступова ў нарыхтоўцы пачаў угадвацца абрыс ласінай галавы. Затым дзюбкай разца хлопец акрэсліў авал звярыных вачэй, пазначыў нарэзкамі поўсць пад скіўцай, яшчэ прайшоўся па контуры вушэй, больш выразнай зрабіў лінію рота. І вось, нарэшце, на вячоркавай далоні ляжала адпаліраваная дробным пясочкам галава звера. І быццам жывыя глядзелі на мастака выпуклястыя ласіныя вочы, цяплом дыхалі шчыліны храпаў, пудка струніліся вушы. І зноў так яскрава ўявіў хлопец таго ляснога прыгажуна, убачанага ўчора на ранішнім вадапоі. І ажно задрыжэў ад шчасця, што яму ўдалося вось на гэтым кавалку рога перадаць воблік звера. Лось, жывы лось нарадзіўся пад пальцамі Вячоркі. І лася гэтага можна трымаць у руках, лашчыць яго гладкую і цёплую галаву!

Вярнуўся Вячорка дадому стомлены, але шчаслівы. Паклаў каля сябе на лежаку ласіную галоўку і заснуў. Прыйшла з градак, дзе выполвала з іншымі жанчынамі ранняе пустазелле, маці, паглядзела на спячага сына, потым заўважыла выробку. Узяла яе ў рукі і сама залюбавалася. І падумала, што дарма сварылася на сына. Бо лася кожны, толькі б сіла была ў руках, можа забіць, а вось зрабіць з рога такім, быццам жывы, ніхто ў іхняй вёсцы не здолее. Нават у ведзьмара, у якога мноства такіх выразаных з дрэва і рога выяў ласёў, качак, вужоў, якім той маліўся, яны былі горшыя.

Маці ціха, каб не разбудзіць сына, дастала з-пад лежака кошык і пачала перабіраць фігуркі, змайстраваныя сынам раней. Не, сённяшняя была найлепшай!

Не ўцерпела маці і пахвалілася суседкам новай вячоркавай выявай. Назаўтра пра гэта дачуўся вядзьмар і прыйшоў у іхнюю хаціну. Маці завіхалася каля госця, якога і паважалі ў вёсцы і пабойваліся. Бо хто ж не паважае чалавека, які лечыць шэптамі і травамі хваробы і знаецца з духамі. Але чаму і не баяцца таго, хто можа наслаць урок, немач, злыя і цёмныя сілы з-пад старых вываратаў ды з чорнага багнішча. Вядзьмар захоплена цмокаў шчарбатым ротам, аглядаючы ласіную галоўку, а потым папрасіў падараваць яму:

— Усялю ў яе дух Вялікай Ласіцы, нашай прародзічкі, і будзе гэта рэч аберагаць наш род ад хвароб і пошасці, дасць нам уладу над ляснымі жыхарамі.

І як тут не аддасі выробку, калі гэта трэба для дабра суродзічаў?

А праз нейкі час, калі пайшоў поголас, што ў далёкіх заазёрных паселішчах напаў на людзей мор, вядзьмар папрасіў выразаць драўлянага духа-ахоўніка, які адвёў бы бяду ад іхняй вёскі.

Вячорка некалькі дзён шчыраваў над ліпавай калодай і зрабіў гэтага духа — з глыбокімі вачніцамі, у якія ўставіў белыя камяні, з ашчэранымі, каб напалохаць хваробу, зубамі. І калі выяву ўкапалі перад паселішчам, аказалася, што яна вышэй чалавечага росту. І прыхажалыя з суседніх вёсак жахаліся і падалі перад ёю ніцма.

Узмужнеў Вячорка, а вядзьмар яшчэ пастарэў, стаў хваравітым. І ўсё часцей стаў браць мастакаразьбяра на сваю варажбу і замовы. Казаў яму пра таемную моц розных зёлак, вучыў закляццям, адкрываў таямніцы абыходжання з багамі і духамі. А перад часам, калі трэба было навекі адысці ў Краіну Вялікага Палявання, аб'явіў усім, што духі прызналі Вячорку пасярэднікам паміж сабою і людзьмі.

— Ну дык і няхай ён будзе ў нас за ведзьмара,— згадзіліся вяскоўцы.

І стаў Вячорка ведзьмаром. Стараўся ўсё рабіць на дабро і ніколі нікому не шкодзіў. І людзі любілі свайго ведзьмара і ніколечкі яго не баяліся. Нават дзеці.

*

*— Па праўдзе кажучы, такую рагавую галоўку лася мне знайсці не пашанцавала. А вось на стаянках Літвы і Латвіі, дзе, як і на поўначы Беларусі, у новым каменным і бронзавым вяках жылі блізкія па культуры плямёны, яны сустракаюцца, і надзвычай дасканала зробленыя. Мне ж трапілася на старажытным тарфянікавым паселішчы пад Бешанковічамі статуэтка самога лася, але галава ў яго была схематычная. А вось фігуркі людзей знаходзіў цудоўныя —*

*драўляныя і касцяныя, з выразна акрэсленымі тварамі, велікавокія, барадатыя.*

*Усе гэтыя скульптурныя выявы, таксама як і арнаменты на посудзе і касцяных вырабах, розныя ўпрыгожанні чалавечага цела і вопраткі, адлюстроўвалі рэлігійныя ўяўленні першабытнага чалавека. Тыя ж статуэткі хутчэй за ўсё адпавядалі вобразам духаў, міфічных герояў, продкаў. Адначасова яны з'яўляюцца і творамі першабытнага мастацтва, бо рабіліся з вялікай любоўю, а нярэдка і талентам.*

*Заўважана і такая цікавая асаблівасць — у старажытным каменным веку чалавечыя, ці антрапаморфныя, выявы мелі вельмі схематычна выражаныя галовы, пераважна без рысаў твару. У канцы ж каменнага веку і ў эпоху першых металічных вырабаў у статуэтках найбольш дасканала і рэалістычна выразбленымі робяцца галовы з перадачай індывідуальных рысаў твару.*

*— А чым гэта тлумачыцца?*

*— У самай глыбокай старажытнасці, калі пераважала калектыўнае загоннае паляванне, чалавек адчуваў сябе неад'емнай часткай калектыву — першабытнага гурта, а потым — роду. Па-за гуртам нельга было ні пракарміцца, ні збудаваць моцны будан, каб перачакаць лютыя па тых часах зімы. Таму ў старажытным каменным веку індывідуальнасць асабліва не праяўлялася не выдзялялася. Акрамя таго, напачатку людзі не выдзялялі сябе і з жывёльнага свету. Успомнім, што розныя плямёны, як лічылі яны самі, вялі сваё паходжанне менавіта ад жывёл — мядзведзяў, ваўкоў і гэтак далей. Таму тагачаснага чалавека ў суродзіча ў першую чаргу і цікавіла жывёльнае, біялагічнае — здабыванне мяса, прадаўжэнне роду. А вось пазней, з распаўсюджаннем лука са стрэламі, вырасла роля індывідуальнага палявання. Спрытны паляўнічы і без дапамогі мог пакласці самага вялікага звера. Ен мог пратрымацца ў пушчы і адзін! Акрамя таго, у бронзавым веку ўскладнілася гаспадарчая і адпаведна мысліцельная дзейнасць чалавека. Паявіліся адносна заможныя лідэры, нават багатыя сем'і. Чалавек ужо ўсвядоміў сваю вышэйшасць над жывёльным светам, і сваю адметнасць сярод суродзічаў.*

## ДЗІЦЯЧЫЯ ЗАБАВЫ

«Зубр» кружляў па хмызняку, заблытваючы сляды. Зрабіць гэта было не лёгка, бо на пяску між лазовых кустоў заставаліся не толькі «зубрыныя» сляды, але нават і мышыныя. Таму ён стараўся: то ішоў,

адступаючы задам, то бег, пераскокваючы праз ніжэйшыя кусты, то рабіў вялікі скачок убок, затым вяртаўся на ранейшы след. Прайшоўшы па ствале вываpаці, нарэшце зашыўся ў куст ядлоўцу і заціх.

Праз нядоўгі час ад рэчкі грымнулі дружныя воклічы, і «паляванне» пачалося.

«Зубр» чуйна прыслухоўваўся, як то набліжаецца, то зноў аддаляецца «паляўнічы загон». І толькі глыбей уцягваў у плечы калматую галаву, калі галёканне чулася зусім побач.

Нарэшце «звер» прыкмеціў, як на прагаліну перад ядлоўцам выйшлі напаўголыя загарэлыя «паляўнічыя», размахваючы лукамі і дзідамі. Яны спыніліся перад паваленым дрэвам, бо след тут прападаў.

Адзін з загона адбегся ўбок і радасна загукаў:

— Знайшоў след! Во ягоны след зноў!

«Зубр» з палёгкаю перавёў дыханне — «паляўнічыя» папаліся на ягоную хітрыку і павярнулі ўбок.

Ішоў час і «зубру», нарэшце, надакучыла сядзець у кусце, дзе яго пачалі апаноўваць авадні. Тады ён набраў у лёгкія пабольш паветра і раўнуў. Галасы «паляўнічых» заціхлі. Загон, бачна, прыслухоўваўся. Тады «зубр» зароў яшчэ раз.

Загон разгарнуўся ў шырыню і пачаў прачэсваць лес у напрамку рыкання, бо знайсці «звера» па слядах страцілі надзею. «Паляўнічыя» зноў выйшлі на прагаліну. Зараз яны кіраваліся проста на ядловец, і «зубр» зразумеў, што яго знойдуць. Падпусціўшы праследвальнікаў як мага бліжэй, ён раз'юшана зароў і кінуўся ўперад. «Звер» збіў з ног бліжэйшага «паляўнічага» і прарваўся скрозь загон. Але калі амаль ужо перабег прагаліну, у бок яму пацэліла страла.

— Мы забілі цябе! — узрадавана закрычалі хлопчыкі, што былі за «паляўнічых».

— А гэта не лічыцца,— спыніўся хлопчык-«зубр», падымаючы з пяску цацачную стралу.— Каб я не падаў голас, вы б мяне не знайшлі!

— А вось і знайшлі б!

— І не знайшлі б!

Спрэчка разгаралася і магла б скончыцца бойкаю, каб не прыбег, засопшыся, яшчэ адзін хлопчык.

— На Чырвоным беразе дзяўчаткі!— замахаў ён рукамі.— Нешта лепяць.

— Нападзём на іх,— тут жа рашылі хлопчыкі.— Быццам мы воіны з чужога племені!

Там, дзе рака рабіла крутую луку, вада падмывала высокі ўзгорак. У ім пад пяском агаляўся пласт тлустай чырвонай гліны. Таму, мусіць, бераг і зваўся «Чырвоным».

Дзяўчаткам, якія зараз там былі, таксама хацелася пагуляць, як і іх аднагодкам хлопчыкам. І яны любілі пабегаць, пападскокваць, пашукаць на дрэвах птушыныя гнёзды, нацягаць з-пад берага ракаў. Але пераважна ў іх гульні былі свае, не хлапчукоўскія. Яны не забаўляліся ні ў паляўнічых, ні ў вайну, не майстравалі лукаў і не ганяліся адна за адной з самаробнымі дзідамі. Дзяўчаткі найчасцей гулялі ў гаспадынь, ляпілі што-небудзь з пяску, падкідалі і лавілі каменьчыкі, рабілі з лаcкуткоў лялькі ці плялі з кветак вянкі. А зараз яны прыйшлі на Чырвоны бераг, каб наляпіць з гліны цацачнага посуду. Яны выдзіралі з берага камякі вільготнай гліны і штукавалі з іх розныя гаршчэчкі і кубачкі. А некаторыя рабілі цацачных каровак. Гатовыя вырабы клалі на санцапёк, каб высахлі.

Хлопчыкі кустоўем непрыкметна падкраліся да Чырвонага берага, а затым з ваяўнічымі крыкамі кінуліся ўперад:

— Вайна! Вайна! Мы захапілі вас у палон!

Дзяўчаткі спачатку былі перапалохаліся, але, калі ўбачылі, што напаснікі — малеча з іхняй жа вёскі, нарвалі крапівы і кінуліся абараняць свае цацкі.

— Крапівой — гэта не па праўдах,— апраўдваліся адзін перад адным хлопчыкі, у спешцы пакідаючы «поле бою».— Каб не крапіва, то была б наша перамога.

Смылелі абджыганыя плечы і ногі, і гэта быццам надало дураслівцам разважлівасці. І ўсе яны раптам дружна ўспомнілі, што ўжо захацелася есці, што маці прасілі нарваць травы парасятам, што тамусяму было загадана прыглядзець за малымі брацікамі і сястрычкамі, а некаму бацька казаў не адыходзіцца ў лес. Успомніўшы пра гэта, прыцішанай грамадою падаліся дадому.

Перад самай вёскай, абгінаючы рачную затоку, натрапілі на качыны вывадак. Качаняты, якія яшчэ не ўмелі лётаць, порстка кінуліся ў траву, а хлопчыкі з вясёлым смехам пачалі іх лавіць.

— Хапай сталую кацку! — раптам картава залемантаваў наймяншы з хлопчыкаў.— Яна ланеная!

І праўда, маці-качка трапяталася ў траве і ніяк не магла ўзляцець. Хлопчыкі пакінулі ў спакоі птушанят і кінуліся да яе, бо гэта была лепшая здабыча. І калі ўжо некалькі рук працягнулася, каб схапіць птушку, яна нязграбна ўзнялася на крыло і адляцела крокаў на дзесяць убок. Так паўтаралася некалькі разоў. Вось, здаецца, . ужо зловяць качку, але яна збіралася з сіламі і напаўлёту ратавалася ад праследавальнікаў. Нарэшце яна ўзнялася па-сапраўднаму, неяк своеасабліва закракала і паляцела над балотам.

— Дык гэта ж яна прытваралася. Ад малых адводзіла,— расчаравана даўмеліся хлопчыкі.

Вёска была побач, і хутка яны ўжо былі дома.

*

*— Тут пытанняў няма,— адклаўшы апошнюю старонку, сказаў Іван Пятровіч,— у дзяцінстве і мы так забаўляліся.*

*— Толькі замест «паляўнічых» і «зуброў» былі найчасцей «партызаны» і «немцы».*

*— Ну, такі быў час... Але я ўсё чакаю, калі ты мне, нарэшце, выкладзеш асноўны змест бронзавага веку на Беларусі, мовячы анатамічна — шкілет, на які нарастаюць «мышцы і скура» тваіх запісаў. Ісці ў бібліятэку і капацца ў адпаведных кнігах па гэтаму пытанню мне зараз бракуе часу. Так што, калі ты сёння яшчэ не вельмі стомлены, то я цябе паслухаў бы. Можаш і ў самым сціслым выглядзе. Думаю, для мяне будзе дастаткова.*

*— Бронзавы век таму так і называецца, што паявіліся бронзавыя вырабы. Але іх, як ты ўжо ведаеш, на Беларусі было зусім мала. Таму крэмень па-ранейшаму заставаўся асноўнай сыравінай для прылад працы. Для гаспадаркі бронзавага веку характэрна паўсюднае распаўсюджанне жывёлагадоўлі і земляробства. Апошняе было звязана з высяканнем і выпальваннем лесу — на нашых зарос лых пушчамі землях інакш было нельга. Аднак важную ролю адыгрывалі і спрадвечныя заняткі — паляванне, рыбацтва і збіральніцтва. Людзі ў гэты час навучыліся рабіць каменныя шліфаваныя сякеры з прасвідраванымі для рукаятак адтулінамг, ляпілі пласкадонны гліняны посуд, аздабляючы яго разнастайнымі арнаментамі.*

*Адбыліся істотныя змены і ў светапоглядзе тагачаснага чалавека. Распаўсюдзіліся рэлігійныя культы, звязаныя з абагаўленнем нябесных свяцілаў, плоднасці зямлі, жыццёвай моцы раслін і жывёл. Такім чынам, светапогляд адлюстроўваў змены ў гаспадарчых занятках, звязаныя з узрослай роллю жывёлагадоўлі і земляробства. Гэтыя два заняткі, а таксама дарагія бронзавыя вырабы прывялі да назапашвання ў руках асобных родаў ці нават сем'яў лішкаў рэчаў і прадуктаў. Такім чынам, зараджалася маёмасная няроўнасць. Л ы я ж земляробства і жывёлагадоўля пачынаюць выстаўляць на першае месца ў чалавечай супольнасці мужчын. Ім належыць зараз першае слова ў вырашэнні грамадскіх спраў, у пытаннях наследавання маёмасці.*

*Бронзавы век на Беларусь пачаўся ў самым пачатку другога тысячагоддзя да нашай эры, калі сюды пранікла насельніцтва куль-*

*туры шнуравой керамікі, ва ўжытку якога ўжо былі некаторыя металічныя вырабы.*

*— А што ў дадзеным выпадку трэба разумець, пад паняццем «культура»? — перабіў мяне Іван Пятровіч.*

*— Пад археалагічнай культурай мы разумеем сукупнасць рэшткаў жыццядзейнасці людзей пэўнага перыяду на акрэсленай тэрыторыі — жытло, прылады працы, упрыгожанні, посуд, а таксама асаблівасцей іх светапогляду, выяўленага ў пахавальным абрадзе, арнаментах, культавых рэчах. Мяркуецца, што археалагічныя культуры ад люстр ойваюць колішняе існаванне розных этнічных груп насельніцтва, напрыклад, старажытнейшых славян, балтаў, германцаў.*

*Прышлыя «шнуравікі» сутыкнуліся з мясцовым позненеалітычным насельніцтвам і працяглы час з ім суіснавалі. Такое суседства прывяло да ўтварэння ў сярэдзіне другога тысячагоддзя сярэднябронзавых культур. Сярод іх важнейшымі лічацца тшцінецкая і сосніцкая культуры, помнікі якіх займаюць паўднёвую Беларусь. Дарэчы, носьбітаў гэтай першай часам звязваюць з непасрэднымі продкамі славян. Поўнач Беларусі ў пачатку бронзавага веку засялялі плямёны паўночна-беларускай культуры. Яны тут былі спрадвечныя, яшчэ з неаліту. «Шнуравікі» толькі злёгку іх «падфарбавалі». У канцы бронзавага веку нашу тэрыторыю засяляла насельніцтва культур, асноўнае развіццё якіх прыпадае на наступную эпоху — ранні жалезны век, які пачаўся каля сёмага стагоддзя да нашай эры.*

## ЧОРНАЯ СМЕРЦЬ

Неяк у час далёкай паляўнічай вандроўкі натрапілі на лясное возера. Берагі яго былі пясчаныя і светлыя, а навакол распасціраліся багатыя непалоханай дзічынай лясы і балоты. У возеры ажно кішэла ад рыбы. І галоўнае, сюды яшчэ не траплялі людзі — нідзе не было ні чалавечых слядоў, ні межавых метаў-засечак на дрэвах. Мясціна, адным словам, была зручная для жылля, таму сюды і перасялілася некалькі сем'яў.

Спачатку на азёрным беразе зладзілі пару хацін. Праз гады, калі падраслі дзеці і завялі свае сем'і, вёсачка пабольшала. Так і жылі, не маючы вялікіх клопатаў, з палявання на дзічыну і рыбнай лоўлі. Расчысцілі, выпалілі чарназёмную прыбалаць і пачалі сеяць на ёй ячмень. У загародах трымалі такую-сякую свойскую жывёлу. У берагавых восыпах часам знаходзілі крэмені, з якіх рабілі прылады працы. Калі ж крэменю не хапала, майстравалі наканечнікі стрэлаў і кінжалы

з костак. Абыходзіліся ўсім сваім, але сувязей з роднымі мясцінамі, дзе жылі іншыя роды іхняга племені, не перарывалі. Там засталіся родзічы, адтуль бралі жонак, туды выходзілі замуж.

Хоць рэдка, але ў паселішча на лясным возеры прыходзілі ў адведкі і госці, асабліва зімой, калі замярзалі рэчкі і балоты.

Але вось зараз і зіма канчаецца, а ніхто штосьці не наведваецца сюды. Занепакоіліся азёрцы, каб што там не здарылася з іхнімі родзічамі. Можа, якая вайна пачалася з суседнімі плямёнамі? Пачакалі яшчэ з тыдзень і выправілі ў шлях трох маладых мужчын, каб даведацца, што там робіцца на шырокім свеце.

Цэлы дзень ішлі азёрцы замерзлай ракой. Вечарам зрабілі на беразе прытулак з ялінавых лапак. абклалі яго снегам. Было цесна, але даволі цёпла. У ім і пераначавалі.

Назаўтра павярнулі ўбок, у заснежаную пушчу, і ўжо пад абед дабраліся да высокіх рэдкалесых узгоркаў і з аднаго з іх убачылі далёка ўперадзе белую звілістую палосу ў шырокай нізавіне — замерзлую і заснежаную раку, каля якой і жылі іх родзічы.

Сярод зімы надарылася некалькі адліг, таму снег быў аселы і цвёрды. Ішлося легка. А зараз, калі да мэты заставалася не так і шмат, азёрцы яшчэ прыспешылі крок.

Паніжэла. Сталі трапляцца замеценыя снегам рачулкі і балотцы-старыцы. Але чым бліжэй падыходзілі трое мужчын да ракі, тым больш пачыналі трывожыцца — навокал было поўна звярыных слядоў, цэлыя сцежкі. І ні аднаго чалавечага!

Няўжо тутэйшыя людзі так цэлую зіму невылазна і праседзелі на рацэ, харчуючыся рыбай, што лавілі пад лёдам? Хіба ў пушчы не ставілі на ласёў самастрэлы, сілкі на зайцоў, не ганяліся за лясной дзічынай з лукам і дзідай? Не, тут штосьці было не так...

І каля самай вёскі не было чалавечых слядоў. І ні дымку нідзе, ні голасу, ні сабачага брэху. Толькі за спіной азёрцаў трывожна гуў у вяршалінах дрэў вецер.

Праз хмызы выбраліся на прыбярэжны чысцяк і спыніліся. Перад імі была вёска. Вастраверхія хаціны, накрытыя трыснягом і карой, цясніліся ўздоўж берага побач з пахілымі вербамі.

Падышлі да крайняй хаціны. Пад плеценыя з лазы і ўцепленыя скурамі дзверы намяло гурбу снегу; і даўно, бо быў зляжалым. Давялося дрэўкам дзіды разбіваць яго на кавалкі і адкідваць убок. Нарэшце ўдалося прыадчыніць дзверы,і адзін з азёрцаў усунуўся ў шчыліну. Яго вочы з цяжкасцю разгледзелі ў паўзмроку заледзянелае агнішча, нізку лісіных скурак пад страхой, лежакі ўздоўж сцен, а на іх — людзей. І калі ўгледзеўся ў твары людзей, з жахам выскачыў з хаціны:

— Яны мёртвыя! Іх забіла Чорная смерць!

Пры гэтых словах азёрцы кінуліся бегчы з паселішча, быццам за імі гнаўся статак раз'юшаных зуброў. І толькі на ўскрайку пушчы супыніліся, выцягнулі з-пад вопраткі драўляныя фігуркі духаў-ахоўнікаў, сталі шаптаць закляцці.

Калі аддыхаліся і страх крыху прайшоў, бо ад вёскі былі ўжо далекавата, старэйшы азёрац запытаў у таго, што быў у хаціне:

— А ты не памыліўся?

— Каб я не пабачыў сваіх бацькоў! У іх былі пачарнелыя твары, усе ў язвах!

— Што ж будзем рабіць? — непакоіўся трэці азёрац.— Чорная смерць падкрадаецца нябачна. Ідзе ад вёскі да вёскі і няма ад яе ратунку. Дзед расказваў, як калісьці вось так вымерлі ўсе людзі з суседняга роду. Да апошняга чалавека. І ў іншых родах яна шмат каго забрала. Выжыў толькі той, хто адразу ўцёк у пушчу. А далей на поўнач увогуле была апусцела зямля... І як мы зараз вернемся дадому? Яна будзе красціся па нашых слядах і прынясе пагібель і ў нашу вёску. Яна ж ужо на руках у Лася, бо ён заходзіў у хаціну!

Лось здрыгануўся і памярцвелымі вачамі паглядзеў на свае рукі, быццам на іх ужо былі знакі непапраўнай бяды. Астатнія ж азёрцы пацiснуліся ўбок ад яго,— ужо асуджанага, аддадзенага Чорнай смерці.

— Я ведаю паратунак,— рашуча прамовіў старэйшы.— Чорная смерць баіцца агню. Яна адступае перад ім. Так казаў наш вядзьмар.

Трэннем двух кавалкаў сухога дрэва азёрцы здабылі агонь і расклалі вогнішча. Затым на пашкоджаных хваёвых камлях назбіралі жывіцы і паклалі яе на полымя. Смала плавілася і з трэскам гарэла, а мужчыны пачалі ўторкваць у гаручую жывіцу канцы стрэл і выпускаць іх па хацінах. Стралялі, слаба нацягваючы цеціву, каб у хуткім палёце не збівалася полымя. Стрэлы паволі апісвалі высокую луку, пакідаючы за сабою дымны след, і ўпіваліся ў чаратовыя стрэхі. Успыхнула адна хаціна. Затым другая. Хутка занялася агнём і дымам уся веска. Аднекуль прыбег здзічэлы сабака і па-ваўчынаму завыў, гледзячы на пажар.

Калі агонь увабраўся ў самую моц, з трэскам і гулам пажыраючы чалавечае жытло, Лася пакінула здранцвенне. Не развітваючыся, толькі кінуўшы на былых таварышаў затуманены пагляд, ён, хістаючыся, павольна рушыў да агню. Астатнія ж азёрцы зніклі, не азіраючыся, у пушчы.

Вярталіся мужчыны дадому кружным шляхам, заблытваючы сляды. Некалькі разоў на сваім шляху раскладвалі вогнішчы і пераступалі

праз агонь. І невядома, што дапамагло, але на гэты раз бяда мінула вёску на далёкім лясным возеры.

*

*— Тут, як медык, я магу цябе і дапоўніць. Эпідэміі хвароб ажио да нядаўняга часу былі страшэнным бічом чалавецтва. Напрыклад, у чатырнаццатым стагоддзі ад чумы вымерла амаль палова насельніцтва Еўропы. Хвароба, пачаўшыся на Далёкім Усходзе, праз Кітай і Індыю вясной 1347 года трапіла ў Еўропу. У Італіі, напрыкладз тысячы жыхароў тады выжываў толькі дзесятак. Думаю, што ў бронзавым веку было не лепш.*

*— Адкуль жа яно магло быць лепш? Лячыліся ж толькі травам і ды замовамі. Можа толькі эпідэміі не так лютавалі, бо рэдкае было насельніцтва, розныя групы яго мала паміж сабой кантактавалі. Ды і без эпідэмій бяды хапала. Каля пасёлка Краснасельскага на Росі ў адной крэменездабыўнай шахце было знойдзена пахаванне мужчыны. Ці не супляменнік гэта быў старога Крэма? Па костках вызначылі, што небарака пакутаваў запаленнем зубоў, меў адклады солей у хрыбетніку, а памёр, бачна, ад нейкага захворвання костак. Не кажу ўжо, колькі разоў пры жыцці хварэў з прастуды!*

## МАЛЫ ГАСПАДАР ТАРФЯНІКАВАЙ ВЁСКІ

Старэйшыя разышліся хто куды. Мужчыны пабралі мярэжы і паплылі за выспы — гэткай парой там збіраліся касякі сялявы. Жанчыны пайшлі на затоку збіраць паспелыя вадзяныя арэхі. Падлеткі таксама былі занятыя — хто пасвіў жывёлу на прыазёрнай лугавіне, хто дапамагаў старэйшым, а некаторыя падаліся ў грыбы. Веташок таксама з ахвотаю пайшоў бы ў лес — ён ужо нагледзеў добрую баравіковую мясціну, але бацькі не пусцілі, сказалі: «Будзь з малымі, пільнуй селішча». І яшчэ розных абавязкаў надавалі, а самі пайшлі.

Веташок пакрыўдзіўся і з самай раніцы сядзеў у хаціне, стругаў крамянёвым ножыкам палачку і наракаў на свой нешчаслівы лёс. Было ціха і нудна навокал, ажно пакуль не трапіла ў павуцінне муха і не пачала басавіта гудзець. Хлопец схапіў галінку і пачаў шастаць у цёмным куце; муха змоўкла. Але яна хутка зноў абрыдліва заныла, і тады Веташок выйшаў на вуліцу. І ў пару: з-за суседняй хаціны выбег крываногі і замурзаны малы і закрычаў:

— Парасяты ўцякаюць! Нудна-санлівы настрой як рукою зняло. Веташок кінуўся за малым і ўбачыў, што віславухі парсючок ужо весела рыў лычам дзірван за загарадай, а пад зламаную жэрдку

ціснуўся на волю ягоны брат. Астатнія таксама, рохкаючы, мітусіліся побач, шукаючы выйсця са свайго зняволення.

Веташок спехам паправіў жэрдку, улупіў дубцом парасятам, каб супакоіліся, і кінуўся да віславухага, растапырыўшы рукі. Малыя, а іх у вёсачцы было з паўдзесятка, узяліся дапамагаць Веташку. Парсючок жа падумаў, што пачынаецца вясёлая забава, і з падскокам паімчаў паміж хацін. Шум і вэрхал распачаўся навакол — крычалі і смяяліся дзеці, віскаталі парасяты, брахаў і рваўся з прывязі сабака. І ніяк таго віславухага не ўдавалася злавіць, бо нават, калі яго хапалі за вушы, ён вырываўся з дзіцячых рук.

І тады хлопец даўмеўся, што рабіць. Ен прынёс з бацькоўскай хаціны старую, але яшчэ моцную сетку. Яе расцягнулі паміж будынкамі і загналі ў пастку свавольніка.

Усадзіўшы ўцекача ў загараду, Веташок загадаў дзецям назбіраць парасятам травы. Гэтыя ловы парсючка, які мог збегчы ў лес проста ў зубы ваўку ці рысі,— што б тады ён вечарам сказаў старэйшым — абудзілі ў хлопца пачуццё адказнасці. Зараз ён адчуваў сябе чалавекам, які павінен клапаціцца і пра малых, і пра парсючкоў у загарадзе, і пра сабаку.

Веташок прайшоўся берагам каля вёсачкі, выцягнуў з вады суседскага хлопчыка, што яшчэ слаба хадзіў, а ў возера вось ужо папоўз, шлёпнуў яго за гэта пару разоў ніжэй спіны. Затым наказаў дзецям, каб не адыходзіліся ў лес, бо там можна заблудзіцца. Навёўшы парадак на дварах і вулачцы, зазірнуў у адну хаціну, другую — што дзеецца там. У трэцяй, апошняй, якая стаяла пад лесам, учуў пах дыму.

Дымам пахла ў кожнай закуранай хаціне, да таго ж у агнішчах у тоўстых пластах попелу захоўваліся гарачыя вугалі, якія, каб распаліць агонь, выграбалі з глыбіні і раздзьмухвалі. Але тут пахла моцна і асабліва — гарэлым торфам.

Прыгледзеўся — з агнішча клубочкамі выкочваўся рудаваты сыры дымок. Старым дрэўкам ад дзіды хлопец паварушыў у попеле, і яно некачана легка пайшло ўглыб. Адтуль вылецелі іскры, і дыму адразу паболела.

Веташок жахнуўся — агнішча прагарэла і агнём узяўся торф, на якім і было збудавана іхняе паселішча! Тарфяны пажар страшней за лясны. Лясны праносіцца, як віхура, але хутка і абтухае. Торф жа будзе тлець і гарэць ажно да позніх восеньскіх дажджоў, да зімы. Выгарае ён у глыбіні, і тады ў вогненныя ямы правальваюцца людзі, жывёла, абсоўваюцца хаціны.

Ад страху ажно ворах прайшоў па спіне хлопца, і ён, ухапіўшы гліняны гаршчок, які трапіўся пад руку, пабег да возера, але хутка

зразумеў, што адзін ён тут нічога не парадзіць. Тады сабраў дзяцей, даў кожнаму ў рукі, каму — глінянае, каму — берасцяное начынне, і загадаў насіць ваду. Сам жа стаў каля агнішча, не падпускаючы малых блізка да пажару, пераймаў напоўненыя пасудзіны і ліў ваду ў дымны правал. У прагарыне шыпела. Адтуль уздымаліся клубы дыму і пары. Спачатку не было і знаку ад тушэння. Але паступова дыму стала менець і, нарэшце, пад самае паўдня, калі дзеці ўжо выбилсся з сіл, выгарына напоўнілася вадою і агнішча стала выглядаць, як брудная лужына.

Пасля абеду вярнуліся жанчыны, прынеслі поўныя торбы вадзяных арэхаў. І засталі яны някормленых парасят, якія ажно разрываліся ад віскату, і страшэнна выбруджаных і мокрых дзяцей. Кінуліся былі жанчыны лаяць Веташка, але, даведаўшыся, што адбылося ў вёсачцы, толькі ўзмахнулі рукамі і сталі цалаваць хлопца: « Ну і малайчына, Веташок!»

Назаўтра мужчыны вычарпалі з выгарыны чорную, змешаную з попелам і торфам жыжку, прынеслі з недалёкага ўзгорка зямлі і засыпалі яму. Потым надралі са старых ялін кары, намасцілі яе, зверху насыпалі тоўсты пласт пяску, каб агонь зноў не дабраўся да торфу. Так было зроблена новае агнішча. А ўжо жанчыны паклалі на агнішча сухіх дроў, у арнаментаванай магічнымі знакамі адмысловай пасудзіне прынеслі ад суседзяў жару і пад рытуальныя спевы і заклінанні адрадзілі, вярнулі да жыцця агонь. І наварылі вялізны, які толькі меўся, гаршчок толькі што злоўленай сялявы, і першаму рыбы паклалі Веташку.

З таго часу, калі дарослыя надоўга пакідалі паселішча, амаль заўсёды даручалі сачыць за парадкам Веташку. І ён больш не аднекваўся. Калі чоўны адплывалі далека на возера, хлопец паважна абыходзіў вёсачку, аглядаў кожны закутак і абавязкова зазіраў ў хаціны, супыняўся каля агнішчаў і прынюхваўся — ці не пахне паленым торфам.

*

*— Магу сказаць,— не ўцерпеў я пахваліцца, калі Іван Пятровіч скончыў чытанне,— што менавіта такое агнішча з пясчанай падсыпкай і вымасткай з пластоў кары мне давялося раскопваць са сваімі памочнікамі-школьнікамі на адной тарфянікавай стаянцы каля вёскі Асавец Бешанковіцкага раёна. Спачатку нават не мог зразумець, што гэта за такое мноства кары, ажно пакуль не натрапіў на попел і вугалі. Каля агнішча ляжалі раздушаныя вялізныя гаршкі. Іх удалося склеіць. Дык вось, у адным гаршку былі рэшткі жалу доў, у другім —*

*падсмажаныя вадзяныя арэхі. Непадалёку ляжаў плоскі камень з гладкім канавападобным паглыбленнем. На ім паліравалі і вастрылі каменныя, а можа і бронзавыя прылады. Калі прадоўжылі раскопкі ў бакі, выявілі кавалкі нахільных жэрдак, што ўтваралі каркас двухсхілай страхі. З гэтага мы і заключылі, што трапілі якраз на рэшткі хаціны.*

*Не кажу ўжо, колькі ў ёй знайшлі рознага дабра — крамянёвыя і касцяныя наканечнікі стрэлаў і дзідаў, нажы і кінжалы, сякеры і долаты, гарпуны і рыбалоўныя кручкі. Трапіліся гліняныя грузілы да сетак, берасцяныя паплаўкі, касцяныя лыжкі, драўляныя палонікі і мноства іншых рэчаў. На гэтай жа стаянцы мы знайшлі ўпрыгожанні з зубоў і прывазнога балтыйскага бурштыну, а таксама творы першабытнага мастацтва, пра што я ўжо крыху казаў — статуэткі людзей, птушак, жывёл і змей. І наогул, выявіць старажытную стаянку пад торфам — велізарная ўдача для археолага, бо ў бедным кіслародам асяроддзі захоўваюцца рэчы з арганічных матэрыялаў — дрэва, кары, костак, рога, нават з травы. А на звычайных стаянках, размешчаных на пясчанай паверхні, могуць уцалець толькі вырабы з каменю і гліны.*

*— А як усё гэта трапіла пад торф? Гэта была веска на с лупахпалях пасярод возера?*

*— Не, у нас пакуль што такіх паселішчаў не знойдзена. Тут уся справа ў кліматычных зменах. К сярэдзіне бронзавага веку наступілі дажджлівыя часы, узровень. вады ў азёрах пачаў паступова павышацца. Людзі перасяліліся на сушэйшыя мясціны, а затопленыя рэшткі іх ранейшых стаянак з часам затарфаваліся.*

## ПАСЕЛІШЧА НА ВЫСПЕ

Цямнела і пабліскваяла на паўднёвым небакраі з самай раніцы, але Буркун на гэта асабліва не зважаў. Дажджы лілі недзе далека, а ў вірку пад лазовым кустом надта ж добра сёння лавіліся акуні. На траве ляжаў ужо доўгі дубец з нанізанымі рыбінамі.

Захапіўшыся, хлопец і не прыкмячаў, як пачала падымацца ў рацэ вада, як яна ўядалася ў бераг, падмываючы старую хвою. Калі вада падступала да самых ног Буркуна, ён узбіраўся па касагору вышэй і зноў закідваў вудачку, сплеценую з воласу конскага хваста.

Але вось рыба перастала кляваць. З плёскатам абсунуўся ў ваду бераг. Тады хлопец агледзеўся і ўбачыў, жахнуўшыся, што мыс, на якім ён вудзіў, ужо ператварыўся ў выспу, адрэзаную ад берага хуткай плынню. Рака ўвачавідкі разлівалася, затапляючы нізіны-абало-

ны, поплаўныя грывы, падступала да далёкага лесу. Бачна там на поўдні ішлі нечуваныя дажджы, таму і пачалася паводка.

Вада ўжо панесла дубец з акунямі, запенілася ў каранях хвоі. Вось ужо і зусім не стала сухой мясціны. Тады Буркун палез на дрэва. Усеўся на таўсцейшых суках і з вышыні са страхам глядзеў на разбушаваную раку.

Зараз, калі ён сядзеў у бяспечнейшым месцы, адчуў, як смокча пад лыжачкай. І тады пашкадаваў, што паводка змыла ўлоў. Праўда, вуду сваю ён не кінуў, захапіў на хвою. Але зараз рыба не лавілася. Відаць, яна адчула вялікую змену ў рацэ. Ей таксама стаў не даспадобы нязвыклы імпэт плыні, і яна зашылася ў свае сховы. Таму на злоўленага шэрага авадня Буркун ледзь, увудзіў невялікую верхаводку, якую адразу ж з'еў.

Крыху пазней Буркун адчуў, як закружылася галава і небакрай пачаў абсоўвацца некуды ўніз. Хлопец ашчаперыў камель, каб не ўпасці, але ўсё адно адчуваў, што апускаецца разам з дрэвам. Яно, падмытае, пачало хіліцца на глыбізну. Вада забурліла ў голлі, запенілася, неадольная плынь падхапіла хвою, закруціла і панесла па рацэ. Буркун то акунаўся ў ваду з галавою, калі рака перакручвала дрэва, то зноў разам з хваёвым камлём вынырваў на паверхню, адплёўваючыся ад вады. Нарэшце, калі дрэва вынесла на сярэдзіну ракі, яно набыло ўстойлівасць і роўна паплыло на ўсход, дзе ўжо пачало вечарэць неба.

Ноч была месячная, і ўся вадзяная прастора ў прывідным святле поўні выглядала бясконцай. І хлопцу часам думалася, што рака затапіла ўсю зямлю, як, па словах старасвецкіх паданняў, ужо калісьці здаралася. І толькі месячная сцежка на вадзе, быццам насыпаная блішчастай луской, няпэўна абнадзейвала выратаваннем.

Несла рака вывернутае дрэва і ўвесь наступны дзень. У пачатку трэцяга дня хвоя падплыла бліжэй да берага і засела на плыцізне. Вада ўпёрлася ў вывараць, злуючыся, што тая не слухаецца, але не адолела сарваць з месца. Паводка бачна пайшла на спад, і моц яе паслабела. Духі вадзяных стыхій, што вырваліся з бяздонняў на волю, трацілі сваю ўладу.

Буркун не спаў мінулыя ночы, быў стомлены і галодны і ўжо абыякавы да ўсяго. Але калі дрэва запынілася, ён узбадзёрыўся і перабраўся на вышэйшыя сукі, каб агледзецца, памеркаваць — можа ўжо можна як вырвацца з гэтай рачной пасткі.

Непадалёку з ракі выступала вялікая выспа з лесам на ніжэйшым краі і вёскай на прырэчным схіле. За вёскай святлела даспяваючай збажыною поле. Каля берага, бліжэй к лесу, пасвіўся статак. Сушэй-

шым часам выспа, мусіць, злучалася з лесам нейкім перашыйкам, але зараз была ўся акружана вадой.

Нават стома прапала ў Буркуна, так ён расхваляваўся — зусім блізка людзі! Яны былі на беразе каля выцягнутых на сухое чоўнаў. Угледзеўшыся, хлопец нават пачаў адрозніваць загарэлыя твары. Хто яны, гэтыя незнаёмыя з паселішча на выспе? Буркун ведаў, што ў суседніх вёсках жывуць людзі адной з ім мовы, адных багоў і звычаяў. Але чуў таксама, што ніжэй па рацэ — чужое і загадкавае племя, з якім не радніліся, а часам і варагавалі. Што рабіць яму? Клікаць на дапамогу, або датрымацца да цемры, украсці човен і паспрабаваць даплысці да родных ваколіц? Але сярод хацін хлопец прыкмеціў сабак і засумняваўся — яны ўчуюць чужака і ноччу. Тады яго зловяць і заб юць, як злодзея.

Пакуль Буркун разважаў, што яму рабіць, у вёсцы прыкмецілі на вываратні чалавека, і ад берага адплылі чоўны. У іх былі мужчыны з вёсламі. На дно даўбёнак — хлопец гэта прыкмеціў добра — яны паклалі дзіды, а ў некаторых за спіною былі лукі. Падплыўшы да самага дрэва, мужчыны прыпыніліся і пачалі насцярожана ўглядацца ў гушчыню галін і лісця, вышукваючы іншых затоеных чужакоў. І тады хлопец кінуўся ў ваду. Ен рашыў лепш утапіцца, чым трапіць у рукі гэтых суровых незнаемых людзей, і цёмная вада з плёскатам стулілася над ягонай галавой.

Ачнуўшыся, Буркун зразумеў, што ляжыць на нечым мяккім, а моцныя рукі, прыпадняўшы галаву, уліваюць яму ў рот штосьці смачнае і цёплае. Па смаку пазнаў, што гэта грэтае малако. Прыадплюснуў вочы, і першымі ўбачыў жаночыя рукі, якія яго паілі. На запясці адной з іх паблісквеў вузкі бранзалет. Расплюшчыў вочы больш і сустрэўся з поглядам шэрых вачэй пажылой жанчыны. Вочы былі прыязныя, ад іх рабілася спакойна і добра.

Жанчына штосьці ціха сказала і пагладзіла хлопца па галаве. І ад гэтага дотыку ён зноў заплюшчыў вочы.

Спаў ён доўга. А калі прачнуўся, адчуваў сябе ўжо даволі акрыялым.

Выратаванец хутка папраўляўся. Яго кармілі пшанічнымі праснакамі з мёдам, адпойвалі малаком. Драпіны на целе прамывалі рамонкавым адварам. Убачыўшы, што яму не робяць благога, хлопец асмялеў, абвыкся. З большага пачаў разумець і гаворку тубыльцаў. У іхняй мове траплялася даволі шмат звыклых для яго слоў, пра іншыя ж здагадваўся па сэнсу.

Праз пару дзён Буркун выйшаў на вуліцу, каб агледзецца, куды ён трапіў.

Веска складалася з пары дзесяткаў паўзямлянак з нізкімі плеценымі з лазы сценамі, якія пакрываліся зверху двухсхільнымі чаратовымі стрэхамі. Стрэхі трымаліся на слупах, укапаных па кутах паўзямлянак. Шчыліны пад стрэхамі і ў сценах былі закладзены мохам, замазаны глінай, каб зімою не заходзіў у жытло холад. У паўзямлянкі можна было трапіць праз нізкія праёмы-дзверы, завещания скурамі або старымі радзюжкамі. Побач было і нешта накшталт плеценых з саломы дзвярэй — для халоднага часу. У сценах жа знаходзіліся і невялікія шчыліны — вокны.

Каля хацін былі жардзяныя выгарады. Мяркуючы па слядах, у іх ноччу трымалі жывёлу. Тамсям на калах сохлі свежа памытыя пласкадонныя гліняныя гаршкі і збаны. Такі ж посуд захоўваўся і пад невялікімі павецямі, напоўнены рознымі караняМі, арэхамі, зернем.

На першы погляд жытлы былі бязладна раскіданыя па схіле. Але, калі прыгледзецца, можна было заўважыць, што большасць іх ціснулася да берага. Тыя ж, што размяшчаліся вышэй, утваралі другую лінію. Ад кожнай будыніны адыходзілі ўтаптаныя сцежкі, якія зліваліся ў адну шырокую, што перасякала ўсё паселішча. З усходняга боку яна вяла да вузкай затокі пад вербамі, дзе знаходзіліся чоўны-даўбёнкі, прывязаныя да дрэў або выцягнутыя на пясок. Заходні канец сцяжынывуліцы выводзіў за вёску і раздвойваўся. Пакуль што менш пратаптаны шлях зварочваў да яшчэ нязжатага поля, раскапычаны — на пашу.

Можа найбольш Буркуну спадабалася, што ўся веска была абкружана плеценым з тоўстых сукоў плотам. Вастраколіны тырчэлі вышэй чалавечага росту і зводдаль усё гэта нагадвала зубастыя пашчэнкі вялізнага шчупака. Праз такі плот-агароджу не пералезе ні звер, ні чалавек.

Каля краю вёскі, побач з агароджай, стаялі велікаватыя будыніны на слупах з рэдкаплеценымі сценамі без глінянай абмазкі. У адной з іх Буркун заўважыў развешаныя рыбацкія сеткі, мярэжы і іншыя снасці, кошыкі з лазы і саломы, розныя драўляныя вырабы, запасы лыка, цэлыя і бітыя гаршкі, леташнюю салому. Словам, гэта былі і кладоўкі і, мусіць, сховішчы для корму жывёле на зіму.

На краі паселішча, каля невялікай вытаптанай пляцоўкі, хлопец убачыў і зусім дзіўную будыніну — круглую з вастраверхім чаратовым дахам. Над уваходам у яе бялеў рагаты чэрап быка. Буркун зазірнуў у цёмны дзвярны праём будыніны і адхіснуўся — там стаяла мажная жанчына і ва ўпор глядзела на яго. Стаіўшыся пад сцяной, хлопец прыслухаўся, але ў круглай будыніне ніхто не крычаў, не лаяўся. Там было ўсё ціха. Тады ён рашыў зноў зірнуць на тое дзіўнае стварэнне. І

зараз зразумеў, што жанчына была драўляная, выразаная з тоўстага камля. Яна трымала на круглым сваім жываце плоскія рукі і была аплеценая і абвешаная рознымі стужкамі, матузкамі, свежымі і засохлым! вянкамі з кветак і дзеразы. Вакол выявы паўкругам ляжалі каменныя зерняцёркі.

Раптам за спіною Буркуна пачуўся шум. Ен азірнуўся і ўбачыў, што да яго подбегам спяшаецца гаспадыня. У яе былі застылыя ад сполаху вочы. Падбегшы, яна азірнулася па баках, схапіла хлопца за руку і пацягнула прэч.

— Сюды нельга. Гэта бажніца — хаціна нашай Вялікай Маці, якая апладняе зямлю і дае нам на полі пшанічнае зерне. У бажніцу нельга заходзіць тым, хто пакланяецца іншым багам. Убачаць светары — будзе бяда!

А яшчэ праз дзень сівабародыя мужчыны вёскі — паважаныя старэйшыны — папыталіся ў Буркуна, хоча ён застацца тут, стаць сынам іхняга роду, ці будзе вяртаццададому.

Вядома ж, хлопец толькі і думаў аб вяртанні. Дома і вёсачка малая, і хаціны цяснейшыя, зробленыя з жэрдак ды трыснягу, і пшаніца дае драбнейшае зерне, і бронзавых вырабаў амаль няма, але ж там бацькаўшчына. Там тата і мама, яшчэ жывая бабуля, браты і сестры, навокал блізкія і далёкія ро. дзічы. Ды і кожны куст і дрэва там свае, знаёмыя. Не, ён вернецца, калі толькі яго адпусцяць.

Хлопца выслухалі са зразуменнем. А адзін з дзядоў падняў уверх палец і глыбакадумна сказаў:

— Кожная птушка з выраю вяртаецца ў сваё гняздо.

Выбралі большы човен, селі ў яго дужэйшыя мужчыны з вёсламі, пасадзілі на карме Буркуна і павеславалі ўверх па рацэ. Буркун трымаўся левай рукою за борт і не мог уцярпець, каб часам не кінуць захоплены погляд на запясце. Там пабліскваў на сонцы медны бранзалецік. Гэта быў падарунак ад тутэйшых людзей.

*

*— Усё гэта адбывалася на Прыпяці,— не чакаючы пытанняў Івана Пятровіча пачаў тлумачыць я.— І час можна прыблізна вызначыць — каля сярэдзіны другога тысячагоддзя да нашай эры. У басейне гэтай ракі ў той час знаходзіліся даволі шматлікія вёскі плямёнаў так званых сосніцкай і тшцінецкай культур. Ім належыць, напрыклад, большасць крамянёвых і бронзавых сярпоў, знойдзеных на Палессі. Ва ўжытку носьбітаў гэтых культур меліся характэрн ыя пласкадонныя гаршкі з цюльпанападобным расшыраным верхам і патоўшчанымі брыжамі. У арнаментах гаршкоў часта сустракаюцца*

*адбіткі рабра пласцінкі з накручаным шнурам — ружанцавы ўзор. Бадай, найбольш істотнае адрозненне ў посудзе культур у тым, што на ўсходзе Палесся, дзе былі сосніцкія тіаселішчы, ён арнаментаваўся поўнасцю, а на цэнтральным і заходнім Палессі, у тшцінецкім асяроддзі — толькі пад верхам. У чым справа? І тады звярнулі ўвагу, што такая традыцыя ўпрыгожвання керамікі — па ўсёй паверхні ці толькі пад верхам — існавала тут яшчэ сярод позненеалітычных плямёнаў. Значыць, каля паўтысячы гадоў суіснавалі абарыгены і прышэльцы, ажно пакуль у сярэднебронзавы час іхнія культуры не сплавіліся ў адно. Ва ўмовах багністага Палесся, дзе жыццё канцэнтравалася на ізаляваных выспах пасярод балот, месцамі доўга захоўваліся традыцыі познекаменнага веку. Мусіць, з такога «адсталага» паселішча і паходзіў Буркун.*

*— Слухаю цябе і думаю,— сказаў Іван Пятровіч,— адкуль у вас, археолагаў, такія назвы культур?*

*— Самі выдумляем. Бо даведацца пра сапраўдныя найменні старажытных плямёнаў дапісьмовага часу немагчыма. Яны зніклі, забыліся, замяніліся новымі. Называем жа археалагічныя культуры пераважна па першаму выяўленаму найбольш важнаму помніку — паселішчу або могільніку, па тэрыторыі распаўсюджаннЯу па тыповых знаходках. Сосніцкая культура названа па стаянцы каля пасёлка Сосніца на Чарнігаўшчыне, а тшцінецкая — па паселішчу каля горада Тшцінец у Польшчы.*

## ХТО ЎКРАЎ СЕТКУ?

З самай раніцы, як толькі бледнаваты яшчэ круг сонца прыўзняўся над заазерным лесам, бацька з сынам селі ў човен і паплылі паглядзець настаўленую з вечара сетку-трыгубіцу. Малы Рэмза любіў такія хвіліны — калі падплываеш да таго месца, дзе пастаўлена снасць, і ўжо здалёк бачыш, як уздрыгваюць, разганяючы кругі дробных хваль, берасцяныя паплаўкі. Значыць, трапіла ў лубяныя ячэі здабыча. А калі паплаўкі ходзяць хадуном і плёскат стаіць над трыснягом, лічы, што трапілася буйная рыбіна — хітры шчупак ці вусаты чорны сом.

Спудзіўшы чараду качак, рыбакі выплылі з трыснягу і моцна здзівіліся — сеткі не было. Толькі плаваў воддаль кол.

— І куды яна падзелася? — разгублена паўтараў бацька.

І праўда, дзе знікла трыгубіца? З іхняй вёскі ўкрасці ніхто не мог, бо тут былі ўсе свае, суродзічы, а забраць у свайго лічылася смяротным грахом. Значыць, чужак? Але ж на гэтым возеры больш вёсак не

было. А чужаку, калі ён сюды і трапіў, трэба мець човен, каб прыплысці да сеткі.

Бацька пачаў кружыць каля трыснягу і час ад часу грэбаў вяслом па дне. Спадзяваўся, што, можа, якая вялікая рыбіна сарвала з калоў снасць і тая дзе пад вадой зачапілася за корч. Пакуль так боўталіся ў вадзе, сонца добра павышэла і пачало прыграваць. І тут на беразе ўсчаўся нейкі крык. Устрывожаныя рыбакі павярнулі да вёскі і наляглі на вёслы.

А неспакой узнік у Баравіне з-за мядзведзя. Там у дуплах старых хваін ужо здаўна пладзіліся пчолы, і людзі чакалі канца лета, каб выбраць соты. Рабілі яны гэта ўжо шмат гадоў і бераглі гэты прыродны пчольнік. І нават выдзяўбалі ў дрэвах новыя дуплы, каб пчолы множыліся і раіліся. Мядзведзі ж былі ласыя на мёд не меней, чым людзі. Вось і зараз яны там спрабуюць увабрацца ў салодкую спажыву.

Калі прыплылі да берага, бацька таксама схапіў дзіду і з іншымі мужчынамі пабег у пушчу. Сын жа рашыў яшчэ пашукаць прапажу. Але зараз аднаму на возеры было ніякавата. Нават і страшна, бо можа і праўда дзе ў прыбярэжных хмызах затаіліся чужакі. Не мядзведзі ж выцягнулі з возера сетку. Таму хлопец паклікаў на дапамогу свайго стрыечнага брата Сыраежку.

Браты ўладкаваліся ў чоўне і пачалі заграбаць каля бартоў вёсламі, стараючыся, каб даўбёнка ішла роўна, не збівалася ўлукаткі. Веславалі не спяшаючыся. Пільна аглядалі азёрную роўнядзь, зазіралі ўглыбіню, абшуквалі вокам каля кожнага прыбярэжнага куста, спадзеючыся прыкмеціць прапажу.

Адплыўшыся так, што хаціны іхняй вёскі сталі выглядаць маленькімі, як купіны на балоце, хлопцы прыпыніліся і сталі радзіцца, што рабіць далей. Бліжэйшы бераг быў агледжаны.

— Паплывём вунь туды,— паказаў уперад Сыраежка.

— Тата сказаў пад паўночны бераг не плаваць,— нерашуча запярэчыў Рэмза.

— Ну дык хоць агледзім той мысок,— прапанаваў Сыраежка. Ен не чуў гэтай забароны, таму быў смялейшы.

Павагаўшыся (мысок быў усё ж далекавата ад іхняй вёскі), Рэмза згадзіўся, і яны павеславалі далей. І аказалася, што правільна і зрабілі, бо не паспелі даплысці да таго мыска, як Рэмза ўхапіўся за братаву руку:

— Зірні, вунь пад берагам быццам паплаўкі!

Падгрэблі бліжэй. І сапраўды, хутка перад кустом, што рос на краі абрывістага берага, добра разгледзелі пару паплаўкоў. А пад імі ў мутнаватай прыбярэжнай вадзе праступілі абрысы вяроўкі і самой сеткі.

— Во дзе наша прапажа! — узрадаваўся Рэмза і ўхапіўся за вяроўку. Узяўся дапамагаць яму і Сыраежка. Спачатку трыгубіца выбіралася легка. Але потым пайшла цяжэй. Абмацаўшы і агледзеўшы сетку, хлопцы зразумелі, што яе нешта трымае пад самым берагам. Там пад вадой цямнела невялікая нара. У ёй і знікаў другі канец снасці.

Напяліся мацней, і сетка паддалася, але потым тузанулася і затрапятала ў руках.

— Сом! Сом! — закрычалі браты і яшчэ шчырэй налеглі на снасць. Ажно ўпацелі, пакуль вызвалі яе з нары, і тады нешта вялікае і чорнае матлянулася ўбок. Човен моцна хіснуўся, і хлопцы ледзьве не выкінуліся ў ваду.

— Бі вяслом па ім! — закрычаў Сыраежка.

Рэмза размахнуўся, але ў гэты момант даўбёнка зноў хіснулася і ён, страціўшы раўнавагу, улупіў вяслом па себруку. Той узмахнуў рукамі і боўтнуў у ваду.

— Мазіла!— выплёўваючы ваду, вынырнуў Сыраежка.— А каб я табе так!

— А ці я хацеў? — апраўдваўся Рэмза, дапамагаючы яму ўлезці ў човен.

Пакуль хлопцы спрачаліся, тое чорнае яшчэ тузанулася ў сетцы, мільганула хвастом і знікла ў глыбіні. Браты толькі паспелі яшчэ прыкмеціць вусатую морду і кароткія вушы. Гэта быў не сом. У трыгубіцу, ганяючыся за рыбай, трапіла была, мусіць, выдра.

— Вось табе і сом,— моршчыўся Сыраежка, мацаючы на лбу свежы гуз.

Прыплылі з парванай сеткай у вёску хлопцы. Вярнуліся мужчыны з Баравіны. Мядзведзя яны не ўпалявалі, але пастрашылі добра. Хай ведае, касалапы, як лазіць у чужы мёд.

Рэмза і Сыраежка пражылі доўгі век. Колькі рыбы нацягалі за гэты час з возера! Лавілі сеткамі і мярэжамі, а часам і на вуду, начапіўшы на касцяны гачык чарвяка ці жыўца. Лавілі рукамі каля карчоў, сакамі ў прыбярэжнай асацэ, заганялі ў нераты, глушылі даўбешкамі па першым лёдзе. Білі гарпунамі з чоўна ноччу, асвятляючы сонную рыбу лучынай. Калолі яе восцямі вясновым нерастам. Але як лавілі таго «сома» ў трыгубіцы, не забываліся праз усё жыццё.

*

*— Мінулы раз пытаўся, чаму так называюцца археалагічныя культуры, а вось зараз падумаў: а як з імёнамі? Ты іх у сне ўспамінаеш?*

*— У снах маіх пераважна толькі відовішчы. Асобныя воклічы, гукі чую, але каб запомнілася якое імя, бывае рэдка.*

*— А шкада. В яд омы выпад ак, калі ад на жанчына ў такім, як у цябе, стане начала размаўляць на незразумелай мове. Не паспелі запісаць — было гэта даўно і ў глухой мясціне,— але мяркуюць, што ёй, магчыма, успомнілася нейкая старажытная мова. Уяўляеш, каб ты склаў слоўнік мовы жыхароў Беларусі бронзавага веку?!*

*— Уяўляю,— усміхнуўся я.*

*— Дык, выходзіць, імёны ты выдумляеш?*

*— Выдумляю, — прызнаўся я.— Але не абы-як, а ведаючы, што першабытныя людзі імёны заўсёды і ўсюды давалі па нейкіх індывідуальных асаблівасцях, па часе нараджэння, па назвах жывёл і птушак. Зыходзіў і з таго, што ў тыя часы на тэрыторыі Беларусі жылі продкі пазнейшых славян і балтаў і размаўлялі на індаеўрапейскіх дыялектах. Таму для імёнаў стараўся падбіраць карані агульна індаеўрапейскіх ці хоць бы старажытнаславянскіх слоў. Вось таму ў мяне і з'явіліся ўсе гэтыя Крэмы, Жданы, Вячоркі, Веташкі, Туры.*

## КОННІК З ПАЎДНЕВЫХ ГОР

Гэтага вершніка пастухі прыкмецілі яшчэ зводдаль ад вёскі. Але ніхто не затрывожыўся і не кінуўся хапацца за зброю. У іхніх краях даўно ўжо было заспакаенне, і людзі жылі ў згодзе паміж сабою. Дробныя ж непаразуменні на межах родавых ці племянных уладанняў стараліся ўлагодзіць мірна. Таму і зараз не баяліся нападу. Да таго ж коннік быў адзін.

Пад'язджаючы да вёскі, незнаёмец заспяваў. Лясное шматгалосае рэха драбніла і рассыпала словы, і іх было не разабраць. А можа, песня была і на незразумелай мове. Але не гэта было важна. Усім стала ясна, што чалавек прыбывае з прыязнымі намерамі і, каб не было неспадзяванкі, падае пра сябе знак. І тое менавіта, што песняй, а не воклічамі, асабліва спадабалася тубыльцам.

Мякка затупалі на пясчанай сцежцы конскія капыты, і незнаёмец уехаў у вёску. Насустрач яму высыпалі амаль усе жыхары — выбеглі няўрымслівыя дзеці, нетаропка наблізіліся паважныя мужчыны, зводдаль цікавалі дзяўчаты і жанчыны.

Вершнік сядзеў на прысадзістым даўгагрывым коніку, на калматай скуры, прывязанай пад бруха жывёліны вяроўкай. Такая ж вяроўка з петлямі звісала і пабаках каня. У петлі-страмёны былі прасунуты ногі падарожніка ў скураных чобатах. Незнаёмец быў апрануты ў рудыя фарбаваныя штаны з авечай воўны і ў белую рубашку з

завязкамі-матузкамі на шыі. На плячах меўся шэры суконны плашч, зараз па цёплым часе расшпілены і закінуты на спіну, іншай жа парою ім можна было шчыльна ахінуцца, хаваючыся ад дажджу і холаду. Меў коннік і такую-сякую зброю. Збоку вісеў лук і скураны калчан з дзесяткам стрэлаў, з-за спіны востранька выглядала кароткая дзіда. На поясе быў кінжал з касцяной рукаяткай.

Конь і чалавек былі густа присыпаны пылам і выглядалі неяк аднолькава шаравата. Адзінае, што нязвыкла кідалася ў вочы мясцовым жыхарам,— бліпчасты бранзалет на запясці вершніка. Металёвыя вырабы ў тутэйшых мясцінах былі рэдкасцю. Мала хто меў меднае шыла ці спрацаваны да рэшты нож. Слаўны воін, паляўнічы ді чыя жонка маглі зрэдку пакрасавацца начышчанымі меднымі трубачкамі або пласцінкамі, што сонейкамі ззялі ў каралях сярод звыклых ласіных ці мядзведжых зубоў. А тут шырокі, мо ў два пальцы, бранзалет з закручанымі ў спіралі канцамі!

Незнаёмец зняў з цёмнавалосай галавы лямцавую шапку з загнутымі краямі і пакланіўся грамадзе:

— Вітаю вас, мудрыя старэйшыны гэтага роду, і ўсіх паважаных прысутных таксама.

— Будзь прывітаны і ты, чалавеча,— адказалі яму старэйшыны.— Рады бачыць цябе ў нас госцем. Хто будзеш, адкуль прыехаў і куды трымаеш шлях?

— Я з гор, адкуль цякуць паўднёвыя прытокі ў вашу Прыпяць. Мяняю вырабы з медзі і бронзы на бурштын. А магу, каму трэба, пераплаўляць старыя і ламаныя металёвыя рэчы на новыя.

Старэйшыны ўхвальна заківалі галовамі. Медзь і бронза ім патрэбныя, а бурштыну ў таго-сяго знойдзецца.

Незнаёмца правялі на пляц пасярод вёскі, на краі якога ў засені старога дуба хавалася драўлянае лупавокае божышча. Чалавек злез з каня, адвязаў ад скуранога сядзення мяшок і расклаў на шмаце палатна свой тавар. Тут было некалькі кінжалаў з узорыстымі рукаяткамі, нажы, шылы, драцяныя бранзалеты, пацеркі для караляў, падвескі, каб уплесці ў косы ці ўпрыгожыць дзявочы каптурок... У захапленні загарэліся ў жанчын вочы не толькі ад гэтых упрыгожанняў, але і калі ўгледзелі выгінастыя бронзавыя сярпы з кручком на рукаятцы, якія не даваў руцэ саслізгваць у час жніва.

І разгарэлася мена. Неслі тубыльцы свае бурштынавыя пацеркі, падвескі, трубачкі, гузікі, якія ажно свяціліся цудоўнымі мядовымі колерамі. Так, бурштынавыя ўпрыгожанні — адмысловыя. Яны можа не горшыя за медныя. Да таго ж аберагаюць ад хвароб і благога вока. Таму жыхары вёскі за так не аддаюць бурштын гэтаму смугляваму

меншчыку. Прышэлец у сваю чаргу набівае цану сваім , рэчам, падстаўляе кінжалы начышчанымі лёзамі пад сонечнае святло, і тыя ўспыхваюць жоўтымі праменьчыкамі.

— Ты толькі зірні і сябе ўбачыш,— падсоўваў ён пад нос аднаму са старэйшын бронзавы выраб.— У чым ты яшчэ паглядзішся?

— У чым? Нават і ў лужыне, калі захачу палюбавацца сваёй барадою,— хітра жмурыцца старэйшына, а сам і сапраўды зачараваны кінжалам. Яму б такі!

Нарэшце мена скончылася. Меншчык зноў склаў у мяшок сваё багацце. Акуратна прыхаваў набыты бурштын.

Вячэраць госця запрасілі ў прасторную хату першага старэйшыны роду. Туды ж прыйшло і некалькі паважнейшых жыхароў вёскі. Кожнаму хацелася, пацягваючы з гліняных кубкаў шыпучы мядовы квас, паслухаць аповяды пра далёкія землі, іншыя плямёны. Гэты меншчык шмат чаго бачыў і чуў, вандруючы па берагах вялікіх і малых рэк паміж гарамі і іхняй балоцістай нізінай.

Цёмнавалосы таксама быў з цікаўных. Ен усё распытваў, дзе тубыльцы бяруць бурштын. А вяскоўцы і не таіліся. Расказвалі, што, калі плысці суседняй прытокай уверх, або ісці яе берагам, то за лясістым водападзелам можна трапіць на раку, што цячэ ў паўночным кірунку. І вось з той паўночнай ракі і прывозяць мядова-колерную смалу. А скуль яе там бяруць, ніхто добра не ведае. Некаторыя расказваюць, што недзе там на поўначы маецца салёнае возера, такое вялікае, што не бачна другога берага. І каля таго возера бурштыну столькі, што не ўкладзеш і ў дзесяць такіх вось, як у меншчыка, мяшкоў. Ім там можна пэўна напоўніць па барты некалькі вялікіх чоўнаў, і ўсё адно шмат застанецца...

Слухае меншчык гэтую ні то праўду, ні то казку, і загараюцца ягоныя вочы — так хочацца ў тыя паўночныя землі! Поўны човен бурштыну яму не трэба — не давязе да сваіх гор, а вось каб намяняць пад завязку свой мех...

— А ці прывозяць з паўночных рэк медзь і бронзу?

— Не, не прывозяць. Не чутно там пра такія рэчы,— закруцілі галовамі прысутныя.

Яшчэ больш радуецца ад такіх слоў цёмнавалосы. Значыць, там за свой тавар ён узяў бы бурштыну, колькі захацеў...

Раніцою, яшчэ туман не сплыў з нізін і не высушыла сонца расу, нецярплівы меншчык зноў уладкаваўся на хрыбціне адпачылага за ноч каня і выбраўся на сцежку ўздоўж прытокі. Сонца грэла якраз у правае плячо. І гэта было добра. Значыць, рэчка яго вядзе правільна, на поўнач, у бурштынаносныя землі.

Пад вечар, адолеўшы ладны кавалак шляху, коннік заўважыў, што зноў набліжаецца да заселеных мясцін. Пачалі трапляцца старыя і свяжэйшыя кострышчы, пянькі ссечаных дрэў, вытаптаныя чалавечымі нагамі рыбнейшыя берагі каля рачных завоін.

Цёмнавалосы зняў з шапкі наліплае павуцінне, строе з плячэи ігліду — рыхтаваўся сустрэць тубыльцаў у найлепшым выглядзе. А потым па сваёй завядзёнцы заспяваў, даючы пра сябе знак. І амаль адразу ж пачуў характэрны посвіст апeранай стралы. Стралялі з-за ракі.

Меншчык імпэтна скаціўся з каня і прыхінуўся за хваёвыя камлі. Потым знайшоў лісіную нару і засунуў туды мяшок са сваім скарбам. Вернецца за ім, калі пазнаёміцца з недаверлівымі мясцовымі жыхарамі, растлумачыць, хто ён такі.

Потым цёмнавалосы зноў наблізіўся да берага і загукаў, асабліва пакуль што не высоўваючыся з-за дрэў:

— Не страляйце, я адзін! Я меншчык з гор!..

У вёсцы на беразе Прыпяці, дзе начаваў цёмнавалосы, яшчэ доўга ўспаміналі вясёлага меншчыка і ўсё чакалі — калі ж ён вернецца з тых паўночных краёў і ці запыніцца ў іхнім паселішчы на адпачынак. Цікава было і паглядзець — ці шмат прывязе бурштыну, ці паўнюткі будзе мяшок, як хваліўся.

Але мінулася лета, потым і восень, а цёмнавалосага меншчыка ўсё не было. А зімою, калі завейныя снягі засыпалі, замялі сцежкі і прагаліны, перасталі чакаць.

*

*— Тут у цябе недакладнасць,— торкнуў Іван Пятровіч пальцам у апошнюю старонку.— Страляць, г эта ж са стрэльбы.*

*— Ніякай недакладнасці,— не пагадзіўся я.— Услухайся і ўдумайся: вяслуюць вяслом, сякуць сякерай, страляюць стралой... У сярэднявеччы вынайшлі агнястрэльную зброю, але з яе працягвалі «страляць», новага слова не прыдумалі. Дарэчы, у маёй роднай вёсцы скажуць: не пацэліў, а ўлучыў, як у даўнейшы час — «улучыў з лука».*

*— А і праўда,— здзівіўся сябра.— Размаўляеш і ўсё здаецца звыклым і простым. А ўдумаешся, які глыбокі сэнс часам у словеI*

*— І глыбокі і старажытны. Вось яшчэ табе прыклад. На Палессі, каб дрэва вырасла тоўстае, яму яшчэ малому адсякалі вяршаліну. І такое тоўстае, камляватае дрэва звалі «крамлёным». Яго «крамлілі» жалезнай сякераю, але ж нейкія тры тысячагоддзі назад «крамлілі» крэменем. Можа, адсюль і «крэмль» — умацаванне з крамлёнага дрэва? Такія ж карані можна знайсці не толькі ў мове, але і ў звычаях, фальклоры, народным прыкладным мастацтве. На раннебронзавых*

*гаршках з таго ж Палесся маюцца арнаменты, дакладна як на блузках сённяшніх паляшучак.*

## КРАМЯНЁВЫ СЕРП ДЛЯ КАЛІНКІ

Закаласіўся, а потым і запалавеў ячмень на невысокім грудку, што падступаў да вёскі, і жанчыны пачалі рыхтавацца да жніва. Чакала праца і мужчын — знесці снапкі ў паселішча, перацерці каласы, каб дастаць з іх зерне. Потым зерне трэба будзе перавеяць на свежым ветры, каб ачысціць ад мякіны, ссыпаць у вялікія, як цабэркі, гаршкі. І нарэшце, упарадкаваць салому.

Але зараз нейкі тыдзень, а калі задажджыцца, то і дзесятак дзён будуць вольныя. Таму мужчыны намерыліся ісці на вялікае паляванне, каб назапасіць мяса на мазольную працу — на жніво і малацьбу.

Вечарам, калі елі забеленае малаком варанае шчаўе, бацька папярэдзіў Жыўка:

— Заўтра з раніцы нікуды не адлучайся — будзем рабіць стрэлы.

Папраўдзе, Жывок збіраўся з сябрамі лавіць на затоцы рыбу, але і майстраваць стрэлы не менш цікава. Да таго ж, калі сказаў бацька, адмаўляцца не выпадала, таму хлопец згодна кіўнуў галавой.

Раніца была як на пачатак жніўня — цёплая і пагодлівая. Сонца прыўзнялося над лесам, і доўгія цені дрэў леглі на возера.

Бацька з сынам пайшлі пад сцяну хаціны, дзе ў зацішку ляжалі патрэсканы ліпавы кругляк, некалькі плоскіх камянёў. Бацька дастаў са схованкі назапашаныя крамянёвыя жаўлакі і ўзяўся рабіць пласцінкі і адшчэпы — нарыхтоўкі для наканечнікаў.

— Паспрабуй і ты,— прапанаваў ён сыну.

Але ў Жыўка спачатку не пайшло. З-пад аджымніка адляталі то зусім дробныя, не да патрэбы, адшчэпікі, то расколіна закручвалася, і на пясок падалі нязграбныя дзюбастыя пласціны. З ночы яшчэ была няўпэўненая рука, а можа, і быў няўважлівы, бо ўсё зіркаў на затоку, дзе плёхала, разганяючы кругі па вадзе, рыба, у якой было самае ранішняе жыраванне.

— Не, ты мне так увесь крэмень папсуеш,— адабраў бацька аджымнік.

Бацька левай рукой прыціснуў жаўлак да кругляка, правай прыставіў да яго вастрак казулінага рога, упёр плячо ў рог і націснуў. Ад сіняватага крэменю адскочыў трохкутны адшчэп. Затым ён прымерыўся з другога боку — атрымалася доўгая пласцінка. Бацька працаваў не спяшаючыся, акуратна. І пад яго рукамі акруглы жаўлак са збі-

тай вяршыняй паступова ператвараўся ў тонкі стажкаваты кавалак з гладкімі, быццам паліраванымі, гранямі.

Жывок збіраў пласцінкі і адшчэпы і складаў іх на кавалак бяросты.

— Адшчапі, тата, доўгую пласціну, і каб яна была выгнутая,— папрасіў ён.

— Навошта табе? Згубіў, можа, нож?

— Не. Але каб была, як серп.

Бацька выбраў большы жаўлак, скалоў з яго боку бялявую крэйдавую скарынку і пасля некалькіх спроб адшчапаў патрэбную пласціну. Жывок паклаў яе асобна.

— Хопіць паку ль што,— сказаў, разгінаючыся над кругляком, бацька і адклаў рог-аджымнік убок.

Крыху адпачыўшы, бацька з сынам узяліся за выраб саміх наканечнікаў. Яны шчыльна мацавалі ў трэшчынах кругляка пласцінкі і каменьчыкамі-рэтушорамі адколвалі ад краёў нарыхтовак маленькія лусачкі — рэтушавалі іх. Апрацаваўшы так адну бакавіну, браліся за супрацьлеглую. Потым абрабілі верхнія канцы, стараючыся, каб яны атрымаліся спічаста завостранымі. Знізу рабілі чаранкі-насады.

Паступова меншала гурбачка нарыхтовак, і наадварот — даўжэў на бяросце радок гатовых ліставатых наканечнікаў. Жывок таксама прынаравіўся да рэтушавання, і ў яго пачало атрымоўвацца мала горш, чым у бацькі. Да таго ж такой справай ён ужо займаўся не раз.

— Колькі іх там? — нарэшце запытаўся бацька.

Жывок узяўся пералічваць.

— Два дзесяткі і шэсць.

— Дык і хопіць,— падсумаваў бацька.— Дзесяткі тры ёсць яшчэ старых. А з гэтымі разам будзе на некалькі паляванняў. Каб кожная страла трапіла ў цэль, то, ого, колькі б займелі дзічыны! А зараз зробім колькі і баявых наканечнікаў. Могуць спатрэбіцца, бо прыбалотнікі пачынаюць заходзіць і ў нашу пушчу. Каб не пасунуліся яны і далей.

Жывок ведаў, што для баявых наканечнікаў падыходзяць трохкутныя адшчэпы. Доўгай і тонкай рэтушшу, якая робіцца адмысловым націскам рэтушора, трэба апрацаваць бакавіны, каб атрымаліся вострыя пільчастыя краі. Затым неабходна было ў падставе зрабіць глыбокую выемку, тады наканечнік набудзе трохкутна-шыпастую форму, як ліст павою.

Ліставатыя наканечнікі ўжываліся на паляванні. З забітай жывёліны такая страла лёгка выцягвалася, і яе можна было ўжыць зноў. Форма ж баявога наканечніка — калючая, куслівая. Вострыя шыпы ледзь не самі ўпіваюцца. Ранены выцягне з цела дрэўка, а наканечнік

зачэпіцца шыпамі за мышцы і астанецца, вярэдзячы рану ўсё жыццё. І будзе мучыцца нябога — не павярнуцца рэзка, не пабегчы. Так мучаецца цяпер Жыўкоў дзядзька. Ды і ў бацькі на сцягне глыбокая рана, аброслая дзікім мясам — даставалі такі шыпасты наканечнік...

— Можаш ісці пагуляць,— праз нейкі час дазволіў бацька,— я тут і сам закончу.

— Я яшчэ паспрабую зрабіць серп,— і Жывок узяўся за вялікую пласціну.

Ён накрыў свае калена кавалкам калянай скуры і рубам прыціснуў да яе пласціну. Затым лёгкімі ўдарамі каменнага яйкападобнага адбойніка пачаў сколваць з доўгіх бакавін невялікія адшчэпы. Стараўся, каб падчэска атрымоўвалася з абодвух плашчынь. Затым пачаў прытупляць краі рукаяткі.

Бацька краем вока часам пазіраў на сынавыя практыкаванні і, нарэшце, не вытрымаў, папытаўся:

— І каму ты так стараешся — маці, ці каторай сястры?

Жывок змоўчаў і толькі ніжэй нагнуў галаву. Бацька пра нешта быццам здагадаўся і цішком заўсміхаўся ў густую бараду.

— Дай зірнуць, што ў цябе атрымоўваецца... Нішто выходзіць, нішто. Толькі вось тут круглей трэба,— і сваім адбойнікам тамсям падправіў выгін ляза.

І так пайшло — сын шчыраваў над сярпом, а бацька час ад часу падпраўляў няўдалыя або недаведзеныя мясціны. Затым краі вырабу паверх сколаў апрацавалі буйной зубчастай рэтушшу, і серп атрымаўся на захапленне. Ляжаў на жыўковай далоні доўгі і выгнуты, як месячны маладзічок.

Пакуль сын любаваўся вырабкай, бацька схадзіў у хаціну і прынёс мяккі скураны пасак. Абкруціў ім акуратна рукаятку, каб крэмень не рэзаў руку, завязаў сухажылінай.

— Ну вось, ты ўжо і сярпы ўмееш рабіць,— пахваліў бацька, як скончылі працу.

— Я адзін і не змог бы так.

— Ну, не кажы. Я, лічы, толькі пару разоў дакрануўся,— жмурыў вочы бацька.— А наступны ты і зусім сам змайструеш.

Пад вечар, калі сонца ўжо перайшло на заходні небакрай, Жывок быў у чоўне. Адплыўшы за трыснёг, ён закінуў вуду і агледзеўся. На азёрнай затоцы-луцэ ён быў не адзін. Там-сям цямнелі іншыя чоўны — наступаў час вячаровай лоўлі рыбы. Але Жыўку не рупіла зараз рыба. Ен не пільнаваў паплаўка, а ўсё ўзіраўся ў супрацьлеглы бераг, дзе пад бухматымі вербамі тулілася вёска суседняга роду. Выцягнуўшы пару акунькоў, хлопец паволі павеславаў уздоўж берага, робячы

выгляд, што выбірае рыбнейшую мясціну, а сам прыбліжаўся да тых вербаў. Непадалёку ад іх, пераплыўшы густы чарот, падагнаў човен да берага і прыхаваў яго ў трыснягу. Сам жа, падкасаўшы штаны, выбраўся на сухое і затаіўся ў лазняку.

Недалёка ад яго схову на прыбярэжных камянях жанчыны і дзяўчаты мылі вопратку, намочваючы яе ў вадзе і шчыра выбіваючы плоскімі палкамі,— толькі ляцелі ў бакі пырскі ды часты стук плескачоў рассыпаўся рэхам па вадзе.

Нарэшце жанчыны скончылі выбіванне, выкруцілі вопратку, сабралі яе і панеслі ў вёску. Крыху адстаўшы ад іх, ішла дзяўчынападлетак са светлымі косамі, закінутымі за спіну. Калі дзяўчына параўнялася з лазняком, Жывок выйшаў на чысцяк і паклікаў:

— Калінка, пачакай!

Дзяўчына спуджана ўскінула бровы і спынілася. Але адразу ж * пазнала, што гэта быў Жывок, які часта прыплываў праз луку ў іхнюю вёску, дзе была замужам ягоная старэйшая сястра.

Жывок, хвалюючыся, наблізіўся да дзяўчыны і нясмела працягнуў крамянёвы серп.

— Вазьмі. Сам рабіў...

— Ой, які харошы,— сказала дзяўчына і прыціснула серп да грудзей. А потым засаромлена пачырванела і пабегла ў вёску.

А жанчыны, што падгледзелі ўсё гэта, казалі між сабою: «Вось і вырасла з Калінкі нявестка ў Залукоўе. Глядзіш — налета і сваты адтуль прыплывуць».

*

*— Карацей кажучы,— зрабіў выснову Іван Пятровіч,— Жыўку ў любым выпадку трэба было шукаць будучую жонку ў нейкім суседнім паселішчы, бо ў сваім былі ўсе паміж сабою родзічы.*

*— І нават не проста ў суседнім, а ў тым, дзе жылі людзі іншага роду. Бо калі род быў вялікі, ён дзяліўся на некалькі патрыярхальных сямей, кожная з якіх пасялялася ў сваей вёсцы. Іншыя роды таксама мелі вёскі. Група радоў утварала племя. Пры нейкіх канфліктных сітуацыях з суседзямі плямёны аб'ядноўваліся ў саюзы.*

*Асноўная ўлада ў родзе і племені належала ўсяму дарослаunion насельніцтву. Яно і вырашала важнейшыя справы. Кіраваннем займаліся выбарныя роды старэйшын або асобныя старэйшыны. У час вайны выбіраліся і правадыры.*

*— Так. А што гэтым сярпом мелася жаць Калінка?*

*— Ды шмат што — пшаніцу, ячмень, проса, гарох. У бронзавым веку таксама ўжо вырошчвалі лён, каноплі, мак, рэпу, цыбулю, час-*

*нок. Мусіць, зараджалася і садоўніцтва — пры раскопках на стаянках сустракаюцца костачкі сліў, вішань. Ды і статак свойскай жывёлы быў, амаль як сёння.*

## ЗЕМЛЯНЫ КАПЕЦ ТУРА

Тур загінуў так, як і годна загінуць лепшаму паляўнічаму і сапраўднаму мужчыну,— з дзідай у руках.

У самым канцы лета, нарэшце, настаў вольны ад палявой работы — жніва і малацьбы — час, і мужчыны вырушылі на паляванне. Так зачакаліся гэтай жаданай падзеі, што сабраліся ў лес нават некаторыя старыя і падлеткі. Але лепшыя паляўнічыя, якіх узначальваў Тур, рашылі — каму так не церпіцца паспытаць паляўнічага шчасця, хай палазіць па прыазёрным балоце, дзе маладыя качкі і гусі ўжо набраліся тлушчу. Яны ж самі пойдуць у грабавыя і дубовыя лясы, дзе пры ўдачы можна ўпаляваць такую здабычу, пра якую будзе помніцца ўсю зіму.

І сапраўды, у гэтых лясах на выгрэтых сонцам прагалінах адразу пачала трапляцца змятая і аб'едзеная трава, раскапычаная, з памётам. Тут пасвілася, нагульвала мяса даўно непалоханая дзічына. Загон паляўнічых праз дубняк выйшаў на старую выгарыну ў нізавіне, пасярэдзіне якой цёк ручай з вышмарганым мядзведзямі маліннікам на берагах. І каля самага таго ручая, на мурожным лужку, нечакана наткнуліся на зубрыны статак. Жывёліны, збіўшыся ў гурт, адпачывалі і жавалі жвачку — маладняк усярэдзіне, мацнейшыя з краёў. Здрыганулася зямля, калі статак усхапіўся на ногі, і адразу ж зубр-важак з сажнёвымі рагамі зароў і, прыгнуўшы да зямлі галаву, рынуўся на няпрошаных гасцей.

На паляўнічых імчала такая раз'юшаная аграмадзіна са скуры, мяса і вастраколін рагоў, што нават загартаваныя ў такіх сутычках мужчыны не вытрымалі і з усіх ног кінуліся да выратавальнага лесу. За ўцекачамі рвануўся і Тур, бо і сапраўды было безнадзейным схапіцца з такім зверам, які адзін мог раскідаць цэлы гурт. Але чалавек хутка зразумеў, што ад зубра не ўцячы — да лесу было крокаў пад сотню, а бык ужо роў за спіной і праз імгненне ўсадзіць рогі ў спіну, перакіне праз сябе. Потым другога, трэцяга.

І тут Тур у апошнім ці то адчаі, ці то приступе незвычайнай адвагі павярнуўся насустрач зверу. Калі крывуліны рагоў ужо былі перад самым яго жыватом, адступіў крок убок і, уклаўшы ўсю моц рук у дрэўка дзіды, ударыў ёю наўскасяк, цэлячы пад лапатку зубру. Жывёліна захрапла і крутанулася да паляўнічага. Той не паспеў

адчуць ні ўдару, ні болю. Апошняе, што ўбачыў, як некуды пад ногі перакулілася раптам пачарнелае неба, і ён паляцеў у гэту цемру.

Азірнуўшысячна зубрыны храп, паляўнічыя ўбачылі, як высока над маліннікам узляцеў Тур, як закруцілася і пачала цяжка асядаць на траву жывёліна, як потым яна завалілася на бок, пускаючы крывавую пену.

Паляўнічыя гэтак жа імпэтна кінуліся назад і, калі падбеглі, зубр ужо даходзіў. З яго боку тырчэў кароткі абломак дзіды. Непадалёку, шырока абдымаючы цёплую зямлю, ляжаў Тур.

Высеклі жэрдкі. Злучылі іх скуранымі рамянямі — атрымаліся насілкі, на якія і паклалі мёртвага. На жэрдках-валакушах цягнулі адсечаную зубрыную галаву. Па астатнюю здабычу трэба будзе прыехаць коньмі.

Хавалі Тура назаўтрае, на родавых могілках, якія былі на высокім рачным беразе. Тут, на былым лядным полі, было бязлесна, бо пастаянна высякаўся і вытоптваўся пад час штогодных памінак кожны парастак. Толькі траве дазвалялася пакрываць сваёй зялёнай зрэбніцай высокія земляныя насыпы-капцы над магіламі.

Прыйшлі маўклівыя светары і пачалі рыхтаваць каля драўлянай бажніцы пахавальнае вогнішча, каб цела нябожчыка свяшчэнны агонь — сын Нябеснага Светача ператварыў у дым-дух, які падымецца ў неба. А потым трэба было спаленыя рэшткі ссыпаць у магільную яму, пакласці туды рэчы нябожчыка, каб пад капцом быў прытулак, дамоўка для духа, калі ён часам будзе вяртацца з нябесных вандровак.

Але светары дарма стараліся. Мужчыны, што былі на апошнім Туравым паляванні, запярэчылі:

— Не трэба яго спальваць. Пахаваем па-даўнейшаму. Тур сам заўсёды ганіў новы звычай. Не любіў, што агонь нішчыць цела, хоць і мёртвае.

Але сапраўдная прычына нелюбові Тура да спальвання нябожчыкаў хутчэй была ў тым, што яшчэ ў маладосці ён трапіў у палон да воінаў задняпроўскага племені. І тыя дапытвалі яго агнём, каб сказаў, дзе загон і куды яны пахавалі чоўны, на якіх пераправіліся праз раку. Тур вытрымаў катаванні і нічога задняпроўцам не сказаў, а ноччу ўцёк. Але з таго часу ў ім пастаянна жыла памяць пра нясцерпна пякучы агонь і нарадзілася непрыняцце новага пахавальнага звычаю, які не так даўно — нейкае пакаленне назад — распаўсюдзіўся на іхніх землях.

Пра ўсё гэта таварышы нябожчыка пэўна ведалі, але яны не сталі тлумачыць светарам, толькі катэгарычна заключылі:

— Так трэба Туру.

Светарам толькі засталося са шкадаваннем паківаць галовамі і адысдзі, мармычучы пад нос пра гнеў багоў. А што такому дужаму і храбраму мужчыну, як Тур, гнеў багоў? Ен і з багамі здолее дамовіцца і паладзіць. Ен жа быў добрым гаспадаром і паляўнічым, не краў, не забіваў супляменнікаў і мірных суседзяў з іншых плямёнаў, прыносіў кожным святам ахвяры тым жа багам.

Кіраваць пахаваннем узялася адна старая жанчына. Яна ўжо ледзь соўгалася па зямлі і родзічы-тымсветнікі даўно клікалі жанчыну да сябе, але нешта яе ўсё яшчэ трымала і на гэтым свеце. І вось яна яшчэ памятала штокольвечы пра даўнія звычаі.

Драўлянымі рыдлёўкамі мужчыны выкапалі дол, не асабліва вялікі, але каб і не цесна было нябожчыку. Дно і сценкі вычысцілі, выраўнялі ласінымі лапаткамі. Затым магілу выклалі сухім дубовым голлем і падпалілі, каб агонь ачысціў яе ад усяго благога. А калі . агонь патух і астыў попел, выслалі дол бяростай, як рабілі ў хацінах,— магіла павінна была паходзіць на былы родны дом Тура, у якім яму добра жылося-былося не адзін дзесятак гадоў.

Нарэшце на засланых скурамі дзідах прынеслі і нябожчыка. Ен меў на сабе ўсё самае лепшае і дарагое. Усё сваё багацце і славу ён браў з сабою, каб і ў замагільным жыцці багі, духі і тымсветнікі бачылі і разумелі, што Тур быў першы сярод лепшых людзей іхняга роду. На ім была белая льняная адзежа і шэры суконны плашч. Світку перацягваў шырокі скураны пояс з нашытымі меднымі бляшкаМі. Гэтым поясам Тур пры жыцці карыстаўся рэдка — на большыя святы, ці калі выбіраўся на Вялікую раду племені, ды на вайну. Таму бляшкі пазелянелі ад вокісаў і зараз, спехам пачышчаныя жонкай, блішчэлі толькі выпуклінамі. Затое грыўня на шыі — шырокая медная пласціна з насечкамі па краях — ажно зіхацела, і на ёй іскрылася нізка шклянога бісеру, выменянага ў прыезджых з нізоўяў Дняпра людзей за пяць тузінаў лісіных шкурак.

А вось абутак нябожчык меў сціплы. Гэта былі даволі паношаныя, але яшчэ моцныя чобаты з бычынага лабяка, перацягнутыя на шчыкалатках раменьчыкамі. Менавіта ў гэтым абутку гаспадар апошні год выходжваў навакольныя пушчы і балоты з лукам і дзідаю.

Тура асцярожна паклалі на дно магільнай ямы, на правы бок, злёгку падагнуўшы ногі, быццам чалавек і не мёртвы, а прылёг, натаміўшыся, адпачыць. Смерць для ягоных суродзічаў уяўлялася нейкім доўгім дзівосным сном. Пройдзе нейкі час, і чалавек прачнецца, ачуняе і будзе жыць надалей, але ўжо ў іншай невядомай краіне...

Затым пачалі складаць розныя патрэбныя нябожчыку рэчы. Ля самага краю паклалі дзіду з ясеневым запаліраваным рукамі дрэўкам, з бронзавым наканечнікам. Наканечнік быў стары, і яго вастрыё нават прытупілася. Відаць, гаспадару дзіда служыла доўга, і ён сам яе бярог і песціў, вастрыў наканечнік каменным бруском, пра які таксама не забыліся. Каля рук Тура апынуўся цяжкі паляўнічы лук і берасцяны ўзорысты калчан з дзвюма дзесяткамі баявых і паляўнічых стрэлаў. Паклалі ў дол і меднае шыла з драўлянымі тронкамі, пару доўгіх крамянёвых нажоў з абкручанымі скурай дзяржаннямі. Нажы спатрэбяцца, калі трэба будзе злупіць з упалянай жывёліны шкуру, а шыла — калі ён захоча з той шкуры што пашыць. Не шкадуючы, сыпнулі спорную жменю крамянёвых пласцінак і адшчэпаў, каб нябожчыку пад рукою быў патрэбны матэрыял для разца, праколкі, скрабка і для нажа, калі стары зломіцца. Абярэжліва паклалі і навостраную крамянёвую сякеру, якой можна будзе пасекчы на часткі ўпаляваную дзічыну, нарыхтаваць жэрдак, калі прыйдзе час збудаваць жытло. Другую сякеру, з прыгожага ружовага каменю, з запаліраванай паверхняй, шырокім выступаючым лязом і плоскім абушком, насаджаную прасвідраванай адтулінай на моцную ядлоўцавую рукаятку, памясцілі каля пояса. Гэта ўжо была зброя. Таму, можа, рукаятку так ахайна аплятаў раменьчык з пятлёй, якая надзявалася на запясце, каб у гарачай бітве зброя не зрывалася з рукі.

— А гаршчок з пшанічнай кашай...— спахапілася распарадчыца пахавання.

— Навошта Туру каша? — здзівіліся паляўнічыя.— Хіба ён жанчына? Ці ён не заслужыў лепшага чаго, чым каша, хоць сабе і пшанічная?

І паляўнічыя паклалі ў кут магілы галаву і сэрца ўпаляванага нябожчыкам зубра. Гэта быў модны і адважны бык. Няхай Тур хоць там з'есць ягонае сэрца, хай яму яшчэ дабавіцца храбрасці і дужасці гэтага звера...

Потым накрылі дол стрэшкай з жэрдак і кары і пачалі засыпаць пад галашэнне жанчын. Кожны падыходзіў і сыпаў на магілу прыгаршчы зямлі. Паступова магіла расла і, нарэшце, пад вечар, з'явіўся жоўты капец вышэй чалавечага росту. Праз год капец абсядзе, і тады яго трэба будзе ў дзень памінак падсыпаць. А потым будуць яго яшчэ павышаць кожны год, пакуль будзе доўжыцца і жыць іхні род.

Зараз засталося толькі прынесці мяса і рыбу і іншыя прысмакі, чарнічны забрадзілы сок, ад якога кружыцца галава і весялее засмучанае стратай сэрца. Родзічы сядуць навокал капца і добрым словам ушануюць нябожчыка, чалавека з мудрай галавой, храбрым

сэрцам і моцнымі рукамі. І ніхто не скажа і не ўспомніць благога, што, можа, калі Тур каго пакрыўдзіў ці ўзяў сабе смачнейшы кавалак, ці часам мог занадта хваліцца сваімі паляўнічымі або ваеннымі подзвігамі. Але калі і было такое, зараз прабачалася.

І так здарылася, што праз два дні ў гэтай жа вёсцы памерла ўдава Трохпаліца — бяздзетная старая з пашкоджанай рукой, за што і атрымала такое імя. На такіх хворых і нямоглых нярэдка ў родзе глядзяць, як на лішні рот, цяжар для суродзічаў. Якая з яе карысць? Да таго ж яна не паспела да смерці мужа нарадзіць дачок і сыноў, з якіх бы выраслі паляўнічыя, работнікі на полі, жнеі, пралллі і гаспадыні. Таму Трохпаліца і жыла на ўскрайку вёскі, ля самага тынучастаколу. Жытлом яе быў бедны буданчык, так-сяк абторканы ў шчылінах травой ды мохам. І заставалася яна, бывала, галодная, бо суродзічы забываліся часам прынесці ёй жменю зярнят ці кавалак мяса. А калі і ўспаміналі пра яе, то хутчэй, каб папрасіць прыгледзець якога малога, калі самі адхіналіся з дому.

І вось Трохпаліца памерла. І пахавалі яе ў невялікай магілцы пад невысокім насыпам, і на той свет нябожчыцы далі толькі трэснуты гаршчок з кашай і крамянёвы тупаваты нож. І на памінках былі толькі бліжэйшыя родзічы, якія ўспамянулі яе похапкам, спяшаючыся да сваіх пільных клопатаў.

Суседская дзяўчынка, якая сваім добрым сэрцам любіла старую, аднойчы потым спыталася ў бацькі:

— А чаму так, тата? Бабуля Трохпаліца была галодная і бедная і пахавалі яе абы-як. З сем'яў старэйшын нават ніхто не прыйшоў развітацца. А Тур і пры жыцці ўсё лепшае меў і на той свет колькі ўсяго забраў!

— А як жа, дачушка, інакш? — падумаўшы, адказаў бацька.— Тур жа нідзе сябе не шкадаваў — ні ў пушчы, ні на полі. Таму і належалі яму па справядлівасці і наша пашана і лепшы кавалак.

— А ці ж вінавата Трохпаліца, што яна была старая, нямоглая ўдава? Не, несправядліва гэта.

«Бач ты яе,— здзіўлена падумаў бацька,— яшчэ такая малая, а ўжо думае, як дарослы».

*

*— Вёска Тура хутчэй за ўсё была паселішчам вялікай патрыярхальнай сям'і, або, як мы кажам,— патраніміі, у якую ўваходзілі родзічы розных пакаленняў. Патраніміі, разрастаючысЯу дзяліліся на меншыя сем'і блізкіх родзічаў, якія будавалі сабе асобныя хаціны і пачыналі весці ўласную гаспадарку. Уся навакольная зямля была*

*ўласнасцю патранімії, палі апрацоўваліся калектыўна, а вось ураджай дзяліўся паміж асобнымі сем'ямі, па едаках. Спачатку агульнай была і жывёла, але, відаць, у бронзав ым веку нярэдка сем'і пачыналі валодаць уласнымі статкамі. Выдзяленне невялікай сям'і, як гаспадарчага калектыву, вяло да ўзнікнення і ўмацавання прыватнай уласнасці.*

*— Адсюль і маёмасная няроўнасць?*

*— Так. У нейкай сям'і ўрадлівейшы ўчастак поля, жывёла дала больш прыплоду — вось яна і пабагацела. А недзе вымакла ці высахла, каровы захварэлі, пажар надарыўся — збяднела сям'я.*

## ВОГНЕННЫ ЦМОК

Малых дзяцей ужо паклалі спаць, а мужчыны, пасля добрай вячэры, яшчэ сядзелі каля агнішчаў і заспакоена гутарылі пра зробленае за летні дзень, радзіліся аб заўтрашніх клопатах. Жанчыны дараблялі свае хатнія справы. Непаседлівыя падлеткі палезлі ў возера, каб у апошні сёння раз выкупацца ў яшчэ цёплай вадзе.

Сонца зайшло даўнавата. Неба на ўсходзе было ўжо цёмным, хоць на захадзе яшчэ добра палымнела і стужка высокіх перыстых воблакаў падсвятлялася з-за далягляду. Але падсветка гэта была ўжо прыглушаная, быццам прысыпаная попелам. Мусіць, сонца таксама паклалася спаць і недзе ўжо драмала, набіраючыся сілы для заўтрашняй працы.

І сярод гэтага ўціхаміранага напаўсоннага настрою людзей і ўсёй навакольнай прыроды высока ў паўднёвай частцы неба ўзнікла рыска святла, якая стала наўскос выцягвацца да зямлі, большаць, яскравець. І нарэшце ператварылася ў вогненны слуп, які, цягнучы за сабой распалены хвост і страляючы іскрамі, урэзаўся ў лес за ўзгоркамі. Зямлю страсянуў грымотны выбух, а затым хваля ўраганнага ветру пранеслася над лесам і абрынулася на возера, успеніўшы ваду. Узвіліся з агнішчаў у паветра вугалі, пасыпаліся на людзей абламаныя з дрэў галіны і трыснёг са стрэхаў хадзін. І адразу затым закрычалі спалоханыя жанчыны, заплакалі дзеці, замітусілася ў загарадзе жывёла і па-ваўчынаму завылі сабакі. Але так жа раптоўна вецер сціх, і толькі за ўзгоркамі пачало яснець неба. Маладзейшыя паўзлазілі на хвоі і закрычалі: «Гарыць лес!»

Як заўсёды бывае пры лясных пажарах, аднекуль пацягнула лёгкім ветрам, які паступова мацнеў і раздзьмухваў полымя. Напалоханыя людзі прыкмецілі, што яно расцягваецца ўшыркі і набліжаецца да іхняга возера.

Трэба было думаць пра паратунак.

Запасы ежы, вопратку пакалі ў чоўны, туды ж пасадзілі дзяцей, старых і жанчын і адплылі на мелізну, што была на адлегласці палёту стралы ад берага. Прылады працы, рыбацкі рыштунак і ўсё, што траплялася пад руку, у поспеху закопвалі ў мокры прыбярэжны пясок, тапілі ў вадзе каля камянёў, каб потым, як праміне навала, можна было знайсці. Далека за трыснёг загналі жывёлу, і мужчыны трымалі яе там лыкавымі вяроўкамі.

Малая Палавейка гэтую ноч потым памятала праз усё жыццё. Да самых драбніц. Спачатку набліжаўся гул і трэск, быццам ішла вялікая жнівеньская навальніца. Над возерам ужо густа клубіўся дым у водблесках пажару. І ад гэтых водблескаў барвовыя сполахі трапяталі на вадзе і тварах людзей. Потым з-за ўзгоркаў узвіліся першыя языкі полымя. Яны, як жывыя, вырываліся з гушчару, зыркімі змеямі перабягалі з сука на сук, ад дрэва да дрэва. Звіваліся, з сыкам скручваліся ў клубкі, пырскалі іскрамі і, як стрэлы, выстрэльвалі ўверх. Распаленыя галавешкі з шыпеннем падалі ў возера. Некаторыя далятаалі да самых чоўнаў. Нарэшце вогненныя змеі спляліся ў вялізны слуп агню. Стала нясцерпна горача.

— Трымай гавяду! — крычалі мужчыны, але ашалелую ад лютай спёкі жывёлу было не ўтаймаваць. Яна вырывалася з рук, кідалася на бераг і там згарала; спрабавала ратавацца ў глыбіні — і тапілася.

І вось успыхнулі хаціны і вокамгненна згарэлі — зніклі ў вогненнай навале.

Потым агонь падступіў да самага берага і, на шчасце, захлынуўся на пяску. Яму не было тут што пажыраць. Полымя каля вёскі паслабела, прыбілася ніжэй да зямлі. Затое пажар рос ушыркі, агінаў возера шырокай лукою. Пад раніцу ён дасягнуў паўднёвых прыбярэжных балот і там спрабаваў прабрацца па кустоўі, але пачаў абціхаць. З паўночнага ж боку, у сухадолых барах, яму было дзе разгарнуцца і там ён шалеў з новаю сілай.

Раніцай пасвятлела, але сонца так і не змагло прабіцца праз суцэльны пласт дыму, які нізка слаўся над возерам. Рэзка пахла папялішчам, далятаў смурод паленага мяса. Калі зусім развіднела, людзі ўбачылі, што ў вадзе побач з імі ратаваліся алені і ласі, мядзведзі і ваўкі. Па самыя пысы забраліся ў ваду туры. І ніхто не чапаў адзін другога. Усе забыліся пра іклы, кіпцюры, лукі са стрэламі. Бяда агаломшыла ўсё жывое, прымірыла на нейкі час драпежніка і палахлівую казулю, паляўнічага і яго штодзённую здабычу.

Людзі, паволі прыходзячы ў сябе, ачуньвалі, выбіраліся на бераг. Тушылі бліжэйшыя вывараці, корпаліся на папялішчах. Драпежнікі

ўжо апасліва адышліся далей ад людзей і ўзяліся снедаць каля абпаленых трупаў жывёл. Тыя, хто не мог харчавацца мясам, разграбалі выгарыны, вышукваючы ацалелыя касмыкі травы.

А пушча ўсё гарэла. Пажар заняў наваколле ажно да далягляду. Гарэла ўся зямля ад краю да краю. І ніхто, мусіць, не спадзяваўся, што некалі гэта скончыцца, што зноў заяснее неба і зазелянее счарнелая зямля.

Перад абедам яшчэ больш пацямнела і паніжэла неба, навісла калматым кажухом над абпаленай зямлёй. Сцішыліся людзі, і сціснуліся ў трывозе іхнія сэрцы. Што гэта яшчэ за навала рыхтуецца? А потым цяжкі грукат пракаціўся над галовамі, быццам кацілі камяні нейкія веліканы, і першая маланка, як вогненная галіна, успыхнула на небе. Потым бліснула і аглушальна загрукатала ўжо за возерам і грымнула навальніца з перунамі, і лінула так, быццам уверсе штосьці развязалася, парвалася. Шыпелі і тухлі абгарэлыя пні, чорныя ручаі пабеглі ў возера.

Цяпер ужо людзі смяяліся і крычалі ад радасці, ловячы ў широка адкрытыя раты дажджавыя струмені — навальніца патушыць гэты сусветны пажар!

А праз колькі дзён, калі мужчыны хадзілі да балота, каб насекчы жэрдак для новых хацін, як раз там, дзе быў ударыў у зямлю пярун, яны знайшлі каменную сякеру. Дзіўную яна мела форму — як імклівы човен з узнятым вострым носам. І адтуліна для рукаяткі была вельмі ж адмысловая.

Як сюды трапіла сякера, хто яе згубіў? Можа тыя конныя ваяўнікі, што калісьці даўным-даўно прамкнуліся гэтымі мясцінамі? Можа быць. Але зараз людзі былі перакананыя, што нездарма сякера знайшлася менавіта там, куды трапіла вогненная перунова страла.

— Сякера Перуна! — сказалі старыя.

— Сякера Перуна! — паказвалі тубыльцы знаходку блізкім і далёкім суседзям.

Праз шмат гадоў расказвала Палавейка ўнукам і праўнукам:

«Аднойчы цёмнай ноччу прыляцеў Цмок і ўпаў у лес за ўзгоркамі. А было ў яго сем галоў і ў кожнай з пашчы выскоквалі вогненныя языкі-змеі. Да чаго ён языком не дакранецца — адразу згарыць. З рэвам і грукатам нёсся па нашай зямлі Цмок, хочучы спаліць усё жывое, знішчыць нашу пушчу, звяроў і людзей.

Пачуў пра такую навалу Пярун і прыімчаў па небе на даўгагрывым кані, і капыты ягонага каня высякалі з воблакаў іскры, і грукат стаяў навокал.

Схапіліся Пярун з Цмокам у смяротным двубоі. Кінуў Пярун вострую сякеру і адсек пачвары першую галаву. Але астатнія жывуць, кусаюцца. Кінуў Пярун яшчэ сякеру, адсек другую галаву. І так сем разоў. Застаўся Цмок зусім без галоў і здох. Ды жывымі яшчэ былі вогненныя языкі-змеі, што павыскоквалі з адсечаных галоў. Пладзіліся яны мноствам і разбягаліся ўсё шырэй па лесе. І не было ад іх паратунку, бо засячэ адну Пярун, а на яе месца некалькі новых звіваецца. Тады паклікаў Пярун навальніцу. Лінуў дождж і затапіў цмокавых дзяцей. І абціх на зямлі пажар».

*

*— Гэта і ёсць тыя старажытныя карані фальклору, як разумею, вытокі сюжэту двубою Перуна і Цмока.*

*— Які бытуе, дарэчы, у самых розных народаў. Для першабытнага чалавека лясныя пажары паўсюдна былі найвялікшым стыхійным бедствам. У беларускім фальклоры можна знайсці і іншыя сюжэты, якія дайшлі да нашага часу ажно з бронзавага, а то і каменнага веку. Есць, напрыклад, паданне аб асілках, якія жылі толькі з дзічыны ды рыбы, апраналіся ў звярыныя шкуры, а на паляванне хадзілі з каменнем. У іншых паданнях старажытныя асілкі перакідваліся каменнымі сякерамі. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што ў казках пра звера Цуду-юду захавалася памяць пра маманта. А ён жа знік з тэрыторыі Беларусі больш як дзесяць тысячагоддзяў назад!*

## ВОГНЕПАКЛОННІКІ

Ніхто дакладна не ведаў, адкуль быў родам гэты высокі стары з загарэлым тварам і барадою, сівою і пакручастаю, як пена на віры. Хадзіў ён ад паселішча да паселішча, абапіраючыся на ядлоўцавы кій, паблісквоючы меднай бляхаю на грудзях з выяваю крукаватага крыжа.

Казалі, што яшчэ ў маладосці гэты чалавек трапіў быў у палон да паўднёвых людзей, якія прадалі яго ў рабства. Шмат гадоў лёс кідаў яго па свеце. Нацярпеўся рознага, але, будучы ад роду цікаўным і кемлівым, шмат чаго пабачыў і многаму навучыўся.

Вярнуўся ён у гэтыя мясціны ўжо ў сталым веку. Прыплыў ажно з-пад паўднёвага мора разам з цёмнавалосымі кучаравымі людзьмі на вялізным чоўне пад ветразем. Верная прыморнікі абмянялі медзь, бронзу і шкляныя пацеркі на звярыныя шкуры, мёд і воск і вярнуліся да сваіх цёплых берагоў. Стары ж застаўся. Ен пачаў хадзіць па тутэйшым краі і навучаць людзей пакланенню сонечнаму свяцілу.

Вечарамі распальваў вогнішча, збіраў вакол сябе гурт і гаварыў, размахваючы рукамі. Яго ўтрапёныя вочы быццам пранізвалі людзей, і дзівосныя словы глыбока западалі ў сэрцы. А калі сонца адбівалася ад увагнутай меднай бляхі і асляпляла прысутных, усім здавалася, што гэта пасланнік самога Сонца з'явіўся перад імі. І за ўсё гэта клікалі старога Вешчуном.

— Вы сееце збажыну і гадуеце быдла, але як дзікуны-паляўнічыя, што блукаюць па глухіх пушчах, па-ранейшаму пакланяецеся Месяцу — уладару цёмных начных сіл, якога лічыце вярхоўным боствам,— гаварыў Вяшчун.—Але ж хіба не Сонца прыносіць цяпло на зямлю і растапляе снягі і лёд? Хіба не з ім прыходзіць вясна і наступав час сяўбы? І хіба не сонечныя промні спеляць зерне ў каласах? Хіба не Нябеснае Свяціла дае жыццё ўсяму існаму на зямлі?

— Сонца — вярхоўнае бостваб— навучаў далей стары.— Месяц жа — цемра і ноч, і свеціць ён толькі, адбіваючы сонечнае святло. Падстаўце далоні Сонцу і адчуеце цяпло. А хіба ж дае цяпло Месяц? Хіба не холадам і золкім туманам ахутвае ён зямлю? І хіба не Сонца разганяе туман уранку і прасвятляе над намі неба?

— Агонь у вогнішчы і на паходні — гэта часцінкі Сонца, што апусцілася да людзей. Калі мы спальваем лес і на выгарыны кідаем зерне, то ячмень хутка расце, высокі і каласісты. Гэта агонь зрабіў такой урадлівай зямлю. І гэты агонь нараджаецца ад трэння скрыжаваных палачак. Таму скрыжаваныя палачкі, крыж — сімвал вечнага Сонца!

Слухалі людзі Вешчуна, дзівіліся, ківалі галовамі. Некаторыя ж пляваліся, адварочваліся і ішлі прэч. Ды ўсё больш было такіх, што пачыналі пакланяцца Сонцу, паліць летняй самай кароткаю ноччу рытуальныя вогнішчы, спальваць нябожчыкаў і насыпаць над імі земляныя капцы. Таму вылюдняліся бажніцы, прысвечаныя Месяцу, усё менш да іх прыносілі ахвяраў. І адпаведна ўсё менш перападала светарам — прыслужнікам каля бажніц мяса і хлеба, вопраткі і ўпрыгожанняў.

Аднойчы ў канцы лета Вяшчун з некалькімі вучнямі падаўся на землі, што былі на далёкіх паўночных прытоках. Прыйшлі яны туды і прыпыніліся на высокім прыбярэжным мысе. Зладзілі цёплы будан, каб перабыць у ім зіму, расклалі вогнішча і пачалі залучаць мясцовых жыхароў да вогнепаклонніцтва. Але на гэтых глухіх ваколіцах, сярод векавечных пушчаў, дзе былі неўрадлівыя пясчаныя глебы, людзі жылі амаль выключна з палявання і рыбацтва. Зерня тут сея л і мала, і жывёл амаль не разводзілі. Таму новае вучэнне з цяжкасцю пускала караНі. Тубыльцы па-ранейшаму пакланяліся Месяцу, выявам

Вялікага Лася і Маці-качкі, нябожчыкаў загортвалі ў бяросту і хавалі ў дуплах старых дрэў. Ды ўсё ж паціхупамалу большаў гурт слухачоў каля вогнішча на мысе. Але ўсё гэта дужа не даспадобы было тутэйшым светарам ды і старэйшыны скоса пазіралі на находніка, што муціў у галовах іхніх супляменнікаў.

І аднойчы на рачны мыс уварваўся натоўп узброеных мужчын.

— Смерць чужаку, які вучыць нішчыць агнём целы нашых памерлых бацькоў і дзядоў! — крычалі светары-падбухторшчыкі.

— Смерць яму! — роў натоўп.— І гэтым, што каля яго!

— Паслухайце, людзі...— узняў рукі Вяшчун.

— Няма чаго нам цябе слухаць! — перапыніў старога каржакаваты здаравяк з ваўчынай шкураю за плячыма.—Калі твае багі такія вялікія, то пакажы іхнюю моц. Інакш — рыхтуйся сустрэцца з імі! І ён патрос сякерай.

— Вучні мае,— загадаў Вяшчун,— нясіце сюды больш сухой травы і галля.

У насцярожаным маўчанні натоўпу Вяшчун падышоў да нарыхтаванага вогнішча і павярнуўся так, каб сонечнае святло ад нагруднай бляхі, сабранае ў вузкі пякучы прамень, трапіла на сушняк. Доўга стаяў так, не кранаючыся, і ягоныя ворагі ўжо пачалі былі траціць цярпенне. Але вось ад сонечнай плямкі на траве выплыў абвуглены абадок, задыміўся, і нарэшце ўспыхнуў агонь. Гул здзіўлення праляцеў над мужчынамі.

— Гэта толькі чараўніцтва! Не верце яму, людзі! — не здаваліся светары.

— Нясіце голле на вогнішча. Ды пабольш! — зноў загадаў Вяшчун.

Нарэшце полымя зашугала гарачынёй і выбухнула вышэй чалавечага росту. Тады Вяшчун узняў рукі да Сонца, нешта пашаптаў і ступіў на вогнішча.

Крык жаху і ўтрапення скалануў прысутных. Людзі адхлынулі, многія ўпалі ніцма на зямлю. Рэшта ж са светарамі кінуліся наўцёкі.

Калі дагарэла вогнішча, вучні Вешчуна насыпалі над ім высокі капец.

Вестка пра такое нечуванае здарэнне разышлася па блізкіх і далёкіх наваколлях. Уражаныя тубыльцы паступова таксама пачалі пакланяцца агню.

*

*— Нешта ў цябе тут цьмяна і скорагаворкай. Так і у сне бачылася?*

*— Ну, не зусім так. Тое-сёе дабавіў. Пачатак бронзавага веку быў звязаны з радыкальнымі зменамі ў светатіоглядзе першабытнага чалавека. У тым ліку і ў рэлігійных вераваннях, якімі былі прасякнуты самыя розныя бакі тагачаснага жыцця. Справа ў тым, што земляроб бронзавага веку інакш успрымаў і тлумачыў свет, чым неалітычны паляўнічы. Для земляробства важныя змены пораў году, рух нябесных свяцiл, па якiх ён вызначаў набліжэнне гэтых змен, важнае сонечнае цяпло, плодная моц зямлі. Старажытнага сейбіта займала таямніца нараджэння расліны з зярняці, чаму спрыялі і дождж і сонца. Канешне, змены ў духоўным жыцці адбываліся не раптоўна, а паступова. Старое не здавала легка свае пазіцыі, працягвала існаваць нейкімі элементамі і ў новую эпоху. Гэта таму, што ранейшыя заняткі, звязаныя з лесам, возерам, працяглы час усё яшчэ мелі важнае значэнне ў забеспячэнні чалавека прадуктамі харчавиння.*

*У сне ж мне бачылася, быццам я — малы хлапчук, сядзім з дзедам на азёрным бе разе і пячом мы на невялікім цяпельцы ракаў. Іх поўна было ў норах пад нізкім берагам. Толькі што налавілі — гупалі па беразе нагамі, а ўстрывожаныя небаракі выпаўзалі на пясчанае плыткаводдзе на відавок. Там мы іх і хапалі за спінкі. І вось мы сядзелі каля агню і чакаліу пакуль ракі пачырванеюць — тады іх можна лупіць і есці — і дзядуля апавядаў пра Вешчуна. Запомніліся толькі ўрыўкі з гэтага падання, рэшту ж дапоўніў сам, што ведаў з археалагічных раскопак, прачытаў у кніжках па этнаграфіі першабытных народаў.*

*Земляробства гэтага часу ў аснове сваёй было падсечна-агнявым. Глебу на выгарынах рыхлілі рознымі завостранымі каламі, каменнымі і рагавымі матыкамі. Дарэчы, такіх каменных матык на Беларусі знойдзена даволі шмат. Падобныя спосабы апрацоўкі поля былі вядомыя яшчэ з новага каменнага веку. Але маюцца сведчанні, што ў бронзавым веку зараджалася і распаўсюджвалася і ворыўнае земляробства з дапамогай драўлянага ралау запрэжанага валамі. Хачу яшчэ раз падкрэсліць важнейшую ролю агню ў гэтай справе. Толькі ІМ можно, было для сяўбы вызваліць дастатковыя плошчы сярод суцэльных лясоў ды хм ыз някоў. Да таго ж зямля, угноеная попеламу станавілася надзвычай урадлівай. Першага чалавека агонь саграваўу ахоўваў ад звера, даваў магчымасць згатаваць ежу. Зараз жа ён стаў першым памочнікам і земляробу. Успомнім, што толькі агонь даў чалавеку ўладу над рудамі, з якіх ён пачаў выплаўляць металы.*

*Заняўшы такое важнае значэнне ў штодзённым жыцці людзей бронзавага веку, агонь і сонца, як яго найвышэйшае ўвасабленне, сталі важнейшай часткай іхніх вераванняў, светапогляду.*

## ДОБРА ТОЕ, ШТО Ў ПАРУ КАНЧАЕЦЦА

*У палату ўвайшла медсястра, дзелавіта зрабіла нам апоиінія на сёння ўколы, выключыла святло, пакінуўшы над дзвярыма толькі маленькую зеленаватую лямпачку. Хворыя пачалі рыхтавацца да сну. Я выцягнуўся пад коўдрай, выбіраючы зручнейшае месца для ладна ўжо адлежаных за мінулыя паўмесяца бакоў і сцішыўся ў чаканніу калі надыдзе прыемнае паўзабыццё, а затым і сон...*

*Навокал было толькі, чорнае, без канца і краю, верху і дна, неба. І на ім нерухома свяціўся россып зор. Вялікіх і дробных, ледзь прыкметных. Сярод іх фасфарыцыруючымі мядузамі завіслі спіралі далёкіх галактык.*

*Я агледзеўся, але не ўбачыў ні зямлі, ні месяца. Навокал быў чорны космас і тыя ж рэдкія зоры. Я паспрабаваў абмацаць сябе і не змог, бо ў сапраўднасці не было і мяне, як матэрыяльнай істоты. Сярод гэтай бясконцай пустэльні знаходзіўся толькі згустак маёй свядомасці, якая не мела цялеснага ўвасаблення. І тады я пачаў разумець, што, пакуль спаў, гэты д'ябальскі гадзіннік часу перанёс мяне на мільярды гадоў, можа нават на светлавыя гады... Толькі невядома куды — у буду чае, ці ў мінуўшчыну? Навокал былі чужыя абрысы сузор'яў і самае галоўнае — ужо ці яшчэ не было не толькі Зямлі, але і усей Сонечнай сістэмы. Не было маіх родных, блізкіх, знаёмых. Я з імі размінуўся ў часе! І ад усведамлення гэтага мяне агарнула жахлівая, безнадзейная туга. Я ўяўляў, які тут ледзяны холад, якая сусветная пустэча і невыказная адзінота. І мая свядомасць сцялася ў балючую кропачку.*

*На шчасце, сон мой працягваўся нядоўга. Я прачнуўся і з палёгкай убачыў цьмяную лямпачку над дзвярыма, пачуў ціхія стогны су седа, але пачуццё раздзіраючай душу адзіноты не міналася. Тады я скруціўся клубочкам і не заснуў да самай раніцы.*

*Днём я выклыпаўся ў бальнічны сад. Хадзіў між дрэвамі, разглядаў кожны ўжо пажаўцелы лісток, дакранаўся да шурпатых бярозавых камлёў, нюхаў познія кветкі. Я з цяжкасцю верыў сабе, што знаходжуся зноў на зямлі,і шукаў усё новыя пацвярджэнні, што я тут, а не ў космасе. І ў твары людзей, якія прагульваліся па вільготных дарожках, углядаўся, быццам бачыў іх першы ці апошні раз.*

*А позна вечарам, калі зноў ляжаў у ложку, раптам здрыгануўся ад думкі, што вось засну і знікне зямляу і я зноў апынуся ў той жа міжзорнай пустэльні. І кожны раз, калі сон ужо амаль авалодваў мною, прахопваўся. І так было ўсю ноч.*

*Тое ж паўтарылася і ў наступныя ночы.*

*Я зусім знясілеў ад бяссоння і стаў нецярпліва чакаць Івана Пятровічау які ўсё недзе затрымоўваўся. Нарэшце пазваніў яму сам: «Прыедзь, калі ласка, мне блага».*

*Устрывожаны сябра праз паўгадзіны быў у палаце.*

*— Ну, што ў цябе? — запытаўся ён, прысеўшы каля ложка і пільна ўзіраючыся ў мой твар.*

*Я даволі блытана распавёў яму пра свой «гкасмічны» сон, пра тое, што баюся заснуць, каб не паўтарыўся кашмар. Гаварыў я дрыжачым голасаМу нервова тузаўся. А ў канцы пачаў скардзіцца, што мне абрыдлі ўсе гэтыя мроі з мінулымі тысячагоддзяміу што мне хочацца спаць, як кожнаму нармальнаму чалавеку, бачыць звыклыя сныf а сама лепш — не сніць нічога, бо гэтымі начнымі трызненнямі я здаволіўся да краю.*

*Іван Пятровіч паклаў мне руку на плячо:*

*— Не хвалюйся. Звыклая справа — у цябе наступіла нервовае перанапружанне. Але ўсё будзе добра. Кладучыся спаць, глынеш вось гэту зялёную таблетку.*

*І сапраўды у пасля ягоных лекаў сон быў глыбокі, моцны і спакойны. Можа, што я і сніў, але, прачнуўшыся, нічога не памятаў. І калі расплюшчыў вочыу убачыў каля свайго ложка палатнага доктара і Івана Пятровіча.*

*— Ну як? — хітра заўсміхаўся мой сябра.*

*— Спаў, як пшаніцу прадаўшы! — шчасліва засмяяўся я.*

*— Яшчэ б, двое сутак. Як сябе адчуваеш?*

*— Страшэнна хачу есці.*

*Праз нейкі месяц пасля выпіскіз бальніцы я зазірнуў на працу да Івана Пятровіча, каб па старой звычцы перакінуцца парай слоў.*

*І ў канцы нязмушанай сяброўскай гаворкі, не падаючы выгляду, што хвалююся, быццам між іншым, папытаўся:*

*— А такі стан... Ну, гэтыя сны з мінулага... не паўторацца?*

*Іван Пятровіч зняў акуляры, задумліва пакруціў іх у руках і зноў уссунуў на нос.*

*— А хто яго ведае? Пры нейкіх новых стрэсавых сітуацыях... Але, калі што якое,— ад разу звяртайся да мяне.*

# БУРШТЫНАВАЯ ПАЦЕРКА

## *ДЗЁННІК АРХЕОЛАГА*

ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Недзе ўжо над Бярозай белая коўдра воблакаў парадзела, і з акна самалёта пачала праглядацца восеньская зямля з цёмна-зялёнымі хвойнікамі, жоўтымі бярэзнікамі і альшэўнікамі, што рудзізной разліваліся паўз звілістых рэчак. А перад Аеплем пачаліся азёры. Як на дэкарацыях лялечнага тэатра. Яны былі мініяцюрныя, і на іх блакітнай роўнядзі тонкімі рыскамі вылучаліся зусім мікраскапічныя адсюль лодачкі. На азёрных берагах тuліліся да вады вёсачкі і мястэчкі, падстаўляючы скупаватаму вераснёўскаму сонцу шэрыя далоні стрэхаў.

Зямля здавалася роўнай, узгоркі ледзь угадваліся па абстрактных авалах шэра-рудой, а месцамі аж чырванаватай, свежа ўзаранай раллі. І ўжо зусім цёмна-рудымі плямамі, разлінаванымі надта ж роўнай сеткай канаў і каналаў, праплывалі пад намі тарфянікі. І скрозь былі ніткі, шнурочкі, стужкі і плямкі вады. Непаўторная Віцебшчына — беларуская Поўнач, прыгажуня ў зялёнай суконцы з блакітнымі кветкамі азёр...

Праз нейкі час пад самалётнае крыло густа высыпалі маленькія дамочкі, затым большыя — на два і тры паверхі, а злева паказалася шырокая стужка ракі. «Мусібыць, Дзвіна», — падумалася. А калі закурэлі коміны заводаў, тоненькія з такой адлегласці, як алоўкі, зразумеў, што пад намі Віцебск.

Самалёт, завальваючыся на бок, пачаў заходзіць на аэрадром. Зямля крута напаўзала на гарызонт, і імгненне здавалася, што неба перакуліцца пад ногі і зямля са смяротнай хуткасцю рынецца на нашу дрыготкую птушку...

Дарога з Віцебска на Сянно — між лясоў, палёў і зноў лясоў. Да самага Галоўска не даехалі — аўтобус сапсаваўся. Давялося ісці яшчэ кіламетры са тры спачатку лесам, а затым — перад самай вёскай — праз асушаны тарфянік.

Гаспадыня, у якой я спыняўся яшчэ летам з нашым інстытуцкім фатографам, успрыняла маё з'яўленне без асаблівай радасці:

— Поўная хата студэнтаў, прыехалі бульбу капаць.

— Дык я можа зноў у пуню на сена?

— Ідзіце, калі ноччу не змерзнеце...

Змерзну не змерзну, але начаваць недзе трэба, і я вузкай сцежкай праз гародчык прабраўся да пуні, прыставіў драбіны і палез на духмянае і шорсткае сена. Выкапаў нару і, не распранаючыся, схаваўся ў сене ледзь не з галавой.

Цёпла, як часта бывае хмарнай ноччу ў пачатку восені. Ляжу і слухаю начную цішыню. Забрахаў сабака. Потым на вуліцы пачуліся дзявочыя галасы. І зноў ціха. А пасля пасыпаўся дробны дождж. І, ужо засынаючы, пашкадаваў, што пуня крыга саломай, а не дранкай: спаць пад дажджавое шапаценне па дранцы — адна асалода.

## ДЗЕНЬ ДРУГІ

Раніца хмарная, але дажджу няма. Толькі б ён не пайшоў днём, бо на балота тады не сунешся. Выбіраюся з сена бадзёры і ў добрым гуморы — і не змерз, і выспаўся нішто, а ўперадзе была цікавая дарога, і нагам не цярпелася адмерваць кіламетры...

Спачатку ісці трэба было па вузкай палосцы тарфяніку, ператворанай у нейкае падабенства дарогі, затым звярнуць управа — уздоўж канавы. Дарогу тут я ўжо збольшага ведаю і таму рашаю зрэзаць кут між канавай і рэчкай і шыбую проста праз малады бярэзнік. Неўзабаве бярэзнік радзее, пачынаецца травяное балота. На кожным кроку чапляюся то за пень, то за паваленае дрэва. А трава-трыснёг — ледзь не ў мой рост, наперадзе нічога не відно. Недзе збоку трывожна затрашчала сарока, і рука міжволі мацае — ці на месцы нож? Можа, трэба было б павярнуць назад і ісці знаёмым шляхам уздоўж канавы, але злосць на самога сябе штурхае наперад: «Папёрся на скрут галавы, то і пхніся да канца, калі карацейшай дарогі захацелася...» Выходжу да рэчкі нечакана — проста з травы ссоўваюся на скос берага.

Рэчка Крывінка тут простая, як страла. Толькі зрэдку робіць павароты, строга вызначаныя магістральным каналам, каб потым зноў, праразаючы хмызняк, бегчы напрамкі да Дзвіны. Час ад часу нешта пялёхаецца ля берага, але маім блізарукім вачам не разгледзець — ці то жабы ўцякаюць, ці то шчупакі ганяюць драбнечу.

Гадзіне а дзесятай, калі пачало добра смактаць пад лыжачкай, папярэдзе забялеў мост, а лявей, на невысокіх пагорках, паказалася, нарэшце, і вёска Асавец — мэта маіх імкненняў. Ля самай вады торф знік, І зараз можна ўжо было ісці па цвёрдым грунце з белага дробназярністага пяску.

У Асаўцы пасля нядоўгіх угавораў цётка ўзяла мяне на пастой у вялікую, як пуня, хату.

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

Яшчэ ўчора вечарам схадзіў у суседнія Дабрыгоры, дзе дырэктар мясцовай школы паабяцаў даць на раскопкі некалькі вучняў — «не на шкоду заняткам». Сёння прыйшлі два асавецкія хлопцы. Для пачатку хопіць і такой «рабочай сілы».

Дзе пачаць капаць? Ведаю, што культурны пласт, які і хавае ўсе знаходкі, залягае глыбока пад тарфяной тоўшчай. Значыць, трэба капаць многа лішняга, а грошай на рабочых не так ужо і шмат, ды і каб абкладныя дажджы не пачаліся. Але мне пашанцавала...

Наогул верасень гэты быў для мяне шчаслівым месяцам, а ўсё лета неяк прайшло цераз пень калоду: хадзіў я і па Віліі, І па Нёмане, трапіў нават на далёкую Браншчыну, а ўсё без асаблівай карысці. І нерваваўся, і мітусіўся, і наогул хацеў узяць водпуск і з'ехаць да бацькоў на Мядзельшчыну, аж тут...

У самым пачатку верасня прыйшоў ліст з Лагойска: «Ля вёскі Зацэнне мясцовы жыхар Сяргей Шубара знайшоў старажытнае паселішча». Неадкладна еду. Капаць было цяжка, месца раскопак залівалася вадой рэчкі Цны, але чаго там толькі ні было: матыкі, кінжалы, стрэлы, сякеры, кавалкі глінянага посуду. І ўсё гэта аж з чацвёртага тысячагоддзя да нашай эры!..

Шанцуе, здаецца, і тут. Ля ўпадзення ў Крывінку вадазборніка бульдозер выкапаў нешта накшталт катлаванчыка — загарэлася было тарфянішча, дык запруджвалі рэчку. Невялікі той катлаванчык, але пад раскопкі якраз падыходзіць. Толькі бярэ сумненне, ці не пашкодзіла машына культурны пласт. Усе разам бярэмся за рыдлёўкі і пачынаем «зачышчаць» гэтае месца.

Капаецца лёгка і спорна, і нішто нам не перашкаджае. Толькі вось пастухі падагналі статак, і на нашу працу прыйшоў падзівіцца бык — такі здаравенны, што не дай бог сустрэцца з ім на адной дарозе. Стаіць ён непадалёк, за нашымі спінамі, капыціць зямлю ды час ад часу пагрозліва раве. Кідаю торф, а сам вока з быка не спускаю. Чорт ведае, якія думкі ў ягонай галаве. Ды і наогул: ці бываюць у яго думкі, акрамя як нажэрціся ды каго-небудзь падчапіць на рогі? І карціць мне перабрацца на другі, бяспечнейшы бок, але няёмка перад хлопцамі. Нарэшце надакучыў бык і маім работнікам, яны замахалі рыдлёўкамі і адагналі жывёліну.

— Вы не бойцеся. Бачыце, у яго ў носе кальцо! Калі кінецца, то хапайце за кальцо, і тады ён будзе, як цяля.

Я падзякаваў хлопцам за добрую параду, але ні сустракацца з тым быком, ні за кальцо яго хапаць усё ж не хацелася.

Урэшце рыдлёўка аб нешта чвіркае. Падымаю чарапок глінянага гаршка, пачарнелы, з нагарам. І ён быццам шэпча мне: «Я служыў тваім вельмі далёкім продкам, і калі будзеш уважлівы, дык знойдзеш тут шмат цікавага і спазнаеш не адну таямніцу».

Ужо амаль скончылі «зачыстку», як прыбег пастух.

— Браткі, памажыце! Бык у багну ўсунуўся.

Мы ўскідваем рыдлёўкі на плечы і шыбуем уздоўж канала за пастухом. Дзе ж той бык?

Нехта крыкнуў:

— Асцярожна!

Гляджу пад ногі і бачу, як між асакі і дробнага лазняку чарнее пляміна густой, як каламазь, тарфяной вады — заплылы тванню канал.

— Мы тут мералі. Жардзіна на метры чатыры лезе, а дна ўсё няма, — тлумачаць мне хлопцы.

Ага, вось і бык. Праваліўся ў багну, толькі хрыбціна тырчыць і галава. На вачах яго паволі зацягвае ўсё глыбей. Хуценька зразаем рыдлёўкамі купіны, ломім голле і ўсё гэта месцім жывёліне пад галаву, каб не захліпнулася.

— Падла, вылазь! — крычыць пастух і лупіць пугаўём па бычынай спіне. Небарака тузануўся і заціх у знямозе, толькі мутнеюць ад болю і роспачы яго вочы. — Вылазь, ваўкарэзіна!..

Адчуваю, як мной апаноўвае шаленства. Хочацца вырваць пугу і ўдарыць гэтага чалавека. Сціскаю дзяржак рыдлёўкі і крычу:

— Перастань! Бяры ў хлопцаў веласіпед і шпар у вёску за падмогай!

Пастух разгублена апускае рукі і ідзе да кучы веласіпедаў. Згінаюся над бедалагам і гладжу яго магутную шыю:

— Ну што, бысю, папаўся? Што ж ты не равеш, зямлю не капыціш?..

Заўважаю, што глыбей ён не грузне, — напэўна, упёрся нагамі ў нешта цвёрдае, — і кажу хлопцам, што пара ісці да раскопак, быка выцягнуць і без нас.

Адзін з маіх памочнікаў насек роўных калочкаў, і мы іх пазаганялі ў торф, размеціўшы так званую сетку квадратаў. Зараз месца будучых раскопак нагадвае шахматную дошку. Заўтра на кожны квадрат-клетачку стануць хлопцы І дзяўчаткі і нажамі асцярожна, тоненькімі скібачкамі, будуць зразаць торф, перабіраючы яго рукамі — каб не паламаць крохкія чарапкі, не абмінуць і не выкінуць якуюнебудзь знаходку.

Сёння пачынаць раскопкі ўжо не было як. Рабочых у мяне пакуль толькі двое, ды і час — па абедзе. Сказаўшы, каб хлопцы ішлі дахаты, пачынаю рабіць вокамерную здымку рэшткаў паселішча. Паселішча пад час меліярацыйных работ было перарэзана магістральным каналам і вадазборнікамі. Замалёўваю іх на лісце міліметроўкі, вызначыўшы напрамкі па компасе. Астаецца толькі занатаваць межы археалагічнага помніка. Лезу ў канал і, асцярожна ступаючы па слізкім торфе, прыглядаюся. Культурны пласт добра прасочваецца спрэс. Вось зверху залягае мятровая тоўшча цёмна-бурага торфу, перамешанага з асакой, а ніжэй — рудаватыя адклады з каменьчыкамі, сучкамі, а то і з кавалкамі камлёў. Тут жа вытыркаюцца гліняныя чарапкі, косткі. Культурны пласт будзе сантыметраў 40. Не пласт, а мара археолага. Праўда, экскаватар разбурыў значную яго частку, але затое і дапамог знайсці такі цудоўны помнік. У іншым выпадку ляжала б гэтае «паселішча», схаванае торфам ад людскіх вачэй, не адно стагоддзе, а можа і назаўсёды асталося б неразгаданай таямніцай. Прасачыўшы на скосах, дзе знікаюць знаходкі, замалёўваю прыблізныя межы старажытнага паселішча. У працэсе раскопак іх можна будзе ўдакладніць.

Гляджу на гадзіннік — палова пятай. Хочацца есці. Ускідаю на спіну плячак і перабіраюся на левы бераг Крывінкі. Іду да старога рэчышча, дзе яшчэ захаваўся невялікі лясок, не кранўты бязлітасным нажом бульдозера. Увесь жа вялізны крывінскі тарфянік ад Галоўска і ледзь не да самых Дабрыгораў парэзаны каналамі, а хмызняк і малады лес згорнуты ў валы. І ляжаць гэтыя валы, як бастыёны, на якіх тырчаць пакарэжаныя і ссохлыя дрэўцы, нібы апошнія абаронцы. А там, куды я ішоў, была трава ў пояс, над ёй жоўтымі свечкамі стаялі бярозкі, а на даўно ўжо высахлым дне былога рэчышча аж «пенілася» лаза і каліна. Дарэчы, меліяратары павінны былі захаваць шырокую паласу лесу і ўздоўж правага берага Крывінкі, але, як пазней мне растлумачыў адзін з іх, нехта захацеў атрымаць прэмію і «даў плошчу». У час прыёмкі аб'екта парушэнне выявілася, але прэміі не адбіралі.

Распальваю вогнішча — не магу ў полі без агню. Патрэскваюць у полымі сухія галінкі, а я сяджу, прыхінуўшыся спінаю да дрэва, і думаю. Спакой навакол, і я, падсілкаваўшыся варанымі яйкамі і скрылікам сала, таксама спакойны.

Чамусьці ўспомнілася мая першая «эталонная стаянка». Было гэта летам 1962 года ў Карэліцкім раёне ля вёскі Ярэмічы. Перад самым мастком праз Вупгу натрапіўся мне грудок цёмна-шэрага пяску. Тут на перакапычанай каровамі дарозе ляжала мноства крамянёвых

вырабаў і чарапкоў арнаментаваных Гаршкоў, адным словам, усё як і мае быць на добрай неалітычнай стаянцы. Шурфоўка выявіла цудоўны культурны пласт больш як метр таўшчыні з чысценькімі пясчанымі праплассткамі. Такой цудоўнай стратыграфіі і ў спецыяльнай літаратуры не сустракаў. Напісаў ліст свайму навуковаму кіраўніку ўкраінскаму археолагу Дзмітрыю Якаўлевічу Цялегіну: «так, маўляў, і так, знайшоў эталонны для Панямоння помнік, буду капаць». Адказ, як па мне, быў занадта разважлівы: «Падумай, прыгледзься, пашурфуй, не спяшайся». Дзе там! Праз два тыдні я ўжо наняў рабочых, размеціў грудок на квадраты і сабраўся канаць. У самы апошні момант рашыў закласці яшчэ адзін шурф «для ўдакладнення стратыграфіі», і на самым яго дне знайшоў ладны абломак шаблі. Не такі ён быў ужо і свежы, іржой пабіты, але яму самае большае было... паўсотні гадоў.

Інфаркту ў мяне не здарылася. Я толькі палез у рэчку і намачыў галаву. Потым сказаў рабочым, што пакуль капаць не будзем, і адправіў іх дахаты. Сам жа ўсё лазіў па грудку, углядаўся пад ногі, стараючыся нешта зразумець. Пад'ехаў на калёсах дзядок, прыпыніўся і спытаўся:

— Згубіў што, сынок?

— Ды вось сцізорык з кішэніываліўся... А чаму, дзядуля, тут зямля такая чорная?

— А хто яе ведае. Мы такую сюды і вазілі.

— Вазілі?

— За палякамі яшчэ мост праз Вухну будавалі, дык нашы пясок да яго вазілі, дарогу павышалі ад паводак.

— А вазілі адкуль?

— Ды вось з тых грудкоў пад вёскай...

Вось так, не пачаўшыся, і скончылася мая «эталонная стаянка». Праўда, на грудках пад вёскай не ўсё было раскопана, і там я пазней знайшоў сапраўдныя стаянкі.

Гэта было ў першы год маіх самастойных заняткаў археалогіяй. Зараз такія канфузы ўжо мала верагодныя. І тут вось, на Крывінцы, пласт будзе не парушаны, бо зверху ён надзейна прыкрыты торфам, якому ўга ўжо колькі стагоддзяў.

Вось тут, дзе зараз я сяджу, калісьці было возера. Палахліва шапацела трысцё, плёскалася рыба. На мулістым дне санлівыя перлавіцы, адштурхоўваючыся бледна-ружовымі ножкамі, паволі пракладвалі свае сцежкі-баразёнкі. Тут было яшчэ плыткавата, а з паўсотні метраў на поўдзень бяздонна зелянела глыбіня, і ў чорных калдобінах таіліся пудовыя самы. Там жа, дзе заўтра пачнуцца раскопкі, быў

паўастравоў невялічкі такі і не высокі. Далей ляжала шырокая раўніна з густым лесам. З возера выцякала рэчка і бегла на поўнач да недалёкай Дзвіны...

Дагарае маё вогнішча, і канчаюцца летуценні. Вечарэе. Пастухі ўжо гоняць кароў у вёску. Бык, вымазаны тванню ад капытоў да вушэй, з парванымі лейцамі на рагах — мужчыны яго выцягвалі коньмі — спыніўся ля нашай расчысткі, паглядзеў у мой бок і пагрозліва зароў. Я нават не пакрыўдзіўся.

## ДЗЕНЬ ЧАЦВЁРТЫ

Школьнікам было ўсё цікава: хто тут жыў і калі, чым жыхары паселішча займаліся, для чаго служылі тыя ці іншыя знаходкі. З вопыту ведаў, што калі адказваць на ўсе пытанні адразу, то работы ніякай не будзе. Таму паабяцаў, што расказваць буду на абедзенных перапынках.

— Сёння гаворка будзе пра самыя частыя ў нашых раскопках знаходкі, — пачаў я, калі хлопцы і дзяўчаткі сабраліся вакол вогнішча — быў халаднаваты дзень, і пагрэцца не шкодзіла..

— Пра чарапкі, — здагадаліся слухачы.

— Хутчэй не пра чарапкі, а пра тыя гаршкі і міскі, ад якіх цяпер толькі чарапкі і асталіся.

На самым дне раскопкі сустракаюцца чарапкі гладкасценных Гаршкоў, арнаментаваных рэдкімі ўзорамі з насечак, плыткіх кропачак, рысак. Як вядома, чым глыбей рэч ляжыць, тым яна, як правіла, старажытнейшая. І сапраўды, гэтая кераміка тут — самая даўняя, ужывалася яна недзе ў сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да нашай эры. Вышэй яе залягаюць рэшткі больш позніх пасудзін з заштрыхаванымі паверхнямі, густа аздобленымі паскамі насечак, грабянцовых адбіткаў і кропачак. Уверсе пласту мы знаходзілі чарапкі Гаршкоў з адбіткамі шнура. Такімі пасудзінамі тут карысталіся гадоў на пяцьсот пазней.

Я дастаў з пакета адзін з чарапкоў:

— Што гэта такое?

— Быццам кубачак для падсочкі, — нерашуча сказала адна дзяўчынка.

— Параўнанне ў некаторай ступені слушнае. Гэта самая ніжняя частка гаршка, а такой часткай, як вам усім ведома, з'яўляецца...

— Дно! — дружна пачулася навокал.

— Так, дно. Але мы прывыклі, што пасудзіна мае дно плоскае. Інакш яе ні ў печ, ні на стол не паставіш. А вось у тыя даўнія часы

гаршкі ляпілі вострадонныя, бо не было ні печаў з роўным подам, ні сталоў. На вогнішча зручней было паставіць гаршчок з вострым дном. Яго нават не ставілі, а як бы ўторквалі. Таму, як дровы ні падгаралі, пасудзіна не кулялася. Толькі пазней, у другім тысячагоддзі да нашай эры, з'яўляецца плоскае дно.

— А што гэта ў зломах чарапкоў бялее?

— Гэта нешта накшталт арматуры. Каб зрабіць сценкі Гаршкоў мацнейшымі, у гліну дабаўляліся тоўчаныя ракавіны азёрных малюскаў. Да таго ж, пры апале гаршкі не трэскаліся. Пасудзіны ляпілі ўручную, бо ганчарнага круга яшчэ не было. У Беларусі ён з'явіўся толькі каля тысячы гадоў назад. З глінянага цеста спачатку рабілі як бы кілбаскі, а з іх — тонкія стужкі. Потым стужкі прылеплівалі адну да адной — вось вам і гаршчок або міска. Лепкай Гаршкоў займаліся жанчыны. Дзівіцеся, адкуль гэта стала вядома археолагам? На некаторых чарапках асталіся адбіткі пальцаў. Па. іх і было вызначана, што гаршкалепамі ў старажытнасці былі прадстаўніцы прыгажэйшай паловы чалавецтва.

Пасля абеду крыху заімжэла, але мы на тое не зважалі, бо торф і так быў мокры. Шмат знаходзілася костак, трапіўся нават цэлы ласіны чэрап. Пад самы вечар у адным з квадратаў сустрэлася мноства цэлых і патрушчаных ракавін і кучка нарыхтаванай гліны. Гэта была добрая ілюстрацыя да маёй сённяшняй гутаркі.

## ДЗЕНЬ ПЯТЫ

Сёння нядзеля. «Рабочыя» мае маюць выхадны, мне ж трэба зноў ісці на раскопкі, бо ўчора не паспеў замаляваць профілі сценак.

Работа марудная, і я ледзь упраўляюся да полудня. Потым іду да свайго ўжо звычнага месца ля старога рэчышча, каб раскласці вогнішча, і тут спахопліваюся, што забыўся запалкі. Якая прыкрасць! Сабраўся быў вяртацца ў вёску, але на ўсялякі выпадак рашыў паспрабаваць здабыць агонь спосабам, якім здабывалі нашы продкі, — трэннем дрэва аб дрэва. Раней гэтым не займаўся, бо недзе прачытаў, што яшчэ ніводнаму цывілізаванаму чалавеку здабыць агонь такім чынам не ўдавалася. Але зусім нядаўна натрапіўся мне цікавы артыкул ленінградскага археолага С. А. Сямёнава. Праведзеныя ім эксперыменты па здабыванні агню былі надзвычай паспяховыя. Я выразаў моцную ляшчэвіну і з дапамогай шпагату зрабіў лук. Затым адным вітком абкруціў цеціву вакол абструганай палачкі, выразаў адпаведную падстаўку — і «вогненная машына» была гатова. Амаль не верачы ў поспех, пачаў з усяе сілы шоргаць лукам, раскручваючы

прыціснутую да падстаўкі палачку. І глядзі ж ты — выйшла: спачатку ўзвіўся дымок, затым бліснуў вугольчык. І вось я ўжо сяджу ля сапраўднага вогнішча і, як зачараваны, гляджу ў агонь.

Ды раптам як быццам туман пачаў засцілаць вочы. Усё навокал памутнела і пачало раздвойвацца. Я нават спалохаўся — ці не захварэў? Туман знік, і я ўбачыў, што знаходжуся зусім у іншым месцы. Наогул месца як бы і тое, але ўсё змянілася. Амаль ля самых маіх ног — азёрны бераг. Далёка на поўдні сiняватай стужкай рассцілаўся супрацьлеглы бераг. Крыху бліжэй рассыпаўся ланцужок выспачак, над імі падымаліся лёгкія дымкі — там былі людзі.

Ці не здарылася што незвычайнае з маім «вогненным эксперыментам» і ці не трапіў я ў старажытныя часы? А можа, гэта сон? Ушчыкнуў сябе за руку і адчуў боль — значыць, не сплю. Але відовішча не прападала...

Агледзеўся навокал і ўбачыў на месцы раскопак паселішча. Уздоўж азёрнага берага, ля вытоку рэчкі, стаяла некалькі хацін — прымітыўных пабудоў, аплеценых лазой. Узвышаліся стрэхі з аеру і трыснягу.

У паселішчы былі толькі жанчыны і дзеці. Сонца ўжо наблізілася да зубцоў сасновага лесу, і жанчыны пачалі распальваць вогнішчы, рыхтуючыся гатаваць вячэру для мужчын, што затрымаліся ў лесе або на возеры. Раздзьмухваюць жанчыны вугалле, дзеці носяць сухое галлё, і вось ужо ля кожнай хаціны заскакалі языкі полымя.

Пачуўся плёскат вады, і ў бераг торкнулася выдзеўбленая з ліповага камля лодка. У ёй стаяў з вяслом у руках высокі малады мужчына, апрануты ў кароткія штаны і сарочку з тоўстага суравога палатна. Дужым рыўком ён усцягнуў лодку на бераг, затым выцягнуў з яе скураны пасак з начаплянай свежай рыбай, сярод якой я з зайздрасцю заўважыў пару вялікіх шчупакоў. З радасным лямантам падбеглі да яго дзеці, але мужчына аддаў ім толькі гарпуны, рыбу панёс сам...

Я ўжо даўно пачаў адчуваць, што нехта за мною сочыць. Гэта — непрыемнае адчуванне, ад яго міжволі наструньваешся, як у чаканні ўдару. Што са мной? Куды я трапіў? Каб жа то быў сон! Вельмі ж усё было рэальна: возера, паселішча і асабліва гукі. У сэрца пачынае закрадацца шкадаванне і страх — ці пройдзе калі-небудзь усё гэта? Да таго ж гэтае прыкрае адчуванне чужога позірку...

Нарэшце не вытрымліваю, паварочваюся да гусцейшага ляшчэўніку і даволі рашуча кажу:

— Ану, вылазь з кустоў.

У адказ — цішыня.

Потым нехта нясмела кажа з гушчару:

— Хто ты?

— Археолаг, з Мінска, — адказваю і спахопліваюся, што трэба ўжывацца ў эпоху. — Чалавек я, — кажу.

— Бачу, што не звер, але чаму ты такі дзіўны?

— Дзіўны? — разгубіўся я. — У нас усе такія.

Голас быў дзявочы, і ў ім адчувалася вялікая зацікаўленасць. Здаецца, кантакт наладжваўся.

— А ты хто?

— Рада.

— А што тут робіш?

— Збіраю арэхі.

— Выходзь сюды, я табе нічога благога не зраблю.

Хвіліна маўчання.

— Я не ведаю, выходзіць ці не, бо ты нейкі незразумелы.

— Разумееш, гэта вельмі цяжка растлумачыць, — пачаў я, напружана думаючы, як бы гэта сказаць ёй больш зразумела. — Я — чалавек будучага, такі, якім будуць твае нашчадкі праз некалькі тысяч гадоў. За гэты час знікла ваша вёсачка, ну, не бясследна знікла, а была затоплена возерам, а твае праўнукі перасяліліся вунь на тыя ўзгоркі. Затым у тваіх праўнукаў былі таксама праўнукі і гэтак далей. І вось, нарэшце, нарадзіўся я. Потым захацелася мне даведацца, як жылі мае далёкія продкі, і я прыехаў сюды раскопваць ваша зарослае торфам паселішча.

Дзяўчына, відаць, слухала ўважліва, бо не прамовіла ні слова.

— Можа, хопіць гуляць у жмуркі і ты, нарэшце, вылезеш з кустоў?

Галіны расхінуліся, і на паляну асцярожна выйшла дзяўчына. Дальбог, яна была прыгожая. Валасы, як лён, і сінія, такія сінія, што аж закружылася ў маёй беднай галаве, вочы. Я, уражаны, утаропіўся ў незнаёмку.

— Калі ты будзеш глядзець так, то я пайду, — зачырванелася дзяўчына.

— Не крыўдуй, не ўцякай, — узмаліўся я, раптам заўважаючы, што стаў горш бачыць — усё перад вачыма дрыжала і расплывалася.

— Чаму ты знікаеш? — працягнула да мяне руку дзяўчына.

— Не ведаю, можа, гэта канчаецца мой час быць у вас, і я вяртаюся да сябе ў будучыню, — паспеў я сказаць і зноў ясна ўбачыў канал, тарфянік. Недалёка вуркатаў трактар. Вогнішча пагасла...

У вёску ішоў паволі. На зямлю насоўваўся змрок. Пацямнела хмарнае неба, толькі на захадзе праразалася набрынялая чырвань. Ды

я не заўважаў ні гэтай трывожнай чырвані, якая на заўтра не варажыла пагадлівасці, ні няроўнай тарфяністай сцежкі.

## ДЗЕНЬ ШОСТЫ

Школьнікі капаюць з энтузіязмам. Нажы так і мільгаюць.

— Павольней, — кажу я. — Нам важна, не колькі зямлі выкінем, а што знойдзем. Праглядайце кожны камячок, каб нічога не прапусціць.

Знаходкі ідуць густа: кавалкі бітага посуду з markрознымі арнаментамі, касцяныя нажы і праколкі, сякеры з ласіных рагоў, наканечнікі стрэлаў, а таксама мноства костак жывёлін.

— Міхаіл Міхайлавіч, — клічуць мяне. — Тут нешта цікавае.

Падыходжу і бачу маленькае каменнае грузіла ад нерата, старанна аплеценае лазой. А непадалёк знайшоўся і касцяны, вельмі ахайна зроблены рыбацкі кручок.

Пераходжу на другі бок канала, каб сфатаграфаваць стаянку. Бачу, як «рабочыя», парушыўшы ўсе мае найстражэйшыя загады не хадзіць па суседніх квадратах, збегліся ў цэнтры раскопак. Хуценька вяртаюся назад і чую ўзбуджаныя галасы: «Чалавек! Чалавек!» Хлопцы расступаюцца, і я бачу, што з торфу выторкваецца драўляная статуэтка чалавека. Бяру нож і пэндзаль і пачынаю сам асцярожна адкопваць знаходку. І вось, нарэшце, яна ў маіх руках. З глыбокіх вачніц на мяне глядзелі тысячагоддзі. Навіслыя бровы з нейкім трагічным выгінам. Прамы нос і вусны з апушчанымі куточкамі. Суровае і загадкавае аблічча, быццам у ім былі захаваны таямніцы жыцця і смерці. Такім і ўяўляўся мне ідал, прыблізна такім яго і ведаў па знаходках у іншых месцах.

— Вы ведаеце, мае дарагія хлопчыкі і дзяўчаткі, што мы сёння знайшлі? Ідала, вобраз божы, якому маліліся ў даўнія часы, калі пачыналі якую важную справу. Гэта не толькі ідал, гэта і першая найстаражытнейшая скульптурная выява нашага продка...

Мінуў шосты дзень раскопак. Быў ён вельмі ўдалы. Але я не хацеў настройваць сябе на пастаянны поспех. З практыкі ведаў, што такія моманты могуць быць раз на цэлы летні сезон, што часта бываюць дні, калі знаходкі звычайныя, а то і зусім нецікавыя. Бываюць дажджы, калі капаць нельга, калі, паміраючы ад безрабоцця, сядзіш, скурчыўшыся, у мокрай палатцы, глядзіш з нянавісцю на хмарнае неба — і толькі ратуе радыёпрыёмнік. Найстрашней, калі ўсё гэта бывае ў адзіноце. Тады хочацца ісці да першай асфальтоўкі, да першай спадарожнай аўтамашыны. Але такія моманты бываюць на трэці або

чацвёрты месяц экспедыцыі, на пяты або шосты дзень абкладных дажджоў. І забываецца ўсё благое пры першым бляску сонечнага промня між дажджавой заслоны, пры першым цікавым чарапку, які намацвае ў зямлі рука.

Дні асеннія кароткія, затое як доўжацца вечары! У час экспедыцыі не люблю вечароў. Сядзіш у хаце між незнаёмых людзей і не ведаеш, куды прыткнуцца. Спаць класціся рана. Можна часам што-небудзь пісаць, але добра натомішся за дзень. Добра, калі гаспадары трапляюцца гаваркія. Мая ж гаспадыня паставіць вячэру на стол і пойдзе да суседзяў. Праўда, цішыню хаты парушае гаспадынін унук. Бегае ён, ганяе ката і ўсё стараецца залезці ў мой плячак.

Апошнім часам пачаў заходзіць цікавы стары. Барада ў яго аж пажаўцела ад часу і тытуню, а біблейскую лысіну акружаюць хвалістыя валасы. І з усёй гэтай беласці і жаўцізны вытыркаецца яркая пляма сіняватага носа. Старому пад дзевяноста, але не скардзіцца. У канторы мясцовага калгаса ягоны партрэт на дошцы гонару: працаднёў стары мае не на многа менш, чым хто з маладзёнаў.

— Я моцны такі, бо ў лапцях хаджу, — тлумачыць дзед. — У ботах нага пацее, а дзе пот, там і прастуда. Летам кары надзяру і пляту сабе цэлую зіму лазовікі. Сянца падсцеліш, анучку цёплую абгорнеш — і ногі, як на пяколачку. А на балота ў касьбу лапцям замены няма — вада як набралася, так і вылілася. Гэта табе не гумовікі!

У Асаўцы я ўжо бачыў некалькіх дзядоў у лапцях. І гэта не ад беднасці — зарабляюць у калгасе няблага. Відаць, тут, у глухім кутку, захавалася яшчэ даўняя звычка. І, можа, яна ўжо і не такая благая. Сустракаецца ж і зараз дзе-небудзь у Германіі або Галандыі драўляны абутак. Ды і ў Вільнюсе вы можаце такі купіць. У мяне самога дома вераўчаныя беленькія лапці служаць за пакаёвыя тэпці — цёпла, зручна і... модна.

Хведар Іванавіч — так завуць старога, успамінаючы маладосць, кажа:

— Даўней ідзеш на скокі, то адну новую пару лапцей на ногі абуеш, а другую схаваеш пад страху. За ноч у польках абедзве саб'еш, а дахаты басячком, — і дзед нават нагой прытупнуў:

— Эх, лапці мае,
Новыя аборкі,
Дзень дома начуюць,
А дзень — у Хадоркі!

За доўгія гады жыццё пакідала старога па свеце, зведаў і пабачыў ён шмат: імперыялістычная вайна, раненне, рэвалюцыя ў Петраградзе, затым грамадзянская вайна на Беларусі, калектывізацыя, зноў

вайна, партызаны. Адзін сын загінуў пад Бешанковічамі ад нямецкай кулі, другі ацалеў, зараз працуе ў Віцебску…

Часам да мяне заглядае і яшчэ адзін дзед, маладзейшы гадоў на дзесяць за Хведара Іванавіча. Ён яшчэ ў маленстве стаў гарбаты, таму з вёскі так усё жыццё далёка і не выязджаў. Затое ён — своеасаблівы мясцовы летапісец: памяць захавала ўсю навакольную гісторыю, пачынаючы ад часоў пана Фокі, які ў Варшаве прагуляў свой «хальварак».

Ад яго я даведаўся пра вельмі даўнюю гісторыю з часоў паўстання Кастуся Каліноўскага. Сярод крывінкага балота на выспе, якую завуць Каралёвым востравам, знаходзіўся лагер «мяцежнікаў». Мясцовы поп «тлумачыў» сялянам, нібыта паны паўсталі супраць цара-бацюшкі, бо той даў прыгонным волю, і падбухторваў мужыкоў лавіць «мяцежных паноў» і здаваць уладам…

Які быў змрочны час і які трагічны лёс быў тых, на Каралёвым востраве!..

## ДЗЕНЬ СЁМЫ

Учора так запрацаваўся, што не асталося сілы раскласці агонь і «сустрэцца» з Радай. Сёння тое ж самае. Капаем. Знаходкі, звычайныя для гэтага месца. Вечарам запаўняю палявы дзённік і кладуся спаць.

## ДЗЕНЬ ВОСЬМЫ

— Раскажыце, Міхаіл Міхайлавіч, пра што-небудзь, — папрасілі школьнікі, папалуднаваўшы і папакаваўшы назад у сумкі бутэлькі з-пад малака.

— Добра, — згадзіўся я. — У мінулы раз вы даведаліся, як нашы продкі ляпілі свае гаршкі, выраблялі прылады працы, здабывалі агонь. Сёння раскажу пра бурштын, апрацаваныя кавалачкі якога сустракаюцца на месцы гэтага паселішча.

Бурштын — гэта акамянелая смала дрэў, што ў вельмі даўнія часы раслі на месцы цяперашняга Балтыйскага мора. Час і мора знішчылі лясы, засыпалі іх пяском, занеслі глеем. Затым хвалі Балтыкі пачалі вымываць бурштын з пяску, і пасля буры можна было знайсці на беразе кавалачкі гэтага прыгожага мінералу. Асабліва часта бурштын сустракаецца ў Калінінградскай вобласці і Літве. Увогуле на зямным шары ён маецца і ў іншых месцах. Ёсць і ў Беларусі на Палессі, але тут ён залягае глыбока і да апошняга часу быў невядомы людзям. У

Сіцыліі бурштын блакітны, чырвоны або зялёны; у Румыніі — чорны, а балтыйскі — вінна-жоўты, яечна-жоўты, руды, мядова-жоўты.

Бурштын вядомы з даўніх часоў. Старажытныя грэкі называлі яго электронам, ад гэтага і ўзнікла слова электрычнасць.

На балтыйскі бурштын нашы продкі звярнулі ўвагу недзе з сярэдзіны трэцяга тысячагоддзя да нашай эры і пачалі вырабляць з яго розныя аздобы.

Здабывалі бурштын прыморскія плямёны. Каштоўны матэрыял трапляў і ў аддаленыя раёны, напрыклад ажно на Беларусь. Якім чынам? Па-рознаму Калі прадстаўнікі аднаго племя ішлі ў госці да іншага, то неслі падарункі, а які ж лепшы падарунак, чым кавалак гэтай празрыстай сонечнай смалы? Распаўсюджваўся ён і шляхам абмену. У паўднёва-ўсходняй Прыбалтыцы быў бурштын, але крэмень, які неабходны для вырабу зброі і прылад працы, адсутнічаў, а ў Беларусі яго колькі хочаш, Вось і плылі ўніз па Дзвіне лодкі-дзяўбёнкі з нашым крэме нем, а насустрач ім, змагаючыся з парогамі і хуткім цячэннем, паволі прасоўваліся лодкі, на якіх везлі каштоўныя марскія дары.

Старадаўні чалавек ужо разумеў, што яму выгадна, а што не. Кавалак бурштыну каштаваў намнога менш, чым гатовая аздоба з яго. Таму, напрыклад, на Беларусь яго прывозілі амаль выключна ў выглядзе гатовых вырабаў.

Аздобы вырабляліся такім шляхам: спачатку крамянёвым нажом кавалку мінералу надавалася патрэбная форма, затым ён зашліфоўваўся на каменнай плітцы. Нарэшце прыступалі да самай адказнай аперацыі — свідравання адтуліны з дапамогай крамянёвага свярдзёлка. Крамянёвы свярдзёлак — не сталёвы, і таму даводзілася свідраваць з абодвух бакоў.

— Што вы можаце сказаць наконт гэтай пацеркі? — я паказаў слухачам адну са знаходак.

— Яна была зламана па свідравіне, — пачуліся галасы, — а затым зрабілі новую дзірку.

— Правільна, але новая адтуліна прасвідравана толькі з аднаго боку. Значыць, рамонт аздобы рабіўся нейкім мясцовым, неспрактыкаваным чалавекам.

Бурштын сустракаецца далёка не на ўсіх паселішчах каменнага веку. Гэта і зразумела, бо ён распаўсюджваўся толькі між плямёнаў, якія былі ў пэўнай крэўнай блізкасці між сабою. У такіх адносінах, напрыклад, знаходзілася насельніцтва Беларускага Падзвіння і паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі. А вось на Дняпры і Нёмане жылі этнічна чужыя народы, і туды гэты мінерал амаль не трапляў. У пачатку

другога тысячагоддзя да нашай эры плямёны так званай у археалогіі культуры шнуравой керамікі заваявалі Балтыйскае ўзбярэжжа. З гэтага часу бурштын пачалі прывозіць і ў іншыя раёны Беларусі...

Апрацаваныя кавалачкі бурштыну — усе гэтыя падвескі-пацеркі, трубачкі, колцы, плоскія кружочкі ў выглядзе гузікаў нанізваліся на шнурок і ўжываліся як каралі або нашываліся на вопратку. Некаторыя ж вырабы былі не толькі аздобамі, але для нашых продкаў мелі і магічны сэнс. Так, сустракаюцца старажытныя пахаванні, у якіх нябожчыкам прыкрывалі вочы бурштнавымі кольцамі. З бурштыну часам выразалі фігуркі птушак, звяроў, першабытных боствaў.

Пасля абеду «рабочыя» закончылі расчыстку сваіх квадратаў, і гадзіне а чацвёртай я іх адправіў дахаты. Сам жа ўзяўся за здабыванне чароўнага агню...

Другая мая сустрэча з Радай пачалася нечаканасцю. Толькі «перасяліўся» ў мінулае, як з кустоў вылецеў здаравенны рыжы сабака. Перапалоханы, я хапаўся і ніяк не мог ухапіцца за нейкую ламачыну, а сабака, ашчэрыўшы жоўтыя іклы, скочыў мне на грудзі.

— Рыжык! Рыжык! — бегла да мяне і крычала Рада. — Пайшоў прэч!

Але крычаць ужо не трэба было — сабака знік у кустах.

— Ён цябе ўкусіў? — спыталася задыханая дзяўчына.

Мы літаральна засыпалі адно аднаго пытаннямі. Адказваць мне на яе пытанні было цяжка, бо свет будучыні меў для дзяўчыны мноства незразумелых вобразаў і паняццяў.

У канцы размовы Рада спыталася з трывогай у голасе:

— А хто твой народ?

— Мой народ завецца — беларусы. Даўней ён меў яшчэ і іншыя назвы: ліцьвіны і русіны, крывічы, дрыгавічы, радзімічы... А як нас клікалі яшчэ раней, ніхто не ведае. Мы жылі тут спрадвеку, тысячы год. Мы ад твайго народу і ад народаў, што жывуць адначасова з тваім на Дзвіне, Дняпры, Нёмане і Прыпяці. Заваёўнікі прыходзілі часта. Прыходзілі, каб нас знішчыць або асіміляваць. Але дзе яны?

Атрымалася неяк, быццам з трыбуны, але Рада, узрадаваная, сказала:

— Раней я жыла толькі сённяшнім і заўтрашнім днём. З'явіўся ты, і я сутыкнулася з часам, які прыйдзе вельмі-вельмі не скора, калі не будзе ні мяне, ні маіх дзяцей і ўнукаў. Мне было трывожна за маё племя — ці данясе яно агонь у будучыню, у твой час... А зараз я ўпэўнена, што нітка жыцця не перарвецца, яна між намі, між табой і мной...

Зноў, як і раней, сталі блякнуць, туманіцца вобразы відаць, вогнішча патухала.

— Да заўтра? — развіталася, як спыталася, Рада.

— Да заўтра, — адказаў я.

## ДЗЕНЬ ДЗЕВЯТЫ

Сёння — апошні дзень работы. На дне раскопак бялее мацярык — азёрны глей. Апошні раз фатаграфую ямкі ад слупоў, на якіх трымаліся стрэхі жытлаў. Затым кажу «рабочым» засыпаць. Дружна мільгаюць рыдлёўкі, ляцяць уніз камякі торфу і зямлі, а мне сумна. Заўсёды сумна, калі засыпаюць раскоп — быццам закопваюць знаёмага.

«Рабочыя» пайшлі, я, счакаўшы, таксама скіраваў да Асаўца. Запакаваныя скрынкі са знаходкамі пакінуў у гаспадыні: за імі павінна заехаць наша інстытуцкая машына. Плячах і запісы забраў з сабою і апошнім аўтобусам паехаў у Бешанковічы, каб адтуль ужо дабірацца да Мінска.

Позняя восень. Хоць дзень і сонечны, але халодны. Пад нагамі хрумстае першы лядок на лужынах. Пад полудзень ён растане, а зараз ісці добра нават і па гэтай тарфяной сцежцы — суха і цвёрда. Падыходжу да вадазборніка і спыняюся перад стаянкай. Не быў тут больш месяца і вось рашыў зазірнуць у пачатку водпуска. Ведаў, што не змагу адпачываць нават на далёкім і цёплым поўдні, не завітаўшы сюды яшчэ хоць раз. Змен амаль няма, толькі праз вадазборнік трактары зрабілі брод, але культурны пласт надзейна схаваны пад тарфяным векам, і яго не кранулі ланцугі машын.

Іду да сухастоіны і выцягваю з дупла свае агнявыя прылады. Яны спраўныя, нават не адсырэлі. Потым пачынаю збіраць ламачча і заўважаю, як дрыжаць ад хвалявання рукі.

Вось і дымок выкаціўся з копачкі, а затым выслізнуў з-пад стрыжня агеньчык і пабег па дробных габлюшках. Кладу ламачча. Яшчэ і яшчэ. Нарэшце шугае зыркае полымя, ад гарачыні аж адступаю назад. Саджуся на пень і неадрыўна гляджу ў агонь. Паступова вогненныя языкі запавольваюць свае скокі, святлее дым, і, нарэшце, зноў прыходзіць тое, дзеля чаго я так імкнуўся сюды...

Але ж гэта іншае месца! Нічога не пазнаю. Можа, я пераблытаў? Не, возера знаёмае, і трысцё, і затока. І тут я заўважыў тое, што прымусіла сціснуцца сэрца. Паселішча не было. На месцы буданоў ляжалі абмытыя даждкамі галавешкі, і толькі абвуглены ідал, як прывід, узвышаўся над пажарышчам, і ў яго грудзях тырчэла страла...

Вогнішча пагасла, толькі яшчэ курэў дым.

Яшчэ раз азіраюся навокал і тут заўважаю амаль пад нагамі нейкую жоўтую кроплю. Нагінаюся і падымаю бурштынавую пацерку. Яна цеплаватая ад вогнішча, а можа, гэта яшчэ захавалася ў ёй цяпло Рады? На грудзях дзяўчыны пацерка здавалася мне кавалачкам сонца...

Даўно пагасла тое вогнішча на беразе Крывінкі, і яго я больш ніколі не запалю. Але часам і зараз у хмарны асенні вечар адчуваю, як агонь загараецца ў маім сэрцы. Са мною і бурштынавая пацерка. Яна, як і раней, цёплая, бо я не даю ёй астыць.

## СТАРЫ НГА

Падзьмулі вільготныя заходнія вятры. Увачавідкі асеў снег і пачалі падтайваць схілы ўзгоркаў. Сталі асабліва смачнымі бярозавыя і вербныя галінкі з набухлымі пупышкамі і першым салодкім сокам.

Захваляваліся маманты-самцы. Часцей ускідвалі хобаты і прызыўна-трывожна трубілі. Статак збіраўся да Вялікай Ракі, якая ўжо, пэўна, пацямнела, перапоўненая талай вадой, і гатовая была ўзламаць лёд. На яе берагах кожную вясну адбываліся вясельныя ігрышчы і баі за самак.

Стары кульгавы Нга не збіраўся да Вялікай Ракі. Калі зіму ён яшчэ неяк агораў, то зараз адчуў, як разам з вясновым ветрам пачалі туманіцца думкі і ўсё часцей цягнула легчы на зямлю.

Статак крануўся за важаком, а Нга саступіў убок і развітальна затрубіў. Маманты акружылі яго, лёгка падштурхоўвалі біўнямі і клікалі за сабой. Але Нга адмоўна пахітаў хобатам і зноў затрубіў. Не, ён больш не пойдзе да Вялікай Ракі. Яму там ужо няма што рабіць.

Маманты па чарзе падыходзілі і развітваліся, дакранаючыся хобатамі да хобата Нга.

Апошняй падышла Ума — яго сяброўка апошніх некалькі год. Яна пяшчотна церлася пукатым ілбом аб яго галаву і не адыходзіла. Нга адчуў, быццам у вочы трапіў пясок і яны павільгатнелі. Адхіснуўся і падштурхнуў Уму ўслед статку.

«Ідзі, ты маладая, у цябе наперадзе доўгае жыццё».

Мамант стаяў і глядзеў услед сваім суродзічам, якія ланцугом аддаляліся на ўсход сонца. Нарэшце іх рудыя постаці схаваліся за ўзгоркамі. І толькі цёмны пасак стаптанага і перамешанага з зямлёю снегу адзначаў кірунак, у якім яны зніклі.

Стары Нга павярнуўся і пабрыў на Захад, дзе за сіні далягляд кожны вечар ападае сонца і дзе, пэўна, несканчоная ноч. У такт павольнай хады пагойдвалася ўсё вялізнае цела прыледавіковага слана са зляжалай лямцаватай поўсцю і аселым горбам, у якім ўжо скончыўся назапашаны за мінулае лета тлушч. Пагойдваліся і цяжкія біўні, нарудзелыя і патрэсканыя на канцах.

На начоўку мамант заціснуўся ў вузкі яр са стромкімі краямі. Зямля падпірала яго з бакоў і не давала ўпасці. У яры пад снегам набралася вады. Таму Нга за ноч падмок і змерз. Заныла пашкоджанае калена, і на раніцу ён закульгаў яшчэ болей.

Гэта калена... Ён тады быў малады і дужы. Толькі важаку і саступаў з дарогі. Але быў неасцярожны. Сярод хмызняку сустрэў аднаго з тых, хто Ходзяць На Двух Нагах. Пагнаўся за ім. Не па злосці

і рабіць таму благога не думаў — пазабаўляцца хацелася. А Двуногі, прыціснуты да балота, у адчаі кінуў дзіду і пацэліў у калена.

Нга зноў кіраваўся на захад. Справа закрываў далягляд ледавік, перамешаны з глінай і пяском, з рабаціннем умарожаных вялікіх і малых валуноў. І толькі ў глыбокіх расколінах, з якіх ужо выбівалася талая вада, месцамі іскрыўся блакітнаваты чысты лёд.

Нга адломваў хобатам галінкі вербалозу і засоўваў у рот. Спрабаваў жаваць, але сцёртыя зубы, якія ўжо ніколі не памяняюцца на новыя, мала дапамагалі гэтаму. А некалі ж былі, як камяні жорнаў, перамолвалі ўсё ледзь не на муку.

З чарговага ўзгорка Нга ўбачыў наперадзе ў лагчыне валасатага насарога. Той таксама прыкмеціў маманта і прыгнуў галаву да зямлі, натапырыўшы востры рог. Валасатыя насарогі — вядомыя забіякі. З імі заўсёды клопаты. У Нга на жываце глыбокі рубец — успамін пра адну такую сустрэчу. Насарогаў тады было двое, і, не раздумваючы, яны кінуліся ў атаку. Пакуль мамант падымаў першага на біўні, другі распароў яму шкуру. Магло б скончыцца і зусім блага, але доўгая і густая поўсць аслабіла ўдар.

Зараз старому Нга не хацелася лезці ў бойку. Таму ён стаяў нерухома і чакаў, пакуль гэты аднарогі тупіца супакоіцца і пойдзе сваім шляхам.

Каля паўдня мамант учуў пах дыму. Гэта быў знак, што недалёка Двуногія. Даўняя нянавісць да гэтых стварэнняў скаланула звера, і на загрыўку ўздыбілася поўсць. Агледзеўся пільней і прыкмеціў, як з невялікага ляска пры ўзрэччы выйшла купа Двуногіх з запаленымі паходнямі. Нга мог бы расцерсці ўсіх іх у пыл, утаптаць у зямлю, але ён не мог пераадолець жаху перад агнём. Гэты чырвоны зыркі звер слухаўся Двуногіх і страшэнна балюча кусаўся. Яго баяліся не толькі такая прыледавіковая драбната, як ваўкі, алені, мядзведзі, але і ўсе маманты. І толькі некаторыя, хворыя на памутненне розуму, не зважалі на агонь, урываліся ў паселішчы Двуногіх, руйнавалі іх прысадзістыя хаціны з жэрдак, костак і шкуры, тапталі агнішчы.

Нга крута павярнуў управа, да ледавіка. Балела нага, але прыбавіў кроку. Ён ведаў, што Двуногія доўга, можа нават некалькі дзён, будуць гнацца за ім, ажно пакуль не зморацца і не адстануць ці пакуль не выб'ецца з сілы сам.

Лагчына павузела, паступова ператвараючыся ў яр. І тады нечакана з-за камянёў узняўся з дзесятак Двуногіх, і ў звера паляцелі дзіды і камяні. «Загналі ў пастку», — паспеў падумаць Нга, і ягонае цела пранізаў востры боль, і навокал усё пацямнела — паляўнічыя

пацэлілі ў вочы. Нга ўзняў хобат і затрубіў. Гэта быў крык адчаю і непатольнай прагі помсты.

Уцякаць далей лагчынай было небяспечна. Яна будзе ўсё глыбець і вузець, ажно пакуль не ўпрэцца ў ледзяную сцяну або не закончыцца лоўчай ямай, спрытна падрыхтаванай Двуногімі, з якой ужо не выбрацца. А паляўнічыя зверху будуць скідваць на галаву і хрыбетнік цяжкія валуны.

Не, адсюль выбаўляцца трэба было іншым шляхам. І Нга, сабраўшы апошнія сілы, пачаў узбірацца па схілу, не зважаючы на дзіды, а паходняў ён ужо не баяўся, бо нічога не бачыў. Нарэшце ўдалося выбрацца наверх, і звер цяжкім трушком пабег да ледавіка, унюхваючыся, каб не збіцца з кірунку.

Нарэшце моцна запахла лёдам і перамёрзлай глінай і ногі адчулі слізкую цвёрдасць. Зараз рухацца трэба было асцеражней, каб не ўпасці. Нга перайшоў на хаду, і Двуногія зноў нагналі яго. Найбольш рызыкоўныя падбіраліся да самых ног і спрабавалі крамянёвымі вастракамі перасекчы сухажыллі.

Звер адчуў, што ўперадзе абрыў. Пругкі ток паветра ўздымаўся з вялізнай ледавіковай трэшчыны, на дне якой шумела і пенілася вада. Ззаду крычалі паляўнічыя, святкуючы блізкую перамогу.

І тады Стары Нга ступіў уперад...

Падаў у бездань, быццам засынаў. Цела стала бязважкім, і маманту на момант здалося, што ён ляціць, як птушка. А потым ягоны мозг прабіла сляшочая маланка і аглушыў пярун. І мільганула думка: «Першая вясновая навальніца...»

Каламутны струмень завіраваў вакол вялізнага цела. А праз некалькі дзён Стары Нга ўжо быў прыхаваны намытым жвірам. А яшчэ пазней з грукатам абрынуліся і падмытыя краі абрыва.

* * *

Капалка экскаватара прагна ўразаецца ў жвір. Яшчэ і яшчэ. Шафёр самазвала, што выбраўся з кабіны, каб размяцца, назірае за шчыраваннем таварыша. Раптам ён замахаў рукамі і закрычаў:

— Стой! Ты толькі глянь на гэты цуд!

Зараз ужо і экскаватаршчык адарваўся ад рычагоў і ўтаропіўся ў край жвіроўкі, дзе са слаістых адкладаў марэны тырчэў выгінасты бівень.

А неўзабаве ў жвіроўні замест экскаватара працавалі археолагі. Касцям Старога Нга праз тры дзесяткі тысячагоддзяў наканавана было трапіць у новае месца супакою — за шкло музейнай экспазіцыі.

## ВЫГНАНЕЦ

Левы бераг Ракі быў нізкі і балоцісты. За ім пачынаўся шырокі поплаў з затокамі і старыцамі, а далей ажно да самага небакраю сінелі непраходныя лясы. Старыя казалі, быццам за тымі лясамі ёсць вялізнае возера, у якім жыве Цмок. І быццам калісьці гэты Цмок наслаў на зямлю патоп, і тады загінула шмат людзей; звяроў таксама патапілася нямала. Але гэта было вельмі даўно, калі яшчэ вадзіліся агромністыя звяры з рудой поўсцю, хобатам і загнутымі біўнямі ў чалавечы рост.

Хто ведае, ці быў той патоп? А вось што такія звяры жылі, можна было пераканацца за Белай Гарою, дзе вада вымывала з берага іх вялізныя косткі. О, такой упаляванай дзічыны чалавечаму гурту магло б хапіць на цэлую зіму! Але тыя ж старыя казалі, што даўней і зімы былі шмат даўжэйшыя. Так што можна было б з'есці і пару такіх жывёлін.

Дык вось — левы бераг быў нізкі і балоцісты, а правы высока ўздымаўся над плынню Ракі, падстаўляючы сонцу і вятрам паласаты бок з гліны, пяску і жвіру.

У мясціне, дзе Рака крутой лукою выгіналася на ўсход, з вады як вырастала Белая Гара — вапняковая скала, уся ў драпінах і вырвах, што засталіся ад апошняга ледавіка. Калі ўсё наваколле, як сягнуць вокам, пакрывала зеляніна лесу і хмызнякоў, то вяршыня Белай Гары была выгладжаная часам і амаль голая. Здалёку яна нагадвала лысіну Уу — старэйшага паляўнічага гурта.

Белую Гару яшчэ называлі Гарой Важака. Бо толькі ён мог ступіць на яе. Іншыя ж павінны былі за гэта разлічвацца жыццём. Праўда, меўся шанец застацца на гэтым свеце, але гэта калі б у двубоі ўдалося забіць Важака. Але той быў як з каменю, і сакрушальнай была яго сукаватая доўбня. Ды смельчакі часам усё ж знаходзіліся, асабліва сярод маладых і гарачых. І тады іх знявечаныя целы плылі па Рацэ...

Крыху вышэй Белай Гары ў Раку ўпадала Рэчка, а на яе паўднёвым беразе, захінуўшыся хвойнікам, туліліся чалавечыя буданы, зробленыя з жэрдак, кары і шкур.

Раней стаянка гурта была каля самай Ракі. Але аднойчы берагам ішлі рудавалосыя. Яны разбурылі буданы і захапілі некалькі жанчын. Гурт жа ўцёк у гушчар, бо находнікаў было шмат. Калі чужакі пайшлі, людзі перасяліліся далей ад чужога вока.

Як толькі кранулася віднецо, стары Уу выбраўся аглядаць пасткі, якія з вечара насцярожыў на звярыных сцежках.

Густая раса студзіла ногі, а калі Уу прадзіраўся праз гушчар, цэлыя вадаспады кропель абрыньваліся на лысіну і плечы. Але скура сталога мала адчувала холад — за доўгія гады задубела, стала як кара дрэва.

Дайшоўшы да першай пасткі, чалавек спыніўся і са шкадаваннем зацокаў языком — у ёй ляжаў яшчэ цёплы, але моцна абгрызены лісіцамі заяц. Паляўнічы выцягнуў акрываўлены недаедак і адкінуў убок, не забыўшыся пасдаць праклён на галовы рыжых хітрух. Затым павярнуў у неглыбокі, зарослы маліннікам яр. Але праз колькі крокаў спыніўся і пачаў трывожна нюхаць паветра, шырока раздзімаючы ноздры — ледзь чутна пацягнула дымам. На ўсякі выпадак ён падняў з зямлі камень і пачаў красціся па яру далей. Пах дыму мацнеў, а затым да яго дамяшаўся і пах чужога чалавека!

— Добра, што вецер ад Ракі, мяне не пачуюць, — усцешыўся Уу.

У канцы яру паляўнічы лёг і нячутна, як вужака, папоўз. Дабраўшыся да краю малінніку, асцярожна рассунуў сцёблы і зірнуў на вузкую лугавіну каля Ракі.

На ўскрайку лугавіны курэла амаль пагаслае вогнішча. Каля яго драмаў юнак, абапіраючыся на сукаватку. Крыху далей, прыкрыўшыся шкурамі, спалі стараваты мужчына, Жанчына і двое малых дзяцей. Па колеру Валос незнаёмых Уу даўмеўся, што гэта былі рудыя. Але, можа, непадалёку яшчэ былі чужакі? Каб праверыць, стары асцярожна працікаўся ўздоўж берага... Не, больш нікога тут не было.

Тады Уу, наколькі дазвалялі старэчыя ногі, патрухаў да стаянкі і разбудзіў гурт:

— Каля Ракі рудыя!

Жанчыны і дзеці спрасоння ўсчалі крык і хацелі ўцякаць у пушчу, але паляўнічы супыніў іх:

— Рудых толькі пяцёра. І яны спяць.

Тады людзі, узброіўшыся сукаваткамі, доўбнямі, кіямі і вострымі крамянёвымі секачамі,-згрудзіліся вакол Важака.

— Толькі ціха! — патрос доўбняю Важак. — Каторы будзе крычаць — растаўку галаву. Падкрадзёмся да рудых і. пазабіваем сонных.

І людзі гурта рушылі да Ракі. Там яны абкружылі лугавіну і па знаку Важака з ваяўнічым рэвам кінуліся на чужакоў. Тыя, хоць і паспелі падхапіцца, адразу ж упалі пад ударамі. Толькі адзін спрытны, як мыш, малы слізгануў каля ног напаснікаў і кінуўся наўцёкі. Але Важак за некалькі скачкоў дагнаў яго і, паваліўшы на зямлю, прыціснуў каленам.

Гурт радасным лямантам святкаваў перамогу. Мужчыны размахвалі зброяй, падскоквалі і выхваляліся адзін перад другім:

— Гэта я яго першы!

— Не, я!

— А я яго якраз па галаве!

Да Важака падступілася жанчына з гурта і працягнула руку:

— Аддай мне малога.

— Ідзі прэч! — адштурхнуў яе Важак. — Гэта смачнае мяса.

— Аддай ёй хлопца, — заступіўся за кабету малады паляўнічы. — Ці ты забыўся, што яе дзіця мы аддалі Рацэ, калі тая пачала заліваць берагі? Хай ёй будзе за сына.

— Ты зноў на маёй сцежцы, Рун! — ускіпеў Важак. — Сыдзі з яе, пакуль не позна! Гэта мая здабыча!

І Важак узмахнуў секачом над галавой малога. Але Рун паспеў перахапіць удар. Напяліся жылы на руках паляўнічага і Важака, напружыліся цягліцы. Кожны стараўся перамагчы, і малады не паддаваўся. Тады Важак знянацку крутануўся і выцяў праціўніка ў жывот, і калі Рун сагнуўся ад болю, падхапіў з зямлі доўбню і ўдарыў яго па галаве.

Гурт моўчкі назіраў за сутычкай. Храбры Рун і паляўнічы, можа, найлепшы, але неабачлівы. Навошта лезці пад руку дужэйшаму?

Важак замахнуўся быў яшчэ над Рунам, які ляжаў на зямлі, але не ўдарыў. Па законах продкаў забіць чалавека са свайго гурта можна было толькі на Белай Гары. А з якой асалодай раструшчыў бы ён Руну галаву або перарэзаў горла. Ужо даўно ненавідзіць яго Важак, бо з непакоем бачыць, як з кожным годам мужнее юнак, як горнуцца да яго маладзейшыя, як блішчаць вочы ў дзяўчат, калі пазіраюць на гэтага паляўнічага. Асабліва ў Наі...

Рун пастунова ачуньваў. Нарэшце яму ўдалося падняцца на ногі. Стаяў хістаючыся, а перад вачыма расплываліся каляровыя кругі.

— Ты ўжо можаш трымацца на нагах, Рун?! — зноў пачаў крычаць Важак. — Тады ідзі прэч з гурта! Ідзі і не вяртайся!

— Ідзі прэч з гурта! — падтрымалі Важака ягоныя прыхільнікі.

Астатнія ж гуртоўцы, апусціўшы галовы, маўчалі.

— Хай ён ідзе адсюль! — наступаў на маўчуноў Важак і шчэрыў жоўтыя зубы.

— Ідзі прэч! — нарэшце пачалі крычаць і астатнія. — Сам вінаваты. Хочаш намерыцца сілаю з Важаком — ідзі на Белую Гару. У іншым жа месцы яму не пярэч.

Нарэшце каляровыя кругі зніклі, і Рун мог бачыць усё навокал. Зірнуў на суродзічаў і сустрэў іх вочы. Яны былі розныя: злосныя, абыякавыя, спачувальныя. На Важака не стаў глядзець: не хацеў бачыць ягоны твар, скрыўлены пераможнай усмешкай,

Потым юнак павярнуўся і пабрыў уброд цераз Рэчку.

— І каб нагі тваёй не было на нашых землях! — яшчэ пачуў кінутае яму ўслед Важаком.

Рун кіраваўся на поўнач, дзе былі знаёмыя па ранейшых паляваннях мясціны. Прабіваўся спачатку пушчай, але, сустрэўшы завалы буралому, павярнуў да Ракі, дзе было больш звярыных сцежак. На беразе намачыў галаву, каб прыцішыць боль, агледзеў сінцы і раны на целе — пабіты моцна, але павінен ачуняць. Вось толькі трэба адыйсціся як найдалей і заблытаць сляды. У Руна спакойны толькі гэты дзень, а заўтра яго могуць забіць, як ляснога сабаку. Заўтра над ім ужо не будзе законаў продкаў, як і над кожным выгнанцам з гурта, і Важак з вернымі людзьмі пойдзе па следу, каб высачыць і знішчыць...

Рун ішоў берагам ледзь не да вечара. Быў увесь час насцярожаны, бо не меў секача і толькі падабраная палка была яго ненадзейнай зброяй. А хутка ж да вадапою пойдуць лясныя жыхары, і хай бароняць духі ад сустрэчы з якім драпежнікам.

Перад заходам сонца Рун дайшоў да мясціны, дзе канчаўся высокі бераг. Уперадзе кусцілася хмызняком дрыгвяністае балота, дзе вадзіліся толькі птушкі ды гадзюкі. Гэтае наваколле Рун яшчэ ведаў. Пазалетась ажно да гэтага мыса праследаваў ён раненага аленя. Той дайшоў да дрыгвы і павярнуў назад, напралом, каб прарвацца. І трапіў пад доўбню Руна. Ад гэтага ўспаміну юнак ажно перасмыкнуўся. Ён цяпер адчуваў сябе тым жа зверам, загнаным ў пастку. Але не, ён, Рун, не паверне назад.

Паляўнічы спыніўся і пачаў азірацца навокал. Выглядала, што выйсце было толькі за Раку. Там з берагу таксама прыбалаць, але, мяркуючы па выноснаму хмызняку, тутэйшая, а далей узвышаліся ўзгоркі з густым хвойнікам. Але не гэты лес найболей прыцягваў увагу выгнанца. Пад супрацьлеглым берагам з вады выступалі выспы. Былі яны нізкія і зарослыя лазой, але там было б бяспечней, чым у лесе. На выспы не дабрацца зверу, ды і Важаку туды патрапіць не лёгка. Толькі як апынуцца там самому Руну? Ён жа, як і рэшта суродзічаў, не ўмеў плаваць, а Рака тут разлілася шырока. Трэба было ладзіць нейкі плыт.

Шукаючы ў прыбярэжжы сухадрэвіны, Рун натрапіў на загрызеную казулю, якую, бачна, упаляваў мядзведзь. Потым тут ласаваліся драбнейшыя драпежнікі, дадзёўбвалі мяса птушкі. Кемлівы юнак рашыў пакарыстацца такой знаходкай. Ён сапхнуў рэшткі казулі ў ваду, а затым старанна зацёр і яе сляды, пакінуўшы на пяску толькі мядзведжыя і свае. Зараз выглядала, што тут у смяротнай сутычцы

сыйшліся звер і чалавек, а кроў на траве сведчыла, што перамога дасталася драпежніку. Тым больш — на пяску валялася парваная сцегнавая павязка Руна. І калі юнак адплываў на звязаных сухадрэвінах, азірнуўся на бераг, і ягоны твар праясніўся ва ўсмешцы. Уявілася, як будзе падскокваць тут узрадаваны Важак, цешачыся з лютай смерці выгнанца.

Быў самы пачатак лета, і стаялі даволі цёплыя дні, але вада ў Рацэ, што брала пачатак з паўночных азёраў, была халодная. Таму Рун, пакуль дагробся да мэты, зусім скалеў. Нарэшце выбраўшыся на бераг адной з выспаў, лёг на пясок і пачаў грэцца ў промнях сонца, што ўжо схілялася да лесу. Потым заснуў.

Калі раніцай Рун прачнуўся, густы туман пакрываў наваколле, а цела было мокрае ад расы. Пазней, калі туман пачаў рассейвацца, зноў стаў бачным супрацьлеглы бераг, і тады юнак заўважыў на ім чалавечыя постаці. Яны тупалі каля вады і нешта выглядалі. Выгнанец імгненна зашыўся ў трыснёг і затаіўся — зараз вырашалася, разгадае або не Важак ягоныя хітрыкі... Не, не разгадаў. Пакруціўшыся каля вады, хеўра пасунулася берагам на поўдзень. І толькі тады Рун з палёгкай перавёў дых.

Калі людзі з гурта, нарэшце, зніклі за рачным паваротам, юнак зусім асмялеў і пачаў аглядаць свае ўладанні. Выспа была малая і ледзь выступала з вады. На вышэйшым лапіку старалася ўтрымацца на пяску лаза. Тады чалавек плыткаводдзем перабраўся на суседнюю большую выспу. Новая мясціна сустрэла Руна крыкам мноства чаек, што пачалі хмарай кружляць над галавой. Прайшоўшы пару крокаў, юнак зразумеў прычыну птушынага непакою. Між лісця маці-мачыхі былі чаечыя гнёзды, а з-пад ног разбягаліся птушаняты, што яшчэ не ўмелі лётаць. Выгнанец кінуўся лавіць спажыву, але без поспеху. Потым ўхапіўся за намоклую цяжкую палку і пачаў шпурляць яе па птушанятах. Некалькі з іх удалося забіць. А чайкі, як павар'яцелі — кідаліся на юнака з вышыні, а самыя адчайныя ледзь не дзяўблі ў вочы. Але выгнанец не зважаў на птушыны гвалт. Ён абскубаў здабычу, раздзіраў на кавалачкі і еў. Мяса было смярдзючае, і іншым разам паляўнічы адкінуў бы гэтую брыдоту як найдалей. Але што зробіш, калі даймае голад?

Падсілкаваўшыся, Рун узяўся за майстраванне жытла, бо збіраўся затрымацца тут даўжэй, балазе птушанят павінна было хапіць на шмат дзён. Каля даволі вынослай вольхі выгнанец намасціў лісця і трыснягу, а зверху пачаў ладзіць павець з лазовага галля.

Убіраўся ў сілу пагодлівы дзень. Цела грэлася ў сонечным цяпле, а ў жываце прыемна бурчэла ад свежыны. У юнака прыбавілася

ўпэўненасці. Ён завіхаўся каля будана, прыладжваючы галіны, і размаўляў сам з сабою: «Рун тут будзе жыць. Руну тут будзе добра. Ён не баіцца Важака і можа пражыць без гурта. Скончацца птушаняты — застанецца рыба ў Рацэ. А Рун не толькі добры паляўнічы, але і спраўны рыбак».

Адразу па абедзе пачало парыць. Душная гарачыня разлілася ў наваколлі. Нават чайкі чамусьці не крычалі і не мітусіліся над выспай. Рун ляжаў у будане і бяздумна глядзеў праз уваход на лапіну Ракі, зарэчны лес і кавалак неба над ім, які пачынаў усё больш цямнець. Нарэшце над лесам мільганула маланка, а потым, счакаўшы, пракаціўся прыглушаны раскат грому, быццам недзе далёка прароў звер.

Выгнанец абудзіўся ад здранцвення і вызірнуў з будана. З-за лесу ў пагрозлівай цішыні накочвалася на Раку хмара, усмоктваючы ў сваё сівое нутро ўвесь далягляд. Вось яна ўжо глынула сонца, і юнаку стала страшна. Ён глыбей заціснуўся ў будан, моцна ашчаперыўся за альховы камень і заскуголіў. Гарлавыя гукі вырываліся з паўадчыненага роту. Яны былі як маленне да Зямлі, Неба і Ракі, як просьба аб літасці.

Сцямнела, зусім, толькі трохкутнік уваходу ў будай раз-пораз успыхваў ад маланак. Затым пачуўся шум. Ён рос, набліжаўся. Моцна запахла вадой. Першыя рэдкія яшчэ кроплі застукалі па лісці, і затым ірвануў шалёны парыў ветру, і пачалася залева. Ад будана нічога не засталося. Нават лісцвяную падсцілку ірваў і зносіў у цемру вецер. Струмені вады секлі голае цела Руна, залівалі вочы і рот. Пяруны білі несціхана, а вогненныя стрэлы маланак як быццам усе цалялі проста ў яго.

Вецер праз нейкі час паслабеў, але залева не сціхала, і здавалася, што ёй ніколі не будзе канца. А потым Рун адчуў, што ляжыць у вадзе. Яна ўсё прыбывала, пачала заліваць бакі і грудзі і цягнула ўбок, стараючыся адарваць ад вольхі. Пры бляску маланак выгнанец разгледзеў, што Рака ўжо зусім заліла яго выспу. Тады Рун устаў. Але праз нейкі час вада зноў дасягнула ягоных грудзей. І чалавеку застаўся адзіны паратунак — палезці на дрэва.

І так ліло цэлую ноч.

Калі развіднелася, Рун убачыў', што вада затапіла ўсе паплавы і нізавіны, ад выспы ні следу. Толькі з каламутнай плыні месцамі выступалі вяршаліны кустоў.

Юнак не першы раз бачыў паводку і ведаў, што праз пэўны час вада ўтаймуецца, а потым пачне спадаць. Галоўнае было пратрымацца гэтыя дні на дрэве.

Так мінуў дзень, ноч і яшчэ дзень. Чалавек на вольсе драмаў і нават часам западаў у трывожны сон, прахопліваючыся ад страху,

што сарвецца і ўтопіцца. Яшчэ праз дзень Рака пачала паступова, вяртацца ў сваё рэчышча, але паволі. І тады Рун пачаў разумець, што не выседзіць тут, не дачакаецца, пакуль зноў з-пад плыні не з'явіцца, яго выспа. Ды і якая зараз з яе карысць, калі чаечае маленства прапала без следу.

Вольха яшчэ раз павінна была ўратаваць выгнанца. Ён абламаў, колькі было можна, яе голле, падціснуў пад сябе і паплыў. Галля было малавата, і на вірах чалавеку давялося пару разоў добра глынуць вады, але бераг усё ж набліжаўся, і вось ногі крануліся дна, але не ўстаялі. Плынь зносіла зноў углыб. Нарэшце стала плытчэй, і Рун цяжка пабрыў да лесу. Выбраўся да хвой і ўпаў на ігліцу, нават не адчуваючы яе колкасці. Ляжаў у паўзабыцці, і здавалася яму, што пад плячыма паволі гойдаецца і некуды плыве зямля.

Здаровае цела, загартаванае летнімі спёкамі і зімовымі халадамі, хутка набіралася моцы. І ўжо па абедзе Рун адчуў сябе лепей. Падняцца на ногі прымушаў і голад.

Харчуючыся ядомымі каранямі і сцёбламі раслін, слімакамі і жабамі, спрабуючы рукамі лавіць рыбу, юнак пражыў некалькі дзён. Але ўрэшце яго страўнік і воля ўзбунтаваліся. Руну абрыдла існаванне нейкага недабітага дзіка, што спажывае мурашыныя яйкі ды жалуды. Істота маладога паляўнічага клікала да дзеяння. І перш-наперш ён рашыў змайстраваць сабе доўбню. Але гэта не так было лёгка зрабіць, бо тыя сукі, што адломваліся, былі затонкія. Сухастоіны ламаліся лягчэй, але з іх мала карысці. Вось зараз спатрэбіўся б добры крамянёвы сякач.

Узброіўшыся кіем, выгнанец вырушыў у сваё першае падарожжа ў глыбіню пушчы. Ішоў асцярожна, мінаючы гушчары. На лабаціне бліжэйшага ўзгорка між каранёў дрэў шарэў жвір. Тут жа трапляліся і розныя камяні. Рун браў іх у рукі, разглядаў і адкідаў убок. Не, усё не тое. Нарэшце знайшоўся невялікі абломак, які зацікавіў чалавека, ён разбіў яго і задаволена хмыкнуў — аскабалкі мелі знаёмы блакітнаваты колер і вострыя краі. Вось гэта і быў крэмень. З'явілася спадзяванне знайсці што і ладнейшае.

Паляўнічы пачаў кружыць па вяршыні гары і яшчэ больш пільна глядзець пад ногі. Нарэшце яму пашанцавала, і выгнанец выкалупаў з краю прамыіны вялікі кавалак крэменю, Ён падняў жаўлак над галавою і, падскокваючы ад радасці, загаварыў: «О, які добры сякач займее Рун! І такім секачом ён змайструе доўбню. А з доўбняй Рун нікога не пабаіцца!»

Ад гэтага шуму і розгаласу ў пушчы ўспудзіўся нейкі звер і, ламаючы голле, паімчаў па схіле. У Руна ж яшчэ не было зброі, таму ён таксама кінуўся наўцёкі.

Супыніўся выгнанец толькі каля сваёй хвоі-схованкі. Стаяў, дрыжучы ад хвалявання, гатовы сігануць па галінах уверх. Але навокал было ціха. Бачна, звер не збіраўся гнацца за чалавекам. Ды і што быў за звер? Можа, там пасвіўся звыклы лось, а Рун яго так спалохаўся? Добра, што ніхто з гурта не бачыў яго ганебных уцёкаў. Але і добра, што за ўзгоркам трапіўся звер, а не людзі Важака...

Супакоіўшыся, юнак узяўся за выраб секача. Моцным ударам кавалку граніту расшчапаў жаўлак на дзве палавіны. Потым меншым каменем — адбойнікам пачаў асцярожна сколваць з адной палавіны адшчэпы, надаючы крэменю востраканечную форму. Калі сякач быў ужо амаль гатовы, Рун ашчаперыў яго пальцамі, прымяраючыся, ці зручна трымаць, але востры выступ рэзаў далонь. Тады ён яшчэ раз стукнуў адбойнікам па крэменю, і, о жах! — сякач трэснуў. Але выгнанец не стаў кідацца ў роспач. Сам ведаў, што апрацоўка крэменю яму яшчэ не паддаецца як належыць. Гэтым майстэрствам дасканала валодаюць толькі старэйшыя і вопытнейшыя мужчыны, той жа Уу. Да таго ж у яго яшчэ засталася другая палавіна жаўлака.

Зараз Рун быў яшчэ больш асцярожны. Аглядаў кожны выступ каменя, абмацваў, прымерваўся перад ударам адбойнікам. І хоць часу патраціў шмат і ўпацеў, можа больш ад старання, чым высілку, але сякач нарэшце атрымаўся адмысловы. Гэта была ёмкая прылада з закругленай шырокай вяршыняй, што зручна ўпіралася ў далонь, і спічастым вастраком, якім можна было пры неабходнасці выкапаць корань, ссекчы дрэва, рэзаць, а то і раструшчыць чэрап якой жывёліне.

Зараз з такім секачом не было асаблівага клопату ссекчы бярозу-чачотку, ацерабіць ад голля і змайстраваць прыбіткую доўбню. Прыдалася крамянёвая прылада і пры ўпарадкаванні схованкі на дрэве. Між тоўстых галін хвоі Рун яшчэ больш падмасціў сучча, а з надранай кары нават зладзіў стрэшку ад дажджу. У дадатак пад самы вечар юнак яшчэ паспеў у суседняй старыцы, замуціўшы ваду, злавіць рукамі пару ладных шчупакоў.

Калі сонца схавалася за зарэчны лес, які адразу афарбаваўся ў фіялетавы колер і затуманіўся, Рун палез у сваю схованку. Выцягнуўся на свежым памосце, адчуваючы прыемную стому ў расслабленых цягліцах. Сёння быў такі ўдалы для выгнанца дзень, здавалася, што лепшага ў жыцці і не надаралася! Юнак ляжаў на выгодным памосце, высока над зямлёй, і глядзеў праз прагаліну ў

лістоце на неба. Яно паступова цямнела, і таму ўсё гусцей яснелі зоркі. Жоўтыя або чырванаватыя здаваліся Руну цёплымі. Сінія ўяўляліся халоднымі, і ад іх выгляду выгнанцу рабілася сумна і адзінока.

Успомнілася родная стаянка. І той позні вечар, калі Ная паказала яму на зорку, што падала з неба, цягнучы за сабою іскрысты хвост. Паказала і ўскрыкнула ад нечаканасці. А ён прытуліў дзяўчыну да сябе і супакойваў, хоць і самому гэта згарэлая ў небе жарынка здавалася дзіўнай і палохаючай... Добра было б, каб Ная прыйшла да яго ў сне...

Але Ная не праснілася. Ноччу бачылася, што сядзіць Рун каля буданоў стаянкі, а насупраць яго на вогнішчы смажыцца заяц. Такі вялікі і тлусты заяц, ажно сквірчыць на вуголлі тлушч. Напэўна печыва ўжо гатовае, і юнак працягвае руку, каб адарваць смачнейшы кавалак. Але аднекуль з'яўляецца Важак, хапае зайца і з рогатам знікае. З пачуццём вялікай крыўды прачнуўся Рун — не паспеў пакаштаваць такога ласунку!

Нездарма сніўся смажаны заяц. Абгрызаючы снеданнем прэсную шчупаковую спіну, Рун зразумеў, што яму страшэнна хочацца з'есці кавалак сапраўднага мяса. Хоць бы і не смажанага, бо не было агню. Пайшло б і сырое — яшчэ цёплае, са свежай крывёю. Якой-небудзь ласіны.

Яшчэ раней, аглядаючы наваколле, Рун прыкмеціў пад абрывам ручай з густым прыбярэжным кустоўем. За ручаём зелянеў вузкі пасак лугавінкі, густа раскапычаны лясным жыхарствам, што прыходзіла сюды на вадапой. Цудоўная мясціна для палявання. Калі добра размахнуцца, то з-за кустоў якраз можна пацэліць каму між рагоў.

У чаканні вечара Рун сноўдаўся каля хвоі-схованкі, не знаходзячы сабе месца. То спрабаваў пальцам вастрыню секача, то рабіў скачкі і размахваў доўбняй, быццам забіваў уяўную дзічыну. Але час усё адно ледзь цягнуўся. Каб неяк яго збыць, юнак сплёў з хваёвых каранёў, што надраў з вывараці, пас. Абвязаўся ім і начапіў сякач — зараз вызваліліся абедзьве рукі для доўбні.

Пад вечар знецярплівелы паляўнічы падаўся да ручая. Яшчэ да вадапою было далекавата, але лепш сюды трапіць загадзя, каб прыгледзецца, выбраць зручнейшую мясціну для засады.

Пуста і ціха было навокал Толькі недзе ніжэй па плыні слаба булькатаў на камянях ручай, ды проста перад кустом, дзе затаіўся паляўнічы, у глыбейшай мясціне круцілася чародка дробных рыбак. Затым прыляцелі вераб'і і пачалі купацца ў вадзе. Асвяжыліся і пырхнулі ў лес за лугавінку. Ад такога ўсеагульнага спакою Рун нават

задрамаў. Але вось засакатала сарока. Паляўнічы прахапіўся і мацней ашчаперыў доўбню — сарокі заўсёды даюць знак, калі набліжаецца нехта чужы.

Вострым зрокам Рун прыкмеціў, як з гушчару высунулася шэрая з натапыранымі вушамі галава — воўк! Драпежнік агледзеўся і, не заўважыўшы нічога падазронага, упэўненым трушком наблізіўся да ручая крокаў за дваццаць ад чалавека. Воўк піў прагна і шмат. Часам адрываўся ад вады і сыта адрыгваў, і тады Рун бачыў, што звярыная пыса ў крыві. Мусіць ён недзе добра пасмакаваў свежыны, і чалавек пазайздросціў драпежніку.

Калі сонца схавалася за вяршаліны дрэў, каля ручая стала тлумна.

Спачатку да вады выйшаў статак зуброў. Дарослыя пілі паважна, з шумам уцягваючы ваду, малыя ж дурэлі і ўзбівалі пясок са дна ручая. А воддаль ад берага шэра-рудой скалой узвышаўся стары важак. І столькі моцы і пагрозы было ў паставе жывёлы, такімі вострымі выглядалі рогі, што выгнанец ледзь дыхаў у сваёй схованцы, баючыся, каб зубр яго не ўчуў.

Зубры падаліся ў лес. Збегла мутная вада ў ручаі. І тады да вады пачалі падыходзіць ласі, алені, туры, дзікі і іншыя большыя і меншыя жывёліны.

У Руна ўжо даўно блішчэлі вочы і ад нецярплівасці і хвалявання па целе прабягалі дрыжыкі. Вялікі інстынкт палявання цалкам авалодаў юнаком. І калі проста перад ім да вады падыйшла маладая аленіца, ён з усяе моцы ўзмахнуў доўбняй...

Спрытны і дужы быў чалавек, але звер аказаўся лаўчэйшым. У тое імгненне, калі доўбня са свістам рассякала паветра, аленіца вялізным скачком сіганула ўбок. Ад імпэтнага замаху Рун згубіў раўнавагу і ўслед за сваёй зброяй гучна пляснуўся ў ваду, узняўшы слуп пырскаў. Уздрыгнула зямля ад дзесяткаў капытоў, і калі выгнанец, адплёўваючыся, падняў галаву, лугавінка была пустой. Толькі некалькі збітых альховых лістоў зялёнымі матылькамі ападалі на ваду.

Не сказаць, каб Рун быў асабліва збянтэжаны няўдачай, бо мала і спадзяваўся на поспех такога палявання. Вось каб загонам, тады іншая рэч. Як гэта рабілі ў гурце — схаваюцца паляўнічыя ў зручнай мясціне, а жанчыны і дзеці з лямантам заганяюць дзічыну. Тут раздруті не пацэліш, але ўрэшце амаль абавязкова пад твае доўбню або сякач трапіць якая-небудзь ачмурэлая ад жаху жывёліна.

Натужліва думаў Рун, што б гэта зрабіць, каб здабыча не паспела ўцячы з-пад удару. З меншым імпэтам замахвацца — толькі параніш, а не заб'еш. Вось каб... Каб вострым секачом як-небудзь торкнуць куды ў шыю. Але ж рука кароткая, не дастанеш. А доўбняй так рабіць

без сэнсу — яна тупая. Іншая рэч, каб мець такі доўгі, як доўбня, сякач...

З такімі думкамі хадзіў паляўнічы вакол хвоі-схованкі, круціў у руках то сякач, то доўбню, разглядаў іх, задзіраў галаву, быццам чакаў нейкай падказкі з неба. А калі б займець такую вострую, як сякач, доўбню? І, шкадуючы, што не можа такога зрабіць, прыставіў крэмень да канца сваёй драўлянай зброі. І тут шчаслівая здагадка мільганула ў галаве: а калі сякач прывязаць? Сарваў з сябе карэньчыкавы пояс і прыкруціў ім крэмень да доўбні! Вось толькі цяжкаватая рэч атрымалася...

Тады Рун зламаў доўгую і моцную ляшчэвіну і прымацаваў да яе крэмень. Узмахнуў гэтай дзівачнай зброяй — сякач выпаў. Зашчаміў яго ў трэшчыне на канцы ляшчэвіны і прыкруціў пасам. Быццам выйшла няблага. Каб выпрабаваць вынайдзеную дзіду, выгнанец увагнаў яе ў суседняе дрэва. Крамянёвы сякач-наканечнік прабіў кару і глыбока ўлез у драўніну. Ледзь удалося яго адтуль выдраць.

О, якая зброя апынулася ў руках Руна! Такой ніхто і ніколі не меў у іхным гурце, ды і між суседзяў таксама. Нават і ў рудых тыя ж секачы, доўбні ды яшчэ касцяныя вастракі.

Наступным вечарам паляўнічы зноў пайшоў да ручая. Затаіўся ў кусце і стаяў доўга, нерухомы і дужы, зліваючыся загарэлым целам з паўзмрокам. А калі танканогая казуля наблізілася да вады, з маланкавай хуткасцю укалоў яе дзідай. Жывёліна тузанулася і ўпала.

Спачатку выгнанец напіўся цёплай крыві, што струменіла з раны. Потым узваліў здабычу на плечы і панёс да станавішча. Казуля важыла шмат, але гэта быў прыемны цяжар.

Пакідаць тушу на зямлі было нельга, бо за ноч пагрызуць і расцягаюць лясныя жыхары. Таму выгнаннік пачаў рассякаць яе на часткі і ўсцягваць на дрэва. Толькі прымацаваў да сука каля памосту кумпяк і пачаў злазіць за другім, як пачуў на доле гырчанне і шчоўканне зубоў. Прыгледзеўшыся, убачыў, як мітусяцца ў змроку постаці лясных сабак, як шчыруюць няпрошаныя госці над ягоным мясам.

Рун слізгануў уніз, амаль не трымаючыся за камель.

Сабакі адскочыліся, але, убачыўшы, што чалавек адзін, раз'юшана накінуліся на яго. А было драпежнікаў, колькі пальцаў на абедзьвюх рунавых руках.

І тут юнак адчуў, як уздыбіліся ў яго на галаве валасы, як ашчэрыліся зубы, а пальцы скурчыліся па-каршуноваму. Не, Рун ужо не быў чалавекам. Зараз ён ператварыўся ў дзікую жывёліну са згустку цягліцаў, скуры, зубоў і пазногцяў, з вырачанымі вачыма, якія сыпалі іскрамі.

Сабакі кідаліся на выгнанца, стараючыся ўчапіцца ў цела, але ён і сам кусаў іх, выкручваў лапы, раздзіраў пашчы. Адзін з драпежнікаў скокнуў паляўнічаму на спіну і ўпіўся ікламі ў плячо. Рун з усяе моцы выцяўся аб хвою, трушчачы зверу хрыбетнік.

Сабакі крыху адступілі, але не збіраліся здавацца. На іх раз'ятраны брэх далёка ў лесе адгукнуліся іншыя сабакі — спяшалася падмога. І вось тут, калі наступіў нейкі пярэдых, Рун пазбыўся ўтрапення і зноў адчуў сябе чалавекам. У яго ж была новая зброя! Юнак схапіў дзіду і кінуўся на сабак. Прабіў бок бліжэйшаму, закалоў яшчэ дваіх. Рэшта, падцяўшы хвасты, падалася наўцёкі.

У Руна занямела пракушанае плячо, крывавілі ногі. Але гэта нічога, заўтра ён прыкладзе да ран гаючыя зёлкі, і яны зажывуць. Галоўнае, што ён адбіў сваю здабычу ў зграі, лясных сабак, перад якімі часам адступалі нават ваўкі.

Чалавек уторкнуў дзіду ў зямлю, апусціўся перад ёю на калені і прытуліўся тварам да дрэўка. Ён дзякаваў гэтай чароўнай рэчы, якая зрабіла яго такім моцным. А потым вырваў дзіду з зямлі і ўзняў над галавой. Моцны голас скалануў начную цішыню:

— Я — Рун, чалавек — зараз гаспадар пушчы! Чуеш, воўк, мядзведзь, тур? Я тут гаспадар!

І пайшла чарада дзён у звыклых лясных клопатах чалавека-выгнанца. На схованцы паверх кары прымацаваў шкуры. Са скуранога ж паска, з якога крамянёвым аскабалкам саскроб мяздру, зрабіў шырокую сцегнавую павязку. Была ў яго ўжо і скураная апранаха, нешта як накідка, якой можна было прыкрыцца халодным або дажджлівым днём. Але было і такое, што прымушала юнака задумвацца пра сваю будучыню, асабліва калі прыйдзе зіма. Звяры ўжо ведалі, што ў пушчы з'явілася двуногая істота з доўгай лапай, якая коле і забівае. Яны сталі палахлівыя і не падпускалі чалавека блізка да сябе. У пошуках здабычы зараз даводзілася адыходзіцца ад станавішча ўсё далей. Ды і з мясам не ўсё добра ў Руна. На чацвёрты або пяты дзень яго яшчэ есці можна, але пазней яно пачынала так брыдотна пахнуць, што даводзілася адцягваць як мага далей. Таму біў звяроў паляўнічы значна больш, чым мог спажыць. Вось каб правэндзіць дымам... Але дзе тут возьмеш дыму без агню? Агонь... Гэта найвялікшая на свеце моц, якая і грэе, і паліць. Без гэтага зыркага звярка, кавалачка прыручанага сонца, выгнанцу не выжыць, асабліва зімовымі завеямі ды маразамі.

Такая вось чалавечая натура — усё ёй хочацца, каб лепш, усё ёй мала. Напачатку Руну было адно — уцячы як найдалей ад Важака і яго памагатых. Гатоў быў голым туляцца ў пушчы і есці смуроднае

чаечае мяса. Але затым захацелася мяса смачнейшага. Меў пад рукой падабраны на беразе кій — надумаўся зрабіць сякач і доўбню. Каб паляваць аднаму, вынайшаў вострую дзіду. Узброены зараз Рун і нікога не баіцца, ды прыйшоў час памарыць пра вогнішча. А там зажадаецца, каб побач была і Ная...

Думкі пра агонь усё часцей пачалі апаноўваць выгнанца, асабліва калі познім вечарам залазіў ён на сваё седала і заціхаў там, услухоўваючыся ў галасы начнога лесу.

...На ўскрайку верасовай паляны Рун прыкмеціў дзіўнага аленя з тонкімі асабліва разгалістымі рагамі і сіваватай доўгай поўсцю. Такіх у наваколлі не вадзілася. Можа, гэта з тых, якія, па словах старэйшых, часам прыходзяць на берагі Ракі з паўночных краёў. Паляўнічы падкраўся і ўдарыў у прыгажуна дзідай. Але звер аказаўся жывучым і дужым. Ён збіў з ног выгнанца і паімчаў прагалінай, а затым знік у гушчары. Рун, не зважаючы на пабіты бок, падхапіўся і кінуўся ўслед. Яшчэ б не кінуцца! Алень уцякаў з увагнанай у бок дзідай, якая ў калатнечы выслізгнула з Рукавых рук.

Ахвяра далёка выпярэджвала праследвальніка, але паляўнічы быў настойлівым. Ён ведаў, што звер будзе губляць кроў і ўрэшце выб'ецца з сіл. Толькі трэба быць упартым і не згубіць крывавы след. Каб і самому раней часу не стаміцца, чалавек з бегу перайшоў на спорны крок. Невядома, колькі ішоў, прыкмеціў толькі, што лес паніжэў і парадзеў, і ўсё часцей на лабяках узгоркаў пачалі праглядвацца пусткі, высланыя верасам, мохам і лішайнікамі. Нарэшце з ялінніку паляўнічы выпудзіў і раненага аленя. Звер зноў пабег наперад, але з меншым імпэтам. На яго лежні засталося шмат крыві. Значыць, дзіда ўвесь час чаплялася за дрэвы і сукі і не давала ране зацягнуцца. Праследаванне працягвалася. Зараз жывёліна часцей клалася на зямлю адпачыць, і адлегласць між ёй і паляўнічым няўхільна скарачалася.

А лес ужо скончыўся зусім. Толькі ў лагчынах яшчэ купіліся нізкарослыя пакручаныя дрэўцы. Усю ж прастору пакрываў сівы мох, высокі і густы.

Пасак журавін аленевай крыві вёў за ўзвышша. Кроплі былі зусім свежыя, і выгнанец зразумеў, што ягоная ахвяра побач. Паспяшаўся на вяршыню і, забыўшыся на пагоню, на момант аслупянеў. Узвышша спадала ў шырачэзную нізіну, ажно да далягляду запоўненую вадой. Сярод бяскрайняга возера бялелі ледзяныя астравы. Жоўты пясчаны бераг гладзілі рэдкія хвалі.

А вось і алень. Здабыча ляжала каля валуноў, пры самым беразе, быццам звер яшчэ спяшаўся перад смерцю напіцца. Рун асцярожна

наблізіўся, кінуў камень, каб пераканацца, ці мёртвы. Потым вырваў з раны дзіду і прыціснуў да грудзей. Яна зноў з ім!

І тут увагу паляўнічага прыцягнула купа крутабокіх недалёкіх узгоркаў. Яны скрануліся з месца, выцягнуліся паскам і пачалі рухацца ўздоўж берага. Чалавек упаў за камень і моцна заплюшчыў вочы, каб не бачыць прывідаў. Але цікаўнасць перамагла страх, і ён вызірнуў са схованкі. Узгоркі набліжаліся, і хутка Рун адрозніў, што гэта былі нейкія звяры, нашмат большыя, чым буданы яго роднай стаянкі. Рудая поўсць да зямлі, з роту тырчаць крывыя рогі, замест носа звіваецца змяя. Дык вось тое возера, з якога Цмок паслаў на зямлю патоп! А гэта тыя жывёліны, агромністыя косткі якіх вымывае паводкамі Рака! Уперадзе гэтага велічнага паходу выступаў звер-велікан. Ён вадзіў па баках чуйнымі вушамі і свідраваў цёмнымі вочкамі наваколле, выглядаючы праціўнікаў. Вось ён ужо перад каменем, і тады выгнанец не вытрымлівае і кідаецца наўцёкі. Але ногі ў перапалоханага чалавека, як чужыя, і бегчы ён амаль не можа. У дадатак чапляецца за нейкую патырчаку і коціцца на пясок. І тут звярыны важак уздымае плоскі ступак вялізнай, як хваёвы камель, нагі і апускае на жывот Руна. Боль калом прабівае цела...

Рун застагнаў і прачнуўся, і адразу ж узрадаваўся, што гэта быў толькі сон. Ды тут зноў разанула ў жываце. Было млосна, цягнула на ваніты.

Аслабелы ад пачварнага сну і прыдбанай хваробы, выгнанец з цяжкасцю спусціўся са схованкі і паклыпаў да Ракі наліцца. Ад вады не палепшала. Боль зноў раз за разам скручваў яго карчом. Мабыць, нечага непатрэбнага з'еў. Адшукаў каля берагу кусты чаромхі, пачаў зрываць і запіхваць у рот ужо спелыя чорныя ягады. Зжаваўшы пару жменяў, вылежаўшыся ў цяньку, адчуў, як боль памалу сціхае, радзеюць яго прыступы. Лекавы сродак, якому навучыла яшчэ нябожчыца-маці, мусіць, падзейнічаў. Праўда, яшчэ дні два пасля гэтага хадзіў хістаючыся.

Рун выздаравеў. Аднак ўспамін пра дзіўны сон трывожыў яго, не пакідаў у спакоі. Як і ўсе ягоныя суродзічы, юнак быў упэўнены, што ў час сну душа пакідае цела і блукае па свеце. Мабыць, яна сапраўды была трапіла да таго возера, адкуль пачынаюцца патопы. Добра, што хоць не напаткаўся сам Цмок, інакш выгнанцу было б не ўратавацца.

Неяк трапіўшы ў бярэзнік, Рун заўважыў першыя пажаўцелыя лісты і зразумеў, што лета пачало хіліцца да восені. Да страху перад дзіўнымі стварэннямі поўначы дабавілася няпэўнасць што да магчымасці перазімаваць без агню. З дня на дзень мацнела думка аб

неабходнасці яго займець — неяк выкрасці ці папрасіць былых дружбакоў прынесці ў пушчу хоць пару жарынак.

Рун ужо меў сякі-такі вопыт рачных вандровак. Зараз ён нацягаў да берага сухастоін больш, дабавіў пару сухіх карчоў, змацаваў плыт лазовай карой. Здалёк гэта ўсё будзе выглядаць, быццам паводка недзе сарвала з берагу купу дрэў або змыла бабрыную плаціну. Затым выгнанец кінуў у ваду ладны кавалак мяса — прыносіў Рацэ ахвяру, глыбей зашыўся між сукоў і паплыў.

Пад раніцу быў ужо недалёка Белай Гары і, як толькі заўважыў светлую пляму яе вяршыні, стаў што моцы заграбаць да берага.

З хваляваннем назіраў Рун, як прачынаецца родны гурт. Вось маленькія на адлегласці постаці пачалі выбірацца з буданоў. Шкада, што з-за Рэчкі нельга было пазнаць — хто гэта? Паболела дыму над Вечным Агнём: пэўна, туды падкінулі дроў. Потым грамада згрудзілася вакол вогнішча на сняданак. Пазней невялікая купа людзей выправілася ў лес, відавочна, на паляванне, рэшта снавалася па паселішчы, займаючыся сваімі справамі. Некаторыя ж накіраваліся да Рэчкі. Калі яны падышлі бліжэй, выгнанец разгледзеў, што гэта былі дзеці, і сярод іх пазнаў Малога Тупа — свайго брата. Перасохла ў роце, так захацелася паразмаўляць з хлопцам, распытаць пра навіны ў гурце. Галоўнае ж — Малы Туп мог дапамагчы займець агонь!

Дзеці рассыпаліся ўздоўж берага, вышукваючы пад карчамі ракаў і рыбу. Падаўся вышэй па Рэчцы і Малы Туп. Рун нячутна споўз з вярбы і пачаў цікацца ўслед брату.

— Малы Туп, — ціха паклікаў Рун. — Я твой брат, хачу з табой паразмаўляць.

Хлопец ад неспадзеўкі ўздрыгнуў і пачаў узірацца ў супрацьлеглы бераг, бо не пазнаў голас Руна — быў хрыпатым і здаўся зусім чужым.

Калі ж Рун выйшаў з-за куста, Малы Туп, ледзь стрымліваючы радасны крык, кінуўся праз плыцізну. Падбег да брата і прытуліўся ілбом да яго усмаленых далоняў.

Потым браты прыхаваліся ў хмызняку, і хлопец пачаў расказваць пра гуртоўскія здарэнні.

— У пачатку лета было вялікае паляванне, але зараз мяса скончылася, і мужчыны пайшлі ў пушчу. Няма старога Уу, яго задраў мядзведзь. Сарвалася ў Раку і ўтапілася малая дзяўчынка.

— Ці мой брат памятае, як гурт напаў на рудых? Што з іхнім малым?

— Ён тут з намі на рыбе. Важак яго ўсё ж не забіў.

— А што робіць Ная?

— Ная плача.

— Чаму Ная плача?

— Наю Важак забраў у свой будан. Яна ўцякала, але Важак дагнаў і моцна збіў. І зараз Ная прывязаная.

Пачуўшы такое, Рун падхапіўся з травы, заскрыгатаў зубамі і хацеў зараз жа бегчы ў стаянку. Ужо памкнуўся быў да вады, але ў час перадумаў: пакуль трапіць да буданоў, яму раструшчаць галаву, бо не адзін захоча ўслужваць Важаку. Не зараз, а крыху пазней дабярэцца Рун да Важака. Усё прыпомніць яму: і сваё выгнанне, і Наю, і смачнейшыя кавалкі, якія Важак заўсёды адсякаў сабе з агульнай здабычы, ды і шмат чаго іншага...

— Хай ідзе Малы Туп і нікому не кажа, што бачыў Руна. Я прыйду ў гурт, але пазней... Можа, нават заўтра.

Узрушаны благой навіною, юнак нават не папрасіў прынесці агню. Навошта ён зараз Руну, калі Ная ў будане Важака?

Рун перачакаў у лесе да ночы і, калі зноў сцямнела, пачаў берагам пракрадацца да Белай Гары. Хапаючыся рукамі за кусты і не заўважаючы калючак шыпшыны, палез уверх.

Вось і вяршыня. Нязвыкла бялеў пад святлом месяца вапняк, а ў западзінах, дзе ляжала невядома як занесеная сюды зямля, гусціўся верас, і яго саладкаваты пах быў мацнейшы за ўсе водары ночы. Юнак трапіў сюды ўпершыню ў жыцці, таму ўважліва аглядаў скалу. Было таксама цікава зірнуць з такой вышыні на наваколле. Але ўсё заслаў туман, толькі лес на ўзгорках выступаў з яго шэрымі выспамі.

Затым выгнанец лёг на яшчэ цёплы з дня верас. На небе была поўня, і таму зоркі ледзь прагляданіся. Рун узіраўся ў зіхоткі месячны кружок, які быў падобны на вялікую кроплю застыглай жывіцы. Старыя кажуць, што душы памерлых вандруюць за Сінія Узгоркі. Але калі заўтра Рун загіне, хай яго душа трапіць на месяц. Тады ён глядзеў бы з вышыні і бачыў Раку, роднае паселішча і, магчыма, Наю. Але не, Рун заўтра не памрэ. Памрэ Важак ад дзіды Руна. І хай душа Важака ідзе ў халодныя віры, а там, у глыбіні, хай жаруць яе чорныя самы.

Наплылі ўспаміны...

Гэта было, калі лісце ўжо апала на траву і пачаліся прымаразкі. Патрывожаны загоншчыкамі тур з налітымі крывёю вачыма знячэўку выскачыў з гушчару і збіў Руна з ног. Шчасце, што яшчэ не паспеў падчапіць на рогі. Але паляўнічы: так моцна выцяўся аб мерзлую зямлю, што ляжаў, не могучы зварухнуцца. І чуў, як іншыя паляўнічыя шукалі яго ў пушчы, як гукалі, а ён толькі ледзь чутна шаптаў: «Рун тут, тут Рун».

Але яго не знайшлі. Наступіла ноч, і на зямлю праз блытаніну голых сукоў свяціла такая ж, як зараз, поўня. Падмарожвала, і чалавек ужо пачаў дранцвець. Раптам пачуліся нечыя крокі, што шапацелі ў сухім лісці, і неўзабаве проста на яго з гушчару выйшла Ная. Быццам пачула ягоны шэпт і прыйшла, каб выратаваць...

Успаміны туманіліся, бляклі, і нарэшце Рун заснуў.

Спаў моцна, без сноў.

Калі промні ранішняга сонца кранулі вяршыню Белай Гары, успыхнуў ружовай прымглёнасцю цвітучы верас. І Рун прачнуўся. Пацягнуўся, з хрумстам распраўляючы суставы. Быў свежы і моцны, гатовы да бою, і надзіва спакойны. Выцягнуў з-за сцёгнавай павязкі загорнутую ў бяросту гліну, якую яшчэ ўчора прыхапіў на беразе. Вымазаў ёю твар і цела — шырокія чырвоныя палосы надавалі яму ваяўнічы выгляд. Потым падышоў да краю скалы, адкуль адкрываўся далягляд. Над хвойнікам высока ўздымаўся слуп дыму — гурт прачнуўся таксама. Крыху счакаўшы, нібы перамагаючы хвілінную нерашучасць, юнак уздыхнуў на поўныя грудзі і закрычаў, трасучы дзідай:

— Уэ-э-йя-я-а! Уэйя-я-а!

Быццам выццё звера, зычна ляцеў над ваколіцай баявы покліч Руна. І рэха, як драпежнае скавытанне лясных сабак, перакочвалася паміж берагамі Ракі і Рэчкі: йя-йя-йя!

І тут знізу, ад паселішча пачуўся ў адказ рэў Важака, які адразу пазнаў голас Руна. Размахваючы доўбняй, з пенай на скрыўленых вуснах, ён выскачыў з будана і пабег да Белай Гары.

Увесь гурт, хто толькі мог хадзіць, таксама падаўся да падножжа скалы, каб там у маўчанні слухаць гукі смяротнага двубою, а потым вітаць пераможцу. Толькі Ная, прывязаная да моцных жэрдак, не магла там быць. Ірвалася са скураных рамянёў, раздзіраючы рукі, і не магла вызваліцца — яна таксама пачула Руна.

Важак узняў над галавою смалістую доўбню і рушыў на Руна. Набліжаўся, як звер падступае да сваёй ахвяры — спружыністымі, упэўненымі крокамі. Дужы быў Важак, і доўбня здавалася неад'емнай часткай яго каржакаватага цела. А калі заўважыў у руках праціўніка толькі ляшчэвіну, якую той выставіў наперад, быццам хацеў адштурхнуцца, зняважліва падумаў, што выгнанец, мусіць, звар'яцеў у пушчы, калі з такой трысцінай адважыўся на двубой.

А Рун адступаў да абрыва, чакаючы нападу. І калі апынуўся на выступе скалы, Важак вырашыў, што адсюль яго ахвяра ўжо не ўцячэ, і кінуўся наперад. Малады паляўнічы спрытна ўхіліўся ад доўбні і тут жа сам узмахнуў дзідай...

Усё адбылося так нечакана хутка, што Рун спачатку нават не паверыў у перамогу. Пакратаў дрэўкам нерухомае цела — так, Важак мёртвы. Тады падцягнуў яго да стромы і спіхнуў у прорву.

Гурт бачыў, як цёмнае цела, павольна перакручваючыся ў паветры, паляцела ўніз і потым цяжка плёхнула ў ваду, узняўшы слуп пырскаў. Людзі закрычалі, завылі. Але ў іх ляманце яшчэ чулася няўпэўненасць: не разабраліся здалёк, хто гэта быў. Калі ж Рун з пераможна ўзнятай галавой і з акрываўленай дзідай у руцэ спусціўся з Белай Гары, грымнулі воклічы.

Віталі новага Важака.

# ШЛЯХАМ ПАЎНОЧНЫХ АЛЕНЯЎ

— Падкінь, Сарока, дроў на агнішча, а то нешта пахаладала ў нашым будане. Чуеце, як лютуе завіруха і гудуць у лесе дрэвы, а дах будана трымціць, як шкура на бубне старога ведуна? Добра, што яшчэ з восені ўцяшаліся трыснягом і мохам, але такім нялюдскім часам, як сёння, вецер заўсёды знойдзе нейкую дзірку, каб выдзьмухаць цяпло. Цяжка зараз у лесе нашым паляўнічым — снегу па пояс, але не бойцеся — вашыя таты не заблудзяцца і да ночы будуць дома, а калі пашанцуе, то і прынясуць якой свежыны...

Ну вось і пацяплела... А зараз, калі толькі будзеце ўважліва слухаць і не дурэць, я раскажу вам нешта цікавае. Раскажу, як наш народ прыйшоў сюды, у Даліну, і пасяліўся ў ёй. Толькі, Другак, перастань грызці гэту старую костку, бо забаліць жывот. Калі хочаш есці, вазьмі лепш сушаную рыбіну...

Цяпер я во, бачыце, састарэў, ссівеў і згорбіўся, як бяроза-чачотка. І карысці з мяне — толькі што прыглядзець за вамі — маімі ўнукамі, ды яшчэ, пакуль свецяць вочы, магу змайстраваць з крэменю які наканечнік дзіды. А яшчэ ж зім пяць таму адзін паклаў быў ладнага мядзведзя. Вось гэты кажух — з яго шкуры. Ну а тады, як ваш прадзед, а мой бацька — храбры Расамаха, хай яму добра палюецца на Тым Свеце, сказаў: «Пойдзем туды, адкуль прыходзяць паўночныя алені», я быў такім жа, як Сарока. Можа, крыху толькі вышэйшы. І было гэта так даўно, што ўжо не магу і злічыць, колькі мінулася гадоў. Раней яшчэ памятаў, а зараз, вядома, старая галава — дзіравая.

На паляванне з дарослымі мяне яшчэ не пускалі, але зайцаў па снегавым следзе ў сіло я ўжо лавіў, качак-падлёткаў збіваў палкай не горш за іншых аднагодкаў, а дзіду мог кінуць, як ніхто. Не кажу ўжо, колькі вясною збіраў птушыных яек і як улетку і восенню насіў грыбы, маці не паспявала сушыць.

Жылі мы раней далёка адсюль, за шмат дзён ходу, калі кіравацца супраць бегу Кромана. Паселішча наша месцілася на беразе вялізнага Возера, якое было ажно да далягляду. Старэйшыя казалі, што зімою па лёдзе можна было пайсці ажно за той далягляд і трапіць на другі бераг. Але гэта рабіць не рызыкавалі, бо ці вярнуліся б назад? Вы ж ведаеце, што на снежнай раўніне злы дух Крутун пачынае зводзіць чалавека са шляху — ідзеш, ідзеш быццам проста, а потым бачыш перад сабою свае ж уласныя сляды. Гэта Крутун пачаў вадзіць цябе кругаля. Ой, як цяжка тады выбіцца на патрэбны кірунак!

У даўжыню Возера было яшчэ большае, ажно сюды, да нашай Прорвы. Калі прамыла ход праз Рудыя Узгоркі, вада сцякла, і ўтварыўся Кроман, а замест Возера засталіся толькі невялікія азерцы. Я іх сам бачыў, калі аднойчы забрыў быў туды на паляванне. А Бядун нават кажа, што гэта не вада прамыла Прорву, а пракапалі для яе ход духі. Гэта вельмі шмат работы, таму, пэўна, сабраліся яны ўсе і працавалі не адно лета. А колькі спатрэбілася для таго капання аленевых ды ласіных лапатак! І навошта яны гэта рабілі? О, яны ведалі — навошта. Духі далі знак, каб мы пайшлі па шляху паўночных аленяў і знайшлі Абяцаную Даліну.

Пытаецце — а што гэта за паўночныя алені? Ды яны падобныя, як нашы лясныя. Толькі поўсць даўжэйшая, а на грудзях дык цэлы футраны каўнер, ды рогі разгалісцейшыя. Летам яны пасвіліся далёка на поўначы, дзе гмызу меней, а пад зіму ішлі ў нашыя краі, каб на зацішных узлесках хавацца ад халодных вятроў.

Ішлі паўночныя алені паўз бераг Возера незлічонымі чародамі. Як зірнеш бывала, дык ажно ад самага далягляду як плыве па зямлі рудавата-шэрая хмара, толькі калыхаецца лес рагоў.

Перад нашым паселішчам у Возера ўпадала рэчка. Не вельмі каб шырокая, але добрай глыбіні і па берагах зарослая кустоўем і дрэвамі. І вось нашыя паляўнічыя затойваліся на беразе рэчкі і, калі алені яе пераплывалі, білі іх дзідамі. Алені ішлі і плылі так густа, што ўжо не маглі павярнуць назад, бо іх падціскалі новыя чароды. Так яны і траплялі пад дзіды адзін за другім. Якім удалым паляваннем за дзень можна было назапасіць мяса на цэлую зіму! Але і самім трэба было асцерагацца, каб не трапіць на рогі або пад капыты. Здаралася — пройдуць апошнія алені і скончыцца паляванне, і тут агледзяцца, што кагосьці з людзей няма. Значыць, ляжыць ён недзе на беразе пакалечаны або здратаваны насмерць.

Шмат што з пражытага ў дзяцінстве забылася, а вось адну восень памятаю, быццам усё было толькі ўчора.

Якраз надыходзіў час Вялікага палявання. Дружна неслі з лесу сухія дровы і елавец для сушкі і вэнджання мяса. Здзерлі кару не з аднаго дзесятка дрэў, каб адрамантаваць старыя буданчыкі-вяндлярні і зладзіць новыя. Паляўнічыя мацней прывязвалі сухажыллем і скуранымі раменьчыкамі крамянёвыя наканечнікі дзідаў, рабілі схованкі ў прыбярэжным гушчары, у якіх можна было непрыкметна затаіцца, чакаючы здабычу.

Падлеткі таксама мелі на будучым паляванні важны абавязак. Мы павінны былі разам са старымі і хворымі — хто мог трымацца на нагах — заняць вусце рэчкі і доўгімі гачкаватымі палкамі выцягваць на

бераг забітых аленяў, якіх зносіла плынь. Ну і, канечне, нам было дабіваць і раненых жывёлін.

І вось аднойчы павеяла халодным ветрам. Яшчэ не зімовым, але ўсё адно гэта быў знак, што хутка замарозіць і заснежыць, і яшчэ больш надзейны знак, што праз дзень-два пачнуць ісці паўночныя алені.

Усё ў нашым паселішчы завірыла і захваляваласа. Нават у зусім нягеглых старых па-маладому засвяціліся вочы. Яшчэ б — столькі хутка будзе спажывы!

З самага шэрага ранку наступнага дня на прагаліну за паселішчам выйшаў вядун. Ён быў апрануты ў доўгія вывернутыя поўсцю наверх шкуры, а на галаве меў прывязаныя аленевыя рогі. Вядун грукаў у жоўты бубен на драўляным вобадзе і кружыў па прагаліне, выкрыкваючы нешта не зразумелае нам. Але гэтыя воклічы павінна была зразумець Маці-Аleніха — родапачынальніца нашага народу. Чараўнік заклікаў яе не пакінуць людзей галоднымі і паслаць ім аленяў.

Усе нашы паляўнічыя пахапалі дзіды і таксама высыпалі на прагаліну. Яны акружылі яе суцэльным пасам і пачалі танец Вялікага Палявання — прысядалі, падскоквалі, замахваліся дзідамі і з імпэтам калолі, быццам паўз іх ужо імчаліся тыя алені.

Вядун кідаўся па прагаліне з краю ў край, але ўсё цясней сыходзілася кола паляўнічых, усё бліжэй пабліскваль блакітнаватыя вастрыі іх дзідаў. І вось нарэшце мужчыны сышліся, і кожны ўвагнаў у зямлю перад ведуном сваю дзіду, і той апынуўся ў шчыльнай загародзе старчакоў-дрэўцаў, закрычаў што моцы, падскочыў, як ранены звер, і ўпаў на вытаптаную траву. Радасна загулі паляўнічыя: прыдуць, прыдуць алені і сёлета, як прыходзілі яны спрадвеку кожную восень, не мінуць яны вострых дзідаў, і будзе шмат мяса!

Паляўнічыя паднялі непрытомнага са спёклай пенай на вуснах ведуна, занеслі ў будан і асцярожна паклалі на ляжак. Яго было нельга зараз трывожыць, ажно пакуль зноў не вернецца ў цела ягоная душа. А душа паляцела далёка, на паўночную раўніну, дзе павінна была сустрэцца з Маці-Аленіхай.

А вечаровым прыцемкам паляўнічыя пайшлі да рэчкі, і кожны заняў вызначаную мясціну, бо алені маглі з'явіцца ўжо на самым золку.

Такая тады была ціхая асенняя ноч. Ні птушынага крыку нідзе, ні чалавечага голасу. Толькі часам плёскала на прыбярэжных камянях сонная хваля. І цёмна было навокал, бо неба ўхуталі хмары і не

свяцілася ні адной зоркі, а ў паселішчы патушылі ўсе вогнішчы, каб не спудзіць агнём аленяў.

І вось наступіла світанне, а потым прыйшоў дзень. Пачало вечарэць, а аленяў усё не было. Не вярталіся і разведчыкі, якія пайшлі за рэчку пільнаваць іхні надыход.

І так у напружаным, але марным чаканні мінула яшчэ некалькі дзён. Алені не прыйшлі, і чакаць на іх было дарма. Гэта нарэшце зразумелі і па тым, што не прыляцелі вароны. Звычайна, калі алені пачыналі сваю вандроўку, над імі кружыліся хмары варон, і карканне аглушала наваколле. Вароны ведалі, што здабыча перападзе і ім. А тут, калі і лётала над лесам з пару гэтых птушак, то мясцовых.

Усіх ахапіў жах. Нават зусім малыя дзеці, хоць яшчэ і не разумелі бяды, што абрынулася на наш народ, таксама прыціхлы гледзячы на пасуровелыя твары дарослых. Немінучы голад чакаў людзей наперадзе!

І тады хтосьці са старэйшых паляўнічых сказаў проста ў твар чараўніку:

— Гэта ты вінаваты, што не прыйшлі алені! Ты страціў сваю чароўную моц, і Маці-Аленіха цябе не паслухала. Таму мы зараз усе памрэм з голаду!

Вядун разгублена паглядзеў на іншых паляўнічых, быццам шукаў у іх падтрымкі, але тыя толькі моўчкі адвярнуліся ад яго і пайшлі прэч. Яны таксама вінавацілі яго ў сваёй бядзе.

Тады вядун выцягнуў са скураных піхваў на поясе вузкі касцяны кінжал, якім звычайна закалваў ахвярных жывёлін перад свяшчэнным вогнішчам, прыставіў яго да сваіх грудзей і ніцма кінуўся на зямлю...

Дарма крычаў той чалавек. Ды і іншым не трэба было адварочвацца. Вядун быў не вінаваты. Але хто ж тады мог ведаць, што гэта духі наўмысна затрымалі паўночных аленяў. Для нашага ж дабра.

Але зараз, як падумаеш, то чаму б духам проста не сказаць было нашаму ведуну, што яны надумаліся? Тады б не перажылі мы столькі бяды. А можа, яны што і шапнулі, але той і сапраўды не зразумеў? Бацька мой вось мусіць жа пачуў і павёў...

Зімою быў голад. Ад яго памерлі хворыя і шмат старых. А восенню зноў не прыйшлі паўночныя алені. І наступнай зімою таксама паміралі нашыя людзі. Амаль усе старыя памерлі, ды і тыя, што дажылі да вясны і прылёту з выраю птушак, ледзь соўгаліся.

Калі пацяплела і ажылі лясы, калі часцей стала трапляцца жыўнасць і можна ўжо было збіраць ядомыя расліны і карані, яйкі ў гнёздах, ацалелыя памацнелі. Але радасці не было. У вачах усіх затаіўся

страх, бо ўжо не спадзяваліся, што вернуцца паўночныя алені. А значыць — уперадзе трэцяя галодная зіма.

І вось аднойчы вечарам заўважылі, што зніклі нашыя апошнія старыя — дзед і тры бабулі. Яшчэ з ранку пайшлі былі ў лес выкопваць завостранымі палкамі ядомыя карані ды так і не вярнуліся. А як спусціўся добры прыцемак, людзі захваляваліся. Пахадзілі краем лесу, пагукалі — без выніку. Рашылі адкласці пошукі на заўтра, калі зноў стане светла.

Не спалі ў тую ноч у нашым будане. Не спаў і я, бо вельмі ж шкадаваў свайго дзядулю, які і казкі мне бавіў, і вучыў свісткі з лазы скручваць, паказваў, як лаўчэй ставіць сіло на птушак. Я плакаў і скрозь слёзы слухаў, як перагаворваліся старэйшыя, і з іхніх слоў зразумеў, што старыя пэўна самі сыйшлі ў лес, каб не замінаць такой галоднаю часінай маладзейшым. Тады я ўспомніў, як дзядуля апавядаў, што калісьці нават быў звычай зводзіць у пушчу старых і нямоглых, дзе яны паміралі з голаду або гінулі ад драпежнікаў.

— Не хачу, каб дзядуля паміраў. Вярніце дзядулю! — загаласіў я.

— Вернем, сынку, вернем, — суцяшалі мяне бацькі. — Заўтра ж знойдзем.

Нараніцу я сабраўся ў лес разам з бацькам і іншымі мужчынамі. Старэйшыя хацелі спачатку пакінуць мяне дома, але ўбачылі заплаканыя вочы і толькі махнулі рукою: «Ну што з ім зробіш?»

Нехта з жанчын, якія ўчора збіралі на схілах недалёкага яру шчаўе, бачыла, што старыя падаліся берагам азёрнай затокі ў бок Рогу. Так у нас называлі доўгую і вузкую паўвыспу, што далёка выступала ў Возера. І праўда, на прыбярэжным пяску хутка знайшлі адбіткі чатырох пар абутых у скураныя ступакі ног. Побач са слядамі добра былі прыкметныя драпіны і глыбокія копачкі — старыя абапіраліся на кійкі. Бераг тут быў камяністы і месцамі завалены вываратамі. Сам жа Рог густа парос нізкарослымі пакручанымі вятрамі заімшэлымі хвоямі, між якіх гніў непралазны буралом. Таму старыя, сустрэўшы якую перашкоду, не абыходзілі яе лесам, а зварочвалі ў прыбярэжнае плыткаводдзе. На зручнейшай мясціне няўпэўненыя ланцужкі слядоў зноў выходзілі на сухое.

На самым выступе Рогу чулася варонняе карканне. Гэта ўстрывожыла мужчын. Яны прыспешылі хаду, і я ледзь паспяваў за імі.

І нарэшце мы іх убачылі. Усе чацвёра сядзелі на верасе, прыхінуўшыся плячмі да валуноў. Іх нерухомыя вочы былі ўтаропленыя ў небакрай, за Возера, дзе быў той загадкавы далёкі бераг. Яны быццам выглядалі, што вось сонца ўгрэе зямлю, падымецца туман і прагляне той бок Возера, пра які чулі, але якога ніхто так і не бачыў.

Моўчкі стаялі мужчыны навокал нябожчыкаў. Тата прытуліў мяне да сябе і ціха гладзіў па галаве. І я адчуваў, як уздрыгвае яго рука.

Раптам тата нешта згледзеў каля памерлых, нагнуўся і падняў пук зялёных сцяблін з дробнымі кветкамі. Сцябліны былі пажаваныя. Прыгледзеўся да іх і я і пазнаў зёлкі, пра якія казаў дзядуля: «Ніколі не чапай гэтай травы».

— Гэта атрута, — прашаптаў я.

— Ведаю, сынку...

У тыя часы, як і зараз, у нашага народу быў звычай хаваць нябожчыкаў на месцы іх смерці. Бо можа душы людскія недзе лётаюць як птушкі, і можа яны калі захочуць вярнуцца. А калі нябожчыка перанесці ў іншую мясціну, тады душа будзе блукаць па свеце, не знаходзячы свайго цела. І тады яна зробіцца злой і пачне шкодзіць жывым.

Мужчыны насеклі ў лесе жэрдак, спусцілі з прыбярэжных вербаў кару і зладзілі над памерлымі вастраверхі будан — іх апошні прытулак. З боку Возера ў ім пакінулі адтуліну — лётку для душ нябожчыкаў. У будан паклалі некалькі вострых крамянеў, якія маглі спатрэбіцца на Тым Свеце. Я ж пакінуў дзядулю свой крамянёвы ножык. У дзядулі ўжо амаль не было зубоў, і ён мог есці мяса, толькі адразаючы маленькія кавалачкі. А як жа ён адрэжа без ножыка?

Затым мы ўсе памаўчалі, у думках развітваючыся з суродзічамі, а пасля пайшлі дадому. І на зваротным шляху бацька раптам загаварыў, моцна і ўпэўнена:

— Паслухайце, суседзі! Нам трэба пайсці адсюль. Тутэйшая зямля стала нам чужой, стала заклятай для нас. Яна не хоча больш карміць. Алені мінуць нашыя мясціны і гэтай восенню, і тады мы ўсе памрэм!

— А куды ісці, Расамаха? Адсюль вось Возера, з іншых бакоў — чужыя людзі. Куды нам дзецца?

— Я ведаю — куды. Ужо надумаў, — зацята працягваў пераконваць бацька. — Пойдзем у той бок, адкуль прыходзілі паўночныя алені. Калі іх нехта адвёў ад нашых краёў, то пойдзем ім насустрач. Берагам Возера!

Гэтыя словы ўразілі мужчын — і сапраўды, чаму б не пайсці туды, дзе гэтыя алені жывуць? Можа, там і халадней, але затое будуць мяса і здор, будуць аленевыя шкуры, з якіх можна пашыць цёплыя кажухі, моцныя штаны, мяккія шапкі, і праз такую вопратку не прабярэцца ніякі мароз.

Прыйшоўшы ў паселішча, мужчыны разышліся па сваіх буданах, і хутка ўсе ўжо ведалі: «Расамаха кажа, што гэты край стаў заклятым і яго трэба пакінуць!»

Да нашага будана хутка сышліся ўсе жыхары — мужчыны, жанчыны, дзеці. Я нават спалохаўся спачатку — чаго гэта яны? Жанчыны гуртам выйшлі наперад і пачалі ўсе разам крычаць, махаючы рукамі:

— Вядзі нас, Расамаха! Ратуй народ!

Бацька мой пасуровеў адразу, паглыбелі маршчыны на яго твары — гэта ж такі клопат узвальваўся на плечы, гэта ж зараз трэба было дбаць не толькі пра сваю сям'ю, а думаць пра ўсіх. Звычайным часам усе справы ў нас рашаюцца так — збяруцца паважнейшыя і старэйшыя людзі, з вопытам і жыццёвай мудрасцю, абгавораць і вырашаць, што як рабіць. Па пільнай справе — якой бядзе, пры нападзе ворагаў, на час паходу — з лепшых выбіраюць найлепшага, які і кіруе ўсімі, якога слухаюць. Быць важаком у нашым народзе — вялікі гонар, але і адказнасць яшчэ большая. Яму лепшы кавалак ад упаляванай дзічыны, цяплейшая мясціна каля вогнішча, але ён павінен заўсёды першым ісці з дзідаю на звера або ворага. І гора таму важаку, які схібіў, збаяўся, памыліўся…

Задумаўся быў на хвіліну бацька, а потым рашыўся, расправіў плечы і, мне падалося, нават павышэў неяк. Затым ступіў наперад і ўзняў дзіду:

— Добра! Я павяду вас у краіну, дзе зямля нам будзе прыязная, дзе будзе шмат дзічыны, грыбоў і ягад у лесе, дзе будзе мноства качак на балоце і дзе растуць самыя смачныя карані, — бацька прыплюснуў вочы і на імгненне заціх, быццам да нечага прыслухоўваўся: — Нас чакае шырокая Даліна каля высокіх узгоркаў, якія будуць засланяць людзей ад халодных вятроў.

Я жахнуўся, слухаючы гэтыя словы. Навошта бацька так кажа? А калі не спраўдзяцца абяцанні?

У адказ на бацькавы словы пачуліся радасныя воклічы, і ў вачах нашых людзей упершыню за апошні год засвяцілася надзея.

А калі рашыліся ісці, то і пачалі збірацца. Поспехам, ліхаманкава, быццам уцякалі ад ляснога пажару. А папраўдзе, то спяшаліся крануцца з месца, каб не перадумаць і не застацца ў родных мясцінах, бо невядомы і, мусіць, няблізкі шлях палохаў, і ў яго кідаліся, як у халодную ваду.

Вечарам напярэдадні адыходу я з аднагодкамі абыйшоў усе нашыя ўлюбёныя мясціны — дзе бавіліся ў гульні, купаліся, лазілі на дрэвы за птушынымі яйкамі, збіралі баравікі. Развітваліся мы з прыбярэжным азёрным пяском, на якім вылежваліся або дужаліся сонечнымі летнімі днямі, з абімшэлымі валунамі, з глыбокімі ярамі, зарослымі маліннікам, і крынічкамі на іх дне.

Калі нагружаныя невялікім скарбам і такімі-сякімі запасамі харчу нараніцу мы крануліся ў шлях, у многіх на вачах былі слёзы. Яшчэ б — пакідалі родную зямлю, дзе жылі з незапамятных часоў, дзе заставаліся душы продкаў.

Выцягнуўшыся доўгім паскам, нашы людзі ішлі берагам Возера на паўночны захад. Спачатку трымаліся звыклых рыбацкіх сцежак, здаўна пратаптаных нашымі ж нагамі. Калі пачаліся прыбярэжныя балоты, павярнулі ў глыбіню лесу, на сцежкі звярыныя. І хутка пушча глынула нас у сваё цёмна-зялёнае нутро.

Пачаліся малавядомыя мясціны, таму нялішняй была перасцярога, і Расамаха сказаў, каб ішлі цясней і не адбіваліся ўбакі. Трымацца ж след у след, як ходзяць вопытныя паляўнічыя, было немагчыма — дзеці рабілі малыя крокі.

Наваколле асабліва не мянялася. Навокал былі ўсё тыя ж бярэзнікі, альшаннікі ды яліннікі, якія на сушэйшых высокіх месцах перабіваліся светлым хваёвым лесам. Трапляліся і забалочаныя, замшэлыя нізавіны з карлікавымі дрэўцамі. Працярэбленыя халоднымі вятрамі ўзгоркі былі бязлесныя, парослыя хрумсткім пад нагамі лішайнікам ды высмяглай травой.

Мы ішлі старымі аленевымі сцежкамі, якія вужакамі звіваліся ў гушчарах, міналі бураломы і вывараці, праставалі па прагалінах, уліваліся, як ручаі, у суседнія сцежкі, шырэлі і вузелі, а затым зноў раздвойваліся і раскопваліся. Вечны шлях паўночных аленяў, вытаптаны нялічаным мноствам капытоў, яшчэ не ўтравелы, зачароўваў нас і клікаў, вёў за сабой.

Калі ж сцежкі падыходзілі да рэчак або азёрных затокаў, праз якія алені пераходзілі бродам або пераплывалі, мы шукалі сухі абыход. Тады рухацца было асабліва цяжка. Перашкаджаў густы падлесак, а найбольш вывараці — свежыя і зусім спарахнелыя, з барадамі сівога моху. Спляжаныя ж бураломам дзялянкі пушчы ўвогуле трэба было мінаць бокам.

Расамаха ішоў пераважна ўперадзе, выбіраючы зручнейшы шлях. Побач з ім было і некалькі маладзейшых ды дужэйшых з дзідамі і доўбнямі, бо ці мала якая магла трапіцца неспадзяванка. У сярэдзіне ж людскога гурта трымаліся жанчыны і дзеці. Ззаду іх таксама ішлі ўзброеныя паляўнічыя. Мужчыны па чарзе неслі і сухі камель-дуплянку. З яе курэў дым, там тлелі вугалі.

Расамаха часам адступаўся на Бяднейшай мясціне ўбок і прапускаў паўз сябе ўвесь паход, сочачы — ці не прытаміўся хто, ці не адстаў.

Пераначавалі каля ручая, расклаўшы вогнішча.

Назаўтра пайшлі ўсё тым жа лесам і перад самым паўдня апынуліся каля невялікай ракі з пясчанымі прывабнымі берагамі, зарослымі чаромхай і вербамі. Маладзейшыя адразу ж палезлі ў ваду і нацягалі з-пад карчоў даволі ладна рыбы, якую потым засмажылі на Буталях і з'елі — кожнаму д асталося хоць па невялікаму кавалачку. І тут хтосьці заўважыў на пяску след лася — звер пераходзіў раку. І тады Збой — ваўкаваты прысадзісты мужчына — пачаў угаворваць суродзічаў:

— Рыба ёсць, вада ёсць і жывёла ёсць. Добрая мясціна — застанёмся тут!

— Адзін след — гэта адзін лось, ды і той след стары. Звер пайшоў далёка і не вярнуўся. А калі ён не прыдзе зноў, а тут няма больш іншай дзічыны? Адной рыбай не пракармімся, — запярэчыў мой бацька.

Але жанчыны таксама сталі налягаць, што варта тут прыпыніцца хоць на які час — усё ж бліжэй да пакінутых родных мясцін. Расамаха і сам завагаўся і яшчэ раз абыйшоў наваколле, каб лепш агледзецца. І добра, што так зрабіў, бо перад рачною лукой заўважыў, што праз ваду, якраз на Бузіне, была перакінута кладка. Не выварацень ўпала, а дрэва было прыцягнена наўмысна з ляснога гушчару.

— Тут лес чужых людзей, — сказаў Расамаха, вярнуўшыся з агледзін. — Трэба ісці далей. Гэта не тая Даліна, якую нам абяцалі духі. Яна яшчэ ўперадзе, яшчэ далёка.

Усе разам схадзілі да кладкі, паглядзелі на яе, параіліся і пачалі зноў рыхтавацца ў дарогу,

— А мая сям'я не пойдзе, — нечакана закапыціўся Збой. — Свежых чужацкіх слядоў няма, значыць, тубыльцы больш не прыходзяць — можа, дзе пагінулі. Таму мы застанёмся каля гэтай рэчкі.

— Увесь народ наш сказаў — вядзі, Расамаха! Значыць, я — важак. Таму і кажу: усім трэба трымацца разам, бо, калі расцярушымся на шляху, саслабеем, а разам нас шмат, і таму мы моцныя.

— Увесь народ сказаў, а я прамоўчыў, — заўхмыляўся Збой. — Я не горшы паляўнічы за цябе. А па сіле і дужэйшы. І невядома яшчэ, ці правільна ты зразумеў духаў, мо яны казалі якраз пра гэтую вось мясціну?

— А дзе ж тут паўночныя алені? — ускіпеў Расамаха.

— Пачакаем да восені. Восенню, можа, яны сюды якраз і прыдуць.

— Ты не застанешся тут, Збой, — пачаў крычаць Расамаха.

Спрэчка разгаралася не на жарты, і было ўжо нядоўга, каб схапіцца за дзіды, і скончылася б, пэўна, сварка дрэнна, каб не ўмяшаліся іншыя мужчыны.

— Няма ў цябе праўды, Збой, — сказалі яны. — Можа, ты і дужэйшы, але гарачы, неразважлівы. А ў Расамахі — галава! Хай ён вядзе нас і надалей.

На гэтым спрэчка пакуль і скончылася. Праўда, Збой ажно да самага вечара ішоў надзьмуты і ўсё нешта буркатаў сабе пад нос.

На наступнай начоўцы, калі ўсе клаліся спаць, першым узяўся пільнаваць вогнішча бацька. Я напрасіўся дапамагчы, і ён згадзіўся. Да прыцемку мы нацягалі гару ламачча — на цэлую ноч, але адразу ў вогнішча многа не клалі, каб полымя асабліва не разгаралася. Інакш ляцела шмат іскраў, якія маглі ўпаліць лес. А нам толькі і не хапала жахаў ляснога пажару.

Мы спачатку пасядзелі каля агню, чакаючы, пакуль лагер заціхне. Калі ж пачулася пасопванне і мармытанне спячых, накінулі на плечы цяплейшыя шкуры, бо адчувалася золкасць вясновай ночы, мацней падпераzаліся скуранымі пасамі і адышліся ўбок, пад шаты лесу. Тут пільнаваць было надзейней, бо ля вогнішча ноччу чалавек не бачыць далей асветленага агнём кола, а сам кожнаму навідавоку. Да яго лёгка падкрасціся, кінуць каменем або ўдарыць дзідай.

Вочы паступова прывыкалі да цемры, і тады з яе пачалі праступаць таўшчэзныя камлі дрэў, якія раней зліваліся ў непраглядную чорную сцяну. Над нашымі галовамі на светлаватым яшчэ небе прарэзалася перапляценне вузлаватых галін і адзінокая зорка ў прагаліне ігліцы.

Я прытуліўся спіною да яшчэ цеплаватага з дня камля яліны і пачаў глядзець на гэтую мігатлівую блакітнаватую зорку і хутка заўважыў, як яна ледзь прыкметна перамяшчаецца па лапіне неба. І ад выгляду гэтай адзінокай зоркі закружылася ў маёй галаве, нешта тужліва зашчымела ў грудзях, стала няўтульна, і тады я апусціў вочы, зноў убачыў вогнішча і суродзічаў навокал, бацьку побач сябе і супакоіўся. Усё гэта было звычнае і роднае. І я зноў пачуўся часцінкай свайго роду, навакольнага лесу, цёмнай духмянай ночы і нават гэтага шурпатага камля за спіной. Нешта ўпала на зямлю — шышка ці сухая галінка. Мы насцярожыліся і прыслухаліся, але лес быў спакойны. Глыбокая цішыня ахутала наваколле, маўчалі птушкі, спалі звяры.

Бацька таксама сядзеў нерухома і моўчкі. Можа, ён думаў, як будзе весці свой народ усё далей уздоўж гэтага бясконцага Возера, ажно пакуль яны не трапяць у тую Даліну, дзе пасвяцца паўночныя алені, дзе будзе шмат смачнага мяса і футраных шкур для вопраткі і дзе суродзічы стануць тлустыя і задаволеныя. Але адначасова з надзеяй, можа, пад сэрца тонкім струменем прасочваўся і халадок страху: а калі да самага краю зямлі пуста — ні аднаго аленя? Можа,

тых аленяў забралі духі, у краіну, куды адыходзяць памерлыя? І той край зямлі — які ён? Зноў бясконцая вада ці бяздонная прорва ўніз, у цемру? Як ён, Расамаха, павернецца тварам да суродзічаў, што ім скажа? Тады яму, як і таму ведуну, таксама давядзецца выцягваць з-за пояса свой касцяны нож...

Калі наступіла глыбокая ноч і неба зусім пацямнела, Расамаха пабудзіў Збоя — таму прыйшла радоўка пільнаваць спакой і сон на станавішчы, а таксама сачыць за агнём на вогнішчы. Сам лёг на голле. Я прыціснуўся да шырокай бацькавай спіны, салодка пацягнуўся, заплюшчыў вочы і адразу пачаў засынаць, быццам паволі апускаўся ў нешта цёплае і мяккае.

Спаў Расамаха нядоўга. Яшчэ толькі бралася світаць, як прачнуўся ад адчування нейкай трывогі. Ускочыў на ногі і агледзеўся — на вогнішчы ўгараліся свежыя дровы, але самога Збоя не было бачна. Пуставалі і лежакі, дзе спала яго сям'я. Бацька памацаў змятае лісце — яно ўжо амаль не трымала чалавечага цяпла. Значыць, Збой з сям'ёй пайшоў даўнавата. З сабою ён забраў дуплянку з жарам і частку сушанага мяса.

Расамаха разбудзіў мужчын. Тыя, яшчэ сонныя, пахапалі зброю і намерыліся кінуцца наўздагон за ўцекачамі, хоць у пушчы было яшчэ і цёмна. Праўда, больш разважлівыя адгаворвалі, казалі: «Калі такі круцівада і сыйшоў, то, можа, і на лепшае. Будзе спакайней». На тым і пагадзіліся.

Але ўсё адно снедалі прыгнечаныя. Мяса, якога засталося мала, даелі ўсё. Абгрызлі косткі, а затым патрушчылі іх камянямі, каб дастаць масол. Але ўсё адно былі галаднаватыя. Тады зноў узнялася крыўда на Збоя: «Каб толькі мяса, але і агонь забраў. А каб пагасла вогнішча? Тады ж пагібель для ўсяго народу Аленя!»

Тут ўжо бацька пачаў суцішаць суродзічаў, кажучы, што Збой паклаў на вогнішча шмат ламачча, каб не патухла. Да таго ж забраў толькі частку мяса, а мог усё.

Перш чым крануцца ў далейшы шлях, знайшлі сухую вываранць, адламалі ад яе ладны кавалак і выдзеўблі вострымі камянямі ў ім дупло. Затым туды напхалі, колькі ўлезла, жару, і калі ў дупле добра ўгарэлася і дым распушыўся доўгім хвастом, пакінулі начны прытулак.

Праз нейкі час пачалося разналессе, а затым вялікая прагаліна, што ўтварылася ад колішняга пажару. Выгарына зарасла маліннікам, нізкім кустоўем, зацягнулася рознатраўем. Гурт людзей прыпыніўся і рассыпаўся па наваколлі, як ласіны статак на папаску. Усе пачалі шукаць ядомыя расліны, выкопваць палкамі карані, збіраць смачных слімакоў.

Нарэшце мы спатолілі голад, ды і на запас таго-сяго набралі. Калі зноў збіліся ў купу, спахапіліся, што няма маёй старэйшай сястры Вавёркі. Пачалі гукаць ва ўсе бакі. Крыкі ляцелі над прагалінай, адбіваліся ад сцяны лесу і вярталіся назад роспачным рэхам. Вавёрка маўчала, і самае горшае палезла ў галаву — тут жа поўна мядзведзяў. І тады ўспомнілі, дзе яе бачылі апошнім разам, і туды пайшоў бацька і лепшыя нашы следапыты.

Па прымятай траве зразумелі, што Вавёрка праз маліннік кіравалася да ўзгорыстага схілу. Па яе шляху была парушаная капалкай зямля — дзяўчына таксама шукала ядомыя карані. Потым натрапілі на паламаны, вытаптаны маліннік, а далей вялі толькі вялікія мужчынскія сляды. І па тым, якія яны былі глыбокія, нашы людзі зразумелі, што незнаёмец нёс нешта цяжкое. Што ж ён мог несці, як не Вавёрку? І мужчыны паспяшаліся па гэтых слядах.

Было бачна, што напаснік спачатку рухаўся подбегам, бо, мабыць, быў дужым чалавекам. Праўда, калі пачынаўся ўзгорак, пераходзіў на крок, а пад ухіл зноў прыпускаўся хутчэй. Але ўрэшце ён пачаў стамляцца і нават прысаджваўся на вываратцях адпачыць. Затым побач з ягонымі слядамі з'явіліся меншыя. Выглядала, што ён прымусіў паланянку ісці самую.

Нарэшце сляды прывялі да невялікага ручая і скіраваліся яго берагам на поўдзень. Хутка нагналі і самога злаўмысніка...

Малады і нязвыклы для тутэйшых краёў светлавалосы мужчына сядзеў каля самай вады, прыхінуўшыся спіной да валуна. Побач на траве прымасцілася Вавёрка, жывая і цэлая. Яна з відавочнай зацікаўленасцю слухала вуркатлівую балбатню свайго выкрадальніка.

Расамаха са спадарожнікамі нават разгубіліся. Яны чакалі ўбачыць звязаную і змардаваную паланянку, а тут вялася прыязная гаворка быццам паміж даўно знаёмымі людзьмі. Але не стаяць жа так дурнямі за кустамі, і нашыя мужчыны з нацэленымі дзідамі высыпалі да ручая. Падхапіўся адразу пабялелы і незнаёмец і таксама сціснуў у руках дзіду. І тут здарылася зусім нечаканае. Замест таго, каб з радасным крыкам кінуцца да суродзічаў, Вавёрка, як курапата крыллі, расставіла рукі, захінаючы крыўдзіцеля:

— Не чапайце яго!

Мужчыны спыніліся, не ведаючы, што рабіць, і паглядзелі на бацьку — гэта ж яго дачка, хай ён і разбіраецца, што тут да чаго.

І тут незнаёмец паклаў на зямлю сваю дзіду і выцягнуў уперад раскрытыя далоні, паказваючы, што яны бяззбройныя. Затым лёгкім рухам адхінуў Вавёрку і ступіў наперад.

— Я, Белагаловы, чалавек тутэйшага народу.

— А я, Расамаха, з народу Аленя, бацька гэтай дзяўчыны, якую ты захапіў.

— А чаму людзі Аленя без дазволу прыйшлі ў зямлю майго народа, ловяць нашу рыбу, б'юць звера і выкопваюць ядомыя карані ў тутэйшых лясах?

— Мы не хацелі чыніць благога. І ў вашай зямлі праходам, бо кіруемся па шляху паўночных аленяў. Шукаем абяцаную духамі Даліну, каб у ёй пасяліцца, — з годнасцю адказаў мой бацька. — А зараз мы хочам вярнуць Вавёрку.

— Расамаха, я тваю дачку выкрадаў не на крыўду, а каб яна стала маёй жонкай.

Бацька не ведаў, што і адказаць. Увогуле было звычайным і сярод нашых людзей выкрадаць дзяўчат. Сам Расамаха так некалі зрабіў. Але выкрадалі ў суседніх знаёмых ужо родаў, часцей па папярэдняй дамове. А тут жа зусім чужынец. Да таго ж зараз кожны чалавек лічыўся ў родзе. Учора пайшла сям'я Збоя, а зараз вось Вавёрка. Але ж і з гэтым незнаёмцам трэба быць абыходлівым, бо ён тут гаспадар, а яны няпрошаныя госці. Пакрыўдзіш, і пачнецца такая калатнеча, што і не будзеш ведаць, як далей быць: вяртацца назад, шукаць абыходны шлях ці з дзідай прабівацца праз уладанні тутэйшых людзей. Акрамя ўсяго, і Вавёрка быццам не супраць застацца тут нявесткай. А з іншага боку, можа, і добра было б парадніцца з родам гэтага прыгажуна. Прыдбалі б саюзнікаў, а то і прыязных сабе суседзяў, бо, можа, тая Даліна дзе недалёка.

Так і далучыўся Белагаловы да нашага гурта, на час, калі дойдзем да яго роднага паселішча, дзе Вавёрка павінна была застацца.

Назаўтра, памятаю, затрымаліся мы каля нейкай вузкай затокі. Мужчыны пайшлі ў лясны гушчар, спадзяючыся што ўпаляваць. Жанчыны ў бліжэйшых ярах пачалі збіраць ядомае зяленіва. Дзеці ўзяліся дапамагаць сваім маткам. Я ж падаўся да вады.

Затока была плыткая і густа парослая трысцягом каля берагу. І ў гэтым трысцягу было шмат качак: якая на гняздзе, але многія круціліся на чыстых лапінах вады ў пошуках спажывы. Я наламаў ёмкіх палак і стаў кідаць у птушак, стараючыся каторую падбіць. Але было далекавата, і мае біткі не цалялі. Толькі ўвайшоў у азарт, як пачуў, што за спіной хруснула галіна. Азірнуўся. Непадалёку стаяў Белагаловы і моўчкі назіраў за маімі практыкаваннямі. Мне гэта не спадабалася — было сорамна, што нехта чужы бачыць маё такое няўдалае паляванне. Прыкмеціўшы, што я насупіўся, Белагаловы прыязна ўсміхнуўся і падыйшоў да мяне. Потым ён стаў адвязваць свой

плецены скураны пояс. Я зноў наструніўся, бо па вопыту ведаў: калі старэйшыя здымаюць гэту рэч, дзецям могуць быць непрыемнасці.

Але зараз мне не пагражала лупцоўка. Белагаловы склаў пляцёнку ўдвая і ўклаў у яе камень-кругляк. Затым раскруціў над галавою, шырока ўзмахнуў рукой, і з гудзеннем, як вялізны жук, кругляк паляцеў у кірунку качак. Птушкі з крыкам рассыпаліся ўбакі, але адна з іх страпянулася і абвяла на вадзе! Другім кідком Белагаловы не пацэліў, але за трэцім разам зноў трапіў. І што мяне асабліва прывяло ў захапленне — збіў качку ў лёт.

— На, паспрабуй, — працягнуў мне пояс.

Я, хвалюючыся, уклаў у пояс камень і таксама пачаў раскручваць над галавою гэта хітрае кідальнае прыстасаванне. Ад старання мяне ажно хістала ўбакі, але камень не хацеў ляцець. Белагаловы рассмяяўся і пачаў мне тлумачыць, як зрабіць, каб зброя спрацавала:

— Адзін канец моцна зацісні ў кулаку, а другі адпускай.

Я адпусціў, але абодва канцы і пояс імпэтна ўзвіўся ўверх і разам з каменем далёка плюхнуў у затоку.

Белагаловы ледзь на зямлю не ўпаў ад рогату, а мне давялося лезці ў халодную ваду. Праўда, заадно выцягнуў і забітых качак.

Нарэшце я зразумеў сакрэт кідання камянёў пасам, і далей пайшло лягчэй. Праўда, яны ляцелі спачатку ў розныя бакі, але потым прылаўчыўся цаляць і па затоцы. Птушкі, убачыўшы, колькі мы нарабілі на беразе розгаласу, зашыліся далей у трыснёг.

Не, калі казаць па-праўдзе, гэты Белагаловы ўжо пачаў мне здавацца і не кепскім чалавекам, як падалося адразу. І я ўжо менш злаваўся на сястру, што яна згадзілася стаць ягонай жонкай.

На станавішчы я сабраў хлопцаў і з гонарам паказаў ім сваё ўмельства кідаць камяні. Мае сябрукі ад здзіўлення спачатку анямелі і параскрывалі раты. Затым нахапаліся за свае паяскі, і што тут пачалося! Большыя і меншыя камяні са свістам паляцелі ва ўсе бакі. Некаторыя нават пастараліся пасадзіць сабе і таварышам гузы. Калі ж некалькі камянёў трапіла на само станавішча, прыйшлі старэйшыя і хутка астудзілі наш запал.

І зусім я пасябраваўся з Белагаловым, калі ён навучыў мяне здабываць рыбу гарпуном.

Да гэтага мы рыбу лавілі рукамі каля карчоў або білі звыклай дзідай. Але з вастрыя здабыча нярэдка зрывалася. Так што, бывала, трэба было доўга пахадзіць каля вады ды памахаць дзідаю, каб вярнуцца дахаты не з пустымі рукамі.

Неяк Белагаловы папрасіў маёй дапамогі. Не тлумачыў, у чым справа, а проста сказаў:

— Ці можаш дапамагчы?

— Канешне, — адразу згадзіўся я. — А што будзем рабіць, пойдзем на качак?

— Не, патрымаеш ласіны рог.

Я спачатку нават расчараваўся — на паляванне было б цікавей.

Ласіны рог Белагаловы ўжо меў, падабраў яго ў лесе. Вы ж ведаеце, напэўна, што ў канцы зімы ласі, алені і казулі скідаюць старыя рогі. А на іх месцы вырастаюць новыя і кожны раз маюць на адзін адростак больш. Таму па іх колькасці можна падлічыць, колькі жывёла пражыла.

Белагаловы паадбіваў каменем адросткі, а самую лапату рога закапаў у гарачы прысак вогнішча. Пасля мы прыселі побач і пачалі чакаць, пакуль рог добра нагрэецца. Нічога новага тут пакуль для мяне не было. Так і ў нас рабілі, калі хацелі змайстраваць рагавы кінжал, бо нагрэты рог мякчэе і робіцца падатным для нажа або разца. Сачакаўшы патрэбны час, Белагаловы выграб з прысаку рог, паклаў на траву, прыціснуў да яго зверху роўную палку і папрасіў мяне яе трымаць. Затым пачаў стругаць рог уздоўж палкі крамянёвым разцом. Пасыпаліся закручастыя габлявінкі, і ўвачавідкі пачаў глыбець раўчук паза. Потым рог астыў, і давялося яго зноў награвацъ каля вогнішча.

Такім жа спосабам майстар выразаў побач другі паз. Але ён быў не суцэльны, а пасярэдзіне перарываўся. Затым Белагаловы выразаў на месцы перарыву шыпасты выступ, як дзюбу каршуна. Потым усё ахайна абстругаў, загладзіў нажом з усіх бакоў, і атрымалася нешта, падобнае на наш касцяны кінжал, толькі з гэтай дзіўнай дзюбай збоку.

— А зараз дай тваю дзіду, — папрасіў Белагаловы.

Ён выцягнуў з дрэўка крамянёвы наканечнік і замест яго прымацаваў гэты дзюбасты кінжал.

— Вось мы з табой і змайстравалі гарпун. А зараз з ім можна і на рыбу.

Я з ахвотай пайшоў на бераг Возера, сочачы за кожным рухам свайго новага сябра.

— Толькі не вылазь наперад, бо распудзіш усю рыбу, — папярэдзіў ён мяне і пачаў асцярожна красціся каля вады, трымаючы напагатове сваю зброю.

Вось нарэшце рыбак прыкмеціў здабычу, замёр на імгненне, а затым імпэтна ўдарыў гарпуном. На рагавым вастрыі затрапятаў пядзі на тры шчупак. Я падбег і паспрабаваў зняць рыбіну, і гэта мне ўдалося зрабіць з цяжкасцю — перашкаджаў шып. І тут я зразумеў, для

чаго ён быў патрэбны. Зараз самая вялікая здабыча не магла сарвацца з такога прыстасавання.

Я выразаў даўгі лазовы прут і нанізаў на яго наш першы ўлоў. За шчупаком на пруце хутка павіс налім, затым яшчэ шчупак, ладнейшы нават, чым першы,

Каля старой вывараці, што выступала з берага, Белагаловы раптам перагнуўся ўперад і ўдарыў гарпуном з асаблівай сілай. З вады ўзляцеў слуп пырскаў, мільганула шырокая чорная хрыбціна, і рыбак, не выпускаючы з рук дрэўка гарпуна, кульнуўся ў Возера. І там закіпела гарачая барацьба. Чалавек то зусім знікаў пад вадою, то выбіваўся наверх і ўсё стараўся прыціснуць гэта нешта вялікае і чорнае да берага. Хоць мне і страшна было, але я таксама кінуўся ў ваду. Як ні як, там быў муж маёй сястры.

— Не патрап яму на зубы, — хрыпеў, натужваючыся, Белагаловы. — За хвост, за хвост хапай!

Добра, што тут было плыткавата, а то мы не далі б рады. А так я ўчапіўся, як клешч, у слізкі рыбін хвост, Белагаловы ж ухапіў за жабры, і мы падцягнулі здабычу да берага. І тут ужо яе ўдалося аглушыць ударам каменя.

Мокрыя, ускудлачаныя і падрапаныя, мы затым сядзелі на траве і не маглі адсапціся. А побач ляжаў вусаты саміна ў мой рост і зрэдку біў па зямлі хвастом. У спіне рыбіны тырчэў гарпун з адламаным дрэўкам.

На станавішчы здабычы дзівіліся не толькі дзеці, але і дарослыя — ніхто яшчэ не бачыў І не чуў, каб лавілі такіх вялікіх самоў. Старэйшыя ўспомнілі, што такога ж аднойчы была прыбіла навальніца да берага. Але той быў дохлы і пачынаў смярдзець, таму не елі, а тут жа было столькі свежага і смачнага мяса! І калі да кідання камянёў поясам нашы паляўнічыя аднесліся як да дзіцячай забаўкі, то гарпуном адразу ж зацікавіліся. Наступнымі днямі ўсе кінуліся шукаць ласіныя рогі. Белагаловы стаў самым паважаным чалавекам, І людзі Аленя стараліся навучыцца ягонаму ўмельству.

Адным вечарам Белагаловы сказаў, што ўжо блізка яго роднае паселішча. І ўсе нашы пачалі хвалявацца, як гэта адбудзецца сустрэча з незнаёмым народам. Хоць сам Белагаловы цвердзіў, што ўсё будзе добра, што прышэльцаў сустрэнуць добразычліва, як прыяцеляў, усё ж думалася рознае. Бо сутыкненні з чужакамі, як памяталі людзі, часта канчаліся крывёю і смерцямі.

Калі ўсіх ахапіў неспакой і хваляванне ад чакання невядомага, то Вавёрку апанаваў сум. Ёй жа давядзецца назаўсёды пакінуць свой род і пайсці з мужам да чужых людзей. Прадчуваючы хуткае рас-

станне, яна не адыходзілася ад маці і была асабліва ласкавая з намі, яе меншымі братамі і сёстрамі,

І вось мы мінулі чарговую затоку, і Белагаловы павёў усіх на невысокія ўзгоркі, за якімі ў лясной даліне паблісквала вада.

— Там! — паказаў Белагаловы ў бок рэчкі, і было бачна па твары, што і сам ён хвалюецца.

Звілістай сцежкай мы пачалі спускацца з узгоркаў, мінаючы вялізныя валуны і зараснікі едлаўцу. Перад самай рэчкай, калі пачаўся арэшнік, раптам папераджальна крыкнуў адзін з нашых паляўнічых. Да яго падбеглі іншыя і ўбачылі, што ў высокай папараці каля сцежкі ніцма ляжаў мёртвы чалавек. У ягонай спіне тырчаў доўгі абструганы пруток з пёрамі на канцы. Белагаловы асцярожна прыўзняў забітаму галаву, зазірнуў у твар і адразу ж пачаў устрывожана азірацца па баках.

— Гэта наш чалавек, з роду Выдры. Яго загубілі зайцаеды!

Затым ён выцягнуў са спіны трупа пруток і паказаў яго нам:

— Забілі вось гэтай маленькай дзідай. Яны іх кідаюць страшэнна далёка, намнога далей, чым мы паясамі камяні.

Нашы мужчыны па чарзе разглядалі смертаносны пруток з тонкім крамянёвым вастрыём, каля якога запяклася кроў. Перадавалі адзін другому гэтую незразумелую і палохаючую рэч асцярожна, быццам гадзюку. Бо і само вастрыё было, як гадзючы н язык.

— А пёры, гэта каб ляцела, як птушка, — выказаў здагадку хтосьці з паляўнічых.

Пасля такога здарэння Расамаха загадаў жанчынам і дзецям схавацца ў гушчар, пакінуўшы каля іх старэйшых хлопцаў з дзідамі. Мужчыны ж разам з Белагаловым пайшлі да паселішча выдраў.

Але людзі Аленя на рачным узбярэжжы чалавечага жытла не знайшлі. Замест буданоў на зямлі цямнелі зглішчы, даўно астылыя, нават прыбітыя дажджом. Але як толькі нашыя ступілі на іх, як з лесу паляцела каменне. Адзін з паляўнічых ухапіўся за галаву і абсунуўся, аглушаны, на вугалі. Астатнія схаваліся за камлі дрэў.

Тады наперад выйшаў Белагаловы — па гэтых камянях ён пазнаў сваіх — і пачаў крычаць, што людзі Аленя прыйшлі з дабром, што яны тут па шляху да Абяцанай Даліны, дзе хочуць пасяліцца, бо на іхнюю былую бацькаўшчыну перасталі прыходзіць паўночныя алені і там наступіў голад. Лес у адказ насцярожана маўчаў. Толькі нябачныя вочы з гушчару пільна вывучалі прышэльцаў — ці не падобныя яны на зайцаедаў і ці не змусілі чужынцы Белагаловага забавіць людзей Выдры ў пастку. Але нарэшце рассунулася галлё, і на паляну выйшла з дзесятак мужчын. Яны паклалі на траву свае дзіды, падпяразалі

паясы, якімі толькі што кідалі камяні, і пачалі паволі набліжацца да нас. Адклалі свае дзіды ўбок і нашыя мужчыны і таксама пасунуліся насустрач. Нарэшце сышліся, выцягнулі ўперад рукі і дакрануліся між сабою дзюбкамі пальцаў. А потым сталі казаць, як чый народ завецца, якія мае духаў-ахоўнікаў і як іх клікаць саміх.

Так адбылося знаёмства роду Аленя і роду Выдры, і так пачалося сяброўства нашых народаў, якое працягваецца і зараз, бо, як ведаеце, выдры і сёння маюць свае паселішчы непадалёку Даліны. Адтуль і амаль усе вашыя мацеркі...

Ну, але слухайце, што было далей.

Ужо каля вячэрніх вялікіх вогнішчаў, якія распалілі супольна, выдры расказалі, як на іх напалі зайцаеды. Напаснікаў было не так і шмат, але яны атакавалі нспадзявана, да таго ж гэтымі лятучымі страшнымі дзідамі. І нічога тубыльцам не заставалася, як уцякаць. Але выратаваліся не ўсе. Некалькі чалавек было забіта, ёсць раненыя.

Зайцаеды забралі з хацін зброю, прылады працы, выграблі запасы харчу, а затым падпалілі паселішча. Потым чужынцы зноў вярнуліся з пушчы на шырокія малалесныя ўзвышшы, якія пачыналіся недалёка адсюль. Там на адкрытых прасторах ім зручна паляваць з дапамогай сваёй незвычайнай зброі. А як гэтыя прыблуды сябе называлі і якога звера лічылі родапачынальнікам-татэмам, выдры не ведалі. Прыляпілі ж ім мянушку «зайцаеды», бо тыя сваімі стрэламі забівалі шмат зайцаў, якіх на ўзвышшах была процьма. А яшчэ выдры сказалі, што хочуць перачакаць навалу ў пушчы, бо, можа, зайцаеды вернуцца ў свае краі, адкуль яны так нечакана былі з'явіліся мінулым летам. Тады адбудуецца паселішча, і ў ім зноў зажывецца ціха і спакойна на беразе гэтай такой рыбнай рэчкай.

— Вас засталося мала, ды і нас небагата. Давайце разам пойдзем па шляху паўночнага аленя ў Абяцаную Даліну. Там усім хопіць месца, — пачалі спакушаць гаспадароў людзі Аленя.

— Не, — адмоўна пакруцілі галовамі выдры. — Далей уздоўж Возера будзе бязлесны край. Там небяспечна.

— Але ж зайцаеды могуць вярнуцца, зноў спаляць хаціны, паб'-юць вас. А разам нас будзе многа, і мы будзем моцныя і нікому не паддамося, — асабліва стараўся ва ўгаворах бацька.

Падбіваў на вандроўку з народам Аленя сваіх суродзічаў і Белагаловы. Як я зараз думаю, рабіў так дзеля сваёй маладой жонкі, якой не хацелася разлучацца з родзічамі.

Доўга ішлі гарачыя спрэчкі, ажно пакуль не пачало цямнець. Людзі Аленя ўладкавалі станавішча бліжэй да Возера, абставіўшы яго пільнай вартай. Выдры ж зноў зашыліся ў лясныя сховы.

Ноч была трывожнай і бяссоннай. Але трывожыліся дарма — навокал пакуль што было спакойна, Раніца наступіла пахмурная, непрыветная. Дробная імжа асядала на зямлю, рабіла вільготнай нашу скураную вопратку.

Мы падзякавалі тубыльцаў за прытулак на іхняй зямлі, развіталіся і зноў выцягнуліся паскам на вузкай сцежцы, знікаючы ў прыбярэжных зарасніках.

Адмераўшы спорны кавалак шляху, дайшлі да рэдкалесся, за якім і павінны былі пачацца, па словах выдраў, цяперашнія ўладанні зайцаедаў. Раніца непрыкметна перайшла ў дзень. Спынілася імжа, і пачало праясняцца неба. Пасвятлела і ў нашых сэрцах, і ўсе, не згаворваючыся, прыбавілі кроку, ды хутка ахова, што аберагала гурт ззаду, загукала, што па слядах людзей Аленя спяшаецца яшчэ нехта. Вось і прыйшла яна, небяспека? Нашы мужчыны з дзідамі высыпалі насустрач пагоні, але трывога была дарэмнай — нас даганялі выдры. Уперадзе іх подбегам спяшаліся Вавёрка і Белагаловы і крычалі:

— Пачакайце, мы з вамі!

Усё ж такі рашыліся і людзі Выдры пакінуць родныя мясціны і звязаць свой лёс з нашым, рашылі змяніць трывожную безнадзейнасць пры боку драпежных зайцаедаў на спадзяванне, што гэты дужы і мужны Расамаха сапраўды ведае шлях да мясцін спакойных, багатых дзічынай. На выбар выдраў, магчыма, паўплывала і гэта няўтульная мокрая раніца, калі ўяўлялася, як каля затуманенага ўзлесся хціва блукаюць зграі ворага.

Зараз наш гурт пагусцеў і падаўжэў. Бацька азіраўся весялей. Ён адчуваў сябе надзейней: яшчэ б — амаль падвоілася ўзброеных людзей. Праўда, чалавечая плынь прыкладна пасярэдзіне яшчэ перарывалася — выдры пакуль трымаліся асабняком, яшчэ сумняваліся ў правільнасці задуманага.

Бераг Возера паніжэў, а затым перайшоў у хмызняковую балацявіну, і нам давялося павярнуць далей ад вады. Па левай руцэ зараз уздымаўся зарослы розналессем высокі ўступ, за якім прасціралася хвалістая ўтравелая раўніна з пералескамі ў далінах невялікіх рэчак і ў ярах.

Ішлі мы маўклівыя і насцярожаныя. Стараліся хутчэй мінуць гэтыя адкрытыя мясціны, дзе чалавек з пушчы адчувае сябе на шырокай і голай плашчыні, пад неабсяжным небам маленькім і безабаронным. Яму зноў хочацца, як пад дах хаціны, пад шчыльную заслону зялёных шатаў, за надзейныя камлі дрэў, у лес, дзе ўсё зразумела і вядома.

Так, перад намі была зямля зайцаедаў. І ў гэтым мы хутка пераканаліся...

Мы пачалі спускацца ў вузкую даліну чарговай рачулкі. Расамаха першы ступіў на камяні, што выступалі з вады, і пераскочыў на супрацьлеглы бераг. Наступным пачаў перапраўляцца, несучы дуплянку з жарам, Байчак. Раптам наш хавальнік агню ўскрыкнуў і выпусціў дуплянку. Азірнуўшыся, Расамаха ўбачыў, як курчыцца ад болю Байчак і спрабуе ўхапіцца за стралу, што прабіла яму плячо.

— Агой! — падаў вокліч трывогі бацька, і адразу ж старыя, жанчыны і дзеці адступіліся назад, а мужчыны і юнакі, наставіўшы дзіды, прыкрылі іх жывым шчытом.

Але зарослы схіл даліны, адкуль прыляцела страла, маўчаў. Не чулася там баявых воклічаў, ніхто больш не страляў, не кідаў камянёў або дзідаў. Тады Расамаха і Белагаловы пачалі ўздзірацца па касагору ўверх, хапаючыся за голле кустоў. Выбраўшыся з зарасніку, яны ўбачылі, як па раўніне бяжыць прысадзісты чалавек. Адзін. Другіх напаснікаў не было бачна, і мужчыны смела кінуліся за ўцекачом, што параніў Байчака. Прывыклыя да пагоняў за раненай здабычай, яны паступова наганялі прысадзістага. Той наддаў хутчэй, але перад узгоркамі пачаў выбівацца з сіл і нарэшце спыніўся. Затым зайцаед зняў з плячэй доўгую гнутую палку з нацягнутым сухажыллем — лук — і выхапіў з-за пояса стралу. Расамаха наструніўся, і як толькі страла мільганула ў паветры, адскочыў убок. Другую адбіў дрэўкам дзіды. Больш стрэлаў у зайцаеда не было, і ён зноў кінуўся ўцякаць, спрабуючы дабегчы да недалёкага ляска. Але тут ужо падаспеў Белагаловы і кінуў сваю дзіду...

Расамаха з Белагаловым вярталіся не толькі з перамогай, але і здабычай — неслі лук і знойдзеныя ў траізе дзве стралы. Трымалі іх асцярожна, прымхліва пабойваючыся гэтай пакуль што нязвычнай зброі.

Мужчын сустрэлі ля рачулкі раднаснымі воклічамі. Усе радаваліся, што яны жывыя і нават не параненыя і што зайцаед забіты. Асабліва гэта віталі выдры. Але Расамаха не радаваўся. Заклапочаны, ён пачаў шукаць Байчака, каб даведацца, як ён маецца, а найбольш — што з агнём. Паранены ж, забыўшыся на стралу, укленчыў над дуплянкай і ўсё дзьмухаў на мокрае вугалле, з якога не вылятаў ужо нават попел. Расамаха дрыжачай рукою таксама паварушыў у дупле, але там не было ні іскрынкі. І тады бацька адчуў, як пахаладзеў ад жаху і як ворах прайшоў па спіне. Страта агню была пагібеллю для роду, павольнай смерцю ад голаду і холаду. Хіба толькі ўдасца дзе сустрэць лясны пажар ці як здабыць жар у чужых людзей.

Расамаха разагнуўся, бязвольна апусціўшы рукі. Навокал стаялі анямелыя людзі Аленя, утаропіўшыся на дуплянку, быццам бачылі перад сабой нябожчыка. Адчуўшы нейкую небяспеку, суцішыліся і дзеці, ціснучыся да старэйшых.

— Чаго затрывожыліся нашы новыя браты? — падыйшоў да аленяў Белагаловы.

— Вось, — безнадзейна махнуў рукою ў бок дуплянкі Расамаха.

— Пагас агонь?

— Пагас агонь, — як рэха, паўтарыў Расамаха і здзіўлена паглядзеў на Белагаловага, уражаны спакоем у яго голасе.

— Дык чаму людзі Аленя не распаляць новы агонь?

Гэтае пытанне здалося такім недарэчным, што Расамаха спачатку не знайшоўся, што адказаць. Потым стаў тлумачыць, як малому:

— Каб распаліць, трэба мець гарачую галавешку або жар, пакласці на іх сухой травы і падзьмуць. А зараз жа, бачыш, вугалі залітыя вадой. Хіба выдры паступаюць інакш?

— Калі ёсць пад рукой жар, то гэтак сама. А калі няма — здабываем агонь з дрэва.

— І мой брат гэта ўмее?

— Такое можа зрабіць кожны мужчына нашага народу! — нават з гонарам адказаў Белагаловы. — Але спачатку трэба дапамагчы Байчаку, ён траціць шмат крыві.

І тут усе, выходзячы з утрапення, павярнуліся да раненага. Той сядзеў на камені аслабелы і ўсё стараўся заціснуць рану рукою, баючыся ў той жа час дакрануцца да стралы. Расамаха агледзеў плячо, перамагаючы асцярожнасць, узяўся за пруток і падбадзёрыў суплеменніка:

— На цябе глядзяць жонка і твае дзеці. Пакажы, які ты мужны мужчына і паляўнічы, — і з гэтымі словамі вырваў стралу з раны. Байчак, як і трэба было, нават не перасмыкнуўся, можа, толькі сцяліся вусны. Кроў пайшла мацней, але яе загамавалі сумессю перацёртага светаянніку і попелу, тугой апаяскай.

І толькі пасля гэтага Белагаловы ўзяўся за свае агнявыя справы.

Ён расшчапаў каменным клінам тоўсты кавалак ляшчыны — сухадрэвіны, а танейшую сухую палку абкорыў. Затым паклікаў на дапамогу яшчэ аднаго суродзіча. Удваіх яны прыціснулі тоўсты расшчэп да камянёў, паклалі ўпоперак яго палку, а затым з усяе моцы пачалі соўгаць ёй па ляшчыне, быццам стараліся перапілаваць. Рабілі гэта так імпэтна, што мільгаценне рук ледзь лавілася вокам. І стараліся ж! Ажно пот заструменіў па тварах. Не паспелі мы разгледзецца, як месца пілавання пацямнела і абвуглілася, а затым з расшчэпа

выкаціўся клубочак дыму. Трэці з выдраў падкінуў жмут сухой травы, і ўспыхнуў агонь!

Радасны крык, што вырваўся з грудзей аленяў, быў не слабейшы, чым калі яны віталі пераможцаў зайцаеда. Дарослыя і дзеці як пашалелі ад радасці каля агню, падскоквалі і абдымаліся, а потым кінуліся цiскаць у абдымках Белагаловага. Жанчыны ж пабеглі ў хмызняк за ламаччам. І хутка разгарэлася вогнішча, і агонь так высока шугаў угору, што бацька нават парадзіў меней кідаць дроў, каб не прыкмецілі нас зайцаеды.

Хоць мы ўжо і ведалі, што два халодныя кавалкі сухога дрэва могуць нараджаць агонь, але дуплянку зноў шчыльна напоўнілі жарам, бо яшчэ сумняваліся, а ці паўторыцца гэты цуд са скрыжаванымі палкамі. Ды і раздзьмухаць агонь з вугалля было менш працы.

Вечарам, прыпыніўшыся на чарговую начоўку, Расамаха з Белагаловым адышліся ад станавішча ўбок. Ім не цярпелася папрактыкавацца ў стральбе з набытага лука. Спачатку ім гэта не ўдавалася. Хоць і запомнілі, як зайцаед накладаў стралу на скураны пасак і як нацягваў гэта кідальнае прыстасаванне, тонкі апераны пруток ляцеў, здавалася, куды хацеў. Адну стралу так потым і не знайшлі ў прыбалотнай высокай траве. І ўсё ж пасля даўгіх намаганняў прылаўчыліся і нашы мужчыны. А колькі радасці было, калі нарэшце пацэлілі ў суседні куст елаўца, тым больш, што той абрысамі нагадваў зненавіджанага зайцаеда.

— І лісіцу можна ўпаляваць.., і качку.., і бабра.., і ваўка.., — пералічваў Расамаха ўяўную здабычу, зноў і зноў выпускаючы стралу ў елавец.

— І зайцаеда таксама.., і яшчэ аднаго зайцаеда.., і яшчэ.., — вёў свой рахунак Белагаловы.

Зараз, дзеці, я часта думаю, як шмат мы займелі, рашыўшыся на вандроўку па шляху паўночных аленяў. Убачылі новыя мясціны, невядомых раней звяроў і раслін, а галоўнае, пазнаёміліся з іншымі людзьмі, шмат чаго ад іх перанялі, а сяму-таму і самі навучылі. Бачыце, на аленевых рагах вісяць лукі і калчаны са стрэламі, пад жэрдкі падторкнуты зубастыя касцяныя гарпуны. Калі б не скрануліся з айчынных месцаў, то і да сёння, можа б, не ведалі пра існаванне такіх карысных рэчаў. А той жа агонь. Раней мы дыхнуць каля яго баяліся, толькі б не патухла вогнішча. Днямі і начамі яго пільнавалі. А зараз сталі гаспадарамі агню — калі захочам, тады і запальваем...

Назаўтра ж удалося змайстраваць з елаўцу і свой першы лук. Праўда, ён пакуль быў горшы, чым здабыты ў зайцаеда, але колькі было ўзрушэння, колькі радасці, калі ўпершыню ўпалявалі з яго дапа-

могай зайца, якіх і сапраўды навокал было шмат. Праўда, касавокага толькі падранілі, таму давялося дабіваць палкай. Але потым паклалі каля пералеску маладую казулю, а там упалявалі і яшчэ некалькі зайцаў. Леглі спаць навокал вогнішчаў, здаволіўшыся цёплым смажаным мясам, заспакоеныя і ўлагоджаныя, а калі ўгрэліся пад шкурамі, то і пачалі думаць: а ці не запыніцца нам пакуль у гэтых месцах? Чаго шукаць тую Даліну, калі і тут ёсць спажыва і вада. Але раніцай зноў падумалі пра зайцаедаў, што, можа, прытаіліся за ўзгоркамі, і вырашылі: не, гэта яшчэ не тут, яшчэ трэба ісці далей, шукаць, дзе лепей, дзе спакайней.

Чаго мы баяліся, тое і здарылася. Зайцаеды былі такія ж добрыя паляўнічыя, як мы або тыя ж выдры, таму ўмелі разбірацца ў слядах на звярыных і чалавечых сцежках. Яны знайшлі месца нашай сутычкі з іхнім супляменнікам і па прымятай траве, па крыві ды і па іншых знаках, якіх ці мала засталося на пяску каля рачулкі, усё зразумелі. Пагібель свайго чалавека прывяла зайцаедаў у шаленства, і яны кінуліся за намі ў пагоню. На помсту выправіліся самыя дужыя і хутканогія, і ўжо пасля паўдня адзін з нашых дазорцаў ссунуўся з адкосу і шапнуў бацьку, што ззаду, хоць яшчэ і далёка, паказаліся чужыя людзі.

Расамаха выбраўся на край раўніны і ўбачыў, як з пералеску, які нядаўна мінулі мы самі, выцягваецца пасак маленькіх постацей. Па таму, які ён быў рухлівы, было бачна, што зайцаеды спяшаліся. Ішлі подбегам, раз'ятраныя і жадныя помсты.

Моцна задумаўся Расамаха: што тут было рабіць? Паспрабаваць пайсці яшчэ хутчэй — людзі выб'юцца з сілаў, пачнецца паніка, бязладныя ўцёкі. А гэта ўжо пагібель... Расамаха пільней угледзеўся ў яшчэ далёкую пагоню і падлічыў, што зайцаедаў было, як пальцаў на чатырох руках. Нашых жа, хто мог стаць з дзідаю, удвая больш. Але ж у чужакоў іхняя страшная зброя. І ўсё ж было бачна, што бацька рашыўся на нешта сур'ёзнае, бо бровы яго насупіліся і рука моцна сціснула дрэўка дзіды. Ён спусціўся зноў да нас, падыйшоў да Белагаловага і сказаў, што няма іншага ратунку, як толькі біцца. Але схапіцца выпадала знянацку і ў такой мясціне, дзе б напаснікі не паспелі скарыстаць лукі.

І адразу ж пачалі рыхтавацца да бітвы.

Жанчынам з дзецьмі і старым сказалі ісці ўперад і дзе-небудзь прыхавацца, пакуль усё не скончыцца. Затым на краі лугавіны, што вузкім клінам уразалася ў касагор, расклалі вогнішча, і каля яго быццам бесклапотна размясціліся выдры на перакус і адпачынак. Нашыя ж мужчыны затаіліся ў кустах на касагоры. Тут жа былі і мы,

старэйшыя хлопцы. Праўда, нам было загадана не лезці ў самую бойку, а кідаць дзіды здалёку, але добра цэлячыся.

І вось зноў прыбег дазорца і захэкана паведаміў, што зайцаеды ўжо перад самай лугавінай. І сапраўды, не паспеў ён аддыхацца, як пад касагорам зацямнелі постаці чужынцаў. Пагоня адразу ж прыкмеціла лагер людзей Выдры, раз'юшана загалёкала і кінулася на лугавіну, пускаючы стрэлы. Але напаснікі так былі аслепленыя ярасцю, так ірваліся хутчэй дапяцца да нас, што нават добра не прыцэльваліся. І, як толькі зайцаеды вымкнуліся на звужэнне лугавіны, нашыя мужчыны грымнулі сваё ваяўнічае «Агой!» і выступілі з-за кустоў. Гэта было, як гром, і зайцаеды на імгненне аслупянелі. А гэта было і трэба, каб трапна кінуць дзіды. Пасля, перахапіўшы аберуч хто цяжкую дзіду, хто доўбню, мужчыны рынуліся наперад. І пачалося! Мы націснулі збоку, спераду ўдарылі выдры, і чужакі былі прыціснутыя да багны. Нашы на паляванні не баяліся сустрэцца з лясным быком ці мядзведзем, таму і зараз біліся моцна і смела. Ды і выдры былі плячо ў плячо.

Быццам зграя звяроў счапілася на лугавіне — такі стаяў над ёй крык, выццё, рыканне, стогны. Але хутка напал бітвы пачаў згасаць, бо зайцаеды падалі адзін за другім. Хто ж кідаўся наўцёкі — трапляў у бездань балота. І нарэшце жывым застаўся адзін, але быў гэта самы рослы і дужы мужчына. Ён з такой лютасцю махаў вакол сябе важкай сукаватай, што не было як і падступіцца. У адзін з момантаў, калі ашчаціненае дзідамі кола нашых зноў сціснулася, зайцаед кінуўся наперад, збіў з ног бліжэйшага аленя, паклаў пару выдраў і прарваўся праз сціжму праціўнікаў. Велізарнымі скачкамі бег зайцаед па касагору, якраз да кустоў, дзе затаіўся я. Ужо зусім блізка бачыліся яго шырокі твар і рубцавання грудзі з нізкай звярыных зубоў на шнурку. І тады я з усяе моцы кінуў дзіду і, як праз сон, глядзеў, як волат запаволіў бег, затым упаў на калені і пачаў абсоўвацца ўніз пад ногі набягаўшых.

Мы забралі ўсе лукі і стрэлы зайцаедаў, іх дзіды, касцяныя кінжалы, крамянёвыя нажы, вопратку. Нізкі ж зубоў спалілі, бо гэта былі чужыя абярогі, якія маглі нам шкодзіць. А потым рушылі далей. Але пайшлі не прыбалаццю, як раней, а падняліся на раўніну, на адкрыты прастор, дзе слаўся вялікі аленевы шлях. Зараз мы нікога не баяліся. Няхай даганяюць нас іншыя зайцаеды, але спярша хай зірнуць на суродзічаў, што акалела ляжаць на лугавіне, хай пабачаць іх пабляклыя вочы, у якіх ужо не адбіваюцца аблокі гэтага высокага неба. І тады ворах страху пройдзе ім па спінах, і пабягуць яны да сваіх стаянак ратаваць сем'і.

Так думалі мы і ішлі ўсё далей за заходзячым сонцам, якое пачало хіліцца да ўзгоркаў на даляглядзе. Я трымаўся поруч з бацькам і дзіду трымаў высока і ганарыста, і кідаў вокам на яе крамянёвы наканечнік, які зырка барвовеў ці то ад заходзячага сонца, ці ад крыві зайцаеда...

Прыцемкам наблізіліся да ўзгоркаў. Там і заначавалі.

Калі ж суцішыліся на лежаках з травы і моху, пачулі ў начной немаце нейкі далёкі грукат і гул, быццам дзесьці далёка імчалі статкі аленяў або зуброў, б'ючы капытамі ў сухую зямлю. Але гул не мацнеў і не аддаляўся, ён гучаў роўна і глуха, а калі прыкладалі да зямлі вуха, чуўся выразней.

Многія ў тую трывожную ноч не спалі, услухаючыся ў незразумелыя і грозныя гукі ночы.

Назаўтра зноў рушылі ў дарогу. І чым далей ішлі, тым мацнеў гул і грукат. Нарэшце сталі адчуваць, як пад нагамі дрыжыць зямля. Да таго ж за Возерам нечакана паказалася цёмная стужка супрацьлеглага берага. І больш таго — прыкмецілі, што азёрная вада прыйшла ў рух. Возера ператварылася ў вялізную раку, якая плыла ў тым жа кірунку, куды рухаліся і людзі!

Мы ішлі ўсё павольней. Нарэшце спыніліся і павярнуліся да Расамахі. Устрывожаныя вочы нема пыталіся: «Куды ты нас прывёў?»

Тады бацька з Белагаловым пайшлі наперад, наказаўшы людзям чакаць іхняга вяртання. Перад высокім узгоркам разведчыкі спыніліся. Гэта было як раз за ім. Выглядала, што там счапіліся біцца нейкія пачвары, пра якіх апавядалі каля вогнішчаў старыя. А можа, там змагаюцца добрыя і благія духі? І такі страх ахапіў Расамаху і Белагаловага, што яны не маглі скрануцца з месца. Азірнуліся — далёка ў нізіне ледзь бачыліся нерухомыя постаці. Людзі Аленя і Выдры з надзеяй чакалі сваіх важакоў, спадзяваліся на іх. Таму адступацца ім не было як.

Тады мужчыны ляглі на зямлю і папаўзлі, хаваючыся за камяні, прабіраючыся вымоінамі, ад куста да куста, быццам на небяспечным паляванні. Нарэшце дасягнулі самой хрыбціны ўзгорка і, млеючы ад жаху, вызірнулі з-за апошняга каменя, ды так і знерухомелі...

Глыбока ўнізе рудзела аголенымі абрывістымі берагамі Прорва, якая, быццам ненажэрны Цмок, заглытвала Возера. Вада імпэтна ўлівалася ў цясніну, падмывала і абрушвала з берагоў пясок і гліну, каціла валуны, быццам сухое лісце, несла гальку, віравала, узлятала снапамі іскраў і імчала далей, уся ў глінісгай пене, каламутная і страшная. А над Прорваю вісела воблака вадзяного пылу, і ў ім выгіналася пералівістая вясёлка.

Тут не было пабоішча духаў. Але і без іх не абышлося. Бо хто мог прарыць гэтыя гліністыя закамянелыя ўзгоркі, зрабіць Прорву і пачаць спускаць у яе Возера?

Нарэшце мужчыны падняліся з зямлі і ўжо спакайней агледзеліся. І тады прыкмецілі, што старыя аленевыя сцежкі паварочваюць да Прорвы, а на другім беразе з'яўляюцца зноў і вядуць на поўнач за зялёна-бурае ўзвышша. Дык вось чаму не прыходзяць алені — Прорва перакрыла ім шлях!

Мала хто з нашых ужо спадзяваўся, што Расамаха з Белагаловым вернуцца. І калі прыкмецілі, што ад узгоркаў пачалі набліжацца дзве постаці, доўга ўзіраліся — ці яны гэта. А калі разгледзелі і пазналі, моўчкі падаліся насустрач: «Што там?»

— Ідзем за намі! — узмахнуў дзідаю Расамаха, і ўсе рушылі ўперад, спорным крокам, нецярплівыя, бо па тварах разведчыкаў і бляску іх вачэй зразумелі — чакаецца нешта незвычайнае.

Узышоўшы на той найвышэйшы ўзгорак, нашы людзі таксама анямелі ад відовішча. І калі надзівіліся і нагледзеліся на Прорву, Расамаха ўрачыста звярнуўся да іх:

— Людзі Аленя і людзі Выдры, а зараз зірніце сюды! — і паказаў на захад. Услед яму паглядзелі і мы і ўбачылі шырокую зялёную даліну ажно да небакраю, пакрытую лясамі з травяністымі прагалінамі на ўзбярэжжы шматлікіх большых і меншых азёр. Ланцуг высокіх узгоркаў хаваў даліну ад паўночных вятроў. На поўдзень яна пераходзіла ў разложыстую хвалістую раўніну. Ужо адсюль можна было бачыць шматлікія статкі высакародных аленяў, зуброў і тураў. Непалоханыя чалавекам чароды тлустых качак праляталі над галавой. І памятаю, быццам гэта было толькі ўчора, як над усёй гэтай прыгажосцю, над такім раздоллем шырока і высока прасціраўся блакіт неба. А на ім кучаравіліся, як качыны пух, дробныя воблачкі, варожачы на пагодлівы заўтрашні дзень, і плыло між воблачкаў агністае сонца, пасылаючы ўсяму існаму сваё жыццедайнае цяпло. А збоку ад сонца, нерухома распасцёршы крылле, лунілі коламі два арлы. І мне тады падумалася, што гэта два духі-ахоўнікі народаў Аленя і Выдры.

І счакаўшы, пакуль усе нацешацца ўбачаным, мой бацька Расамаха ўзняў над галавою рукі і голасна сказаў:

— Вось я і прывёў вас у Абяцаную Даліну. Тут усім хопіць месца, таму жывіце і памнажайцеся!

## АЛЕНЕВАЕ ВУХА — СЫН ЗБІТУРА

### *Аповесць*

Аленевае Вуха прачнуўся раптоўна, як ад штуршка. Расплюшчыў вочы — у хаціне быў яшчэ паўзмрок, аднак вылежвацца, як звычайна, на мяккіх шкурах не стаў.

Дзіўна, але калі маці будзіла збірацца ў арэхі ці жалуды, вельмі не хацелася ўставаць — паляжаць бы яшчэ крышачку, перакаціцца з боку на бок, пацягушкацца. А сёння сам рана прачнуўся. А ўсё таму, што ўчора бацька паабяцаў сыну паказаць майстэрню, дзе выраблялiся каменныя сякеры, нажы і іншыя патрэбныя для чалавека рэчы.

Хлопчык усцягнуў кароткія — па летнім часе — штаны і, адхінуўшы посцілку з крапіўнага валакна, што прыкрывала нізкія дзверы, выйшаў.

— Ты ўжо ўстаў, Аленьчык? — спыталася маці, што завіхалася ля агнішча. Яна заўсёды называла яго так ласкава — Аленьчык. Ды хлопчыку было б прыемней пачуць: Аленевае Вуха — гэта гучыць больш сур'ёзна. Праз некалькі гадоў, калі пачнуць прабівацца вусы і адбудзецца пасвячэнне ў паляўнічыя, бывай і Аленьчык, і нават Аленевае Вуха. Тады ў яго з'явіцца сапраўднае, дарослае імя. Нешта накшталт бацькавага — Збітур ці яшчэ што-небудзь гэткае ж гучнае і слаўнае.

— А дзе тата? — заклапочана спытаў хлопчык.

— На Радзе старэйшын. Хутка прыйдзе.

Не абмануў бацька, не паплыў без яго на Ласіную Выспу. Ды бацька і не павінен быў абмануць — у Збітура слова цвёрдае, як і рука.

Аленевае Вуха пайшоў на азёрны бераг, захапіўшы з сабою сетачку, плеценую з лубяных валокнаў. Распрануўся і пабег у ваду.

З берага было плытка, і ногі слізгаліся па гладкіх каменьчыках. Затым пачаўся мяккі пясок і паглыбела. Хлопчык паплыў, з асалодай адчуваючы цеплыню яшчэ не астылай за ноч вады.

Мінуўшы трыснёг, Аленевае Вуха даў нырца. У халоднай глыбечы вада была празрыстая, і на дне добра прагледаліся канаўкі-сцяжынкі, якія пракладлі на прагалінах паміж водарасцей перлавіцы. Нырцануўшы яшчэ некалькі разоў, хлопчык напоўніў малюскамі ледзь не ўсю сетачку — будзе на добрую смажонку.

— Сынку, снедаць! — пачуўся бацькаў голас.

Аленевае Вуха паплыў назад да берага, дзе пад вербамі

прытулілася яго вёсачка. Яе прысадзістыя хаціны здалёку нагадвалі стажкі сена. Далей уздымалася суцэльная сцяна хвойніку — днём цёмна-зялёная, а зараз сіняватая, аж бурачковая. А над лесам ужо добра яснела неба. Адчувалася, што хутка сонца — Багіня Жыцця — пакажа свой прамяністы твар.

— Памочнічак ты мой, — пагладзіла маці па галаве сына, беручы сетачку са здабычай.

— Быў твой, а зараз будзе мой памочнік, — не то жартам, не то сур'ёзна сказаў Збітур. — Так пастанавіла Рада старэйшын. Пара яму прывыкаць да сапраўднай мужчынскай справы. Будзе стараннным і навучыцца майму рамяству — ва ўсім наваколлі паважаным чалавекам стане.

Снедалі тут жа, ля агнішча, пасеўшы на тоўстых цурбанах. Елі параную ласяціну, дастаючы кавалкі з закапцелага глінянага гаршка.

Потым Збітур занёс у човен клунак з неабходнымі для работы рэчамі і дзіду. Маці паклала на дарогу рэшткі мяса, загорнутыя ў свежае лісце дзядоўніку, і жалудовыя праснакі з запечанымі грыбамі, а Аленевае Вуха захапіў сваю вуду. Нарэшце сын з бацькам селі ў човен і паплылі.

Збітур стаяў на карме, адштурхоўваючыся ад дна лёгкім вяслом. На глыбечы прысеў і пачаў веславаць, заграбаючы па чарзе каля абодвух бартоў. Човен, выдзеўбаны з тоўстага ліповага камля, хутка пасоўваўся ўперад, аддаляючыся ад паселішча.

Плылі на поўдзень уздоўж берага. Тут ён быў высокі, падмыты хвалямі. Хвоі стаялі над самай стромай, а некаторыя нахіліліся над вадою, гатовыя, здаецца, вось-вось упасці. Але так толькі здавалася. Учапіўшыся карэннем за бераг, яны павінны яшчэ пратрымацца да наступнай вясны, калі падымецца вада, а пругкі вецер пагоніць пад бераг ледзяны вал. Тады будзе ўздрыгваць зямля ад udaраў хваль і з глухім усплёскам пачнуць падаць у ваду дрэвы.

А сёння на возеры спакойна. І нават пены не бачна на вялізных камянях, што бялеюць каля берага. Толькі за кармой чоўна, як два крылы, разбягаюцца хвалі.

— Бачыш вунь той востры камень? — паказаў Збітур у бок берага. — Там загінуў твой дзед, калі бура разбіла яго човен. Будзеш лавіць рыбу, не мінай гэтую мясціну — дзедаў дух заўсёды прывядзе ў тваю сетку сяляву.

Аленевае Вуха быў яшчэ зусім малы, калі дзеда не стала. Хлопчык памятаў толькі яго шурпатыя рукі, цёмныя ад вады і сонца, якія заўсёды пахлі рыбай.

З усходу ў возера ўразалася высокая каса. Калі яе абагнулі, паказалася і Ласіная Выспа. Гэта быў ладны ўзгорак сярод забалочанага драбналесся. Вакол зелянелі вольхі і бярозы, падымаючы вяршаліны над морам кустоўя з лазы і даўно адцвіўшай чаромхі. А на самой выспе, акружаныя ляшчыннікам, ганарыста ўзвышаліся дубы.

— Тата, чаму так далёка ад вёскі твая майстэрня?

— На Ласінай Выспе шмат камянёў, прыдатных для вырабу сякераў, ды і працаваць тут ніхто не перашкаджае — мясціна глухая. Каменны Дух не любіць чужога вока.

Нарэшце човен прашамацеў праз трыснёг каля берага і ўторкнуўся носам у пясок. Падарожнікі разгрузілі яго, потым выцягнулі на сухое і прыхавалі ў высокай траве.

Ледзь прыкметнай у абраселай траве сцяжынкай Збітур вывеў сына на невялікую прагаліну каля дубоў, такіх тоўстых, што не ахапіць і траім мужчынам, а высокіх! — ажно круціцца ў галаве, калі задзіраеш яе, каб зірнуць на вяршаліны. Але вяршалін тут і не бачна — над галавою суцэльная страха з галля і лістоты.

Прагаліна была амаль на самай вяршыні выспы, таму з яе па-над прыбярэжным кустоўем праглядалася Нара. Пад, ранішнім сонцам яна здавалася хлопчыку вялізнай плоскай рыбінай. Супрацьлеглы бераг возера цямнеў танюткай стужкай, яшчэ не засмужанай, як стане ў паўдзённую парніцу.

Пад дубамі туліўся плецены з галля і крыты яловымі лапкамі невялікі будан. Збоку размяшчалася агнішча, на перапаленых камянях, якога цьмяна шарэў прыбіты нядаўнім дажджом попел. Тут жа ляжала, тоўстая калодка, якая была. за ўслон, а каля самай сценкі будана — крушня рознакаляровых камянёў, ужо гатовых для апрацоўкі.

Воддаль ад будана ўзвышаўся, быццам падпіраў камель дрэва, вялізны шэры валун, увесь у глыбокіх драпінах, абраслы з паўночнага боку рудым лішайнікам. Збітур разгарнуў клунак, адрэзаў ад кавалка мяса скрылёк і паклаў яго на вяршыню валуна.

— Каменнаму Духу, — растлумачыў сыну.

— А ён жыве ў гэтым камені?

— У ім. У кожным камені ёсць свой дух, але малы. А тут жа Вялікі Каменны Дух, ён над усімі меншымі каменнымі духамі ўладар. Таму і ахвяру трэба прыносіць менавіта яму.

— А камень можа есці мяса?

— Не камень, а Дух, які там жыве.

На суку суседняга дрэва сядзела варона і, схіліўшы галаву, зладзеявата сачыла за людзьмі. Хлопчык зірнуў на птушку — не, яна не павінна крануць ахвяру. На асмеліцца. Ніхто не можа пакваліцца на

тое, што належыць духам. Хіба толькі Багі, бо яны над усім, што ёсць на свеце, і над духамі таксама...

— Бароняць цябе Багі, — быццам адгадаўшы думкі сына, сказаў Збітур, — кінуць палкай у гэты камень, ці як інакш яму пашкодзіць — будзе вялікая бяда не толькі табе, але і ўсяму нашаму народу... Аднойчы знайшоўся быў такі... Зараз крэмень на нашых землях — рэдкасць, таму шмат чаго робім з рагоў і костак. А раней ён сустракаўся спрэс. Ды які добры! Але гэта было так даўно, што ўжо ніхто і не памятае — калі. І жыў тады на нашай Нары майстра, раўні якому не было ва ўсіх кутках, дзе толькі гучала наранская мова. Скалам яго клікалі. Стралой, зробленай ім, можна было за пяцьдзесят крокаў прабіць навылёт зубра. А скалаўская сякера разлушчвала чэрап дзіка, як арэх. Так апавядаюць дзяды, а ў словах сівабародых праўда. Наранам тады здалося, што Скал стаў валадаром камянёў. І сам майстра ў гэта паверыў. Адным разам ён узлез на валун, дзе жыў Каменны Дух, і ўголас аб'явіў пра гэта. І тады Багі ўгневаліся на такое зухвальства і паслалі на зямлю Вогненную Стралу. Яна спаліла чалавека і расшчапіла камень напалам. Валун і зараз ляжыць на паўночным беразе возера, счарнелы, у двух кавалках... Багі не толькі забілі Скала, але і пазбавілі нашу зямлю крэмня. І таму мы вымушаны браць яго ад людзей з Заходняй Ракі, а гэта за шмат дзённых пераходаў. Мяняем за сушаную ўкляю... А самі крамяні зараз называем «скалкамі». Каменны ж Дух пасля гэтага перасяліўся вось сюды, на Ласіную Выспу.

— Ну што, сынку, — пасля паважнай паўзы звярнуўся да Аленевага Вуха бацька, — бяромся за працу. Захапі ў будане гаршчок ды скокні па ваду, а я тым часам падрыхтую прылады.

Калі хлопчык вярнуўся, Збітур ужо нарыхтаваў буйнога пяску і сабраў свідравальны станок.

Станок вельмі зацікавіў Аленевае Вуха. Ён быў накшталт драўлянай рамкі з двума стаякамі і падстаўкай з кавалка шырокай дошкі. Зверху прымацавана вузейшая дошчачка з прывязаным для цяжару каменем. Станок дапаўняўся лукам, цеціва якога была накручана на моцны заглянцаваны стрыжань.

— Нешта падобна, як здабываюць агонь,— зрабіў выснову хлопчык.

— Правільна, толькі гэтае прыстасаванне больш складанае. Каб здабыць агонь, рамкі не трэба — рукою зверху прыціскаеш стрыжань, раскручваеш яго лукам — і загарэлася. А тут бачыш на канцы стрыжня трубчастую костку? Ёй і свідруецца адтуліна.

— Мусіць тата жартуе, — не паверыў Аленевае Вуха. — Камень жа намнога цвярдзейшы за костку.

— А зараз пабачыш, — хітра ўсміхнуўся ў бараду бацька.

Ён паклаў у спецыяльнае паглыбленне на падстаўцы сіняваты камень, зашліхтаваны дакладна як на сякеру, які ўжо меў з аднаго боку выдзеўбаную невялікую ямку. Потым Збітур напхаў у трубчастую костку мокрага пяску і строма замацаваў стрыжань, каб верхнім канцом ён упіраўся ў дошчачку з грузам, а косткай уваходзіў у паглыбленне на нарыхтоўцы сякеры. Ухапіўшыся рукою за канец лука, ён зашморгаў ім уперад і назад. Стрыжань закруціўся, костка пачала, хоць і паволі, выколваць мокрым пяском адтуліну.

— Ну, зразумеў?

— Ага, — Аленевае Вуха ажно рот адкрыў ад здзіўлення.

— Я папрацую, а калі стамлюся — падменіш.

Калі прыйшла чарга Аленеваму Вуху свідраваць, хлопчык адчуў, што праца гэтая не такая ўжо і лёгкая, як здавалася збоку. Спачатку было нішто, але потым пачалі стамляцца рукі і балець паясніца.

— Нічога, — суцяшаў бацька. — Падрасцеш — налаўчышся, і пойдзе лацвей. Раней і я дужа стамляўся, пакуль прывык... Ды ты не спяшайся так, круці раўней.

Мяняючыся каля лука, бацька з сынам прапрацавалі да паўдня. За гэты час Збітур некалькі разоў падсыпаў пясок у касцяную трубку, якую нават давялося мяняць, бо яна перагрэлася ад трэння і патрушчылася. І вось нарэшце адтуліна была закопчана. Хлопчык засунуў у яе палец — адтуліна была ажно гарачая і надзіва гладкая.

— Вось і гатова сякера, — сказаў бацька. — Засталося насадзіць на добры дзяржак. А зараз давай падсілкуемся.

Пасля працы мяса і праснак здаваліся асабліва смачнымі. Запіўшы полудзень цеплаватай азёрнай вадою, майстрам захацелася адпачыць. Збітур прылёг у цень, а Аленевае Вуха ўзяў вуду і пайшоў на рэчку, што выцякала з возера непадалёку выспы.

Хоць вада ў рэчцы была вельмі чыстая, але з-за глыбіні дно не праглядвалася. Між лапушыстага лісця падводных раслін праплывалі чародкі срабрыстых плотак. Ніжэй іх зрэдку з'яўляліся і знікалі нейкія цені — можа, самы ці язі?

Хлопчыку было добра бачна, як звіваўся на касцяным кручку чарвяк, як падплывалі да нажыўкі асцярожныя плоткі. Але ніводная рыбіна ўсур'ёз не брала. Аленевае Вуха перакінуў леску пад куст і амаль адразу плывок таргануўся і знік пад вадою. Рыбак выцягнуў ладнага акуня, але потым рыба зноў перастала брацца — днём, гагарынаю, якая лоўля?.. Хлопчык хацеў ужо скруціць вуду і пайсці да

возера, як раптам на тым беразе рэчкі нешта трэснула, і да вады выбеглі, як выкаціліся, двое медзведзянят. Потым расхінуліся кусты і выйшла іх маці — бурая мядзведзіха.

Аленевае Вуха стаіўся, і не таму, што асабліва баяўся звера — мядзведзіха наўрад ці сунулася б праз рэчку, — вельмі цікава было паназіраць за жывёлінамі так зблізку. Медзведзяняты торкнулі пыскі ў ваду, каб напіцца, але спалохана адскочылі назад — з рэчкі зірнулі на іх такія ж звяркі. Тады мядзведзіха падала дзецянятам прыклад — нагнула галаву і прыпала да вады. Пасмялелі і напіліся малыя.

Медзведзяняты пачалі валтузіцца ў траве, а маці стаяла на беразе, цікуючы за рыбай: ёй дужа хацелася паласавацца... Потым мядзведзіха падняла галаву і пачала глядзець убок, трывожна нюхаючы паветра. Нешта не спадабалася ёй, яна ціха раўнула, і сям'я знікла ў гушчары.

Туды, куды толькі што пазірала мядзведзіха, зірнуў і хлопчык і анямеў... Па беразе набліжаліся незнаёмыя ўзброеныя мужчыны. Высока, па буслінаму, перастаўляючы ногі, каб не шапацець травой на прыбалаці, яны нячутна ішлі адзін за адным і былі падобныя на здані. Аленевае Вуха асцярожна адсунуўся ў кусты, потым штомоцы паімчаў на выспу.

— Тата, там чужыя людзі! — разбудзіў ён бацьку. — Іх шмат!

— З заплеценымі косамі? — трывожна запытаўся Збітур і пачаў хутка збіраць рэчы і зброю.

— Ага, па баках галавы.

— Хутчэй у лодку, трэба папярэдзіць нашых!

Ад выспы ўдалося адплысці незаўважанымі. Але вось пярэднія воіны выйшлі на азёрны бераг і ўбачылі ўцекачоў. Яны закрычалі, замахалі дзідамі. Некалькі чорнаапераных стрэлаў чмякнула ў ваду непадалёку чоўна. Збітур нахіліўся і пачаў грэбсці рукамі, робячы выгляд, што зламалася вясло. На беразе вырашылі, што лёгка зловяць тых дваіх у чоўне, і ўсім скопам кінуліся ў ваду.

— Што ты робіш, тата? — спалохана закрычаў Аленевае Вуха.

— Я іх заманьваю. Хай глыбей заходзяць, хай трацяць час... Гэй, пацукі! Хутчэй бяжыце сюды, і я паадразаю вашы хвосцікі! — крычаў-дражніўся Збітур.

Чужакі лаяліся і, размахваючы зброяй, усё глыбей лезлі ў возера, пакуль вада не дайшла ім да пояса. Тады Збітур схапіўся за вясло і моцнымі рыўкамі пагнаў човен наперад, у бок касы, за якой знаходзілася вёска.

Ворагі зразумелі, што іх ашукалі, завылі і павярнулі да берага, падаючы і грузнучы ў муле.

Човен далёка выпярэджваў напаснікаў, але, калі тыя нарэшце выбраліся на сухое і пабеглі берагам, Збітур зразумеў, што іх абгоняць, бо да касы было яшчэ далёка. Тады ён павярнуў даўбёнку лявей і паплыў пад сярэдзіну возера, дзе з вады вытыркалася купка трыснягу. Адтуль ужо можна было ўбачыць паселішча.

— Вяслуй, сынок, вяслуй хутчэй! — Збітур перадаў вясло сыну, а сам, схапіўшы сякеру, пачаў секчы карму.

Аленевае Вуха яшчэ не разумеў, што да чаго, налягаў на вясло і праз пот, што заліваў вочы, глядзеў, як бацька адшчэпвае ад чоўна трэскі. Потым Збітур дастаў стрыжань з лукам, прыставіў яго да борта, і праз хвіліну човен ужо гарэў. На агонь паляцелі трэскі, а калі туды паклалі вопратку і ўсё, што знаходзілася ў даўбёнцы, густы дым падняўся ўгору, паведамляючы на бераг пра небяспеку.

— Скачы ў ваду! — загадаў Збітур.

Асцярожна, каб не перакуліць човен і не патушыць полымя, споўз у ваду і сам. Потым яны пачалі рваць трыснёг і кідаць у вогнішча. Дым паваліў клубамі.

— Павіны ж заўважыць, — хвалюючыся, казаў Збітур. — Толькі б паспелі да яру лучнікі, а там на прымалацці гэтых прыблудаў можна перастраляць, як курапатак.

— Тата, я стаміўся, — паскардзіўся Аленевае Вуха, адчуваючы, што доўга на вадзе не пратрымаецца.

— Кіруй за мною, сын, — сказаў бацька і паплыў да краю трыснягу. — Тут пад вадою камень — можна адпачыць.

І сапраўды, хутка хлопчык намацаў слізкую, але цвёрдую паверхню, якая ледзь не вытыркалася з-пад вады. На камені можна было свабодна размясціцца двайм.

А ў гэты час абгарэлы човен пачало заліваць вадою, агонь сіпеў і патухаў.

— Каля нашых хацін нейкі рух як быццам ёсць, — сказаў Збітур, углядаючыся ў бок ледзь бачнай з такой далечы вёскі, — але пажару няма. Пэўна, удалося адбіцца...

Было ціха. Толькі раз з берага данесліся ледзь чутныя крыкі. І зноў усё змоўкла.

— Гэта былі скахі?

— Так, сынок. Апошні раз з імі давялося сутыкнуцца летась. І наогул раней іх у нас зусім было не чуваць. Спачатку яны з'явіліся каля Рудых Балот. Потым перасяліліся бліжэй і пачалі квапіцца на нашыя азёры. Давялося ўзяцца за зброю. Уступаць у адкрыты бой скахі баяцца. Стараюцца напасці знянацку ці ноччу. Ухопяць, што пад руку трапіцца, папаляць — і наўцёкі...

* * *

Мінула даволі шмат часу, і нарэшце ад паселішча ў іх кірунку адплыў човен. Збітур уважліва прыглядзеўся і з палёгкай уздыхнуў:

— Нехта з нашых. А я спачатку падумаў: можа, гэта скахі плывуць, каб з намі расквітацца... Ну, Аленевае Вуха, — паклаў ён ружу на плячо сыну, — цяжкі сёння ў цябе быў дзень. Але ты малайчына!

Калі човен наблізіўся, Аленевае Вуха ўбачыў у ім кульгавага Мяжведа, узброенага лукам і сякерай. На паляванні яго моцна параніў дзік, і з таго часу адна нага высахла і не згіналася.

— Ну, як там у вас? — нецярпліва запытаў Збітур.

— Кепска, — панура адказаў Мяжвед, памагаючы залезці ў свой човен зусім знясіленаму Аленеваму Вуху. — Скахі ўбачылі, што вы папярэдзілі нас сігналам трывогі, і нападаць не адважыліся. Ды каля Затокі натрапілі на нашых малых — яны брусніцы збіралі. Большыя паспелі ўцячы, а чатырох меншых напаснікі схапілі і павялі з сабою.

— Чаму не адбілі?

— Хто ў вёсцы быў з мужчын, пахапалі зброю і пагналіся наўздагон. Але ж нашых мала — хто на паляванні, хто на рыбе.

Сонца ўжо хілілася да захаду, калі Збітур, Аленевае Вуха і Мяжвед вярнуліся ў вёску.

На вытаптаным пляцы між хацін, на якім звычайна адбываліся сходы і розныя святкаванні, сабраліся кабеты, старыя і дзеці. Стаяла трывожная цішыня, толькі часам прарывалася галашэнне матак, чые дзеці апынуліся ў скахаў,

З возера вярнуліся некалькі мужчын, і Збітур разам з імі паспяшаўся на дапамогу суродзічам, што праследавалі ворагаў,

Цёмная хмара паволі выпаўзла з-за возера і закрыла нізкае сонца. Навокал пашарэла. І нарэшце з лесу паказаліся воіны. Былі яны стомленыя, змрочныя. Кабеты з лямантам кінуліся насустрач.

— Супакойцеся! — супыніў іх пярэдні высокі мужчына з перавязаным плячом. — Усе жывыя. Толькі Гаркун моцна паранены. Скахаў нагналі перад Багнай, але іх было ўдвая больш. Давялося адступіць... Трэба сабрацца большай сілаю і ўдарыць на самыя іх логавы. Толькі так можна вярнуць нашых дзяцей...

Гаркуна асцярожна паклалі на вынесеную з хаціны посцілку. Над ім схіліўся Мяжвед, асцярожна прыклаў да раны расцёртыя лісты крываўніку, змешаныя з павуціннем, і туга перавязаў. Потым прыўзняў галаву параненага і ўліў яму ў рот некалькі кропель цёмнай вадкасці — настою лекавых зёлак.

Мяжвед адначасова з лячэннем рабіў таямнічыя рухі і шэптам замаўляў духаў, каб дапамаглі супыніць кроў, загаілі раны і вярнулі Гаркуну сілу.

Аднавяскоўцы стаялі навокал, стаіўшы дых, і чакалі цуда — павінны ж дапамагчы духі, калі іх замаўляе сам, Мяжвед, які з імі знаецца, і нездарма ж духам пасля кожнага ўдалага палявання ці рыбнай лоўлі прыносяцца дарункі.

Праз нейкі час паранены задыхаў раўней, потым расплюшчыў вочы і папрасіў піць.

— О, дзякуем вам, Добрыя Духі. Дзякуем табе, Мяжвед, — пранёсся шэпт над натоўпам.

Зелле падзейнічала. Гаркуну сапраўды стала крыху лепш. Яго паднялі і занеслі ў хаціну.

* * *

Трывожна грукаў бубен, пасылаючы над возерам кліч на вайсковы збор. Бубнар рытмічна біў цяжкімі даўбешкамі па вырабленай шкуры казулі, нацягнутай на тарэц дуплістага камля. Трывожныя гукі ўзляталі да вяршалін хвой і, быццам адбіваючыся ад іх, каціліся над самай вадой, палохалі чаек. І амаль адразу ад усіх прыбярэжных вёсак наранскага племя пачалі адплываць чаўны і кіравацца на голас бубна. Спачатку яны выглядалі ледзь прыкметнымі рыскамі на прыцемненай роўнядзі вечаровага возера. Пасля, калі чоўны набліжаліся, можна было разгледзець воінаў на даўбёнках... твары... нарэшце і сіняваты бляск крамянёвых наканечнікаў на дзідах.

— Што здарылася? — пыталіся мужчыны, выходзячы з чоўнаў.

— Скахі...

— Зноў скахі? Колькі трываць!? Пара з імі расквітацца! — лаяліся воіны і кіраваліся на пляц пасярод вёсачкі.

Збор выглядаў грозна: хмурыя позіркі з-пад скураных шапак, сашчэпленыя пальцы на рукаятках нажоў і дрэўцаў дзідаў, каменныя сякеры за паясамі, лукі, калчаны, туга набітыя стрэламі. Віраваў натоўп на пляцы. Нават старэйшыны, якім па гадах і па становішчы трэба было трымацца самавіта, не маглі спакойна ўседзець на цурбанах пад Свяшчэнным Дубам.

Першы старэйшына племянной Рады загадаў запаліць вогнішчы, потым узняўся на драўляны памост і на знак увагі ўзмахнуў каменнай булавой на доўгай, пафарбаванай у чырвоны колер рукаятцы. Збор адразу заціх і бліжэй падступіў да памоста. Пярэднія прыселі на зямлю, каб лепш бачыла і чула рэшта збору.

— Людзі наранаў, — голасна пачаў старэйшына. — Так доўга, як існуе Нара, жыве на яе берагах наш народ. Багі далі гэтую зямлю продкам і сказалі: вось вам лясы і азёры, балоты і рэкі — лавіце рыбу, палюйце дзічыну, і хай не сустрэне вас голад. І яшчэ сказалі Багі: беражыце зямлю сваю, не давайце ворагам яе зачапіць. Ці памятаеце вы пра гэта?

— Памятаем! — выдыхнулі дзесяткі грудзей.

— А хіба мы спаўняем запаветы Багоў? Не, не спаўняем!— працягваў старэйшына. — Скахі, балотныя прыблуды, не толькі крануліся дзідай нашай зямлі, але і гойсаюць на ёй беспакараныя. Не знойдзеш паселішча, дзе б яны не пашкодзілі, не нарабілі бяды. Да якога часу скахі будуць паліць нашы хаціны і нападаць на наранаў? Сёння яны зрабілі новае злачынства: схапілі дзяцей і ўцяклі. Заўтра такое можа здарыцца з дзецьмі іншых родаў. Дык ці пацерпім мы такое?

— Не, не пацерпім! — дружна пачулася ў адказ.

— Адпомсцім скахам!

— Адпомсцім! — крычалі воіны, размахваючы дзідамі і сякерамі.

Хмара зацягнула ўсё неба, амаль зусім сцямнела. Ля небакраю зрэдку бліскала маланка, прагрукатаў гром.

—Добры знак, людзі наранаў! — паказаў Першы старэйшына на неба. — Пярун — Бог вайны — бласлаўляе нас на паход. Няхай ведзьмары прынясуць яму ахвяру, а затым усіх старэйшын родаў прашу на вайсковую нараду.

Ведзьмары — некалькі сівабародых дзядоў у белых кашулях ледзь не да пятаў і з нізкамі бабрыных сківіц на грудзях — адзнакай мудрасці — падвялі да вогнішча белага бычка і крамянёвымі кінжаламі разрэзалі жылы на яго шыі. Жывёліна тузалася ад болю, але жылістыя рукі моцна трымалі яе, і кроў гарачым струменем біла ў глыбокую драўляную міску. Калі пасудзіна напоўнілася да брыжоў, па чарзе пачалі падыходзіць воіны, і кожны адпіваў глыток — гэта павінна было надаць моцы і бясстрашша ў баі. Затым міску з рэшткамі крыві паставілі на вогнішча, падкінулі дроў, і полымя шуганула ўгору.

Старэйшыны пайшлі на нараду, а воіны пачалі размяшчацца каля вогнішча на начлег, каб адпачыць перад цяжкім заўтрашнім паходам.

Пайшоў спаць і Аленевае Вуха.

* * *

Сапраўднага дажджу ноччу так і не было. Рэдкія кроплі толькі крыху пабілі рабаціннем пясок. А на раніцу падзьмуў заходні вецер. Частыя хвалі пабеглі да берага, і белая пена на іх здавалася пер'ем чаек. Над возерам стаяў прыглушаны шум.

Калі Аленевае Вуха прачнуўся, воінаў у вёсцы ўжо не было. Пайшоў з імі і Збітур.

Сёння хлопчыку было не да купання. Ён хуценька паснедаў і пабег да свайго аднагодкі Лісіцы — сына Мяжведа. Сам Мяжвед на дварышчы майстраваў човен, У яго былі цудоўныя рукі. Пасля калецтва, каб не стаць цяжарам для роду і не есці дармавы хлеб, ён налаўчыўся выразаць розныя міскі, палонікі, лыжкі і нават рабіў чоўны. А яшчэ Мяжвед лічыўся лекарам і адначасова шаптуном — замаўляў розныя хваробы і ўрокі ад благога вока...

Мяжвед скончыў абчэсваць ліпавы камель, і той па форме ўжо нагадваў сапраўдны човен. Засталося толькі выдзеўбаць сярэдзіну. Але гэта было самае цяжкае — каменнай цяслай тут не асабліва разгонішся. На гэта звычайна ішлі спорныя тры месяцы. І вось майстра даўмеўся выпальваць нутро чоўна. Потым заставалася толькі абчасаць і загладзіць абгарэлыя сценкі.

Мяжвед раскладваў уздоўж роўнай паверхні камля сухія дубовыя дровы. Калі заўважыў Аленевае Вуха, нібы апраўдваючыся, сказаў:

— Бачыш, як выходзіць, — мужчыны на вайну пайшлі, а мне праз гэтую нагу даводзіцца адседжвацца дома.

— Што вы, дзядзька Мяжвед, вы і так шмат робіце для нашага роду, — па-даросламу суцешыў яго Аленевае Вуха і спытаўся: — А дзе Лісіца?

— Спіць яшчэ, мусіць.

Але Лісіца не спаў. Ён быў ужо апрануты і, пачуўшы голас сябра, выйшаў з хаціны.

— Хадзем да возера, — паклікаў яго Аленевае Вуха, — ёсць пільная справа.

Ён не хацеў распачынаць размову на дварышчы, бо іх маглі падслухаць меншыя Лісіцавы браты і сёстры, якія надта любілі ўсунуць цікаўны нос, куды іх не просяць. А потым пра ўсё раскажуць маці. А тут гаворка была мужчынская і да таго ж вельмі сакрэтная.

— Лісіца, мы ўжо вялікія і павінны дапамагчы бацькам, — пачаў Аленевае Вуха, калі сябры апынуліся на беразе.

— А я тату заўсёды дапамагаю, — пакрыўдзіўся Лісіца.

— Я не пра тое. Давай возьмем зброю і дагонім нашых.

— Ага, дагоніш, — нерашуча працягнуў хлопчык. — Нам так «дагоняць», што і садзіцца не зможам.

— А мы будзем непрыкметна ісці каля загону нашых воінаў і сачыць, ці няма дзе скахаў. Як толькі іх заўважым, адразу папярэдзім наранаў. Тады нас і караць не будуць за самавольства.

— Згода. Збіраемся хутчэй. Толькі што скажам дома?

— Нешта прыдумаем.

* * *

— Куды гэта ты, сынок? — спыталася маці, убачыўшы, што Аленевае Вуха бярэ са сцяны лёгкі лук і дзіду.

— З Лісіцай пойдзем на Скок, там, кажуць, качак шмат развялося. Калі паляванне будзе добрае, то, можа, нават заначуем.

Хлопчык ведаў — маніць кепска, але што тут зробіш. Пайсці на некалькі дзён, не папярэдзіўшы маці, яшчэ горш — будзе бедаваць і думаць, што і яны папаліся скахам.

— Якія качкі такім неспакойным часам? Лепш дома сядзелі б.

— Не, мама, нашы на вайне, таму цяпер мы павінны старацца для тых, хто застаўся ў вёсцы.

Праз колькі часу Аленевае Вуха і Лісіца ўжо крочылі па лесе. На абодвух былі кароткія штаны з крапіўнага палатна і скураныя безрукаўкі. Вопратка мела даволі зношаны і зашмальцаваны выгляд а ў Аленевага Вуха на калашыне бялела свежая лата, якая нагадвала пра нядаўнюю бацькаву лупцоўку — каб не лазіў па птушыных гнёздах і не рваў штаны.

На шыях у сяброў віселі нізкі з аленевых зубоў — абярог ад благога вока і розных няшчасцяў, а да паясоў былі прывязаны торбачкі з сушанай рыбай. Яе павінна было хапіць дні на. два, пакуль пашанцуе што ўпаляваць.

Узброіліся хлопчыкі на дарогу таксама як трэба. Кожны меў лук са стрэламі, дзіду і крамянёвы нож у скураной похве. Але, прайшоўшы з сотаю крокаў, яны зразумелі, што перастараліся. Зброя перашкаджала хутка ісці ў лясным гушчары. Асабліва чапляліся за галіны дрэў лукі. Давялося большы з іх схаваць у кусце, а другі несці па чарзе.

Ад маці хлопчыкі ведалі, што воіны пайшлі не берагам возера і рэчкі, а ў абход, па высокіх залесеных узгорках на водападзеле, што цягнуліся на многія дзённыя пераходы. Толькі так можна было разлічваць на нечаканасць нападу і поспех задуманай справы. Калі ж скахі загадзя заўважаць наранаў, то могуць назабіваць малых або перавесці ў глыб сваіх земляў.

Сябры ішлі па лесе, уважліва гледзячы пад ногі і па баках, каб не збіцца са шляху, якім рухаўся загон. Было зразумела, што воіны трымаліся ланцужком адзін за адным — так заставалася менш слядоў. Ды пільныя хлапечыя вочы заўважалі: вось у адной мясціне застаўся прымяты мох, у маладой хвойкі — толькі што абламаная галінка, а ў забалочанай нізіне захаваліся і адбіткі ног...

Чым далей адыходзілі хлопчыкі ад сваёй вёскі і набліжаліся да ўзгоркаў, ці, як іх наране называлі, Сініх Гор. тым гусцейшым станавіўся лес і вышэйшымі дрэвы. Пад імі распасціраўся суцэльны дыван, то з верасу, то з моху, то з дурманлівага багуну. Асабліва прыемна ступалася па мяккім імху. Трапляліся, праўда, і вострыя сучкі, але падэшвы ног, загартаваныя ад хады басанож, амаль не адчувалі болю.

У ніжэйшых мясцінах, між хвояў, сустракаліся зараснікі маладога яліннiку і высокай, ледзь не ў рост чалавека, папараці. Тады трывожна рабілася на сэрцы. Хлопчыкі бліжэй туліліся адзін да аднаго, мацней сціскалі зброю, бо ў гушчары далёка не ўбачыш, таму лёгка знянацку натрапіць на дзіка ці мядзведзя. Ад дзіка можна выратавацца на дрэве, а вось ад крывалапага цяжэй — залезе нават на самую высокую хвою.

У такой глушачы ў падарожнікаў узнікала жаданне павярнуць дахаты ці хутчэй дагнаць загон, бо лепш самая жорсткая лупцоўка, чым мядзведжыя кіпцюры.

Камлі таўшчэзных вываранцей — то нядаўніх, то ўжо зусім спарахнелых ад часу, раз-пораз перагараджалі шлях. Некаторыя дрэвы, падаючы, зачапіліся сукамі за суседнія хвоі і так і застылі нахіленыя. І пад імі было небяспечна прабірацца, бо волаты маглі кожнае імгненне абрынуцца ўніз, нішчачы пад сваім цяжарам усё жывое. Там, дзе віхор пракладваў сабе дарогу ў зялёным лабірынце лесу, вываранці ляжалі спрэс, як пачварныя веліканы на нейкім полі бою. І праз такія мясціны не мог пралезці ні звер, ні чалавек. Толькі яшчаркі, нерухома застыўшы на камлях, грэліся на сонцы, ды працавітыя дзятлы выстуквалі — аж водгулле ішло — мёртвыя дрэвы, шукаючы на спажыву розных казюрак.

Перад Сінімі Гарамі трапіўся выпалены лес. Туг сляды наранаў паварочвалі на поўдзень. Затым паніжэла, і адразу пачаўся стары змрочны яліннік. Над галавою закрывалі неба густа перапляценыя калючыя галіны. Пад дрэвамі ў паўзмроку рудым пластом ляжала падапрэлаяігліца.

— Не падабаецца мне яліннік, — азіраючыся па баках, сказаў Аленевае Вуха. — У ім нават птушак не чутно.

— І ні грыбоў, ні ягад. Але вавёркі павінны быць — вунь колькі шышак.

Нарэшце выйшлі да вузенькай рачулкі, дно якой было засыпана ігліцай. Хлопчыкі напіліся халоднай, ажно заходзіла ў зубы, вады і прыселі на бліжэйшай вываранці адпачыць.

— Нашы тут таксама спыняліся, — паказаў Аленевае Вуха на вытаптаную мясціну.

Адпачыўшы, сябры перайшлі рачулку і ўзабраліся на супрацьлеглы стромкі бераг. Далей зноў быў лес, і зноў трэба было прыглядацца да слядоў, каб не збіцца з правільнага кірунку.

— Хутка ідуць нашы, ці дагонім? — пачаў непакоіцца Лісіца.

— На ноч жа недзе спыняцца.

— Трэба да цемры каля іх быць, бо начаваць адным у такім глухім лесе страшна...

Неўзабаве падарожнікам натрапілася пакінутае вогнішча. Яшчэ курэў над вуголлем слабы дымок. Навокал ляжалі абгрызеныя косткі. Хлопчыкі насцярожана агледзеліся.

— Бачыш, вуголле яшчэ тлее, людзі толькі што пайшлі адсюль, — ціха сказаў Аленевае Вуха.

— А можа, тут былі скахі?

— Наўрад... Чакай, чакай! Бачыш, кроў каля куста? Трэба зірнуць, што там такое.

І хлопцы пачалі падкрадвацца да куста, трымаючы напагатове дзіды. Але спадзяваліся яны не на зброю, а больш на свае ногі, гатовыя ў любы момант кінуцца наўцёкі.

Пад кустом ляжаў вялізны лось. Хутчэй, ужо не сам лось, а тое, што ад яго засталося — смачнейшае мяса было абрэзана і з'едзена тымі, хто паліў вогнішча. Пэўна, яны ж і ўпалявалі жывёліну.

Аленевае Вуха ўважліва агледзеў рэшткі лася і знайшоў на шыі маленькую ранку. Затым дастаў з-за пояса крамянёвы нож, разрэзаў ранку шырэй і засунуў туды пальцы, нешта мацаючы.

Лісіца здзіўлена глядзеў на незразумелыя паводзіны сябра.

— Вось, знайшоў! — узрадавана ўскрыкнуў Аленевае Вуха, выцягваючы з ранкі крамянёвы наканечнік стралы. — Тут былі нашы!

— Па чым ты здагадаўся? Стрэлы ж ёсць і ў с кахаў.

— Ёсць, але тата казаў, што скахі наканечнікі робяць, як лазовы ліст. А гэты лось забіты наранскай стралой, у якой наканечнік з двума зазубнямі.

Хлопчыкі раздзьмулі вуголле, падклалі сухога моху, галля, і вогнішча загарэлася зноў. Пасля ўкінулі ў агонь кавалачак ласяціны — ахвяру Багам — і глядзелі ўзрадаваныя, як дым пацягнуўся проста да вяршалін дрэў. Гэта добра. Значыць, Багі прынялі іх дарунак.

— Нашы быццам ведалі, што мы будзем ісці за імі — не ўсяго лася з'елі, — жартавалі сябры, падсмажваючы на ражончыках мяса. — Падсілкуемся свежынай, а наша рыба не прападзе, спатрэбіцца іншым разам.

Ад ежы хлопчыкі разамлелі. Нават падрамаць ім захацелася. Падумалі было: а ці не застацца тут заначаваць, але потым рашылі ісці бліжэй да сваіх.

— Давай у дарогу падвэндзім пару кавалкаў мяса, — прапанаваў Аленевае Вуха і пачаў шукаць ядловец. Куст яго рос непадалёку, і хлопчык, не зважаючы на колкую ігліцу, стаў ламаць галінкі.

Раптам чыесці дужыя рукі заціснулі яму рот. Ад удару па галаве пацямнела ў вачах, і Аленевае Вуха страціў прытомнасць.

* * *

Калі Аленевае Вуха апрытомнеў, то, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй, зразумеў: яго некуды нясуць, падвязанага за рукі і ногі да жэрдкі. Так звычайна насілі ўпаляваных звяроў, але ж яны былі мёртвыя і нічога не адчувалі. А хлопчыку вяроўкі балюча рэзалі рукі, і ён застагнаў. Тыя, што неслі, пачулі стогн і спыніліся. Перамовіўшыся між сабою, развязалі яму ногі і, штурхануўшы дзідай у плечы, пагналі далей. Перамагаючы млоснасць і боль у галаве, Аленевае Вуха азірнуўся: непадалёку таксама са звязанымі рукамі ішоў Лісіца ў акружэнні воінаў, што напалі на хлопчыкаў.

Гэта былі нізкарослыя, але шырокія ў плячах, з суровымі тварамі мужчыны, узброеныя кароткімі дзідамі і лукамі. «Скахі, — жахнуўся Аленевае Вуха, убачыўшы на галовах воінаў косы. — Як недарэчна папаліся, цяпер не ўцячэш — тут іх каля дзесятка будзе. А наране далёка...»

Так і ішлі, не спыняючыся, да позняга вечара. Хлопчыкі стаміліся, але, як толькі запавольвалі крок, у плечы ўпіралася вастрыё дзіды і прымушала прыспешваць хаду.

Сонечныя промні зніклі з вяршалін самых высокіх хвой, калі скахі спыніліся на адпачынак. Воіны прымусілі палонных легчы на зямлю і моцна прывязалі іх да доўгіх жэрдак. У такім становішчы пра ўцёкі не было чаго і думаць: не тое што ўстаць — паварушыцца было нельга.

— Не палохайся, — шэптам падбадзёрваў Аленевае Вуха сябра, — прыйдуць нашы і вызваляць. Толькі не трэба прызнавацца, што наране ідуць вайною на скахаў. А пра сябе скажам: пайшлі на паляванне ды заблудзіліся.

Скахі распалілі вогнішча і пачалі смажыць мяса, забранае каля наранскай становўкі. Тут былі і кавалкі, назапашаныя хлопчыкамі. Потым воіны ўзяліся вячэраць, перамаўляючыся на незразумелай для палонных мове. Словы гучалі дзіўна — у іх было шмат галосных, таму здавалася, што скахі быццам спяваюць.

На змучаных і галодных палонных ніхто не звяртаў увагі, ніхто не даў ім ні глытка вады, ні кавалачка нават чэрствага праснака. А смажаніна так пахла, да млоснасці!

Наеўшыся і нагаварыўшыся, скахі ляглі спаць, падгарнуўшы пад сябе мох і лісце папараці. Аленеваму Вуху не спалася. Часта прахопліваўся і спрасонку не мог уцяміць, дзе ён і чаму звязаны. Але цёмная постаць вартавога каля прытушанага вогнішча вяртала яго да таго страшнага, што адбылося. Тады хлопчык моцна заплюшчваў вочы і пачынаў бязгучна плакаць, просячы ў думках бацьку прыйсці і забраць яго з Лісіцам адсюль.

Раніцай скахі і палонныя зноў рушылі ў дарогу. Ішлі шпарка, ажно пакуль за апошнім узгоркам не скончыўся хвойнік. На прыбалаці крыху прайшлі альшэўнікам, мінулі зараснікі лазы і апынуліся на беразе возера. Яно было меншае за Нару, ляжала ў балоцістай нізіне і каля берагоў густа зарасло трысняговым.

Праз балота да чыстай вады вяла вузкая грэбля. Дайшоўшы па ўтравелых кругляках да яе канца, скахі спыніліся, і палонныя ўбачылі воддаль ад берага, пасярод вады... вёску. Хлопчыкі бачылі такое ўпершыню і вельмі ўразіліся. Наране заўсёды будавалі свае хаціны на высокіх сухіх мясцінах, куды не дасягала паводка. А тут жыллё было на самай вадзе. Праўда, кожная будоўля стаяла на слупах-палях, а падлога была так высока, што пад яе маглі падплываць чоўны. Вёска выглядала, быццам чарада дзівосных даўганогіх жывёл увайшла ў возера напіцца.

Адзін са скакаў прарэзліва свіснуў, і ад хацін адплыло некалькі вастрадзюбых чоўнаў. Воіны ўвапхнулі ў іх палонных, селі самі і ўзяліся за вёслы. І чым больш шырэла паласа вады паміж чоўнамі і берагам, тым роспачней біліся сэрцы наранскіх хлопчыкаў.

На памосты каля хацін высыпалі ўсе жыхары. Разглядалі захопленых падлеткаў з цікавасцю, а некаторыя нават стараліся памацаць іх, быццам не верылі сваім вачам. І навакол чуліся тыя ж спеўныя воклічы, дзіўная птушыная гаворка.

Чоўны накіраваліся да шырокага памосту, што ўтвараў даволі вялікую пляцоўку, на якой, калі была патрэба, магло збірацца ўсё дарослае насельніцтва паселішча. Ля краёў памосту стаяла некалькі хацін, адна з якіх вызначалася сваімі памерамі — тут жыў першы старэйшына скахаў. Ён ужо чакаў воінаў і палонных, шырока расставіўшы жылаватыя ногі і падпёршыся татуіраванымі рукамі ў бакі. На яго плечы была накінута воўчая скура, і галава драпежніка, напханая мохам, як жывая, выскаляла іклы.

Хлопчыкам загадалі ўзлезці па стромкай лесвіцы на пляцоўку і штурхнулі да ног першага старэйшыны. Той падышоў да воінаў, пра нешта распытаў іх, паляпаў па плячах, а потым павярнуўся да палонных і загаварыў на ламанай наранскай мове:

— Як вы апынуліся ў нашых лясах, так далёка ад наранскіх земляў?

— Пайшлі на паляванне ды заблудзіліся, — адказалі хлопчыкі.

— Хто яшчэ быў з вамі?

— Ніхто, мы адны.

Першы старэйшына нешта спытаўся ў воінаў. Тыя пацiснулі плячыма.

— Ваўя Кі злуецца, пачуўшы ману. Вы калі выйшлі са сваёй вёскі?

— Учора раніцай.

— А хто забіў лася?

— Мы.

— Хіба можна паверыць, што двое хлопчыкаў за адзін раз маглі з'есці ледзь не ўсю такую вялікую жывёліну? — з'едліва засмяяўся Ваўя Кі.

Палонныя зразумелі, што ім не паверылі.

— Мы знайшлі лася нежывога, — вырашыў не здавацца Аленевае Вуха.

— Як?! — аж прыгнуўся ад злосці скаха. — Толькі што вы казалі: самі забілі лася, а зараз ужо — знайшлі нежывым. Яго што, духі падаравалі вам?

— Лася задраў мядзведзь, — падтрымаў свайго сябра Лісіца.

— Хопіць! — закрычаў першы старэйшына і, не стрымаўшы гнеў, пачаў нагамі біць хлопчыкаў. Затым грэбліва абтрос свае новыя скураныя абувай, быццам забрудзіў іх, і нешта загадаў воінам.

Хлопчыкаў паднялі з жэрдак памосту і прыкруцілі вяроўкамі да слупа пад сцяной бліжэйшай хаціны. Потым аднаму скаху завязалі вочы, далі ў рукі лук са стрэламі і паставілі насупраць палонных.

— Бачыце гэтага лучніка, наранскія шчанюкі? — прашыпеў Ваўя Кі. — На кожнае лжывае слова адказам будзе страла, аж пакуль Духі Цемры не накіруюць якую з іх у вашыя сэрцы. Пытаю яшчэ раз: каля вогнішча ў лесе былі воіны наранаў?

— Не!

Сках з завязанымі вачамі ўзняў лук і наўздагад паслаў стралу. Яна ўпілася ў сцяну над галовамі хлопчыкаў.

Зноў пачулася тое ж пытанне і зноў быў адказ: не. Паляцела яшчэ адна страла. І так паўтаралася шмат разоў. Гэта жахліва, калі проста перад табою — сама смерць і кожны раз думаеш: вось гэта страла

ўвап'ецца ў грудзі. І перад наступным стрэлам уся пакута паўтаралася зноў. Лісіца не вытрымаў і залямантаваў. Жах ахапіў і Аленевае Вуха. Ён заплюшчыў вочы, але так стала яшчэ страшней.

Мусіць, лучнік спецыяльна падглядаў праз шчыліну ў павязцы, бо стрэлы так і не пацэлілі ў хлопчыкаў. Але гарчэлі яны ў сцяне побач — ледзь крануцца, і можна было дастаць шчакою да іх гладкіх дрэўцаў.

Палонныя ні ў чым не прызналіся, і іх нарэшце адвязалі, укінулі кожнага ў асобную хаціну і моцна завязалі дзверы.

Калі крыху прыціх боль у збітым целе, Аленевае Вуха сеў і пачаў аглядаць сваю вязніцу. Гэта была, мусіць, не хаціна, а нейкая камора для захавання патрэбных у гаспадарцы рэчаў. Тут ляжалі старыя мярэжы, скруткі лазовай кары, нейкія шкуры, цэлыя і бітыя гліняныя гаршкі. Па кутах каморы стаялі тоўстыя слупы, між якімі былі ўмацаваны жэрдкі, шчыльна пераплеценыя лазовымі прутамі. Такія ж плеценыя былі не толькі сцены, але і дзверы. Вузкія, як нажы, прамені ўжо нізкага сонца густа прабіваліся праз шчыліны між прутоў, асвятляючы запыленае павуцінне.

Хлопчык з цяжкасцю падняўся, падышоў да адной з большых шчылін і зазірнуў у яе.

Вечарэла. Да хацін прыплывалі чоўны. Рыбакі выбіралі з іх рыбу і аддавалі кабетам, якія чакалі сваіх кармільцаў каля агнішчаў. Агнішчы былі на тым жа памосце, што і хаціны, і гэта вельмі здзівіла Аленевае Вуха — дрэва ж загарыцца! Прыгледзеўся лепш і ўбачыў: яны былі адмысловыя — падсціλаліся бяростай і тоўстым пластом пяску. Разгледзеў хлопчык і памост. Быў ён зроблены з доўгіх жэрдак, прывязаных кручанымі лазовымі дубцамі да тоўстых лежакоў, якія апіраліся на вільчастыя ўверсе, зялёныя ад водарасцяў і плесні слупы, убітыя ў мулістае азёрнае дно. Паверх жэрдак пластом ляжалі кавалкі кары. Кара была на падлозе і ў каморы.

Зусім на змярканні двое мужчын адплылі на чоўне ад вёскі і пачалі ставіць сетку ўздоўж прыбярэжнага трыснягу.

Хлопчык, аглядаючы паселішча, дзівіўся, што нідзе не бачна і не чуваць дзяцей скакаў.

«Магчыма, баяцца нападу наранаў і перавезлі сваіх малых у далейшыя паселішчы», — рашыў Аленевае Вуха.

А сонца тым часам схавалася за лясістымі ўзгоркамі. Хвойнік стаў цёмна-шэрым, амаль чорным. У тым баку, дзе зайшло сонца, ляжала наранская зямля... Там было такое светла-ружовае, прываблівае неба. Птушкай бы туды паляцеў...

У безнадзейным адчаі пазіраў хлопчык, на волю. А ў галаве, як рыба ў нераце, мітусіліся думкі, і сярод іх наймацней прабівалася адна: як бы адсюль выбрацца?

Голаду наран ужо амаль не адчуваў — перацярпеўся. Але піць хацелася нясцерпна. Асабліва калі перад вачамі такое мноства вады. Цэлае возера!

Праз нейкі час да вязніцы падышлі воін з дзідай і старая кабета з невялікім кошыкам, апранутая ў доўгую вышываную сукню. Адчынілі дзверы. Кабета дастала з кошыка і працягнула Аленеваму Вуху праснак. Па смаку хлопчык зразумеў, што ён быў спечаны з сушанай рыбы і перацёртых каранёў жоўтага гарлачыка. Калі Аленевае Вуха з'еў праснак, старая падала яму бяроставы кубак з цеплаватай, але смачнай вадой, А сама стаяла і глядзела, як прагна піў палонны. І ў вачах яе была не злосць, а спачуванне...

Воін звязаў рукі хлопчыку скураным паскам — каб не ўцёк уначы, выйшаў разам з кабетай і зноў запёр дзверы. Аленевае Вуха пагледзеў праз шчыліну, як скаха і старая ўвайшлі ў суседняе збудаванне, дзе, мусіць, быў Лісіца. Пэўна, кармілі, і яго. Потым па вузкіх мастках яны накіраваліся да крайняй хаціны. У ёй затрымаліся даўжэй. Калі вярталіся, хлопчык, заўважыў: кошык у кабеты апусцеў.

«А што, калі ў той крайняй хаціне наранскія дзеці? — падумаў ён. — Бо навошта воін і там: запіраў дзверы на моцную завалу?»

Пасля вячэры да Аленевага Вуха пачалі паціху вяртацца сілы. І хоць дакучалі блохі, якіх на падлозе, мусіць, было безліч, можна было спакойна падумаць над сваім становішчам.

Пэўна, воіны наранаў падышлі ўжо да возера. Хутчэй за ўсё яны стаіліся ў лесе вунь на тых узгорках, а самыя зоркія паўзлазілі на дрэвы і назіраюць за паселішчам. І думаюць, мабыць, каране і не могуць даўмецца, як ім трапіць у гэту вёску на возеры... Як жа падаць знак сваім, што ён і Лісіца тут і што ў гэтай вёсцы, магчыма, і захопленыя наранскія дзеці?

Сцены вязніцы сплецены моцна. Лазовыя пруты высахлі і зараз як скамянелі. Тут і вольнаму праз іх не прабіцца, а ў яго ж звязаны рукі. І раптам Аленевае Вуха ўспомніў, што выцягнуты з лася наканечнік стралы ён не выкінуў, а прывязаў да нізкі аленевых зубоў, якія віселі на шыі. А што, калі...

Аленевае Вуха лёг на падлогу і пачаў выгінацца, спрабуючы ўхапіць нізку зубамі. Нарэшце гэта ўдалося. І ён пачаў перагрызаць моцны горка-салёны ад поту шнурок. Перакусіў і вузел, якім быў прывязаны наканечнік. Знайсці шчыліну ў кавалку кары на падлозе і зубамі замацаваць там наканечнік было лягчэй. Потым Аленевае Вуха

асцярожна, каб не выбіць са шчыліны і не страціць такі дарагі зараз гэты востры краменьчык, перакаціўся на спіну і пачаў павалі пераразаць скураны пасак на руках.

Надышла ноч. Паснулі жыхары вёскі. І толькі тады хлопчыку нарэшце ўдалося вызваліць рукі. Яны зацяклі, здранцвелі. Трэба было доўга іх расціраць, каб зноў паварушыць пальцамі.

Аленевае Вуха асцярожна падкраўся да дзвярэй і вызірнуў праз шчыліну — над возерам была непраглядная цемра, а на небе — ні зорак, ні месяца. Відаць, яно зноў зацягнулася хмарамі. Гэта ўсцешыла палоннага.

Затым хлопчык прыклаў вуха да дзверэй і прыслухаўся. Вартавы не спаў. Парыпвалі пад яго нагамі жэрдкі. Часам рыпенне сціхала — сках чуйна заміраў у цемры.

Аленевае Вуха падышоў да супрацьлеглай сцяны, намерваючыся выламаць дзюрку-пралаз. Пасля ўпартых намаганняў падалося некалькі прутоў, але хутка ён зразумеў, што і за ноч не зможа выбрацца на волю — не хопіць сіл. Хлопчык крыху падумаў, а затым узлез па плеценай сцяне пад самую страху, учапіўся за жэрдкі і паспрабаваў прасунуць руку ў трысняговае пакрыццё, Страха была старая, збуцвелая, і рука лёгка пралезла праз яе.

Палонны наран пачаў асцярожна выдзіраць трыснёг, пашыраючы адтуліну, На галаву сыпалася парахня, трапляла ў вочы. Нарэшце яму дыхалася свежым паветрам, як пахла возерам і недалёкім лесам, ажно кружылася галава!

Але гэта была. яшчэ не воля. Кожнае імгненне яго маглі заўважыць і падняць трывогу. Праўда, у такой цемры ўцекача прыкмеціць не так і лёгка. Галоўнае цяпер не парушыць цішыні і, як мыш, спусціцца па сцяне на памост, затым па слупе спаўзці ў ваду. Ну, а там ён, як рыба... Эх, шкада, нельга зараз Лісіцу вызваліць!..

Нарэшце ногі адчулі прахаладу вады. Ніжэй, яшчэ ніжэй — і ўжо можна плысці. І тут рука хлопчыка намацала вяроўку, а потым і прывязаны да слупа човен. Гэта ж можна выкрасці некалькі чоўнаў — яны будуць патрэбны наранам!

Нячутна пераплываючы ад слупа да слупа, Аленевае Вуха адвязаў некалькі даўбёнак і паспрабаваў цягнуць іх за сабой. Але гэта было не па сіле. Тады хлопчык прывязаў чоўны адзін за другім, залез у пярэдні і пачаў асцярожна веславаць да берага. Звязка рухалася марудна. Да таго ж перад самым трыснягом чоўны за нешта зачапіліся. Як ні напінаўся хлопчык, зрушыць іх з месца не мог. Давялося зноў лезці ў ваду і шукаць перашкоду, а ёю аказалася тая сетка, якую звечара паставілі тут рыбакі. Аленевае Вуха пачаў тапіць плыўкі, прапіхаючы

чоўны над сеткай. Яна трапятала пад рукою, як жывая — добрая рыба, мусіць, трапілася.

Пакуль валтузіўся з сеткай і чоўнамі, у цемры страціў кірунак. Прыслухаўся і павеславаў у той бок, адкуль ледзь далятаў шум начнога лесу.

Нарэшце вяслом удалося намацаць дно. Але яно было гразкае — не адштурхнуцца. Затым пачаліся водарасці, якія чапляліся за вясло і даўбёнкі. Давялося легчы на носе чоўна і, хапаючыся то за трыснёг, то за водарасці, падцягваць звязку да берага.

Хлопчык выбраўся на сухое і знік у кустах. Хутка ён ужо быў каля бліжэйшага ўзгорка. Стаіўся пад хвояй, прыслухаўся. Затым ціха свіснуў начной птушкай — гэта быў умоўны сігнал наранаў. Ніхто не адказаў. Аленевае Вуха свіснуў мацней, і тады аднекуль зверху прагучаў сігнал-адказ, але нерашучы, быццам пыталіся. Хлопчык зноў свіснуў і зноў пачуў адказ. Потым з суседняга дрэва пасыпалася ігліца, і Аленевае Вуха хутчэй здагадаўся, чым убачыў, што з дрэва злез чалавек.

— Хто тут? — пачулася ціхае пытанне.

— Я, Аленевае Вуха — сын Збітура.

— Як ты апынуўся тут? — здзівіўся нарай.

— Мы з Лісіцам пайшлі за вамі, ды ў лесе папаліся скахам. Я толькі што ўцёк з іхняй вёскі. А Лісіца яшчэ там. У вёсцы, здаецца, і нашы малыя.

— Хадзем хутчэй, — усхвалявана прашаптаў воін і павёў хлопчыка на вяршыню ўзгорка. Там былі ўсе наранскія воіны, сярод іх — і бацька Аленевага Вуха. Хлопчык паўтарыў свой расказ і дадаў, што прыгнаў з сабою і схаваў каля берага некалькі чоўнаў.

— Малайчына, сынок, — абняў яго Збітур, — а мы ўжо плыты збіраліся рабіць, каб як дабрацца да гэтых скахаў.

Не марнуючы часу, загон рушыў да берага.

Збітур з сынам і іншыя воіны паселі ў чоўны. Праўда, памесціліся не ўсе. Каму не хапіла месца, плылі побач, трымаючыся за барты даўбёнак. Рухаліся цесна купай, каб у цемры не пагубляцца. І як ні стараліся павольней і цішэй, ды часам прарываўся неасцярожны ўсплёск вясла ці рукі. Загон заміраў, зацяўшы дыханне, і прыслухоўваўся. І тады чуліся іншыя ўсплёскі на возеры, далёкія і зусім побач, слабыя і магутныя, быццам нехта плазам кідаўся на ваду — жыравала рыба. Гэта супакойвала воінаў, і яны плылі далей.

Нейкім цудам не заблудзіўшыся, таране нарэшце трапілі да паселішча.

Збітур загадаў сынуаставацца ў даўбёнцы. Сам жа з некалькімі воінамі нячутна палез на памост. Ля пагаслага агнішча, на якім пачалі ўжо шарэць вугалі, цямнела скурчаная постаць вартавога. Сках нават не ўскрыкнуў. Потым Збітур выцягнуў з агнішча галавешку і, апісаўшы вакол сябе іскрыстае кола, каб галавешка разгарэлася, падторкнуў яе пад бліжэйшую страху. Праз імгненне хаціна палала ўжо, як вялізная паходня, далёка асвяціўшы навокал. І адразу з чоўнаў грымнуў баявы кліч наранаў, і воіны пачалі ўзбірацца на памост.

Бой быў кароткі. Скахі, якіх заспелі знянацку, амаль не адбіваліся. Яны кідаліся ў ваду і, адчайна махаючы рукамі, стараліся адплысці як мага далей за межы асветленага пажарам кола, дзе іх ужо не маглі дастаць дзіды і стрэлы наранаў.

Як і здагадаўся Аленевае Вуха, у крайняй хаціне былі наранскія дзеці.

Знайшлі і Лісіцу. Ад усяго перажытага ён не мог трымацца на нагах. Сядзеў на краі памосту і азіраўся па баках, усё яшчэ не верыў свайму выратаванню.

Калі Багіня Жыцця асвятліла зямлю, над возерам была зноў цішыня, толькі з берага даносіўся шматгалосы птушыны спеў.

Наране збіралі здабычу: звярыныя шкуры, запасы сушанай і вэнджанай рыбы, зброю, рыбацкія прылады. Увогуле, скахі жылі небагата, бо рэчаў і харчу знайшлося мала. Але ў наранаў быў радасны настрой — перамога за імі, дзеці вызвалены. Да таго ж у іх абышлося без ахвяр.

Аленевае Вуха разам з воінамі зазіраў у хаціны. Але яго не надта вабіла здабыча, хоць і не ўтрымаўся, каб не прыхапіць якую дробязь. Хлопчыку было цікава паглядзець, як жыў гэты загадкавы народ, які яшчэ не ўмеў вырошчваць ячмень і гадаваць быдла, а толькі спажываў тое, што мог здабыць у наваколлі — арэхі і ягады, рыбу і дзічыну.

Асабліва здзіўляў іхні гліняны посуд. Быў ён інакшы, чым у наранаў, — з пукатымі сценкамі і вострымі донцамі, упрыгожаны адбіткамі грабянца і круглымі копачкамі. «І чаму гаршкі скахаў вастрадонныя? — не мог зразумець Аленевае Вуха. — Яны ж куляцца будуць, калі паставіш...» А спытаць у дарослых пра гэта не было як, бо тыя займаліся сваімі справамі. У адной хаціне Аленевае Вуха ўбачыў каля сцяны ў падлозе выразаныя круглыя адтуліны. У іх, быццам вялізныя яйкі, тырчалі гаршкі. Ды і на агнішчах пасудзіны былі не пастаўлены, а быццам уторкнуты ў вуголле. І тут хлопчык скеміў, што такая форма посуду, мусіць, зручнейшая для скахаў, якія яшчэ не мелі печак з роўным чарэнем.

Над уваходам у кожную хаціну, а часам і ў кутках самога жытла віселі маленькія выявы людзей, выразаныя з дрэва або костак. Аленевае Вуха ўзяў сабе смешнага драўлянага чалавека з вялікай галавой і пукатымі вочкамі.

Збітур убачыў, што сын з цікавасцю разглядае гэту здабычу, і спалохана закрычаў:

— Выкінь зараз жа! Гэта іх Дух, ён можа прынесці няшчасце. Ніколі не чапай чужых Духаў.

Хлопчыку не трэба было паўтарацЬ. Ён шпурнуў чалавечка ў ваду і пачаў шаптаць закляцце, як вучыла маці.

Раптам каля адной з хацін пачуліся воклічы наранаў. За кучай галля, нарыхтаванага для агнішча, яны знайшлі старую кабету. Малады воін ужо замахнуўся быў дзідай, але паміж ім і старой кінуўся Аленевае Вуха:

— Не чапайце яе! Яна прыносіла нам есці!

Па знаку аднаго са старэйшын ад кабеты адступіліся.

Тады ўперад выйшаў нарай, які некалі быў у скахаўскім палоне і крыху ведаў іх мову.

— Хто ты, кабета?

— Я сястра Ваўя Кі — першага старэйшыны нашага роду, хай сцерагуць яго добрыя Духі.

— Чаму воіны твайго брата захапілі нашых дзяцей?

— Адказ вы знойдзеце вунь там, — паказала старая на недалёкую выспу, зарослую старым хвойнікам.

Наране хацелі дабіцца ад кабеты больш падрабязнага тлумачэння, але палонная замоўкла, і было зразумела, што яна больш нічога не скажа.

Заахвочаныя загадкавымі словамі сястры Ваўя Кі, старэйшыны і частка воінаў, захапіўшы з сабою кабету, селі ў чоўны і паплылі на выспу. Паплыў з імі і Збітур з сынам — Аленеваму Вуху сёння не маглі адмовіць ні ў чым.

Перад выспай чоўны спыніліся. Толькі адзін з іх паплыў з разведчыкамі да берага. Воіны на астатніх даўбёнках з падрыхтаванымі лукамі пільна ўзіраліся ў выспу, гатовыя ў кожны момант кінуцца на падмогу таварышам.

Разведчыкі асцярожна вылезлі на пясок і са зброяй у руках рушылі да хвой. Ды раптам павярнулі назад і з перакошанымі ад жаху тварамі кінуліся да чоўна. Паране напялі лукі, і два дзесяткі стрэл сыпанулі па дрэвах, збіваючы з іх кару. Але выспа маўчала. Ніхто не страляў у адказ, і толькі ўцекачы на чоўне шчыравалі вёсламі, аж пенілася вада.

— Гэта выспа Злых Духаў! — крычалі яны, набліжаючыся да загона.

Узбуджаныя наране кінуліся да палоннай кабеты, каб расправіцца з ёю за падрыхтаваную пастку.

— Вы, наране, баязлівыя, як зайцы, калі збаяліся мёртвых, — сказала старая, адводзячы вастрыё дзіды, накіраванай ёй у грудзі. — На гэтай выспе цені нашых продкаў, але яны не робяць шкоды жывым...

Прысаромленыя воіны паплылі да выспы, коса пазіраючы на няўдалых разведчыкаў. Але хутка і самі пераканаліся, што спалохацца нязвычнаму чалавеку тут было чаго.

На выспе ў таўшчэзных хваёвых камлях былі выдзеўбаны дуплы, у якіх знаходзіліся загорнутыя ў шырокія лісты бяросты нябожчыкі — такі быў у скахаў дзіўны звычай хаваць памерлых. Некаторыя пахаванні былі вельмі старыя — праз збуцвелую бярросту тырчалі пацямнелыя косткі. І над усёй гэтай выспай — могільнікам стаяў несціханы варонні грай.

Старая ішла ўсё далей у глыбіню Лесу Мёртвых. За ёю сцішана рухаліся наране. Нарэшце дасягнулі вяршыні выспы. Кабета спынілася і паказала на купу дрэў. У іх таксама былі дуплы, але выдзеўбаныя нядаўна, бо яшчэ жаўцела свежай жывіцай драўніна. У дуплах ляжалі спавітыя бярростай мёртвыя дзеці скахаў. Над імі віселі фігуркі Духаў, якія павінны былі ахоўваць нябожчыкаў. Яны паволі пагойдваліся пад ветрам, а іх бурштынавыя вочы таямніча ўзіраліся ў прышэльцаў.

— Вось тут усе нашы дзеці, — глуха прамовіла палонная. — Прыйшла хвароба і забрала іх. А без дзяцей няма будучыні для роду...

Прыцішаныя, вярнуліся наране ў вёску на слупах.

Старэйшыны сабраліся на кароткую раду, каб вырашыць лёс сястры Ваўя Кі. Кожны па чарзе браў слова і выказваў сваю думку. Можа, лёгкая перамога і вызваленне сваіх дзяцей, а можа, выгляд дзіцячых пахаванняў на выспе злагодзілі наранскую зацятасць, і яны рашылі: адпусціць. Хай вяртаецца да сваіх і раскажа ім, што наране — велікадушны народ. І велікадушнасць гэтая не ад баязлівасці, а ад усведамлення сваёй моцы. І яшчэ няхай перадасць, што лясы навокал бязмежныя, а азёраў не пералічыць, таму ўсім хопіць месца на гэтай зямлі, толькі хай кожны народ паважае межы народу другога.

Так сказалі наране, а затым далі палоннай малы човен і вясло. Яна павярнулася да воінаў і пакланілася — падзякавала за збаўленне. Затым паплыла. Але па напружанай спіне адчувалася, што старая чакае здрадніцкай стралы. Усё далей адплываў човен, і ніхто не ўзяў

лук. Рукі кабеты сталі больш упэўненымі, і човен хутка імкнуў да супрацьлеглага берага, які невыразна праглядаўся ў смузе.

Старэйшыны загадалі ладаваць здабычу на чоўны і вывозіць на бераг. Трэба было спяшацца, каб да цемры паспець адысці як мага далей. Заставацца тут на ноч было небяспечна — а раптам падплывуць скахі і паспрабуюць адпомсціць за сваю ганьбу?

Цяжка гружаныя даўбёнкі марудна сунуліся да берага. Седзячы на адной з іх, Аленевае Вуха не ўтрымаўся, каб не пахваліцца перад Лісіцам сваёй здабычаю — касцяным кінжалам з прыгожай ручкай у выглядзе ласінай галавы.

— А гэта я аддам маме, — паказаў ён нізку бурштынавых караляў.

Лісіца таксама прыхапіў тое-сёе. Хлопчыкі не сароменіся, што гэтыя рэчы былі чужыя, яшчэ ўчора належалі іншым людзям. Такі быў звычай: здабытае вайною пераходзіла ва ўласнасць пераможцы. Гэтым ганарыліся. Так рабілі і наране, і скахі, і іншыя плямёны на ўсёй зямлі, дзе толькі ступала нага храбрага ды ўдалага воіна.

Выгрузіўшы здабычу на бераг, наране пачалі секчы і тапіць чоўны, каб не пакідаць іх скахам. Затым загон рушыў на захад, усё далей заглыбляючыся ў пушчу.

Перад захадам сонца наране пачалі шукаць мясціну для начлегу. Выбралі стромкі ўзгорак, падножжа якога абгінала рачулка. Тут мелася свежая вада, а на ўзгорку зручна было абараняцца нават пры нечаканым нападзе.

Каб не выдаваць сябе, вогнішчы не запальвалі. Падсілкаваліся «трафейнай» сушанай рыбай, запілі вадой. Потым узяліся за сякеры і зрабілі на схілах узгорка завалы.

Калі сцямнела, вартавыя рассыпаліся ў наваколлі і пахаваліся ў гушчары. Лагер пастунова аціхаў. Стомленых людзей ахопліваў сон.

На раніцу зноў ішлі па звярынай сцежцы, якая то падымалася на светлалесныя ўзгоркі, то збягала ў лагчыны. Раптам уперадзе пачуўся крык, і наране схапіліся за зброю, гатовыя ўступіць у бой. Але скахаў не было. Гэта пярэдні воін зачапіўся за насцярожаны самастрэл, і страла прабіла няшчаснаму шыю. Воіны абкружылі мёртвага, а маладзейшыя, уздымаючы дзіды, сталі патрабаваць вярнуцца і прадоўжыць вайну са скахамі.

Адзін з наранаў — найбольш вопытны паляўнічы і бывалы воін — уважліва агледзеў месца здарэння.

— Самастрэл пастаўлены даўно і прызначаўся на звера, — упэўнена сцвердзіў ён.

Гэта супакоіла гарачыя галовы.

Забітага, якога звалі Рысь, паклалі на дзіды, і загон у маўчанні рушыў далей. Ішлі асцярожна, пазбягалі высокай травы і густога падлеску, бо хто ведаў, колькі можа трапіцца самастрэлаў.

Нарэшце, пад самы вечар, падышлі да Нары.

Зноў над возерам загрукаталі бубны, але яны разносілі па навакольных вёсках не трывогу, а радасць перамогі і вяртання.

А ў вёсцы Аленевага Вуха радасць змяшалася са смуткам — рыхтаваліся да пахавання Рысі.

Наступнай раніцай пахавальная працэсія, у якой былі амаль усе жыхары паселішча, накіравалася да Гары Цемры. Гэта быў высокі ўзгорак на беразе Нары з рэдкімі старымі хвоямі на вяршыні. Паміж дрэвамі стаялі драўляныя выявы наранскіх Багоў і Духаў, а навокал размяшчаўся могільнік. Сюды вяла апошняя сцежка нарана, калі ён канчаў свой век і адыходзіў у Краіну Без Сонца. Дзе свяціў толькі Месяц... Так казалі ведзьмары, а ім верым, бо на тое яны і ведзьмары, каб мець веды — ведаць усё: зорныя бегі на небе, волю Багоў і шляхі душ памерлых на тым свеце.

Наперадзе працэсіі сябры забітага неслі яго цела, загорнутае ў новую посцілку з валокнаў крапівы, і рэчы нябожчыка: баявую сякеру, дзіду і гаршчок з мёдам дзікіх пчол, каб было чым падсілкавацца Рысю ў далёкай і, напэўна, нялёгкай дарозе.

Узышоўшы на Гару Цемры, усе прыпыніліся. Ведзьмары, з выпадку жалобнага дня ў чорнай вопратцы, пачалі сыпаць на дол ужо выкапанай ямы чырвоную охру, якая павінна была дапамагчы ўваскрашэнню нябожчыка ў замагільным свеце. Затым апусцілі ў яму цела забітага, паклалі рэчы — сякеру каля правай рукі, дзіду — злева, гаршчок паставілі пры нагах. Накрылі ўсё гэта бяростай.

Потым ведзьмары ўзнялі рукі і заспявалі песню-малітву, у якой прасілі Духаў павесці карана на сустрэчу з продкамі.

Загрукалі па бяросце першыя камякі зямлі.

Галосячы, упала на траву жонка Рыся. Ірвала на сабе валасы. Да крыві драпала твар.

Калі магілу засыпалі, ведзьмары строма ўкапалі на яе краі ліповы камель з выявай Духа — абаронцы памерлага. І кожны год сюды будуць прыходзіць блізкія і сябры воіна, каб прынесці дарункі, успомніць добрым словам, а часам папрасіць, каб ён за жывых замовіў слова перад Багамі.

Аленеваму Вуху не прайшлі дарма ўсе гэтыя блуканні на пушчы і начное купанне. Ён захварэў. Ужо на наступны дзень пасля пахавання Рыся адчуў сябе кепска: да млоснасці балела галава, дрыготкі прабіралі цела. Маці памацала гарачы сынаў лоб і пабегла да Мяжведа

па лекавыя зёлкі. Мяжвед прыйшоў сам, з ім і Лісіца. Убачыўшы сябра, Аленевае Вуха паспрабаваў падняцца з пасцелі, але Мяжвед супыніў:

— Паляжы, хлопча. Палечышся які час і станеш здаровым. Тады з Лісіцам і ў лес зможаш схадзіць — якраз лісічкі пачаліся.

Ноччу хлопчык трызніў... Ён у вязніцы ў скахаў. Але ведае, што недзе побач павінна быць маці. І вельмі мучыць смага.

— Мама, піць, — ледзь чутна шэпчуць яго вусны.

Ніхто не адказвае.

— Піць, — настойліва паўтарае хворы.

І вось у цемры з'яўляецца нейкая светлая пляма і на яе фоне нібы маці. Выцягнула рукі і набліжаецца. Але ж не — гэта сястра Ваўя Кі, зморшчаная, жоўтая. Вось яна ўжо зусім блізка і тады ператвараецца ў мерцвяка з Лесу Мёртвых...

— А-а! — у жаху крычыць Аленевае Вуха.

Падхопліваецца маці, пачынае супакойваць сына. Кладзе яму на лоб анучку, змочаную халоднай вадою. Робіцца лягчэй, і хлопчык зноў засынае.

...Палае скахаўскае паселішча, падпаленае на адыходзе наранамі. Падаюць у чорную, як смоль, ваду галавешкі. Некаторыя з іх дасягаюць берага, і вось паміж дрэў пачаў прабівацца агонь. Тушыць Аленевае Вуха лясны пажар і не можа патушыць. Ногі ў яго цяжкія і непаслухмяныя. А навокал — ні аднаго нарана. І куды яны ўсе зніклі? Раптам з густога дыму выплыў вялізны драўляны ідал. Ён утаропіўся ў хлопчыка жоўтымі бурштынавымі вачыма, а затым схапіў абвугленай рукою за плячо.

Зноў закрычаў Аленевае Вуха і апрытомнеў на хвіліну.

Выглядала, што ўжо раніца. Цмяна бачыліся стуленыя постаці бацькоў. Мяжвед снапком запаленых зёлак абкурваў хаціну.

Хвароба цягнулася дзве месячныя квадры.

— Як пасля ветаха народзіцца маладзік, паправіцца ваш сын, — суцяшаў бацькоў Мяжвед.

І праўда, праз некалькі дзён Аленевае Вуха ўжо мог выходзіць на дварышча, але далей яго яшчэ не пускалі.

Каб не нудзіцца, папрасіўся памагчы маці, якая сабралася зляпіць новы гаршчок — стары разбіўся. Маці спачатку аднеквалася: «Лепш бы ты яшчэ паляжаў».

— Колькі вылежвацца? Бакі ўжо баляць. Я табе толькі гліну вымешаю, а ляпіць будзеш сама. Добра?

— Ну добра, — нарэшце згадзілася маці.

Аленевае Вуха схадзіў у цяністы кут дварышча і выкапаў з зямлі вільготныя камякі гліны, загорнутыя ў лісты дзядоўніку. Гэта быў даўні нарыхтаваны запас. Потым хлопчык паклаў у драўлянае карытца некалькі прыгаршчаў ракавін перлавіцы і пачаў іх таўчы каменем.

— Тоўчаныя ракавіны ў гліну дабаўлю сама, — сказала маці, — бо ты не ведаеш, колькі сыпаць. Тут так: перадасі ці не дадасі — гаршчок пры абпале патрэскаецца, і ўсё прапала.

Потым Аленевае Вуха перамешваў глінянае цеста. Біў па ім кулакамі, расціраў паміж пальцамі, скочваў у кулю і затым пляскаў яе на блін... Стараўся, каб не засталося камячкоў, каб гліна зрабілася, як воск. Тады яна добра лепіцца.

Маці паказала, як трэба скочваць гліняныя каўбаскі, каб яны былі роўныя, і як потым з іх рабіць стужкі аднолькавай таўшчыні.

— Ну, а цяпер глядзі, як лепіцца гаршчок. Спачатку ладзім плоскі гліняны спод... затым да яго мацуем першую стужку... другую... трэцюю... Так вось і робяцца сценкі. Каб атрымалася звужаная шыйка, тут накладаем карацейшую стужку гліны, а на брыж — зноў даўжэйшую...

Уважліва слухаў Аленевае Вуха і глядзеў на матчыны спрытныя рукі, з-пад якіх увачавідкі вырастаў гаршчок. Праўда, паверхня яго была ўся ў гурбячках і копачках, якія асталіся ад пальцаў. Тады маці ўзяла шырокую рабрыну і пачала ёю загладжваць сценкі.

— А я ў скажаў бачыў пасудзіны з вострым дном, — сказаў Аленевае Вуха, калі маці разагнулася, каб адпачыць.

— Бабуля мне казала, што даўней і наране такія ляпілі.

Нарэшце маці пачала аздабляць гаршчок арнаментам.
Пад брыжам яна адціснула некалькі віткоў суканага шнура, потым касцяной лапаткай зрабіла на шыйцы паглыбленні. Такімі ж паглыбленнямі быў арнаментаваны і спод, але тут яны ўтварылі круг з крыжам усярэдзіне.

— Гэта знак Сонца, — растлумачыла маці. — Ён заўсёды павінен быць на гаршках, каб з іх добра елася і смачна пілося і каб заўсёды было што ў іх гатаваць.

Вечарам, калі на агнішчы ў новым гаршку ўжо булькатала страва, з Ласінай Выспы вярнуўся бацька. Схаваў вясло пад страху, развязаў клунак і з урачыстым выглядам павярнуўся да Аленевага Вуха.

— Падыдзі бліжэй, сын. Ты двойчы дапамог свайму племю: калі першы прыкмеціў скахаў паблізу Ласінай Выспы і калі ноччу прыгнаў іх чоўны да нашага загона. І хоць табе яшчэ не час пасвячацца ў воіны, рада Старэйшын рашыла: Аленеваму Вуху — сыну Збітура —

уручыць баявую сякеру. Трымай яе. І хай заўсёды моцнай будзе твая рука!

Аленевае Вуха хацеў з радасным лямантам кінуцца на шыю бацькі, але стрымаў сябе і толькі моцна прыціснуў дарунак да грудзей і па-даросламу апусціўся перад Збітурам на адно калена. Потым папрасіў:

— Можна, схаджу да Лісіцы, пакажу яму?

— Можна, — усміхнуўся бацька.

Аленевае Вуха з падскокам кінуўся да хаціны Мяжведа. Праз колькі крокаў прыпыніўся і далей пайшоў паважна, як ходзяць воіны наранаў.

**ЗМЕСТ**